# BETWEEN THE SHORES

Selected Poetry

of

NATALLA ARSIENNIEVA

1920 — 1970

BYELORUSSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES, Inc.

NEW YORK 1979 TORONTO

# МІЖ БЕРАГАМІ

Выбар паэзіі

НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

1920 — 1970

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

NEW YORK 1979 TORONTO



Наталля Арсеннева

Партрэт работы ПЁТРЫ МІРАНОВІЧА

# NATALLA ARSIEŃNIEVA

Natalla Arsieńnieva, the eminent Byelorussian poet writing outside her native country, was born on November 20, 1903. She spent her childhood in Vilna where she also began her education.

Because of the approaching Russian-German battlefront, her family was evacuated in 1915 to Russia. She returned to Vilna only in 1920. There, after graduation from the Byelorussian High School, she began studies in the humanities at Vilna University. Her higher education, however, was soon interrupted when she married a well-known Byelorussian military and civic leader, Frańcišak Kušal. In the fall of 1922, the young poet had to leave Vilna and accompany her husband to western Poland, the place of his military service. From then on, until the outbreak of World War II, she could visit the land of Byelorussia only during summer vacations while visiting her relatives in the Vilna region.

In the fall of 1939, when her husband, by then an officer of the Polish army, was taken prisoner by the Soviets, Arsieńnieva and her two sons left Poland for Byelorussia. But she could stay there for only a few months. In the spring of 1940 she was arrested by the NKVD and deported with her sons to Kazakhstan where she worked on a collective farm.

In May 1941, thanks to the efforts of Janka Kupała and other Byelorussian writers, Arsieńnieva was released from exile and returned to her husband's home at Dory in the region of Vilna. At the same time her husband was freed from Moscow's Lubyanka prison.

After the outbreak of the German-Soviet war and the German occupation of Byelorussia, in the fall of 1941, the poet with her entire family moved to the Byelorussian capital, Miensk. There she stayed until June 1944 when, with the approach of Soviet troops, the Kušals were evacuated to the West. After having spent several years in Displaced Person camps in Western Germany, the poet emigrated in 1950 to the United States of America where she has been living since.

Natalla Arsieńnieva began writing poetry during studies at the high school in Vilna. The literature instructor at that time was Maksim Harecki, an outstanding writer, literary critic, and historian of Byelorussian literature. He appreciated the talent of his young student, encouraged her in her creative writing, and helped her with his guidance.

Arsieńnieva's poems began to appear in print in 1921; and her first book of poetry, *Pad sinim niebam* (Under the Blue Skies) was published in 1927 in Vilna. This first volume of poems was greeted favorably by

critics on both sides of the Polish-Soviet border which then divided Byelorussia in two. The Byelorussian literary world celebrated the arrival of an undeniably major talent. She published new poems in the literary magazines, *Rodnyja Honi, Nioman, Kałośsie,* and other periodicals appearing in Vilna. Of these new works a second book of her lyrical poetry was compiled, *Žoŭtaja vosień* (Yellow Autumn), which was not published in book form.

In the works which she wrote before World War II, there is a predominant motif of enchantment with the beauty of nature; the theme of 'yellow autumn' expresses her mood of nostalgic reflection. After her exile in Kazakhstan, in the years of war and devastating struggle between two totalitarian-imperialist powers on Byelorussian land, her poetry became a mirror of her people's tragedy during the horrors of war.

Arsieńnieva devoted much attention and effort during this period to the creation of a Byelorussian repertoire for the Opera Theater in the capital. She translated into Byelorussian Hauptman's 'The Sunken Bell' and Kleist's 'The Broken Pitcher' as well as the librettos for such operas as Mozart's 'Magic Flute' and 'Marriage of Figaro', von Weber's 'Der Freischutz', Bizet's 'Carmen' and Strauss's 'Gypsy Baron'. These were all staged at the Miensk Opera Theater.

At the same time she wrote librettos for the Byelorussian operas composed by Mikoła Ščahłoŭ (Kulikovič), 'Forest Lake' and 'Prince Usiasłaŭ the Wizard' and the musical 'Return from Winter Haven' *(Z vyraju).* Thus, in less than three years Arsieńnieva produced a wealth of original and translated works for theater and opera. Nor did she forsake this activity in exile – she continued writing for the stage – for Byelorussian ensembles, amateur theatrical groups, and for school children. At the same time she remained a prolific composer of poetry. Her poems appeared in the magazines *Sakavik* (West Germany), *Konadni* (New York) and other Byelorussian periodicals.

Many of Arsieńnieva's poems were set to music by the composers M. Kulikovič, M. Ravienski, E. Zubkovič, and A. Karpovič. These songs have been performed at various concerts and festivals in Europe, America, and Australia. The hymn, 'O God Almighty', composed by Mikoła Ravienski, became a religious anthem sung now in Byelorussian churches, both Orthodox and Catholic.

Arsieńnieva's creative work is distinguished by the breadth of her literary and cultural background and by her ability to convey inner movements and atmosphere enriched with colorful imagery. Her patriotic sensibility is expressed with great force and conviction. This major poet who, remarkably, spent but twenty years in her Byelorussia, has produced a body of work astounding in the rich and imaginative texture of its Byelorussian language. Arsieńnieva's poetry represents a remarkable contribution to the treasury of Byelorussian and world literature.

The present volume, *Miž bierahami* (Between the Shores), contains selected poetry of Natalla Arsieńnieva composed during the fifty years of her creative life, dating from 1920 in Vilna to 1970 in the USA. The selection was made by the poet herself.

## НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА "МІЖ БЕРАГАМІ"

### *Біяграфічна-крытычны нарыс*

"Між берагамі" "ракі жыцьця" Натальлі Арсеньневай пралегла ўжо 75 год – лік для круглых угодкаў, званых дыямэнтавымі, але больш-менш грунтоўнага агляду ейнага жыцьцёвага шляху, біяграфічнага нарысу – дасюль яшчэ няма. Усё, што ёсьць у гэтым дачыненьні – гэта кароткая аўтабіяграфічная нататка, што зьявілася ў менскай "Беларускай газэце" (№ 80 (100), 28 кастрычніка 1942 г.) пад загалоўкам "Натальля Арсеньнева пра сябе" ды нарыс-агляд, мала даўжэйшы, але крыху багацейшы на фактычны матар'ял, паданы самою паэткаю й шырака цытаваны, зьмешчаны пад рубрыкаю "Сучасныя беларускія паэты" ў выдаванай у Бэрліне газэце "Беларускі Работнік" (№ 34, 20 жніўня 1944 г.)

У гэткіх абставінах найлепш будзе падаць тут, сказаць-бы, біяграфічны мантаж, узяўшы за аснову гэты нарыс зь "Беларускага Работніка" (у далейшым умоўна абазначаны БР) ды дапаўняючы яго з аўтабіяграфічнае нататкі ў "Беларускай газэце" (умоўнае абазначэньне БГ) ды з розных іншых крыніцаў, ды абярнуся камэнтуючы гэтыя матар'ялы.

Натальля Арсеньнева нарадзілася ў 1903 годзе на Каўказе, дзе тады былі яе бацькі. Але таму, што яны вельмі хутка пераехалі ў Вільню, у дакумэнтах месцам нарадзінаў азначана Вільня.(БР)

*(Бацька паэтчын паходзіў з таго роду Арсеньневаў, які на сваёй жаноцкай лініі даў паэта М.Лермантава – можна дапусьціць, што пэўныя "гены", якія выявіліся ў таленьце гэтага паэты, былі спадчыннымі ў гэтым родзе ды гэтак перадаліся й нашай Натальлі Арсеньневай; з таго-ж роду нядаўна памерлы ў Нью-Ёрку вучоны й паэта Мікалай Арсеньнеў).*

*Хаця я й нарадзілася выпадкова ў г.Баку, на Каўказе, але месцам майго народжаньня лічыцца ўлюбёная Вільня, дзе я фактычна расла й гадавалася ад першых месяцаў свайго жыцьця. У Вільні я пачала й вучыцца, перш у хаце, з маткай, якая была настаўніцай, а пасьля, перад самай вайной 1914 г., у Віленскай гімназіі.(БГ)*

*(У прыватнай гутарцы паэтка расказвала, што ў тэй Віленскай Марыінскай гімназіі, з школьнага падручніка геаграфіі Сьпірыдонава, з тэксту, паданага дробным друкам і неабавязкавага для звучваньня, яна ўпяршыню даведалася, што ёсьць Беларусы,*

*і ў іх ёсьць літаратура, дзе найбольшы паэта Янка Купала; была пададзеная й першая зваротка Купалавага вершу "Я мужык–Беларус", дзе будучую паэтку найбольш уразіла слова "цёмны", выдрукаванае як "цйомны", як гэта й было ў першым выданьні першага Купалавага зборніка "Жалейка").*

У часе "бежанства" (1915–1919) Арсеньневы выяжджаюць у Расею, дзе будучая пясьнярка вучыцца й пачынае пісаць. (БР)

*Бацька мой быў расейскім урадаўцам, і таму, у 1915 годзе ўлетку, калі нямецкая армія падыходзіла пад Вільню, уся наша сям'я была эвакуяваная ўглыб Расеі, у г. Яраслаўль над Волгай. У Яраслаўлі мы прабылі 4 гады, перажылі рэвалюцыю і ўсе ейныя сумныя наступствы. У Яраслаўскай гімназіі, пад уплывам нашае настаўніцы літаратуры, я пачала прабаваць пісаць вершы, чаго мне страшэнна хацелася ўжо даўно, але неяк ня выходзіла. (БГ)*

*(Цікава нагадаць, што ў Яраслаўлі тады, да канца верасьня–пачатку кастрычніка 1916 г., жыў Максім Багдановіч, і хоць Натальля Арсеньнева ня мела абім тады ніякага знацьця, ды , калі-б падзяляць модныя цяпер парапсыхалягічныя здогады, можна было-б зарызыкаваць гіпотэзу, што ці не Багдановічавы гэта "флюіды", або "эманацыя" — праз яраслаўскае паветра і заразілі паэтку тым хаценьнем пісаць вершы ды наагул запладнілі ў ёй будучую беларускую пясьнярку, ува ўсім найбольш блізкую якраз да Максіма Багдановіча).*

Вось што расказвае сама Арсеньнева аб гэтых першых спробах: "Пісаць я пачала ня вельмі рана, у кажным выпадку не зь пяцёх ці нат дзесяцёх год, як некаторыя "геніі". Не, у гэтым часе я любіла ўзімку чытаць, зашыўшыся недзе ў куток, а ўлетку — гайсаць па палёх і лазіць па дрэвах, што я рабіла лепш за хлопцаў. Пісаць вершы я пачала маючы ўжо 14 год. Памятаю добра, што калі мне было 13 год, я страшэнна хацела напісаць верш... У нас у гімназіі (Яраслаўская Кацярынінская гімназія) выдаваўся літаратурны вучнёўскі часапіс, да якога я малявала вокладкі й застаўкі (талент да маляваньня папярэдзіў "выбух" маіх паэтыцкіх здольнасьцяў), і я вельмі зайздросьціла маім старэйшым сяброўкам, якія зьмяшчалі ў ім свае вершы. Ці раз, застаўшыся адна ў хаце, прабавала я "выціснуць" зь сябе хоць пару радкоў — нічога неяк не ўдавалася. Аж раптам, зусім нечакана, калі мне было 14 год — удалося! І то напісалася ня колькі радкоў, а цэлы верш у 16 радкоў!" (БР)

*(У вершы гэтым, наколькі памятае паэтка, перадаваліся ейныя ўражаньні ад летняга дня).*

У першых днёх студзеня 1920 году Арсеньневы вяртаюцца ізноў у Вільню. (БР)

*Тут жыцьцёвыя абставіны нашае сям'і ўлажыліся неяк дрэнна. Памерла сястра, захварэў бацька, маці... Мне, як найстарэйшай (а мне было тады 16 год), трэ было памагаць сям'і, зарабляць. Увесь вольны час я зарабляла: давала лекцыі францускае й нямецкае мовы вучням віленскіх школаў. (БГ)*

Неўзабаве маладая паэтка разам зь сястрою й братам паступае ў нядаўна толькі заснаваную Першую Віленскую Беларускую Гімназію. Тут яна пранялася тым адраджэнскім запалам, які панаваў сярод настаўнікаў і беларускае вучнёўскае моладзі. "Неставала блізу ўсяго, — піша Арсеньнева, — шмат хто з вучняў і з настаўнікаў галадаваў, ня было нястачы толькі ў вадным — у запале, у гарачых ахвярных сэрцах, у людзях, якія, дарма што голад і холад, аддана вялі сваю працу з аднэю думкай — зрабіць шчасьлівай сваю Бацькаўшчыну-Беларусь. Людзей гэтых было ня шмат, але іхны прыклад распаліў і іншых і ад пачатку надаў гімназіі той кірунак, які прычыніўся да пазьнейшае ейнае характарыстыкі — "кузьня беларускіх дзеячоў". (БР)

*(Гэтую характарыстыку Віленскае беларускае гімназіі пацьвярджае й сучасны савецкі дасьледнік Арсень Ліс, пішучы, што гімназія тая "з часам зрабілася ў пэўным сэньсе кузьняй кадраў вызваленчага й культурнага руху ў Заходняй Беларусі" — Арсень Ліс. Браніслаў Тарашкевіч. Выдавецтва "Навука й Тэхніка". Менск, 1966, б. 29).*

"Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч, "Цётка Алёна" — вось людзі, якія вучылі тут беларускую моладзь і якія навучылі мяне горача любіць Беларусь, такую пакрыўджаную лёсам, але такую чароўную". (БР)

*У 1920 годзе я паступіла ў сёмую клясу 1-ае Віленскае Беларускае Гімназіі. Гэтае здарэньне было вялікай падзеяй у маім жыцьці, яно заважыла на ўсёй маёй будучыні. У Віленскай Беларускай Гімназіі я ўпяршыню сустрэлася зъ беларускаю справай і захапілася ёю. (БГ)*

Першыя свае вершы, зь якімі дасюль Арсеньнева "хавалася", яна адважылася, будучы ўжо ў 8-й клясе, паказаць свайму настаўніку Максіму Гарэцкаму, які выкладаў у гімназіі беларускую мову й літаратуру. Гарэцкі вершы ўзяў, глянуў на іх і не сказаў нічога. Але ўвечары на вучнёўскай вечарыне (гэта было якраз у сыботу, калі звычайна ладзіліся гэтыя імпрэзы), на самым ейным пачатку, на сцэну выйшаў Гарэцкі і, зьвярнуўшыся да сабраных, абвесьціў усёй залі, што зьявілася новая Канстанцыя Буйла ды зачытаў урачыста дадзеныя яму паэткаю раніцаю вершы. (БР)

*Першым маім крытыкам і суровым настаўнікам быў мой настаўнік літаратуры Максім Гарэцкі. Ён зъ вялікай увагай праглядаў мае першыя вершы, ганіў, што было блага, і заахвочваў мяне да лепшага пісаньня. Ягонае сьветлае імя я й дагэтуль заўсёды ўспамінаю зъ вялікай удзячнасьцю й любасьцю. (БГ)*

*(У гутарках з паэткаю ўдалося ўстанавіць, што дадзеныя ёю Максіму Гарэцкаму ды прачытаныя ім на вечары вершы былі: "Восень" — першы напісаны пабеларуску верш, гл. б. 10 гэтага выданьня, "Сьветлы дзень"... гл. б. 15, і "Лятуценьні", б. 8)*

*У 1921 годзе я скончыла Віленскую Беларускую Гімназію аднэй зъ першых. (БГ)*

*У Першай Віленскай Беларускай Гімназіі заняткі кончыліся*

*31-га траўня. Выпускныя экзамэны кончыліся 14 чэрвеня.*

*Гімназію скончылі на атэстат дасьпеласьці Беларусы: 1) Аляксюк Валерыян, 2) Арсеньнева Натальля, 3) Бонч-Асмалоўшчынка Галіна, 4) Бонч-Асмалоўскі Багдан, 5) Акушчанка Вольга, 6) Валадзіміршчанка Ганна, 7) Васільлева Марыя, 8) Клімовіч Адольф, 9) Лабуцянка Ганна, 10) Латкавіч Мікола, 11) Макоўшчынка Лідыя, 12) Нядзьвеччынка Кляўдыя, 13) Пуська Аляксандар, і два экстэрны: Дварчанін Ігнат і Станкевіч Янка. Агулам скончылі Беларускую Гімназію 16 чалавек Беларусаў. Апроч таго, скончылі Беларускую Гімназію 25 чалавек нябеларусаў. ("Крыніца"; №20,Вільня, 26 чэрвеня 1921 г.)*

*Неўзабаве пасьля, як я скончыла гімназію, былі арганізаваныя курсы дзеля перашколеньня настаўнікаў беларускіх народных школаў, на якія ўдалося нарэшце атрымаць дазвол ад Палякоў.На курсы пайшла й я пасьля матуры ў гімназіі. Амаль усе абітурыенты нашае клясы (Беларусы) таксама былі на курсах. У Вільні ўвосені былі адчыненыя 8 пачатковых беларускіх школаў. У вадной зь іх, на праваслаўных могілках, атрымала пасаду настаўніцы й я. Другім настаўнікам і кіраўнікам школкі быў Міхась Каберац, слуцкі паўстанец. Ён выехаў у Прагу ў 1922 г. й там памёр на сухоты. Вельмі быў добры хлапец і шчыры Беларус...*

*...Я мелася ехаць таксама. Адмовілася ў апошні момант, але на станцыю разьвітацца прыйшла. Усе былі пэўныя, што еду й я... (З прыватнага ліста)*

*...Паступіла на гуманістычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, але правучылася там нядоўга... (БГ)*

Хутка вершы Арсеньневай пачалі друкавацца ў розных часапісах і газэтах, а ў 1927 годзе выйшаў ейны першы зборнік вершаў "Пад сінім небам". (БР)

*(Першы друкаваны верш Натальлі Арсеньневае — "Восень", гл.б.14 гэтага выданьня — зьявіўся 8 верасьня 1921 г. у газэце "Наша Думка", што выходзіла ў Вільні пад рэдакцыяй Максіма Гарэцкага і Ў.Кабычкіна. Газэта гэтая аднак неўзабаве спыніла выхад, і верш быў перадрукаваны ў газэце "Беларускія ведамасьці", што пачала выходзіць пад рэдакцыяй ужо аднаго Максіма Гарэцкага, у №4, 3 кастрычніка 1921 г.; у самым першым нумары гэтае газэты, 14 верасьня 1921 г., быў зьмешчаны даўжэйшы верш Натальлі Арсеньневае "Плач старога лясуна" — у нашым выданьні загаловак зьменены на "Лясун", гл.б.36. Гэтыя два вершы былі перадрукаваныя ў выданым у тым-жа 1921 г. "Зборніку Беларускіх Ведамасьцяў", №1, ды згаданыя ў выпуску 3 тому III ведамых "Беларусаў" праф. Карскага, выданым у 1922 г. у Петраградзе, з зазначэньнем пра Арсеньневу: "Навейшая пісьменьніца. Паводля водгуку Гарэцкага, вельмі таленавітая" (б.378). У "Зборніку Беларускіх Ведамасьцяў" №1 быў яшчэ верш Арсеньневае "У небе палаюць" (гл.б.21 гэтага выданьня), а ў №2 — "У лесе" (б.20); у "Дэкляматары", выданым у тым-жа годзе*

*тым-жа Гарэцкім, быў верш "Мая душа" (у гэтым зборніку пад загалоўкам "Недасяжнае", б.23).*

*У 1923 г. зъ вершамі Натальлі Арсеньневае пазнаёмілася й Савецкая Беларусь, дзякуючы ізноў-жа Максіму Гарэцкаму, які ў тым годзе прыбыў з захаду ў Менск і тут асяліўся. У першай у нас наагул хрэстаматыі з новае беларускае літаратуры — "Выпісы зъ беларускае літаратуры", ч.II, складзенай адмысловай камісіяй, у якую ўваходзіў і М.Гарэцкі, а выданай выдавецкім таварыствам "Савецкая Беларусь" ды выдрукаванай у друкарнях Масквы—Пецярбургу ў 1923 г., Натальля Арсеньнева была прадстаўленая адзінай зъ ейных літаратурных аднагодкаў тымі-ж вершамі "Восень", "Плач старога лясуна" ды некаторымі яшчэ. Тыя-ж вершы былі дадзеныя і ў "Беларускім работніцка-сялянскім календары на 1924 г." таго-ж выдавецтва "Савецкая Беларусь".*

*Ад 1924 г. у заходня-беларускім друку пачаліся нараканьні на тое, што вершы Натальлі Арсеньневае ня выданыя яшчэ асобнай кніжкай: у №1 часапісу "Студэнцкая думка" за 1924 год, у артыкуле Съветазара "Што чытаць", дзе ўпяршыню ў нас казалася і пра "беларускіх клясыкаў", прычым да іх залічалася — ізноў-жа адзінай зъ ейных літаратурных аднагодкаў — і Натальля Арсеньнева, аўтар пісаў (на б.26): "Творы гэтае выдатнае пясьняркі беларускай — як гэта ні дзіўна — дасюль яшчэ ня выдрукаваны асобнай кніжкай і бадзяюцца па рожных календарох беларускіх, газэтах ды журналах". У 1926 г. газэта "Беларуская хата" у нумары ад 19 сьнежня 1926 г. таксама дакарала Беларускаму Выдавецкаму Таварыству, што яно ня выдае зборніка вершаў Натальлі Арсеньневае.*

*У 1927 г., калі нарэшце выйшаў першы — і адзіны да 2-е Сусьветнае вайны — зборнік Арсеньневае "Пад сінім небам" — на яго адразу-ж зьявіліся пашыраныя рэцэнзіі-агляды: у Вільні, у часапісе "Родныя Гоні", пад загалоўкам "Верная дачка Сонца і Шчырай Зямелькі" — вялікі артыкул працягамі ў кніжцы 5-й (б.35-39) і 6-й (б.15-27); на гэтай кніжцы выданьне часапісу спынілася, і затым абяцаны ў ёй канец артыкулу так і не зьявіўся — аўтарства Ўладзімера Самойлы (пад псэўданімам М.Чэмер — прыналежнасьць гэтага псэўдоніму Самойлу, ведамая й самой паэтцы, пацьверджаная й сучасным савецкім дасьледнікам Арсенем Лісом — гл. цытаваную вышэй ягоную кніжку пра Браніслава Тарашкевіча, б.28). Гэта быў той самы Самойла, які, нат паводля Беларускае Савецкае Энцыклапэдыі, "памог Я.Купалу апублікаваць верш "Мужык", першы аб'ектыўна ацаніў яго "Жалейку" й "Адвечную песьню" (БСЭ, том IX, б.348); вялікі артыкул пад загалоўкам "Пад сінім небам. Характарыстыка творчасьці Натальлі Арсеньневай" аўтарства Антона Навіны (Ант. Луцкевіча, аднаго з настаўнікаў паэткі ў Віленскай гімназіі; артыкул датаваны 24.VII. 1927, перадрукаваны з газэтнага тэксту ў ягонай кнізе "Адбітае жыцьцё", Вільня, 1929, б.108—114); вялікі артыкул пад загалоўкам "Творчасьць Натальлі Арсеньневай" М.Байкова ў менскім "Полымі" (№8, 1927 г., б. 186—194).*

На пэўны час, апынуўшыся дзеля сямейных абставінаў на чужыне, Арсеньнева замаўкае, але хутка йзноў пачынае друкавацца і ўдзельнічаць у беларускім жыцьці. (БР)

*У 1922 годзе, увосені, я выйшла замуж і выехала зь Вільні на вельмі доўга... (БГ)*

*(Мужам Натальлі Арсеньневае стаўся беларускі вайсковы й палітычны дзеяч, сябра Беларускае вайсковае камісіі ў 1919-20 г., у тым часе капітан, у канцы жыцьця генэрал, Францішак Кушаль (1895–1968). 11 ліпеня 1923 г. у Кушалёў нарадзіўся першы сын Яраслаў (загінуў 22 чырвеня 1943 г. пры выбуху ў Менскім тэатры), а 4 ліпеня 1924 г. другі сын Уладзімер. На зборніку "Пад сінім небам" была прысьвята: "Сыном маім — Яраславу і Уладзімеру кніжку гэту пасьвячаю" (гл. таксама верш "Калыханка" на б. 25 гэтага выданьня).*

*Больш як пятнаццаць год мне давялося жыць на чужыне, у Польшчы, але хоць раз на год я прыяжджала на Беларусь, у сваю родную Вільню, або да мужавых бацькоў у Валожыншчыну.*

*Гэтая сувязь з Бацькаўшчынай хіба й была прычынай таго, што наўсуперак усім, вельмі няспрыяльным абставінам я ня кінула пісаць, і першы зборнік маіх вершаў "Пад сінім небам" — вышаў з друку ў 1927 годзе, а ў 1935–36 гадох быў нарыхтаваны да друку й другі — "Жоўтая восень", які, аднак, дагэтуль не надрукаваны ... (БГ)*

У 1937 годзе ладзіцца ейны літаратурны вечар у Вільні. (БР)

*(1937). 21.1. На паседжаньні Беларускага Навуковага Таварыства, якое сабралася ў інжынера Трэпкі, я ўпяршыню сустрэўся з Н. Арсеньневай. Агулам, я — ня прыхільнік яе паэзіі, хоць некаторыя яе вершы, прачытаныя на гэтым вечары, мне спадабаліся сваім лірызмам, вобразнасьцю. Трэба прызнаць, што са сваіх інтымных пачуцьцяў яна ўмее вязаць прыгожыя карункі. Зараз пасьля доўгага маўчаньня яна перажывае нейкі стан прэбуджэньня. Апошнімі часамі пачала актыўна выступаць у друку. Увесь вечар мы сядзелі побач. Гаспадар навет нас сфатаграфаваў. Пасьля Н. Арсеньневай папрасілі й мяне прачытаць свае вершы. Я прачытаў прывезеныя з Атвоцка заключныя фрагмэнты "Нарачы". Нехта, калі разыходзіліся, выказаў думку, каб я напісаў пра Арсеньневу. Ды я й сам зьбіраўся адклікнуцца вершам аб нашай сустрэчы. Я заўважыў, што сярод прысутных шмат было сватоў, якім хацелася, каб паміж намі завязалася нейкая творчая дружба. Няўжо яны ня бачаць, што мы — людзі рознага складу, розных поглядаў? Выпадкова сустрэліся, і ня ведаю, ці сустрэнемся больш калі. Дарогі нашы разыходзяцца ў працілеглых напрамках. Відаць, калі буду нешта пісаць, і выкажу гэтую сваю думку.*

*(Максім Танк. Лісткі календара. Менск, выдавецтва "Беларусь", 1970, б.123).*

І выказаў:

## НАШЫ ШЛЯХІ

*Прысьвячаю Натальлі Арсеньневай*

Нашы дарогі расходзяцца даўна пад зорамі.
На аднэй чуеш крок, на другой — шум трысьця....
Не спаткаліся тут між палёў, між разорамі,
ня сустрэціцца ім на пяшчаным парозе жыцьця.

Будзе сонца гарэць...
Паясом слуцкім песьня Твая мо расьсьцелецца.
Наша — будзе чарнець, як чарнее рубцамі далонь,
там, дзе вецер калосьсямі будзе шумець і мяцеліцца,
дзе на нівах бязь меж палыхне ураджаю агонь.

Сяньня песьня Твая зацьвіла зачараванай казкаю, —
а мы казак так даўна ня чулі ў жыцьці! —
ўсё ідзём каляінай нікім не пратоптанай, гразкаю;
нам ня можна вярнуцца, а трэба наперад ісьці!

Нашу песьню няраз грызьлі голад з сухотамі,
ня было навет ранаў калі загаіць.
Станавіліся, ведай, на грудзі падкутымі ботамі
і чужынец-гандляр, а найгорш гэта юды свае...

І калі,
сонцам новых надзей
прыглядаемся выраю,
лічым сілы свае жывыя і тых, што ляглі,
для нас дорага слова гарачае, шчырае,
як зярнё для счарнелых далоняў зямлі.

Любіш край за бярозы, за месяц, за восені дзіўныя,
а тым больш яго нам як, скажы, ня любіць?
калі нівы і рэкі, палотны азёр пераліўныя,
калі песьні, што б'юць жывой сілай крыніц, —

нам гавораць аб долі сярмяжнай аратага,
і адкуль на нас хмары плывуць і плылі,
дзе ляжаць нашы сілы, надзеі віхурамі зжатыя,
колькі поту і сьлёз мае кожная грудка зямлі...

Дзіўна песьні Твае расьцьвітаюць
далёка сузор'ямі,
над другімі палямі яны сіратліва мігцяць,
і таму яны пэўна над роднымі сяньня разорамі
асыпаюцца
золатам восені,
асыпаюцца шумам трысьця...

*М. Танк*

Вільня, 25.1.1937

(Часапіс "Калосьсе", Вільня, № 1 (10), 1937 г., б. 30)

## НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

Твая душа сатканая
зь вясёлак і зарніц,
і песьнямі скупаная
вадой сямі крыніц.

У чарах дум замкнутая, —
дзе лёг дарожны шлях, —
цьвіціш пахучай рутаю,
гарыш у верасах.

З душою заварожанай
спакоем і красой —
Ты песьню сваю кожную
даеш людзям жывой.

Хоць Ты і адарваная
цяпер ад нас жыцьцём:
Ты з намі расьпяяная —
душой і пачуцьцём.

Дачка Радзімы шчырая,
і там ў сям'і чужой
Ты служыш звонкай ліраю
Краіне маладой!

Студзень, 1937

*М. Машара*

("Калосьсе", № 1 (10), 1937 г., б. 29)

*(Вершы М. Машары й М. Танка, прысьвечаныя Натальлі Арсеньневай, былі рэплікамі на ейны верш, чытаны на ейным вечары ў 1937 г. — гл. верш "Маладым паэтам" на б. 77 гэтага выданьня).*

*1939 год палажыў канец майму спакойнаму, але аднастайнаму жыцьцю. Муж пайшоў на вайну, і я доўгі час аб ім нічога ня ведала. Я-ж із сынамі, пасьля рознае цыганіны, апынулася ў г. Вялейцы, адкуль мы й былі вывезеныя бальшавікамі ў Казахстан на пачатку 1940 г.*

*Аб Казахстане пісаць вельмі няма чаго. Кожны ведае, што гэта такое...*

*Шчасьлівы выпадак хацеў, каб мы, худыя да непазнаньня, апаленыя начорна сухімі казахстанскімі вятрамі, вярнуліся на Бацькаўшчыну перад самай вайной, у траўні 1941 году. (БГ)*

*(Ёсьць весткі, што да "шчасьлівага выпадку" спрычыніліся адпаведныя захады з боку пісьменьнікаў, найперш і найбольш Янкі Купалы, а таксама М. Клімковіча, П. Глебкі ды інш.)*

*Не пасьпелі мы разгледзецца добра навокал, як пачалася вайна, якая ледзьве не каштавала мне жыцьця але затое й штурхнула мяне да новае творчасьці. І хоць і цяпер жывецца мне ня*

*надта соладка, але я маю гэтулькі працы, і мне так хочацца працаваць, што я зусім не наракаю на ваенныя цяжкасьці, а наадварот, чуюся шчасьліваю, што магу нарэшце жыць і пісаць гэтулькі, колькі мне толькі хочацца. (БГ,)*

*Шмат працы сяньня ў Натальлі Арсеньневае. І яна працуе з захапленьнем, ня грэбуючы й сама чорнай, штадзённай работаю. Адных лірычных вершаў апошняга часу ўжо злажылася на добры зборнік, які, ёсьць надзея, можа й пабачыць сьвет. Створаныя лібрэта для опэраў – "Лясное возера" (паводля паэмы "Лебядзінае возера" зь першага зборніку "Пад сінім небам"), "Усяслаў Чарадзей" (на гістарычным матар'яле), "З выраю". Да першых двух створаная ўжо і выдатная музыка кампазытара Міколы Шчаглова. Напісана шмат патрыятычных песьняў, музыка да якіх створаная тым самым Міколам Шчагловам і якія расьпяваюцца цяпер беларускімі збройнымі аддзеламі й нашай моладзяй ("Беларусь – наша маці-краіна", "У гушчарах", "Песьня моладзі" і інш., апрача таго, шмат ранейшых і пазьнейшых паэтчыных вершаў пакладзена на музыку нашымі кампазытарамі). Шмат перакладзена: вершы Гэтэ (сярод іх – славуты "Лясун"), "Затонуты звон" Гергардта Гаўптмана (ідзе ў Менскім тэатры), "Разьбіты кубак" фон Кляйста, тэксты лібрэта опэраў "Вясельле Фігаро" й "Чарадзейская флейта" Моцарта, "Зачараваны стралец" Вэбэра, "Гэнзэль і Грэтэль" Гумпэрдынка.*

*("Беларуская газэта", №68 (186), 8 верасьня 1943 г., Менск).*

*(Згадваны тут зборнік лірычных вершаў выйшаў у Менску ў 1944 г. пад загалоўкам "Сягоньня" ды быў у тым-жа годзе рэцэнзаваны ў тагачасных газэтах – беластоцкай "Новай дарозе" – рэцэнзія М. Дальнага, баранавіцкай "Пагоні" – рэцэнзія М. Лагоды, у "Слуцкай газэце" – рэцэнзія А. Палявога ды бэрлінскай "Раніцы" – артыкул-агляд Г. Альгердзіча).*

Бальшавіцкая навала прымусіла нашую пясьнярку пакінуць родныя нівы й палеткі, якія яна так горача й квола кахае й апявае, і апынуцца на чужыне. Разам зь іншымі беларускімі песьнярамі яна працуе творча й далей, бадзёрая, поўная веры ў нашу перамогу, з аднэй думкай – "зрабіць шчасьлівай" сваю Бацькаўшчыну... Гэтая вера й ідэалізм, якія ўзрасьціла ў душы пясьняркі Віленская Беларуская Гімназія, будуць і тут, далёка ад Бацькаўшчыны, акрыляць творчыя парываньні й клікаць да паэтыцкіх узвышшаў. Гэта мы чуем і з словаў самой пясьняркі, авеяных сардэчнай шчырасьцю: "Два гады навукі ў гімназіі прамінулі вельмі хутка... Дарма, што гэта былі бадай найцяжэйшыя ў матар'яльным дачыненьні гады майго жыцьця, і што вельмі часта на працягу гэтых год даводзілася мне класьціся спаць безь вячэры, ці выходзіць у гімназію бязь сьнеданьня, я заўсёды ўспамінаю іх зь нейкай асаблівай любасьцяй і ўсхваляваньнем. Можна сказаць, што якраз Віленская Беларуская Гімназія і зрабіла зь мяне беларускую паэтку Натальлю Арсеньневу, якая ня можа ня пісаць, як ня можа ня любіць Беларусі, што-б ня сталася яшчэ на сьвеце". (БР – канец)

*Натальля Арсеньнева нарадзілася 20 верасьня 1903 году. Пачала друкавацца ад 1921 году. Адбыла ссылку ў Казахстане. Зборнікі вершаў: "Пад сінім небам" (1927), "Жоўтая восень" (1937), "Сягоньня" (1944), "Не астыць нам" (прыгатаваны да друку). Аўтарка лібрэтаў да опэраў кампазытара Міколы Куліковіча "Лясное возера", "Усяслаў Чарадзей" ды апэрэты "У вырай". Жыве цяпер у Задзіночаных Штатах Амэрыкі.*
*(Анатацыя да падборкі вершаў Натальлі Арсеньневай у альманаху твораў беларускіх эміграцкіх паэтаў і пісьменьнікаў "Ля чужых берагоў", Мюнхэн, 1955, выдавецтва "Бацькаўшчыны", б.13. Падборка гэная дадзеная пад такім самым загалоўкам, што й гэты цяперашні зборнік — "Між берагамі" згадваныя ў аннатацыі зборнікі "Жоўтая восень" і "Не астыць нам" асобнымі кніжкамі друкам ніколі ня выйшлі, а як цэласьці ўпяршыню даюцца асобнымі разьдзеламі ў гэтым нашым выданьні. У выданьне гэтае паэтка ўлучыла далёка ня ўсе вершы, напісаныя ёю, і нат ня ўсе выдрукаваныя — некаторыя, асабліва з раньніх, былі адкінутыя як недасьпелыя ці выпадковыя, не арыгінальныя, не рэпрэзэнтацыйныя — адным словам, нездавальняючыя яе цяпер. Выбраныя, улучаныя ў зборнік вершы прайшлі большае або меншае пераапрацаваньне — перарэдагаваньне, галоўна з гледзішча мастацкага й моўнага, але ня толькі: некаторыя рэчы, як, прыкладам, паэма "Лебядзінае возера" на б.46-48, перароблены паэткаю вельмі грунтоўна, блізу да непазнаньня, і строга кажучы, пад шмат якімі творамі ў зборніку трэба было-б ставіць дзьве даты — першага напісаньня й апошняе рэдакцыі, скажам, 1920—1975, 1921—1975 і г.д. Зрэшты, падобныя прыклады грунтоўных пераробак ня новыя ў гісторыі нашае паэзіі — гэтак рабілі й такія паэты, як Максім Багдановіч, Якуб Колас, Уладзімер Дубоўка, Язэп Пушча ды іншыя).*

Пры першым агульным, але ўважлівым аглядзе паданага тут жыцьцёвага шляху Натальлі Арсеньневай кідаецца ў вочы цікавая рэч — якое прапарцыянальна вялікае, проста пераважнае месца на ім займае э м і г р а ц ы я — як у ніводнага хіба нашага паэты ці пісьменьніка. Кідаючы на лічыла толькі агульныя акруглыя лікі, выглядае, што перасягнуўшы ўжо "дыямэнтавае" 75-годзьдзе, жыцьцёвы шлях паэткі ўсяго нейкаю трацiною — нейкімі "срэбнымі" 25-ма гадамі прабягаў на Беларусі, а на добрыя дзьве трацiны — на "залатое" паўвечча — 50 год агулам — адбягаўся на эміграцыю, дакладней — на розныя эміграцыі, там, на іх разьменьваючы сваё "золата гадоў"... Ужо на самым пачатку гэтага шляху, у першым рана-раньнім маленсьцьве — пярэбары з прыкасьпійскага паўдня, з выпадковага, але ўсё-ж фактычнага месца нарадзінаў, Баку, у дакумэнтальна-мэтрыкальна й эмацыянальна "родную" Вільню — першая эміграцыя, на якой і пачалася сталая **натуралізацыя** паэткі на Беларусі, у паэзіі ейнай завершаная канчальна толькі ў зборніку 1944 году "Сягоньня", што й было адзначанае сваім часам у крытыцы гэнага зборніка. Натуралізацыя гэтая была перапыніўшыся другой эміграцыяй — "бежанствам" 1915—1919 г.г.,

дзе яе ледзь была не перабіўшы натуралізацыя супрацьлежна ськіраваная на месцы гэнага бежанства, можна сказаць – дэнатуралізацыя, да якое маглі павесьці першыя паэтычныя спробы, ня ў беларускай мове, пэўна-ж, у Праслаўскай гімназіі. Неўзабаўная, аднак, рээміграцыя ў тую, "родную" ўсё-ж Вільню не дапусьціла да гэтага, а Віленская Беларуская Гімназія паставіла паэтку цьвёрда на шлях *натуралізацыі ў беларушчыне,* замацоўванае – дый замацаванае ўжо назаўсёды, і ўжо ня спробнаю, а сталаю практыкаю беларускае паэтычнае творчасьці. Зараз-жа аднак, ад 1922 аж па 1939 год – трэйцяя эміграцыя "дзеля сямейных абставінаў" у Польшчу, праўда, з вакацыйнымі наездамі на Беларусь ды неабрываньй сувязяй зь беларускім нацыянальным жыцьцём і літаратурай. А тады – чацьвертая, яшчэ больш, паліцыйным гвалтам ужо вымушаная эміграцыя – але ў сьцісьлым сэньсе таксама-ж эміграцыя – бальшавіцкага вывазу-ссылкі ў Казахстан, 1940–1941. І нарэшце – перад канцом 2-е Сусьветнае вайны й да сяньня – апошняя, найдаўжэйшая й найдалейшая эміграцыя – Нямеччына, Амэрыка – пятая (а мо дакладней пятая й шостая – нямецкая й амэрыканская). І калі прыгледзецца да датаў напісаньня твораў, дык толькі каля дзьвюх трацінаў вершаў першага зборніка "Пад сінім небам", адзінкавыя, на беларускіх вакацыях пісаныя вершы другога зборніка "Жоўтая восень" і ўвесь зборнік "Сягоньня" былі напісаныя на Беларусі, рэшта-ж – добрая траціна "Пад сінім небам", блізу ўся "Жоўтая восень" і ўсе вершы пасьля "Сягоньня" (за выняткам колькіх, напісаных пасьля выхаду гэтага зборніка, а перад эміграцыяй у Нямеччыну – але ў цяперашнім выданьні паэтка зусім лягічна ўлучыла й іх у разьдзел "Сягоньня") – усё гэта створанае на эміграцыях. Ды ўсё гэта – творы паэткі, натуралізаванае ў беларушчыне, у беларускай паэзіі, нязьмерную сувернасьць якой Натальля Арсеньнева захоўвала ўвесь час і, пэўна-ж, захавае да канца – аж да "другога берагу" свае "ракі жыцьця".

Усьведамленьне свайго стану натуралізацыі й ягоных псыхалягічных асноваў Натальля Арсеньнева дала ўжо ў вадным з тых трох першых пабеларуску напісаных вершаў сваіх, якімі Максім Гарэцкі ўпяршыню прадставіў віленскай беларускай аўдыторыі "новую Канстанцыю Буйлу" – у найдаўжэйшым зь іх вершы "Лятуценьні" (гл. б. 8). Лятуценьні аб "краіне нарадзінаў", значыцца – аб касьпійскім узьбярэжжы – наведваюць яшчэ паэтку, але ў уяўленьні тых лятуценьняў – гэта краіна нейкага "вечнага"–заўсёднага, нязьменнага хараства й шчасьці, а ўсё гэткае "вечнае"–заўсёднае, нязьменнае, нат калі яно само сонца, шчасьце, радасьць, сьвята – не кранае больш сэрца, "тамака сэрца маўчыць". І таму паэтка пачуваецца ўжо зусім зрадніўшыся, зусім пабуйлаўску зьлюбіўшыся з "нашым краем", з гэтым краем таксама "вечнае", заўсёднае, але зьменнасьці – і пры тым, у паэтычных лятуценьнях зьменнасьці заўсёды на лепшае, на прыямнейшае, на больш дадатнае наагул – зьменнасьці ў кірунку аптымізму – і ў прырэдзе, дзе "сьцюжу зьмяняе вясна", і ў жыцьці людзкім, дзе "пасьля сьлёз расьцьвітаюць надзеі".

Ды гэны паэтчын кірунак, нахіл да аптымізму выяўляецца ня толькі ў выпадку, калі яна зусім свабодна выбірае сабе край за свой "родны", але — і нат яшчэ мацней — у тых разох, калі такога свабоднага выбару перад ёй няма. Ужо ў самым першым з трох вершаў, у самым першым напісаным ёй пабеларуску вершы — у вершы "Восень" (гл. б. 10) паэтка заняла выразнае становішча, якое прайшло, як цяпер любяць казаць, "скразным" (больш пабеларуску было-б — наскрозьным), або, як раней любілі казаць —"стрыжнёвым" матывам праз усю ейную паэзію — *становішча, калі так сказаць, уступальнага, або канцэсійнага аптымізму, ці шырэй і глыбей бяручы — уступальнага ідэялізму:* калі няма свабоднага выбару між дзьвюма супярэчнымі пазыцыямі, не аднолькава пажаданымі, і даводзіцца прыймаць іх абедзьве, адну па аднэй ці адну з аднэй, дык да аднае зь іх трэба ставіцца як да "ўступкі" (больш пабеларуску — сparticle) дзеля апанаваньня і ўтрыманьня другой — тэй, у якую аптымістычна-ідэялістычна верыцца як у лепшую, ідэяльнейшую й павінную. У мове гэта найадпавядней перадаецца канструкцыяй, званай у граматацы "уступальнай" і афармлянай звычайна пры дапамозе г. зв. уступальных злучнікаў (хай (няхай), хоць (хаця), дарма што ды пад.) Гэта й маем у згаданым вершы "Восень" зь ягоным анафарычным "хай", і ў вершы таго-ж загалоўку "Восень" — першым ужо друкаваным вершы Натальлі Арсеньневай, які канчаецца на ноце гэткага ўступальнага аптымізму ("хоць сумаваць, а жыць" — гл. б. 14-15) і ад якога йдзе яшчэ колькі вызначальных лініяў—нітак, таксама "наскрозьных" у ейнай паэзіі. І далей вершы з выражэньнем гэткага становішча ўступальнага аптымізму—ідэялізму можна знайсьці ўва ўсіх ейных зборніках, на ўсіх этапах ейнага творства (пададзём тут, у дужках, адно балонкі цяперашняга зборніка, на якіх найбольш рэпрэзэнтацыйныя прыклады гэткіх вершаў — падаваньне й іхных загалоўкаў заняло-б зашмат месца: 24, 25, 51, 75, 77, 81, 83, 84, 96, 103, 109, 112, 113, 114, 117, 120, 122, 122, 123, 127, 128, 130, 132, 135, 140, 142, 143, 144, 146, 148, 160, 168, 170, 173, 189, 209, 211, 216, 227, 228, 231, 233 і нарэшце — найпазьнейшы датаю ў цяперашнім зборніку ягоны загалоўны верш "Між берагамі" — б. 3). І што найважнейшае тут хіба, дык гэта тое, што становішча гэткае займалася заўсёды ў тэй "беларускай справе", якою паэтка, паводля ейнага аўтабіяграфічнага прызнаньня, захапілася адразу яшчэ ў Віленскай Беларускай Гімназіі ды якой, як сьветчыць уся ейная біяграфія, адтады ніколі ня здраджвала. І гэта адтуль хіба, з тае "беларускае справы", і ўспрыняла яна гэтае становішча, што сталася "наскрозьным", "стрыжнёвым" у ейнай паэзіі.

Становішча ўступальнага аптымізму вызначала сабою й дзьве таксама "наскрозьныя", "стрыжнёвыя" й асноўныя настраёвыя танальнасьці—лады ў паэзіі Натальлі Арсеньневае, якія найлепш будзе абазначыць тэрмінамі з тэорыі музыкі — ***мінорамажору і мажорамінору***, пэўна-ж, бяручы гэтыя тэрміны ў іхным агульным эстэтычным, а ня ў канкрэтным, тэхнічным сэньсе. Калі першы напісаны пабеларуску паэтчын верш "Восень" (б. 10) пачынаў сваю лінію мінорамажору, дык першым друкаваным ейным вершам, таксама пад загалоўкам "Восень" (б. 14) завязвалася лінія больш тонкае й сваясаблівае танальнасьці —

мажорамінорнае. Ня была яна зусім новая ў нашай паэзіі: ужо ў Максіма Багдановіча можна знайсьці колькі дасканальных узораў, у яго-ж ёсьць і адпаведная слоўная характарыстыка — "радасьць, зь ёю сум". Аднагодак Арсеньневае ў літаратуры, Уладзімер Дубоўка даваў у вадным зь вершаў свайго "Крэдо" й абгрунтаваньне рацыі гэтага ладу: "Край ня знаў наш песьняў чыстага мажору, поруч зь весялосьцяй — смутак і туга" — дарэчы, Дубоўка першы й пачаў ужываць тэрміны тэорыі музыкі "мажор" і "мінор" у дачыненьні да настраёвага ладу паэзіі. Адзначым хоць зь дзесяток найбольш рэпрэзэнтацыйных узораў мажорамінору ў Арсеньневай: у нашым выданьні іх можна знайсьці на б. 16,25,110,131,171,209,213,227. Але й мінорамажор, у якім гучыць бальшыня вершаў, паданых намі вышэй за рэпрэзэнтацыйныя для становішча ўступальнага аптымізму — толькі найбольш пашыраны, асноўны ў паэзіі Натальлі Арсеньневае, склала яна пэўную даніну й простым, некамбінаваным ладом — мінору—суму й мажору—радасьці. У міноры напісаны другі зь першых трох, прачытаных на віленскім вечары Максімам Гарэцкім вершаў — "Сьветлы дзень" (б. 15), тымчасам як у мажоры — трэйці верш, ужо камэнтаваны намі ў іншай сувязі — "Лятуценьні" (б. 8). Цікава, што заходнябеларускаму рэцэнзэнту першага зборніка Натальлі Арсеньневае "Пад сінім небам", Уладзімеру Самойлу—Чэмеру вельмі спадабаўся вытрыманы ў найбольш "чыстым" мажоры верш "Улетку" (гл. у нашым выданьні б. 31): "Ня можам устрымацца, — пісаў ён, — каб ня выпісаць гэты харошы й асабліва характэрны для нашай пясьняркі верш цалком" — і выпісаў ("Родныя гоні", кн. 5, б. 39), тымчасам як савецкабеларускі рэцэнзэнт Мікола Байкоў, таксама адзначыўшы гэты самы верш як "адзін з найпрыгажэйшых вершаў усяго зборніка" ды таксама выпісаўшы—зацытаваўшы яго цалком ("Полымя", № 8, 1927, б. 191), найвышэйшую ацэну выставіў іншаму вершу — "На матыў хаўтурнага маршу" (б. 22 нашага выданьня), напісанаму ў поўным міноры:

*Па глыбокай натхненнасьці жывога пачуцьця смутку бязьмежнага, па музычнасьці й бездакорнай рытміцы гэты верш магчыма было-б назваць найлепшым вершам Арсеньневай і разам з тым адным з найлепшых вершаў у беларускай паэзіі. Ён стаіць на роўным стопню з найлепшымі вершамі М. Багдановіча й запраўднага нашага клясыка Янкі Купалы" (тамсама, б. 92; да цяперашняга выданьня верш гэты яшчэ больш адшліфаваны паэткаю з мастацкага боку ды насамрэч можа выпраўдваць гэткую высокую ацэну).*

І Байкоў высноўваў:

*Такім чынам у настроях паэткі часам праяўляюцца маркотлівыя тоны. Аднак-жа яе паэзію нельга назваць паэзіяй* песымізму — *утомы ад жыцьця, што давала-б пэўную падставу для адмоўнай крытыкі: бо жыцьцё й смутак адзначаюць адмову ад барацьбы за жыцьцё... У васноўным і цэлым яе паэзія* — аптымістычная. *Крыніца гэтага аптымізму — захапленьне сіньню неба, закаханьне да магутнай прыроды" (тамсама).*

Калі пакінуць на баку характэрнае для шмат якіх савецкіх крытыкаў, асабліва таго часу (цяпер часам званых "вульгарызатарамі"), адмоўна-крытычнае стаўленьне да "смутку" й мяшаньне мінору й мажору з пэсымізмам і аптымізмам, дык выснову гэтую можна цалкам падзяліць, удакладніўшы, што "закаханьне да магутнай прыроды" — гэта найпершая крыніца ўсяе творчасьці Арсеньневае, дамінантная ня толькі ў першым зборніку, але і для ўсяе рэшты твораў даваеннага пэрыяду. І гэткае-ж закаханьне да прыроды беларускай, як паказвалася ўжо вышэй, вызначыла й свабодны выбар паэткаю нашага краю за свой "родны край", абумовіўшы ейную натуралізацыю ў беларушчыне ды перадумовіўшы захапленьне й служэньне "беларускай справе".

Але Купалаў хросны бацька Самойла яшчэ шырэй, глыбей, грунтаўней, дый як-жа празорліва пісаў пра тую-ж найпершую крыніцу творчасьці нашае паэткі:

> *Натальля Арсеньнева мае ўсё, каб зрабіцца першарадным тварцом у паэзіі — мае глыбокі й шырокі грунт пад сабой — у пачуцьці спачатных, асноўных стыхіяў Жыцьця й Прыроды, пачуцьці, якое радніць яе з падставамі першай натуральнай рэлігіі нашых далёкіх продкаў. Яна мае выплываючую з гэтай кроўнай неразрыўнай сувязі з Прыродай і моцнай у ёй апоры — магутную сілу душы й бязьмежна, бязьмерна ўдзячную любоў да жыцьця й веру да гэтае Прыроды, без каторых ня можа быць і запраўднай любові да свае роднае прыроды, да свае Бацькаўшчыны, да свайго Народу.*
>
> *("Родныя гоні", кн. 5, б. 36)*

І дзесяць гадоў па тым, у 1937 г. Максім Танк у паданым намі вышэй вершы "Нашы шляхі", прысьвечаным Натальлі Арсеньневай, таксама выказаў сваё найбольшае прызнаньне ейнай любові да роднае беларускае прыроды, дадаўшы аднак пры гэтым пра асацыяваньне гэнае прыроды да "долі сярмяжнага аратага", "поту й сьлёз" для тых, ад каго ўвесь час у множным ліку выказваўся ў сваім вершы Танк — значыцца, фактычна для тых "Маладых паэтаў", якіх выклікала на дыялёг старэйшая за іх паэтка. І запраўды, чытачом і крытыкам, паводля Самойлы "найбольш уважным і сур'ёзным з чытачоў" Натальлі Арсеньневай не магла ня кінуцца ў вочы паэтчына засяроджанасьць, нат, калі можна так сказаць, перазасяроджанасьць на прыродзе ды яшчэ, хоць і ўсё-ж барджэй на другім, як на першым месцы, як пастаўлена ў Самойлы — на жыцьці, канкрэтна найбольш на жыцьці-перажываньнях асобы (той-жа Максім Танк у запісе ў сваій "Лісткох", паданым у нас вышэй, пачуваўся да абавязку "прызнаць, што са сваіх інтымных пачуцьцяў" паэтка "ўмее вязаць прыгожыя карункі") — пры поўнай бадай няўвазе да тае "долі сярмяжнае", на якой засяроджвалася—перазасяроджвалася беларуская паэзія, пачынаючы ад Багушэвіча, праз нашаніўства ды, у Заходняй Беларусі, аж па самога Танка ды іншых "маладых паэтаў". Але́-ж, ад Багушэвіча ўся беларуская паэзія была падчыркнена арыентаваная сацыяльна—нацыянальна, у канцавым выніку палітычна, тымчасам як даваенная творчасьць Натальлі Арсеньневай выглядала зусім апалітычнай, зусім, бадай, сказаць-бы

асацыяльнай ды нат у нацыянальным дачыненьні азначанай толькі вельмі агульна – моваю ды "роднай старонкі ціхім каханьнем" (апошні, найвышэйшы пункт "прадмоўнага", як сказаў Байкоў, вершу зборніка "Пад сінім небам", у нас гл. б. 7 – фактычна, Багдановічава "ціхое каханьне", пералучанае з рамансавага кантэксту ў патрыятычна-настальгічны).

Байкоў, трэба сказаць, біяграфічна блізкі да Арсеньневай сваім собскім натуралізаваньнем у беларушчыне ды можа затым асабліва прыязны да паэткі (дарэчы, гэта ён першы і ў сваім часе адзіны адразу-ж адзначыў гэты стан, выражаны ў вершы "Лятуценьні", хоць і ня ўжываючы яшчэ самога тэрміну "натуралізацыя" – "Полымя", №8, б. 186-7) – стараўся як найвыгадней прадставіць яе, "прадаць", як кажуць у Амэрыцы, савецкаму "перадавому", ідэяльнаму чытачу ды ўжо на самым пачатку засьцерагаўся: "Праўда, Н. Арсеньнева ня *наша*, савецкая паэтка. Але яна прыналежыць да *беларускай* літаратуры, якая, дзе-б яна ні зьяўлялася, уваходзіць у вагульны струмень беларускага культурнага развою нашых "рэвалюцыйных дзён" ("Полымя", №8, 1927, б. 186). І каб хоць памачыць паэзію Арсеньневай у гэным "струмяні "рэвалюцыйных" дзён" (сярэднія двукосьсі даволі сымптаматычныя), савецкі крытык адшукаў у зборніку "Пад сінім небам" пару нехарактэрных, выпадковых – і затым, відаць, ня ўлучаных паэткаю ў нашае цяперашняе выданьне вершаў ды цытаваў з аднаго зь іх ("Ты спытайся" на б. 51 у зборніку "Пад сінім небам") – дарэчы, з кантэксту разважаньняў пра жыцьцё па сьмерці, пра што дыпляматычна ня згадвалася савецкаму чытачу:

*Ты спытайся, ці ёсьць што ў блакіту бяздонным,*
*Чым там душы жывуць і шукаюць чаго?*
*Бо калі ўсе там роўны, у тым царсьцьве бяссонным, –*
*– Там няма і змаганьня, навошта яно?*

*Там ні злобы няма, ні пытаньняў гарачых,*
*Там і мэты няма, там – нічога няма!*

І высноўваў, і яшчэ цытаваў з другога вершу ("Чаму" – "Пад сінім небам", б. 45):

*Дзе жыцьцё, там – змаганьне, дзе змаганьне, там – пратэст супраць несправядлівасьцяў сацыяльнага парадку, які дзеліць людзкасьць на дзьве няроўныя часьціны. Гэты пратэст выліваецца ў форме трывожнага пытаньня:*

*"Чаму у сім жыцьці нямілым*
*Няпраўда, дзе вокам ні кінь,*
*Чаму адным славу і сілу,*
*І шчасьце жыцьцё аддзяліла,*
*Другім – толькі гора, хоць зьгінь!"*

*("Полымя", №8, 1927, б. 192).*

Байкоў не згадаў таксама, што ў гэтым вершы "Чаму" ставілася пытаньне ня толькі пра сацыяльную няроўнасьць, як скажам, у Багушэвіцкім "Бог няроўна дзеле" (дарэчы, перадрукаваным Максімам

Гарэцкім у вадным зь ягоных "Зборнікаў Беларускіх Ведамасьцяў", дзе былі перадрукі й некаторых вершаў Арсеньневае), але пра ўсякую няроўнасьць наагул, нат ня толькі сярод людзей, але й сярод красак, дрэваў, зораў, песьняў... З другога боку, Байкоў чамусь не зьвярнуў увагі на радкі першага цытаванага ім вершу "Ты спытайся", у якіх пытаньні ставіліся выразна ў роўніцы і сацыяльнага і нацыянальнага змаганьня, і зусім традыцыйна для нацыянальна–адраджэнскай паэзіі:

*...Ці ты жыў і змагаўся зь бядою,*
*Каб загінуць, прапасьць, ня прыйсьці на зямлю,*
*Ня зірнуць, што зрабілі з старонкай тваёю,*
*Ці разьвеяла, родная, гора-нуду*
*Між палёў, між людзей хоць на час?*

*("Пад сінім небам", б. 51)*

– а гэта-ж бадай адзіныя ўва ўсёй даваеннай паэзіі Арсеньневае радкі, у якіх было хоць нейкае адклікаваньне да гэткіх праблемаў, фактычна – да праблемаў тае "беларускае справы", якою, паводля ейнага цьвер-джаньня, захапілася паэтка яшчэ ў Віленскай беларускай гімназіі.

Апалітычнасьць, "неграмадзкасьць" паэзіі Натальлі Арсеньневае яшчэ больш абходзіла найаўтарытэтнага тымі часамі крытыка–рэцэнзэнта ейнага першага зборніка Антона Навіну. У тагачаснай паэзіі Заходняй Беларусі ён знаходзіў "як быццам тры ідэялягічныя кірункі": "прадоўжаньне даваеннага нашаніўскага кірунку", "выразна барацьбяны кірунак" (відаць, тыя-ж эпігоны нашаніўства з "пралетарскім" пакостам) ды трэйці, што "як быццам адыходзе ад палючых нацыянальных і сацыяльных балячак нашага народу": прырода "зьяўляецца для гэнага кірунку нявычарпанай крыніцай натхненьня, даючы прадстаўніком яго багатыя асабістыя пражываньні – часта яркія й красачныя, але ня зьвязаныя ані з сучаснасьцяй, ані з тэй жорсткай штодзённай барацьбой, якую прымушаны вясьці за самы свой быт наш працоўны народ" – хіба затым, што прадстаўнікоў гэтага кінунку, апрача Арсеньневай, проста нельга было знайсьці "ў прыродзе" ў Заходняй (як, пэўна-ж, і ў Савецкай) Беларусі, не называліся й экспанэнты іншых двух. "Арсеньнева перадусім зьяўляецца *індывідуалісткай*", – цьвердзіў, падчыркваючы гэтае слова, Навіна, і зноў-жа не падаючы ані канкрэтных твораў, ані адпаведных цытатаў на довад гэтага цьвер-джаньня, у якім выразна, звычаем усіх бадай публіцыстычных – прытым, галоўна сацыялістычных крытыкаў індывідуальнасьць мяшалася зь індывідуалізмам, уздымалася да яго. Годнасьць "індывідуалісткі" надавалася паэтцы проста затым, што "яе цікавяць найбольш яе ўласныя настроі й пражываньні", што "многа чыста свайго асабістага, індывідуальнага ўкладае Арсеньнева ў сваю творчасьць" (тамсама, б. III). Гэтым Навіна першы навесіў Арсеньневай бірку "індывідуалізму", якою жанглююць і цяпер паэтчыны нязычліўцы ( праўда, ці ня большыя яшчэ нязычліўцы й Навіны, хоць і пераймальнікі ў яго, дзе толькі мага), дачапляючы да яе яшчэ розныя цяжочкі, як сынанімічны "суб'ектывізм", яшчэ й "эстэцкі"...

Аднак, канчаў Навіна ўсё-ж на абароне Арсеньневай, мабілізаваўшы дзеля гэтага Максіма Багдановіча, якога перад тым супрацьстаўляў паэтцы, "паскольку" (гэтак і было напісана) той "зачапляе шырокія, агульналюдзкія праблемы", тымчасам як настроі й перажываньні Арсеньневае ўсяго толькі "праўда, не пазбаўленыя тых-жа агульналюдзкіх мамэнтаў":

*У дні вострае грамадзкае й палітычнае барацьбы, калі ўсе сілы народу йдуць на актыўнае ці хаця пасыўнае змаганьне за самае сваё існаваньне, людзі звычайна праходзяць няўважліва міма ўсяго, што ня мае простых адносінаў да гэтае барацьбы. Дык мо шмат каму здасца, што выхад кніжкі Арсеньневай ня мае сяньня вялікшага значэньня для беларускага руху. Такі пагляд быў-бы бязумоўна памылковы: бо-ж краса, быццам тыя Багдановічавы васількі ў жыце, аздабляе і ўзбагачае жыцьцё, незалежна ад таго, ці ёй выяўленыя нейкія* карысныя *з сучаснага пункту гледжаньня думкі; — бо краса, паводля справядлівага азначэньня Максіма Багдановіча, сама ўжо ёсьць "спажытак дзеля душы". Такую красу творыць Арсеньнева і такі "спажытак дзеля душы" дае нам у сваіх вершах!*

*("Адбітае жыцьцё", б. 113-114)*

Зразумела, што сама паэтка не магла прайсьці паўз усё гэта, асабліва калі выходзіла яно ад ейнага, дый паважанага настаўніка яшчэ ў гімназіі, дый у "беларускай справе". Відавочна ўдзячная за абарону, яна ўзяла, як свайго роду шчыт, цытаваныя ім словы Багдановічавага "Апокрыфа" за эпіграф да свайго другога зборніка "Жоўтая восень", што быў гатовы па дзесяцёх гадох пасьля першага, але асобнай кніжкай сьвету так і не пабачыў (у нашым цяперашнім выданьні, куды ён увайшоў разьдзелам, паэтка эпіграф гэты зьняла, і з поўнай рацыяй — патрэба гэткага шчыта даўно ўжо адпала для яе).

Зборнік "Жоўтая восень", як ніколі ня выданы кніжкаю, ня меў і рэцэнзэнтаў, а тымчасам у творчасьці Натальлі Арсеньневае месца ягонае вельмі значэннае — яно завяршальнае для ўсяго даваеннага пэрыяду гэтае творчасьці, зацьвярджальнае для асноўнага ейнага вобразу ды папераджальнае, дарыхтавальнае ў дачыненьні да наступнага ваеннага, зрушнага, нат зломнага пэрыяду.

І сваім першым пабеларуску напісаным вершам, і першым вершам друкаваным Натальля Арсеньнева пачынала свой шлях як *паэтка восені*, вобраз восені ад самых гэтых пачаткаў стаўся для яе найбліжэйшым, найулюбёнейшым, найінтымней зродненым канкрэтным увасабляльным вобразам тае прыроды, на якой, як было сказана, засяроджвалася й нат перазасяроджвалася яна ў сваёй творчасьці ўвесь даваенны час. І вобраз гэты прайшоў запраўды "наскрозьным" праз усю ейную паэзію — і якраз-жа на ягоным улоньні, у першым друкаваным вершы "Восень", у ягоных заключных словах "хоць сумаваць, а жыць" — упяршыню зьявілася, выявілася й тое, таксама "наскрозьнае", "стрыжнёвае" становішча ўступальнага аптымізму, пра якое казалася вышэй у сваім месцы.

Зборнік адчыняўся апалёгіяй восені ў першым ягоным вершы пад тым-жа загалоўкам "Жоўтая восень", што і ўвесь зборнік — у загалоўным — і, пабайкоўску кажучы, "прадмоўным" вершы зборніка (гл. б. 51 цяперашняга выданьня). Паэтка бараніла тут восень перад агульнаю, сказаць-бы, грамадзкаю думкаю, замацаванай у нашаніўсьцьве, блізу вылучна няпрыязным да восені як да нейкай "рэакцыі" ў прыродзе, што асацыявалася з пракуднай палітычнай рэакцыяй дый выкарыстоўвалася для алегарызацыі яе (як у Купалавым вершы "Яшчэ прыйдзе вясна", дарэчы, выразным мадэлі — разам зь яшчэ адным ягоным-жа вершам "Выйдзі" — для першага пабеларуску напісанага вершу Арсеньневае). І калі ўжо ў першым сваім друкаваным вершы паэтка выпраўдвалася анафарычным, запеўным радком — "Як ня любіць мне восень"..., дык цяпер, у прадмоўным вершы да другога зборніка яна выпраўдвала самую сваю ўлюбеньніцу: "А ці-ж восень папраўдзе панурая?.. Для мяне яна блізкая, знаная, новай песьняй... і натхненьнямі, здаўна чаканымі"...

А зачыняўся, замыкаўся зборнік вершам "Маладым паэтам" (гл. б. 77), у якім паэтка, раўнуючы сябе да тае ўлюбеньніцы ("нібы жоўтая восень") ды пераймаючы ейнае становішча—гледзішча ("стаю над жыцьцём і гляджу на яго") — выпраўдвалася ўжо сама ў тэй сваёй апалітычнасьці, "незмагальнасьці", якую вытыкалі ёй у крытыцы яшчэ першага ейнага зборніка — верш, можна сказаць, быў адрысаваны ня толькі "маладым паэтам", але й "старым крытыкам" — "маладыя паэты" сваёй творчасьцяй далі толькі штуршок для гэткага выпраўданьня — і перад імі, і перад "старымі" — у існасьці, нат перад усёй "беларускай справаю".

"Маладыя паэты" вершу былі, пэўна-ж, тыя, што прыходзілі ў паэзію Заходняй Беларусі ці найбольш выяўлялі сябе ў ёй у другой пяцігодцы трыццатых гадоў. Два зь іх, найбольш папулярныя ў заходнябеларускім грамадзтве тых гадоў, Максім Танк і Міхась Машара, і адгукнуліся цёпла на гэты верш, водгукі іхныя паданыя вышэй на сваім месцы. Паэзія Максіма Танка, найвыдатнейшага, найперадавейшага, вядучага ў паэтычным майстроўсьцьве свайго часу й месца, была асабліва блізкой Натальлі Арсеньневай у пляне паэтыкі, упаасобку паэтычнай вобразнасьці (і сам Танк, із свайго боку, у паданым вышэй запісе ў сваіх "Лісткох календара", адзначыў імпанаваньне яму якраз вобразнасьці ў ейных вершах), у пляне культуры паэтычнае мовы й беларускае літаратурнае мовы наагул, а таксама, не на апошнім месцы, і тэхнікі вершаваньня. У гэтых пунктах Арсеньнева была адарваўшыся ад сваіх паэтычных аднагодкаў па савецкім баку рыскае мяжы — ад Уладзімера Дубоўкі (дарэчы, Танкавага земляка-суседа з тае-ж Прынарачанскай краіны), вершы якога пачалі зьўляцца ў друку ад таго-ж 1921 г., што й вершы Арсеньневае, ад Уладзімера Жылкі, які, пачаўшы друкавацца на год раней, прывітаў быў, хоць і зь сяброўскай крытыкай дэталяў, ейныя першыя паэтычныя спробы, ад Язэпа Пушчы, які пачынаў свой шлях з таею-ж "ахвотаю жыць", што й яна, і меў ня меншае замілаваньне да прыроды, да тае-ж восені — "каб ведалі толькі, якая ў нас восень!" (гэта ў "Лісьце да паэтаў

Эўропы", які, дарэчы, Танк назваў "цудоўным вершам" у запісе ад 19.8.39 у "Лісткох") —а гэта-ж ім усім узаплеч ішоў у дадзеным дачыненьні Максім Танк, калі мо й нясьведама (дакладней — ня зусім, не ўва ўсім, не заўсёды сьведама), дык фактычна—гістарычна, калі так сказаць. І Танкава паэзія выразна рабіла ўжо стымуляцыйны ўплыў на паэзію Арсеньневае трыццатых год — ізноў-жа, асабліва ў пляне паэтычнае вобразнасьці, культуры мовы, тэхнікі вершаваньня, упаасобку рыфмаваньня (Уладзімер Жылка адзначыў некаторыя недацягненьні ў першых спробах Арсеньневае якраз у гэтым дачыненьні; Танк-жа меў тады вялікую ўвагу да рыфмаў, нат, як запісаў ён у сваіх "Лістках" 25.5.39,"адбіваў перад імі паклоны"; гл. таксама ў тых-жа "Лісткох" запісы ад 9.1.35, 14.3.36, 25.3.36, 1.1.37). Пэўна-ж, апрача Танкавае паэзіі, зашываньню таго адрыву ад паэтычных аднагодкаў з Савецкае Беларусі не магла не памагаць і практыка азнаямленьня заходня-беларускага чытача зь іхнымі творамі, якую пачаў віленскі часапіс "Калосьсе", дзе стала друкавалася Арсеньнева (дазволена нат здагадвацца, што ейны верш "Як калосьсе...", зьмешчаны ў самай першай кніжцы часапісу самага першага году ягонага выданьня 1935 самым першым па ўступной дэклярацыі да ўсяго выданьня — "Ад рэдакцыі", свайго роду вершаваным уступам да яго на б. 3, а ў нашым цяперашнім выданьні пад новым загалоўкам "Хаценьні" на б. 61 — быў напісаны ў падтрыманьне самога ягонага назову "Калосьсе", калі толькі зусім не падказаў гэты назоў рэдактарам-выдаўцом). Перадрукаваныя там былі падборкамі некаторыя вершы Пушчы й Дубоўкі, а таксама даўжэйшыя іхныя творы — "Лісты да сабакі" першага, "І пурпуровых ветразяў узьвівы" другога (гл. "Калосьсе", кніжкі 2, 3 за 1935 г., 1(18), 3(20) за 1939 г.).

Але і "маладыя паэты" з Танкам на чале, і паэтычныя аднагодкі Арсеньневае з Савецкае Беларусі ў сваёй паэзіі стала й нязбочна йшлі тым шляхом нацыянальна-вызвольнага змаганьня, які быў бітым генэральным шляхом і "беларускае справы" і беларускае літаратуры, пачаўшы ад Багушэвіча, і на якім стаўляў свае крокі, хоць мо і радзей, але ані не слабей за іншых найбольш блізкі Арсеньневай Максім Багдановіч — а яна шлях гэты проста як-бы дэманстрацыйна ігнаравала, байкатавала.

І ўсё-ж, пры ўсім выпраўдваньні, верш "Маладым паэтам" гучэў у канцавым выніку дэманстрацыйна — і ўжо нат выразна дэманстрацыйна. Адразу — пэўнае прызнаньне "Маладым паэтам" за іхную паставу, непакорную, гордую, напорную, змагарную, даймальную, за ім — жаданьне нат далучыцца да іх на тым шляху змаганьня — аднак, выказанае ў умоўным ладзе, бо тут-жа — і сьцьверджаньне ўсяе немагчымасьці гэтага дзеля падданасьці "іншым правом" дзён сваіх, што няхай сабе і "маняць і цыганяць" — значыцца, інакш і проста кажучы — ашукваюць, але чым? Панаднасьцямі прыроды, ейнае ўвасобніцы, а паэтчынае ўлюбеньніцы — незраўнанае, а тут ужо зраўноўванае—прыраўноўванае да собскае асобы "Жоўтае восені" — значыцца, тымі панаднасьцямі, што адразу-ж вызначылі паэтцы выбар "роднага краю", прадзначылі натуралізаваньне ў ім, у працэсе якога... "Віленская

беларуская гімназія зрабіла", — дакладней сказаць-бы: дарабіла, — "беларускую паэтку Натальлю Арсеньневу". Дык як было выйсьці, вылузацца спад дзеяньня гэных "правоў" — былі-ж бо яны калі й правамі "дзён", дык — "дзён паэзіі" — правамі самой *паэзіі*, на сцэне якой, пэўна-ж, маглі заблiскацець і "агнявыя маланкі", але-ж хіба ня "пугі" — аксэсуары зусім іншага рэквізыту, рэквізыту прозы, і то прозы сьцёбаньня—падсьцёбваньня — як-ніяк, а гвалту, нахіл і звык да якога ў характары далёка ня кажнага — а натурам запраўды паэтычным і зусім супрацьпаказаны. Да пасьвістваньня гэткімі пугамі Натальля Арсеньнева ў тым часе яшчэ ніяк ня была ані ахвочая, ані гатовая, але-ж яна яшчэ мела тады свабодны выбар між паэтычным сузіраньнем ("стаю й гляджу") а празаічным, як-ніяк, палітычным у вапошняй азначанасьці змаганьнем, і без ваганьня ставіла гэтае, як-бы й жаданае нат змаганьне нязвычайным для сябе парадкам ня над, а пад уступальным злучнікам "хоць" ("хоць навокал змаганьне") у сваёй улюбёнай сынтаксычнай канструкцыі — лёгка "ўступала" яго ў свабодным выбары, пазбаўляючы тую канструкцыю звычайнае для яе аптымістычнае, ідэялістычнае вымовы, якою праціналася яна адно ў выпадках, калі свабоднага выбару дадзена ня было.

Гэтак у вершы "Маладым паэтам" дадзена было самою паэткаю тлумачэньне апалітычнасьці ейнае даваеннае паэзіі: гэта — вынік ейнага, мо йшчэ і ня ўсьведамленага, больш собскай творчай практыкай падказванага падпарадкаваньня правом-законам паэзіі, як інтуіцыйна вычувала іх паэтка. А інтуіцыя — гэты найкаштаўнейшы дар паэтычнага таленту — як заўсёды запраўдная інтуіцыя, і тут не ашуквала.

"Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя" ў артыкуле "Паэзія"(том 8, б. 361), спрабуючы азначыць існасьць паэзіі, зацытавала словы ведамага філязофа-ідэялістага Гэгеля зь ягоных "Лекцыяў з эстэтыкі": "ператварыць звычайны *спосаб выяўленьня* празаічнай сьвядомасьці ў паэтычны" — у "майстэрсьцьве" гэтага, паводля артыкулу, мела-б і быць "сутнасьць паэзіі". Няма ў нас патрэбы, дый месца, спыняцца тут на адпаведнасьці гэткага прыцягненьня Гэгелевых словаў да азначэньня існасьці паэзіі, досыць зазначыць, што ўзятыя яны, проста сказаць, вырваныя (ды пасярод сказу абарваныя) з кантэксту разьдзелу Гэгелевае "Эстэтыкі" пад загалоўкам "Паэтычны твор у вадрознасьць ад празаічнага". А ў гэтым разьдзеле, за колькі балонаў ад паданых у БСЭ словаў (на б. 189-190 цытаванага ў ёй выданьня), вельмі добра высьняецца якраз тая пазыцыя ў дачыненьні да паэзіі, якую інтуіцыйна займала Натальля Арсеньнева ў сваей даваеннай творчасьці, выпраўдвала ў вершы "Маладым паэтам" ды, як будзе паказана далей, толькі пашырыла й паглыбіла, але не пакінула і ў найбольш дасьпелых творах часу ваеннага й паваеннага. Пададзём з гэтага высьненьня найважнейшае для нашага выпадку, апушчаючы дзеля ашчаднасьці месца і ўвыразьненьня думкі ўсё тое, дзе толькі навязваецца да папярэдняга ці далейшага выкладу, або да больш агульных Гэгелевых канцэпцыяў:

*...Паэзія, каб таксама (як красамоўства, пра якое быў ход перад гэтым. А.А.) ня ўпасьці ў прозу, павінна высьцерагагацца мэты, што ляжыць за межамі мастацтва й чыстае мастацкае асалоды. Насамрэч, калі яна ў існасьці хінецца да падобнага роду намераў, якія ў гэткім выпадку пачынаюць сьвіціцца з усяе канцэпцыі й спосабу забразаваньня, дык зараз-жа... адбываецца або разрыў між задачамі мастацтва й тым, што патрабуецца з боку іншых настановішчаў, або мастацтва, наўсуперак свайму разуменьню, выкарыстоўваецца адно як сродак і тым самым абніжаецца да абслугоўваньня якое-небудзь мэты. Гэткая, прыкладам, навучлівасьць шмат якіх царкоўных песьняў... Тое-ж прыкладальнае да настаўніцтва, маральнага дасканальненьня, палітычнае агітацыі ці простага павярхоўнага сьціраньня часу й прыемнасьцяў. То-ж бо ўсё гэта мэты, да дасягненьня якіх паэзія сярод усіх мастацтваў, пэўна-ж, можа быць найбольш прыдатнай, але паэзія не павінна старацца даваць гэткую дапамогу, калі ёй належыць абарачацца адно ў сваёй собскай сфэры — то-ж бо паэтычную здольнасьць павінна кіраваць паэзія ў якасьці вызначальнае й праводжанае мэты, а ня тое, што знаходзіцца за межамі паэзіі, гэтых-жа староньніх мэтаў можна фактычна дасягнуць яшчэ эфэктыўней з дапамогай іншых сродкаў.*

Усё гэта як найлепш "прыкладальнае", кажучы ўжытым тут словам, і да пазыцыі Натальлі Арсеньневае ў ейнай даваеннай творчасьці: калі яна "стаяла над жыцьцём", дык кіравала яе ў гэтым "паэзія ў якасьці вызначальнае й праводжанае мэты, а ня тое, што знаходзіцца за межамі паэзіі", "што ляжыць за межамі мастацтва й чыстае асалоды" — не "змаганьне" ў дадзеным выпадку. Але далей у Гэгеля чытаем:

*...І ўсё-ж, наадварот, паэзія не павінна імкнуцца заняць у канкрэтнай рэчаіснасьці абсалютна ізаляванае становішча, але як нешта жывое павінна ўвайсьці ў гушчу жыцьця... У паэзіі жывая сувязь з сучасным жыцьцём, паасобнымі ягонымі падзеямі, прыватнымі й грамадзкімі справамі шырэй за ўсё раскрываецца ў гэтак званых* в е р ш а х   н а   в ы п а д а к. *У больш шырокім сэнсе слова можна было-б назваць гэтым наймём бальшыню паэтычных твораў, у дакладным-жа сэнсе мы павінны абмежаваць гэтае кола гэткімі творамі, паўстаньне якіх у сучасных абставінах само забавязанае якому-небудзь здарэньню; гэтыя творы прызначаныя на тое, каб узьвялічыць, успрыгожыць або адсьвяткаваць памяць гэткіх здарэньняў. Аднак пры гэтых жывых сувязях паэзія зноў-ткі апыняецца ў залежным стане, затым часта ўсяму гэтаму колу хацелі прыпісаць другараднае значаньне, хоць да пэўнае меры сюды належаць найславутнейшыя творы, асабліва ў галіне лірыкі.*

А вось гэткага "ўваходжаньня ў гушчу жыцьця" якраз і ня было ў паэзіі Арсеньневае да вайны, ня было ў ёй і "вершаў на выпадак" ані ў шырокім, ані ў вузкім сэньсе (адзін і адзіны "верш на выпадак" у

самым вузкім сэньсе — "Памяці Ядвігіна Ш.," — быў яшчэ ў зборніку "Пад сінім небам" на б. 76, але ў цяперашняе выданьне паэтка яго ня пусьціла, і з поўнай рацыяй — занадта-ж яшчэ быў ён вучнёўскі з усіх бакоў). Зрэшты бо і біяграфічна даваеннае жыцьцё паэтчына, як ведаем, было далёкае ад усялякіх "выпадкаў" — было гэта, як казала яна сама, "спакойнае, але аднастайнае жыцьцё". Ды вось уварваўся ў тое жыцьцё такі жорсткі й жудасны "выпадак", як вайна — прытым найжарстчэйшая й найжудасьнейшая з усіх датулешніх Другая сусьветная вайна, у імклівым гоне яе западалі на паэтку гэткія "выпадкі", як апыненьне ў Вялейцы "пасьля рознае цяганіны", вываз у Казахстан, "шчасьлівы выпадак" звароту адтуль, перакід вайны маланкаю на нямецка-савецкі фронт, што "ледзьве не каштавала жыцьця, але затое штурхнула да творчасьці", як прызнавала сама яна ў сваёй аўтабіяграфічнай нататцы. Пэўна-ж "стаяць над жыцьцём і глядзець на яго" у віры гэткіх "выпадкаў" больш проста не даводзілася, ды не адразу аднак яны й "штурхнулі да творчасьці", не адразу далося й адгукнуцца нагэтулькі, каб вярнуўся голас тае творчасьці, голас паэзіі. А вароцаючыся, вельмі лёгка мог ён "ізноў-ткі апыніцца ў залежным стане" — рэагаваньне на "выпадкі" тоіць гэткую небясьпеку. Ды ў далейшым сваім выкладзе цытаваны намі Гэгель выясьняе,

> *...якім парадкам паэзія і ў гэтым канфлікце ў стане захаваць сваю самастойнасьць. Гэта тлумачыцца вельмі проста: паэзія разглядае й выстаўляе дадзеную вонкавую акалічнасьць не ў якасьці істотнае мэты, а* с я б е *ня толькі ў якасьці сродку, але наадварот, уцягвае ў сябе матар'ял гэтае рэчаіснасьці ды афармоўвае йператварае на правох фантазіі ў ейным свабодным выяўленьні. Якраз у гэткім выпадку паэзія не стаецца повадам і дапаможным сродкам, а матар'ял становіць вонкавы повад; пры ягоным узьдзеяньні паэта аддаецца сваім больш глыбокім роздумам і чыстай творчасьці, гэтым ён упяршыню з* с в а і х   н е т р а ў *узбудоўвае тое, што безь яго ў гэткім свабодным выглядзе не дасягнула-б сьведамасьці ў якасьці беспасярэдня наяўнага факту.*

Гэтак і сталася з Натальляй Арсеньневай. Ваенны этап ейнае творчасьці зафіксаваны ў зборніку 1944 г., у цяперашнім выданьні ў разьдзеле "Сягоньня" (б. б. 79—153). Загалоўны — "прадмоўны" верш гэтага разьдзелу (б. 81) канчаецца на ноце звыклага паэтцы ўступальнага ідэалізму — свабоднага-ж выбару між вайною й мірам ня было ("няхай-жа сьвет гарыць..."), але аптымізмам што да ўзнаўленьня паэтычнае творчасьці яшчэ ня гучыць, няма ў гэтым яшчэ пэўнасьці, адно пажаданьне — "даў-бы Бог". Аднак у наступным вершы "Пясьняр" (на тэй-жа б. 81) выказваецца ўжо не пажаданьне, а патрабаваньне часу — "трэба быць песьняром і цяпер", "і сягоньня" — і цьвярдая пэўнасьць, што, кажучы Гэгелевымі словамі, "пры ўзьдзеяньні матар'ялу" — гэнага "чаду, шэрага дыму руін, віску куль і гарматных раскатаў", словамі вершу — "паэта аддасца сваім больш глыбокім роздумам" — "падумаўшы, выплавіць гімн" — *"з сваіх нетраў"*, як падчыркнена ў Гэгеля. І ў наступным вершы ўжо й спроба "выплавіць"

калі ня "гімн", дык прачулы рэквіем, якім паэтка ўпяршыню рэагавала на самую вайну, а не разважала над стаўленьнем да яе паэты – гэта адзін з найлепшых твораў Натальлі Арсеньневае ня толькі ваеннае пары, а мо й наагул – верш "Палеглым" (б. 82; дарэчы, верш гэты першым і зьявіўся ў друку ў ваенным часе, у "Менскай" яшчэ – пазьней "Беларускай" – газэце, пад ня зусім беларускім загалоўкам "Паўшым", які ў цяперашнім выданьні паэтка з рацыяй "беларусызавала"). А за ім – верш "Там на полі" (б. 83) дзе тая-ж рэакцыя на вайну, гэтым разам у стылі "Слова аб палку Ігаравым" ("сеюць, сеюць зерня – маладыя целы") прарастала зноў у разважаньне над "паэтаў справай, пясьнярскім тонам", разьвязванае ў духу звыклага паэтчынага ўступальнага ідэялізму, ды ўжо больш практычнага, "спакойнага" ідэялізму й аптымізму (у папярэднім "Палеглым" прагучэў быў беззасьцярожны аптымізм веры, наагул вельмі рэдкі ў Арсеньневае, хоць і з традыцыяй яшчэ ад першага ейнага друкаванага вершу "Восень" – "калі я веру ўсім" – аптымізм, які з часам – і ўжо неўзабаве – выявіўся занаіўным, заборздасьпелым...) І нарэшце – верш "Асеньні вецер" (на тэй-жа б. 83) у якім, дарэчы, на тэй-жа восенскай сцэне, што і ўва ўсіх папярэдніх вершах разьдзелу "Сягоньня" – заява ўжо не пра паэта наагул, а пра самую сябе: "знайшла свой шлях".

Гэтымі першымі вершамі разьдзелу "Сягоньня" засноўвалася новая для паэткі лінія "вершаў пра паэтава пакліканьне й майстроўства", у якіх некаторыя далёкія і ў часе і ў прасторы – сучасныя й небеларускія назіральнікі ўгледзелі нат галоўны зьмест зборніка "Сягоньня". Лінія гэтая фактычна пачалася яшчэ ў даваенным пэрыядзе ў зборніку "Жоўтая восень" вершам "Маладым паэтам", на якім нам давялося грунтоўна спыніцца (нат фактычна за верш перад ім – вершам "Паэт", напісаным за год перад ім – гл. б. 76). І яна запраўды сталася як-бы аднэю з "наскрозьных" у ваенным пэрыядзе, перакінулася нат за ягоныя межы. Але гэта зусім зразумела, нат можна сказаць заканамерна для нашае паэткі, якую да гэтае лініі і ўсьведамляньня свае пазыцыі як паэта ўскосна падштурхвала і крытыка ейнага першага зборніка, і зьяўленьне ў літаратуры "маладых паэтаў", а проста й груба штурханула вайна з усімі ейнымі "выпадкамі".

І на гэтай лініі роздуму пра паэтава пакліканьне, у тым-жа вершы "Асеньні вецер" паэтка выясьніла–вызначыла таксама ўпяршыню й назаўсёды выразна характар таго знойдзенага ёй шляху: гэты быў шлях кіраваньня нацыянальна-патрыятычным пакліканьнем – шлях "з краінай". Ідучы гэным шляхам за тым пакліканьнем Натальля Арсеньнева і "ўваходзіць у гушчу жыцьця", згадваючы цытаваныя вышэй Гэгелевы словы, і "жывая сувязь з сучасным жыцьцём, паасобнымі ягонымі падзеямі, прыватнымі й грамадзкімі справамі" пачынае і ў яе "шырэй за ўсё раскрываццa ў гэтак званых *вершах на выпадак*". Але згадваныя намі выпадкі ейнага прыватнага, асабістага жыцьця – і пракудныя, як той Казахстан, і "шчасьлівыя", як зварот зь яго – пры гэтым бадай зусім не закранаюцца; рэакцыю на іх можна дапушчаць хіба ў вершах "Толькі ўвесну" (б. 86) і "Краіне" (на б. 93 –

"Нат і тым...". Наагул, вельмі людзкім тропам ня любіць паэтка згадваць, успамінаць прыкрага ў сваёй асабістай мінуўшчыне, толькі ў другім зь першых напісаных пабеларуску вершаў яшчэ жалілася яна: "Няма ў мяне сілы, каб ня думаць аб тым няпрыхільным, нямілым, сумным часе апошніх гадоў" (б. 16), але й там нічога канкрэтнага з гэнага сумнага часу не падавалася, а ў аўтабіяграфічных нататках пра Казахстан сказана вельмі каротка й проста: "пісаць вельмі няма чаго. Кажны ведае, што гэта такое" — і толькі хіба замежныя назіральнікі, што ня ведаюць гэтага, а таго, як сказалі мы, "людзкога тропу" проста не разумеюць, могуць пасуджальна згадваць, што ў зборніку "Сягоньня" было "кур'ёзна мала адклікаваньняў да ейнага выгнаньня".

"Вершы на выпадак" у зборніку "Сягоньня" маюць толькі нацыянальна-патрыятычны характар. Першы часам напісаньня такі "верш на выпадак" — гэта "Песьня Каліноўцаў" (б. 103), напісаная для ўзноўленага й мадэрнізаванага паказу папулярнае сваім часам п'есы Міровіча "Кастусь Каліноўскі", зьнятае з савецкае сцэны за сталінскай рэакцыяй трыццатых гадоў ды недапушчанае й гітлерскімі акупантамі на менскую сцэну, забароненае пасьля генэральнае рэпэтыцыі. У другу "Песьня Каліноўцаў" зьявілася пры адзначэньні ўгодкаў сьмерці Кастуся Каліноўскага ў менскай "Беларускай Газэце", у № 26 (40) ад 23 красавіка 1942 г. У гэткіх абставінах напісаньня й першадруку — гэта тыповы ўзор "вершу на выпадак у вузкім сэньсе" ў Гэгелевым разуменьні: як бачым, ягонае "паўстаньне ў сучасных (яму, значыцца тагачасных) абставінах было само забавязанае... здарэньню", і ён якраз быў "прызначаны да таго, каб узьвялічыць, успрыгожыць або адсьвяткаваць памяць гэткіх здарэньняў". Але ў тагачасных абставінах верш гэты ставаўся — дый, зрэшты, і быў прызначаны стацца "вершам на выпадак у шырокім сэньсе", Каліноўскі бо ў ім падаваўся як правадыр ня толькі гістарычных паўстанцаў шэсьцьдзесятых год XIX стагодзьдзя, але й як сьцяг ягоных пасьлядоўнікаў — "каліноўцаў" саракавых гадоў XX веку (дарэчы, сярод аўтараў тае-ж "Беларускае газэты" трапляецца, і то яшчэ перад зьяўленьнем гэтага вершу, "Каліновец" — выразны псэўдонім, і, між іншага, даводзілася гэтаму псэўдоніму пісаць і пра Натальлю Арсеньневу). І ў "Песьні Каліноўцаў" упяршыню ў нацыянальна-патрыятычнай паэзіі Арсеньневае зазначыўся матыў гатовасьці да патрыятычнага самаахвяраваньня, які пасьля разьвівала яна і ў іншых вершах гэтага жанру (пасьля "Ахвяры" Багушэвіча — "каб за край быў умерці гатоў" — матыў гэты быў неяк занядбаны ў нашай нацыянальна-патрыятычнай паэзіі — у нашаніўсьцьве адзіны ўсяго Багдановіч у вершы "Зразаюць галіны таполі" ў "Вянку" ды асабліва ў надзвычайнай сваёй "Пагоні", а па нашаніўскай пары — адно Жылка ў вершы 1922 г. "Толькі той" — кранаў гэты матыў). І ў тэй-жа "Песьні Каліноўцаў" канцавым рэфрэнавым словам кажнае страфы магутна прагучэла слова "Беларусь", якое вельмі характэрным, сымптаматычным парадкам ува ўсёй даваеннай паэзіі Арсеньневай зьявілася было ўсяго адзін-адзіны раз, і то таксама ў вадзінкавым у тэй паэзіі "вершы на выпадак" — "Памяці Ядвігіна Ш.",

пра якi згадвалася вышэй. Але i ў паэтчынай творчасьцi ваеннага часу слова гэтае перад "Песьняй Калiноўцаў" вынырнула таксама толькi раз (у вершы "Не заплачу балей", б.89 — да гэтае балонкi ня знойдзеце слова "Беларусь" у цяперашнiм зборнiку), паэтка проста як абмiнала яго, заступаючы, сказаць-бы, ананiмным сынанiмам "Краiна" — i толькi па "Песьнi Калiноўцаў" абодвы сынанiмы — "Беларусь" i "Краiна" — знайшлi ў паэтычным слоўнiку Арсеньневае трывалае й пачэснае месца.

Нарэшце, месца "Песьнi Калiноўцаў" у нацыянальна-патрыятычнай паэзii Арсеньневай важнае яшчэ й тым, што верш гэты калi й не пачаў сабой беспасярэдня, дык, сказаць-бы, перадухапiў сьцяг вайскова-патрыятычных песьняў, што тымi часамi пачалi паўставаць тым-жа парадкам i правам, як у 1919—20 г.г. "ваяцкiя песьнi", або "песьнi на ваяцкi лад", данiну якiм аддалi тады i Бядуля-Ясакар, i сам Купала, а першая зь якiх — "Ваяцкi гiмн" Краўцова Макара ("Мы выйдзем шчыльнымi радамi") сталася (прытым — якраз у часе паўставаньня вайскова-патрыятычных песьняў саракавых гадоў) i застаецца нашым нацыянальным гiмнам — "антэмам".

Дзьве вайскова-патрыятычныя песьнi Натальлi Арсеньневай "Беларусь! Наша Мацi—Краiна" (у цяперашнiм зборнiку загаловак "Прысяга") i "У гушчарах" сталiся — i дасюль застаюцца на эмiграцыi найбольш улюбёнымi, папулярнымi песьнямi (абедзьве ўвайшлi ў цяперашнi зборнiк — гл.б.б.139 i 287). "У гушчарах" — проста свайго роду шэдэўр гэтага жанру, у якiм зьнiтавалася дамiнантавае ў даваеннай паэзii Арсеньневай, ды яшчэ больш завойстранае тут, у сьвежай вобразнасьцi вылiтае пачуцьцё прыроды, прытым — беларускай прыроды "гушчараў" — з пачуцьцём нацыянальным, вайною, бы тым рэактывам, праясьненым-праяўленым i скандэнсаваным ужо не ў гатовасьцi, а ў простай, сказаць-бы, практыцы нацыянальна-патрыятычнага самаахвяраваньня. I гэта, можна сказаць — пiк усяго папярэдняга — цi-ж запраўды не "залатога"? — шляху паэткi ад "залатой восенi" ейнага першага друкаванага вершу да "Беларусi залатой" канцоўкi гэтае песьнi.

Да вайскова-патрыятычных песьняў Натальлi Арсеньневай прыстае песьня патрыятычна-рэлiгiйная — "Малiтва" (б.115), напiсаная на просьбу некаторых царкоўных дзейнiкаў, але адразу-ж iмi адкiнутая, i толькi з часам, ужо на эмiграцыi, прынятая як нацыянальна-рэлiгiйны гiмн "Магутны Божа". У сувязi зь ёю дацытуем тут мясьцiну з Гэгеля, апушчаную вышэй, бо там яна адводзiла ў бок ад асноўнае лiнii ягонага разважаньня:

> *(Гэткая, прыкладам, навучлiвасьць шмат якiх царкоўных песьняў) у якiх маюць месца пэўныя азначаныя ўяўленьнi адно ў сувязi з рэлiгiйным узьдзеяньнем, яны дастаюць свайго роду навочнасьць, што йдзе ўпоперак з паэтычным хараством. Наагул, паэзiя як паэзiя не павiнна будавацца рэлiгiйна й толькi* р э л i г i й н а, *i затым не павiнна iмкнуцца перавесьцi нас у сфэру, што мае, праўда, зродненасьць з паэзiяй i мастацтвам, але таксама ад яе адрозная.*

Гэтым вымаганьням i задавальняе "Малiтва".

Можна сказаць, што ўсе нацыянальна-патрыятычныя вершы разьдзелу "Сягоньня" былі створаныя як "вершы на выпадак", толькі што цяпер для шмат якіх зь іх цяжка, ато й немагчыма аднавіць той выпадак, на які яны пісаліся. Вось, прыкладам, ведамы верш Натальлі Арсеньневае "Годзе" (б.120) — ён быў зьмешчаны ў № 96 (116) "Беларускае газэты" 23 сьнежня 1942 г., ды ўрэзаны там у друку ў артыкул В.Гадлеўскага "25-я ўгодкі скліканьня Ўсебеларускага Кангрэсу". Артыкул гэты фактычна быў тэкстам рэфэрату аўтара, удзельніка Кангрэсу, на паседжаньні Рады Беларускае Самапомачы, прысьвечаным адзначэньню тых угодкаў. Як падала "Беларуская газэта" ў тымжа нумары, у нататцы пад загалоўкам "Менск адзначыў 25-я ўгодкі адчыненьня Ўсебеларускага Кангрэсу", угодкі гэтыя, "хоць і сьціпла, былі адзначаныя ў Мэнску"... Газэта, пэўна-ж, не магла падаць, што "сьціпласьць" тая тлумачылася забаронай акупацыйнымі гітлерскімі ўладамі шырэйшага сьвяткаваньня гэных угодкаў. Настрой абурэньня гэткім трыманьнем уладаў і адбіўся ў вершы "Годзе". Гітлерская палітычная паліцыя вычула гэта ды адразу-ж паклікала паэтку на тлумачэньне, і толькі ўдалая інтэрпрэтацыя вершу нябожчыцай Юльлянай Дубейкаўскай, што тады працавала там за перакладніцу, уратавала аўтарку вершу ад рэпрэсіяў. Аўтар-жа рэфэрату й артыкулу пра Кангрэс В.Гадлеўскі неўзабаве быў арыштаваны палітычнай паліцыяй і зьнік назаўсёды пры нявысьветленых дасюль абставінах...

Трэба яшчэ адзначыць, што ўсе нацыянальна-патрыятычныя вершы "Сягоньня" працятыя нязьменным аптымізмам, які найчасьцей набывае ў іх ваяўнічага характару. "Ваяўнічы аптымізм" добра быў адзначаны згадванымі ўжо небеларускімі назіральнікамі ў Цёткі — у раньніх ейных вершах, як "Вера Беларуса" ("веру, братцы, ў нашу сілу, веру ў волі нашай гарт" і г.д., і г.д.) — і ейныя, сказаць-бы, барабанныя дэклярацыі: "мы ня з карт, мы — ня зь гіпсу, мы — з каменьня, мы — зь зялеза, мы — са сталі" — ды нарэшце "мы з граніту, душа наша з дынаміту" — ня выдаліся ніякай "бамбастыкай", тымчасам як куды менш "ваяўнічыя" ваенныя патрыятычныя вершы "Сягоньня" Арсенньевае — гэткія, як "Чаго тужыць" (б.138), "А ўсё-ж будзем жыць" (б.111) або "Жыве Беларусь" (б.111) — былі кваліфікаваныя ўжо як "выяўна бамбастычныя", значыцца — надзьмутыя, напышаныя... Гэта зыркі прыклад частага апошнімі часамі ў заходніх інтэлектуалістых тарнаваньня падвойнае меркі — "падвойнага стандарту", калі зьвязанае з сацыяльным дый сацыялістычнымацаняецца дадатна — яно бо "прагрэсыўнае", выявы-ж нацыянальнага, адвольна мяшанага, утаесамлянага з "нацыяналістычным", дастаюць даўгі знак мінусу як "рэакцыйныя"...

Дарэчы, калі Максім Гарэцкі назваў быў Натальлю Арсеньневу самых першых ейных крокаў "новай Канстанцыяй Буйлай", дык тым самым тропам і правам паэтку-аўтарку "Сягоньня" можна было-б прызнаць за "новую Цётку", хоць, пэўна-ж, навязваньне тут можа быць толькі да вельмі агульнага або маргінальнага ў вабедзьвюх першых у гісторыі нашай літаратуры паэтак: няма бо ў Арсеньневай ані найбольш характэрнага для Буйлы "Курганнае кветкі" эратызму, што

адзначыў быў сваім часам Навіна (толькі пры дапамозе грубога шахеру-махеру з цытаваньнем можна цьвердзіць пра нейкія "знаёмыя па паэзіі дэкадэнтаў формы эротыкі", "нейкі хваравіты комплекс", як робіць адзін нядаўны савецкі аўтар у дачыненьні да нашае паэткі, ува ўсёй творчасьці якое няма нат ніводнага выразнага "вершу каханьня" і адзіны "Эротык" – зроблены ў 1964 г. пераклад з польскага паэта Ю. Лабадоўскага, гл. б. 318), ані цэнтральнае для Цёткі багушэвіцка-нашаніўскае засяроджанасьці на "мужыку"...

Праўда, што да апошняга, дык крытыка зборніка "Сягоньня" знайшла якраз у ім выявы "асяляненьня", кваліфікуючы іх як адзнакі канчальнасьці завяршэньня натуралізацыі Натальлі Арсеньневае ў беларушчыне (гл. згадваны ўжо артыкул-агляд Г. Альгердзіча "Беларускага слова жніво" ў бэрлінскай газэце "Раніца", № 30-31 (192-193) за 1944 г.). Рэч у тым, што даваенная паэзія Натальлі Арсеньневае была ня толькі апалітычнаю, "асацыяльнаю", але тропам тым, зусім, сказаць-бы, бясьсялянскаю, як ніколі яшчэ датуль у гісторыі нашае літаратуры. Калі часам прамільгвалі ў ейных вершах цьмяныя сылюэты сялянаў, дык былі гэта або нейкія ўмоўна-ідылічныя ці опэрныя "пэйзане", проста як аж чачотаўскія яшчэ "мілыя мужычкі", што "на растані... пяюць, адмаўляюць літаньні, кленчаць на цёпляй зямлі" (гл. б. 28), або фальклёрныя рамантызаваныя постаці зь першых ліраэпічных і эпічных спробаў паэткі, паданых у вапошнім разьдзеле зборніка "Пад сінім небам" – "Зачараваны кут" (у цяперашнім выданьні йдзе асобным разьдзелам, б. б. 35-48). І толькі ў зборніку "Сягоньня" зьявіліся нарэшце сяляне – жывыя людзі, асабліва – дзяўчаты, пры гэтым таго ваеннага часу – у вершах "Стары Сымон" (б. 87), "Не заплачу болей" (б. 89), "Спарышы" (б. 90, адзін з запраўдных шэдэўраў у гэтым новым для паэткі жанры), "Маці" (б. 91), "Вечар" (б. 94), "Ткальля" (б. 100), "Успаміны" (б. 105). Але куды важнейшае было тое, што меў на ўвеце й падчырквае Альгердзіч – "асяляняньне" паэтычнае вобразнасьці й мовы, якое прайшло праз усе вершы зборніка "Сягоньня" ад самага першага, загалоўнага-"прадмоўнага", а ня толькі праз кагадзе пералічаныя вершы з замалёўкамі зь сялянскага жыцьця.

"Асяляненьне" гэткае запраўды лягічна даводзіла да канчальнага завяршэньня працэс натуралізацыі Натальлі Арсеньневае ў беларушчыне – у Беларусі, у краі сялянскім, з вылучна блізу датуль сялянскай паэзіяй натуралізацыя й не павінна была завяршацца іначай, як натуралізацыяй у сялянсьцьве. І гэта дало магчымасьць і нат павіннасьць крытыцы, таму-ж Альгердзічу адзначыць і тэрміналягічна трапна ўпяршыню азначыць той працэс тэрмінам "натуралізацыя". Альгердзіч у сваім аглядзе гэтак і пісаў:

> *Увесь дасюлешні шлях Натальлі Арсеньневае ў беларускай паэзіі зяўляецца нічым іншым, як шляхом натуралізацыі, разумеючы гэтае слова ў тым самым сэньсе, у якім яно ўжываецца і ў біялёгіі і ў праве. З гэтага гледзішча "краса" і цесна зьлітая зь ёю "прырода" і рамантыка – толькі каналы, якія вялі паэтку да гэтае ейнае натуралізацыі ў беларушчыне, прывёўшы да завяршэньня яе ў нацыянальна-рэвалюцыйным, "сацыяльным" "Сягоньня".*

І ў гэтым запраўды галоўнае значаньне зборніка, у цяперашнім выданьні разьдзелу ”Сягоньня” ўва ўсёй жыцьцёвай і літаратурнай біяграфіі Натальлі Арсеньневай, ува ўсёй ейнай паэтычнай творчасьці.

У вершах паваеннае пары, паданых у нашым выданьні ў разьдзелах па разьдзеле ”Сягоньня”, на матар’яле перажываньняў часоў канчатку вайны на эміграцыі ў Нямеччыне (разьдзел ”Не астыць нам”, б. б. 157-196 і цыкль ”Яны ўсьцяж зы мной” у разьдзеле ”На ростанях”, б.б. 218-225) і ў заакіянскай эміграцыі (рэшта разьдзелу ”На ростанях” б. б. 199-217, 225-304) прасочваюцца ўсе ”наскрозныя” лініі творчасьці Натальлі Арсеньневае, назначаныя намі — лінія становішча ўступальнага ідэялізму-аптымізму, лініі мінорамажору й мажорамінору, лінія прыроды, лінія восені (лінія гэтая дасягае свайго кульмінацыйнага пункту ў цыклі ”Узноў”, б. б. 261-271, асабліва ў вершы ”Гэтак будзеш ты мной”, б. 262, дзе паэтка, што некалі раўнавала сябе да ”Жоўтай восені”, цяпер ужо ўтаесамляе сябе зь ёю), лінія ”вершаў пра паэтава пакліканьне” (цыкль ”Прыйдзе час і на песьню”, б. б. 225-231), лінія ”вершаў на выпадак” — лінія нацыянальна-патрыятычнае ваяўніча-аптымістычнае лірыкі (асабліва ў цыклях ”Ня зрадзім” і ”На слуцкія ўгодкі”, б. б. 231-245), лінія сялянскае ліра-эпікі (тут проста шэдэўр свайго роду — ”фрагмэнты” ”Зьнічы”, б. б. 188-196, незраўнаная сваёй, сказаць, ”небамбастычнасьцяй” да неадзінкавых савецкіх опусаў вакол Хатыні, і ня меншы шэдэўр — ”Слуцкая аповесьць” ”Косы”, б. б. 289-304, апошні ў разьдзеле ”На ростанях” і таксама апошні арыгінальны твор усяго цяперашняга зборніка, перад апошнім ягоным разьдзелам ”Зь перакладаў”). Кажны, хто зацікавіўся-б і захацеў-бы прасачыць гэныя лініі дэтальней, лёгка можа зрабіць гэта, чытаючы ўважліва разьдзелы ”Не астыць нам” і ”На ростані”.

Нарыс гэты меў на мэце даць толькі ўводзіны ў разуменьне паэзіі Натальлі Арсеньневай агульнаму чытачу, шырокаму чытацтву, не спэцыялістым. Дык аспэкты больш спэцыяльныя, аспэкты гісторыі літаратуры й тэорыі літаратуры — паэтыкі й тэхнікі вершу — закраналіся адно ў канечнай патрэбе ды зусім агульна, не спэцыялізавана й не дэталізавана. Наапошку выдаецца ня лішнім дакінуць толькі адно, таксама вельмі агульнае, зазначэньне што да паэтыкі й тэхнікі вершу: у гэтым дачыненьні Арсеньнева заўсёды была традыцыяналісткаю, хоць на зломе ў разьвіцьці свае творчасьці, між даваенным і ваенным пэрыядамі яе, яна хай і не зламала, але зьмяніла тую традыцыю, на якой пачынала — традыцыю, сказаць-бы, чыста багдановіцкую на — у шырэйшым сэньсе таксама багдановіцкую, але, калі так сказаць, толькі *ад*багдановіцкую й *па*багдановіцкую — ад Максіма Багдановіча гістарычна паходную, у назначаным ім агульным і асноўным кірунку па ягонай сьмерці разьвіваную, але ў новым напаўненьні, новым часам вызначаным і паэтычна-тэхналягічнаму ўзроўню часу гэтага адпаведным. Да гэтае традыцыі, як адзначалася вышэй у сваім месцы, паказала была дарогу паэтыка й тэхніка заходня-беларускіх ”маладых паэтаў” — сказаць-бы, ”маладапаэтычная” заходня-беларуская паэтыка й тэхніка, што, як там-жа адзначалася, ішла ўзаплеч практыцы паэтычных аднагодкаў Арсеньневае ў Савецкай Беларусі і гэтым

знаходзілася на гістарычна адным зь імі шляху — на шляху на той час ужо складзенае, адстоенае ў традыцыю паэтычнае практыкі, найшырэй і найагульней бяручы й называючы — практыкі маладнякоўскаўзвышэнскае пары. Толькі эпізадычна, вельмі рэдка экспэрымэнтуючы — як-бы адно, каб паказаць, што й яна "гэтак можа" — Натальля Арсеньнева і ў гэтым фактычна выяўлялася традыцыяналісткаю — экспэрымэнты ейныя ніколі бо ня бывалі арыгінальна-наватарскімі, а заўсёды арыентаваліся на практыку іншых, якая няхай яшчэ й не заўсёды была ў сваім часе перарослшы ў традыцыю, дык усё-ж ня выключала тэндэнцыі да гэткага перарастаньня (гл., прыкладам, вершы на б. б. 27, 31, 268 — "Гэта-ж восень").

На гэтым і скончым, пажадаўшы зычліваму чытачу ня толькі "памачыць пяты", а й паплысьці шырокай ракой паэзіі Натальлі Арсеньневае, самой-жа паэтцы — плысьці а плысьці таею ракой жыцьця й творства свайго, ня сочачы гэнага "другога берагу шэрага"...

Ант. Адамовіч

## *МІЖ БЕРАГАМІ*

*Няцямным немаўлём я пяты памачыла*
*упяршыню ў кіпень ракі майго жыцьця.*
*І вось — другі ўжо бераг шэры няўпрыцям*
*расьце перад вачмі...*
*Ен — прыйме на спачынак.*

*А я-б — яшчэ плыла,*
*няхай між берагамі*
*каменьне, і віры, і дна глыбінны жвір...*
*Ці раз параненая імі да крыві*
*не паддалася ўсё-ж, ня пала я ў змаганьні.*

*Рака, рака жыцьця!*
*У градаў гнеўнай пене,*
*У зернятах пяску на плёсах залатых,*
*бурлі-ж павек між берагамі ты,*
*і ў грудзі — ўжо ня мне —*
*а зьмене бі па зьмене!*

*Рочэстэр, 1971*



Фатаграфія паэткі з зборніка
"Пад сінім небам".

*Ins hohe Meer werd' ich hinaus geniessen...*
*Goethe, 'Faust'*

## ПАД СІНІМ НЕБАМ

Ад злых, няветлых песьняў гора,
ад мораў шэрае зямлі,
у неба сіню, ў неба мора
ты зрок прысталы падымі.
У сінім небе няма распачы
глухой, што гасіць паволі ўсё,
пад сінім небам усё іначай —
здаецца сьветлым, як сны, жыцьцё,
такім нязнаным, дзіўным, узьлётным,
жыцьцём-натхненьнем бязь сьлёз, турбот.
У сінях неба несьмяротных
бясконцым сьвятам сплывае год.
Дык гэт, у неба, у край бязь сьценяў,
ад зла, нязбыўнага ў жыцьці,
на белых крылах лятуценьня,
Пясьняр,
па слова-чар ляці!

*
* *

Сонца вясьнянае ў золаце косаў,
срэбныя вербы на плёсах бялёсых,
восені зырка-чырвонай пажары
ночныя зводы і ночныя чары,

сэрца развагі, і сэрца парывы,
песьні, што ўлетку сплываюць на нівы,
плач лясуна, сінь вазёр лебядзіных,
жахі глухое паўночнай гадзіны,

долі пакора, і з доляй змаганьне,
роднай старонкі ціхое каханьне, —
ўсё, што у думках нясьцішных пяе, —
вершы мае.

1925

## ЛЯТУЦЕНЬНІ

*Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны,*
*Дзе такі там хорам важна збудаваны,*
*Што мне замянілі-б хату і бярозкі.*
*Хату і бярозкі беларускай вёскі?*

*Я. Купала*

Часам, як толькі заплюшчу я вочы,
бачу я край той, дзе мора плюскоча,
бачу я хварбы паўдня.

Бачу я мора духмянае кветак,
белыя дрэвы, прыгожа ўсё гэтак
у ласках гарачага дня.

Бачу нябёсныя сінія далі,
ўзоры, што зорныя ночы саткалі
з кроз, успамінаў, надзей...

Гэта — краіна маіх нарадзінаў,
тая, што сьніцца мне ночнай часінай,
праўда, радзей а радзей.

Толькі чаму-ж маё сэрца ня йрвецца
ў тую краіну, чаму яно б'ецца
ціха, спакойна зусім?

Мусіць, чужыя паўдзённыя чары —
новы абраз — гэны, колішні, стары
выціснуў ў сэрцы маім.

Нашага кволага сіняга неба,
нашых палосак нясьпелага хлеба
сяньня адных я хачу.

Сум нашых срэбрам раззораных ночаў,
рэчкі, што ў лозах зялёных плюскочуць —
толькі яны уваччу.

Ці-ж мне заменіць блакітнае мора,
ці-ж мне заменяць няўсяжныя горы,
зораў паўдня каласьсё, —

нашае цьмянае сонца ціхое,
любае думкам і сэрцу ўвясною
любае мне над усё?

Не, бо ля сьветлага сіняга мора
вечна аб радасьці хвалі гавораць,
там ад яе не ўцячы,

бо там бяз працы, а родзяць зярняты,
бо там чужое нам, вечнае сьвята,
тамака сэрца маўчыць.

Тут-жа-ж, у нас, па гайкох, пералесках
посьля зімы зацьвітаюць пралескі,
сьцюжу зьмяняе вясна.

Тут пасьля гора жыцьця шлях сьвятлее,
тут пасьля сьлёз расьцьвітаюць надзеі,
тут і у сэрцы вясна!

1920

## КРЫНІЦА

За ніўямі, балатамі,
за хваёвымі барамі
ёсьць празрыстая крыніца.
Ўсе атруты, ўсе пакуты
з сэрца людзкага, бы путы
зьніме дзіўная вадзіца.
Лечыць цела, што збалела,
і душу, калі змарнела,
веру, моц ліе у грудзі.
Вось гадамі, з калітамі
да яе й брыдуць лагамі
горам гнобленыя людзі.
Толькі-ж горкая дарога
да яе... Людзкім нябогам,
гэтым — сьмеласьці ды сілы
не дастала... З паўдарогі
іншых пушчы і разлогі
завярнулі... Тых вунь зьбілі
з ног ці гора, ці турботы,
ці мо сьлёзы адзіноты.
Зноў-жа гэныя згубілі
веру ў долю, ў свае сілы,
ў сілу дзіўнае крыніцы, —
а бязь веры — стой дзень цэлы,
не, ня дасьць здароўя целу
жыцьцядайная вадзіца.
Ды нялёгка і далёка
навет зь верою глыбокай
дашукацца тэй паляны,
дзе зялёнаю лагчынай
мкне у далеч ручаіна,
гоіць сэрца, гоіць раны,
над вадою, над жывою,
дзеківаюць галавою

сіняватыя вярбіны,
дзе на словы людзкай мовы,
сьвежы, сонечны, бы новы
грае бор на ўсе галіны!
Тут, у цішы, ўбогі, хворы,
пазабыўшы крыўды й гора,
неўзабаве схамянецца.
Сілы — дасьць яму крыніца,
веру — сонца, што іскрыцца,
сьмеласьць — неба, што сьмяецца.
Дзень сьпяе пра шчасьце з воляй,
ноч спаўе ціхой патоляй,
зàмірыць з жыцьцём нямілым...
Гляне ў неба — й зноў паўстане
на няроўнае змаганьне
верны сын зямелькі шчырай!

1921

## КАЛІ ЛЮДЗІ ПАКРЫЎДЗЯЦЬ ЦЯБЕ

Калі людзі пакрыўдзяць цябе,
калі хочацца плакаць, маліцца, —
ты ідзі вузкай сьцежкай у лес,
там так лёгка на крыўды забыцца!
Быццам прыйдзеш ты ў хорам дзіўны,
дзе няма ані сьлёз, ні маны,
дзе пачуеш у шэптах лісьця:
"Ты даруй неразумным, як я"...
І адыйдзе туга, шугане
ў вышыню, бы ўстрывожаны рой.
Зразумееш, што ўсё праміне
у жыцьці, навет гора зь бядой...

Вільня, 1921

## ВОСЕНЬ

Хай жаўцее, сьціхае сад з кажнай гадзінай,
сонца косы гарачыя ўсюды ня сее,
хай гарыць, як агонь, ліст чырвонай асіны,
хай апошнія кветкі у садзе жаўцеюць, —
будзем чакаць вясны!

Хай паўзуць над зямлёю калматыя хмары,
хай цямнее рака, хай жыцьцё замірае,
не агорнуць нас восені горкія мары,
кажны з нас яшчэ сьветлае шчасьце пазнае, —
будзем чакаць вясны!

Хай у душах надзея на долю канае,
зло мінецца, бы летнім дзяньком навальніца,
прыйдзе час — сонца ў сініх нябёсах зазьзяе,
закрасуе вясновай красою зямліца, —
будзем чакаць вясны!

Вільня, 1920

## КАЛІ НОЧ ЗАПАНУЕ

Любяць людзі прыгожыя песьні,
любяць сумныя гукі жалейкі,
як пагодныя дні на прадвесьні,
як раздольле, як сьпеў салавейкі.

Любяць казкі аб дзеях мінулых,
аб жыцьці сваіх продкаў свабодных,
аб гушчарных бароў шумах-гулах,
аб прадоннасьці рэк мнагаводных.

Любяць песьні аб славе, аб долі,
аб асілках вялікіх, магутных,
аб братох, што каналі ў няволі,
аб часінах старонкі пакутных.

Ня было запраўды мо нічога,
мо і песьні і казкі мінучы, —
чуе сэрца ў іх гукі былога,
а душа уздыхае балюча.

Тыя ўздыхі мо ветрык падхопіць,
панясець і разьвеець у полі...
А калі ён сканае паволі,
калі ў хмарах бліск сонца утопіць

і туман папаўзе над лясамі,
над асінаў сям'ёй палахлівай,
над зялёнай нясьпелаю нівай
дарагімі, маўляў, паясамі,

калі ноч запануе усюды,
калі выпаўзуць ночныя чары,
духі-сьцені агорнуць абшары,
сны сплятуцца, сны-мары і цуды,

калі смутныя ночныя гукі
паліюцца з-за хваляў туману
на глухую лясную паляну
і замрэ ўсё ад дзіўнае мукі,

як жыцьцё прыабернецца казкай,
калі з казкаю сэрца зьліецца, —
мо старое ў душы страпянецца
і прывабіць нязьведанай ласкай?

Явай стануцца гожыя песьні,
явай стануцца гукі жалейкі,
сьветлай явай, як дні на прадвесьні,
як раздольле, як сьпеў салавейкі.

1921

## НОЧЫ Й ДУМКІ

Ёсьць ночы белыя, ёсьць цёмныя, глухія.
Ёсьць гаманлівыя — і ёсьць зусім ціхія.
Іх — больш за ўсё люблю зь лядзяным зьзяньнем зор,
што на шаўкох нябёс празрысты ткуць вузор.
Люблю за супакой, хоць сонны, а чароўны,
люблю за сіні змрок, за смутак нявыслоўны,
што на душы ляжыць, калі сяджу адна
і ў глыбіню гляджу нябёсную бяз дна...

Ёсьць думкі сьветлыя, ёсьць чорныя, благія,
ёсьць думкі, як і ноч, зусім-зусім ціхія.
Іх — больш за ўсё люблю, з манліваськцяй надзей,
з усім, што лекам тут зямной душы людзей.
Люблю за цішыню дзіўную ў сэрцы, тую
зь якою я нідзе й ніколі ня сумую,
за тое, што гарыць ізь імі дух, расьце
і кажа жыць ня так, як тут жывуць усе!

Вільня, 1921

## ВЯСНА

З кажнай хмаркі ў небе празрыстым,
з кажнай лужынкі сьветлай і чыстай
усьміхаецца ясна вясна!

Надзяць сіняй нябёсныя далі,
ручаі звон і грукат узьнялі,
запраўды, надыходзіць вясна!

Сьнег ляжыць яшчэ коўдрай ваўнянай
пад узгоркам, а вецер вясьняны
ўжо прыймчаўся ні згэтуль, ні стуль,

абсыхаюць у садзе сьцяжыны,
і набраклыя яблын галіны
    прагна йрвуцца да сонца касуль.

Сэрца б'ецца трывожна, няроўна,
мне і сумна й вясёла-чароўна,
    вусны ціха шапочуць: "вясна"...

Недзе радасьці дзіўнай падзецца,
ўсё сягоньня зрабіла-б, здаецца,
    бо папраўдзе на сьвеце вясна!

Вільня, 1921

## ПРАЛЕСКІ

Мілыя, мілыя сінія кветкі,
сьветлай вясны улюблёныя дзеткі!
Кветак ёсьць шмат, што за вас прыгажэй,
толькі, пралескі, вы сэрцу бліжэй...

Гляну я ў вашыя сінія вочкі —
і быццам бачу гайкі і лясочкі,
дзе спад сьнягоў пазіраеце вы,
мілыя дзеці вясны!

Толькі зірну я на вашыя краскі,
ўспомню вясновыя шчырыя ласкі,
ласкі і сонца й нябёс,
песьні, што ветрык прынёс
зь ясных палёў, дзе зямля абсыхае,
сонца дзе зраньня да ночкі гуляе.

Вашыя вочкі ў сабе адбіваюць
сіняе неба і хмаркі, што таюць,
будзіце ціхі, родны мне сум,
нібы у лесе вясьняны той шум,
будзіце сілы, што ўзімку драмалі,
будзіце думкі, што скутыя спалі,
будзіце шэпты надзей,
што мне за ўсё саладзей...

Поўныя рожавай мглы пералескі
вас гадавалі, красуні-пралескі,
неба вас песьціць, вам сонейка шле
золата кос, пацалункі нясе
ветрык вам весьні... вас любіць вясна,
вас па лясох рассыпаець яна.

Вы усьцілаеце сьцежку вясьне,
вы яе сымбаль, адзнака яе...
Мо вы таму мне за ўсё й саладзей,
дзеці вясьняных надзей?

1921

## МАЙ

Абляцелі вішні... Пагусьцелі клёны,
зашумеў, бы ўлетку, сьвежы, новы гай,
праляцеў нячутна красавік зялёны,
на зямлі пануе сьветла-пышны май.
Пасінела й неба... Ласкай залатою
залівае сонца поле і мяне.
Пасмаю сівою проста прада мною
таюць плямы-горы недзе ў тумане.
Сонца шчыра грэе. Хараша у полі,
зацьвітаюць краскі між травы густой.
Чую ўсёй душою, што я зноў на волі,
што узноў у сэрцы — веснавы настрой!
Сьцень паклаўся сіні ад бярозаў тонкіх
на дыван, заліты залатым сьвятлом.
У красе калінаў, у лістках рамонкаў
сьвецяцца расінкі, з маладым лісьцём
ветрычак жартуе, а ўгары, ў нябёсах
белыя хмарыны заплятаюць сецьֹ.
Пад гарой палоскі маладых калосьсяў
зырка зелянеюць... Хочацца глядзець,
заглядаць бясконца у блакіт празрысты,
аб нічым ня думаць, толькі сьніць а сьніць,
сьніць аб сінім небе, гэткім чыстым, чыстым,
і аб сонцы й шчасьці, што мне значаць дні.

Вільня, 1921

## ВОСЕНЬ

Як ня любіць мне восень залатую,
калі праз вопратку асін густую
тон прабіваецца чырвоны, слаўны тон,
і ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён?

Як ня любіць мне восень залатую,
калі на ніву зжатую, пустую,
ліецца уначы, як малако, туман
і павучыньне скрозь на хмызьняку палян.

Як ня любіць мне восень залатую,
як ня любіць мне частку году тую,
калі я веру ўсім, калі душа гарыць,
і хочацца так век,
хоць сумаваць, а жыць...

Вільня, верасень, 1921

## ВОСЕНЬ У ВІЛЬНІ

Клёны апалі, і золата й хварбы
крыюць зямлю дарагім дыванам.
Поўныя жмені лістоў тых узяў-бы,
восенскім сплёў-бы іх, пышным вянком.
Таюць аблокі у небе высокім,
хвалі туману над Вільняй стаяць.
Места мярэсьціцца ўнізе, далёка,
вежы касьцёлаў у неба глядзяць,
цэркваў блішчаць залатыя галовы,
цёмнымі плямамі дрэвы ляглі,
сіняй палоскаю бор нат хваёвы
ледзь, а відаць за істужкай Вяльлі...

Чуюцца, чуюцца восені чары
ў хварбах, у тонах лісьця і нябёс,
лёгкім дрыжэньні кляноў у пагары,
сьвежасьці йльдзістай, што вецер прынёс...

1921

*
* *

Сьветлы дзень дагараець над сумнай зямлёю...
Ліпаў лісьцейка хварбай гарыць залатою,
сад пажоўклы цямнее, маўчыць.

Каля яблынак сьцені кладуцца густыя,
пацямнелі ігрушы й кляны маладыя,
зараз ясны заход дагарыць.

Аджываюць нячутна жаданьні
ў гэты час, час маўклівы зьмярканьня.

Я хачу на часінку забыцца аб горы
і глядзець, як у рожавым захаду моры
сонца косы бярэцца тапіць.

Я памерці хачу вось такою парою,
хваляй сонца залітая ўся залатою,
больш каб слова ня чуць: "пацярпі"!

Аджываюць нячутна жаданьні
ў гэты час, час маўклівы зьмярканьня...

Я хачу ў гэты момант пазнаць сваю долю,
я хачу зьведаць шчасьце, хачу я на волю,
ў далі родных, шырокіх палёў!

Я хачу, я хачу... Ды няма ў мяне сілы,
каб ня думаць аб тым няпрыхільным, нямілым,
сумным часе апошніх гадоў!

Аджываюць нячутна жаданьні
ў гэты час, час маўклівы зьмярканьня.

Сад маўчыць... Не пяець, як раней, як вясною,
аб тым шчасьці, жыло што калісьці са мною,
сад маўклівы і цёмны стаіць.

Каля яблынак сьцені кладуцца густыя,
пацямнелі ігрушы й кляны маладыя,
зараз ясны заход дагарыць.

Засынаюць нячутна жаданьні
ў гэты час, час маўклівы зьмярканьня.

1920

## ЛЕС ШУМЕЎ

Лес шумеў... Ледзьве чутнымі гукамі
гоман соснаў высокіх сплываў.
Вецер дзіўна-прыгожымі згукамі
новы шэпт, новы сьпеў выклікаў.

Між камлямі хваінаў чырвонымі
зьзяў крывавы асеньні заход.
Далячынямі неба прадоннымі
выплываў белых зор карагод.

А між імі, з усьмешкай халоднаю,
ўсходзіў месяц, прыбраны ў імглу...
Гэны вечар малюнкамі роднымі
выклікаў нейкі смутак, тугу.

Смутак рос, калыхлівымі хвалямі
плыў а плыў у душу ён маю...
Так туман, неабсяжнымі далямі,
залівае увосень зямлю.

Вільня, 1922

## ЦІХА ПЛЫЎ МЕСЯЦ

Ціха плыў месяц між хмараў празрыстых,
зоры гублялі халодныя сьлёзы,
вецер зрываўся між клёнаў бязьлістых,
вецьце калышачы голых бярозаў.

Таялі плямы туманныя сьценяў,
срэбра сьнягоў залівалі зімовых.
Сьветла было мне ад белых праменьняў,
шчасна было мне ад думак тых новых.

Нейкая дзіўная сіла ўставала
ў сэрцы, да сяньня пакорліва-хворым,
месяц, здаецца, рукою-б дастала,
зоры-б зрывала з паднебнай прасторы.

Долі пайшла-б паляваць далёка
я для зямліцы, што сьпіць без прасьвету
і разьліла-б, як сягнуць можа вока,
шчасьце над белым, асьнежаным сьветам.

Вільня, 1921

*

*  *

Ночкай сягоньня мне ў самыя вочы
месяц зімовы глядзеў і сьмяяўся:

— Сумна табе? — ён як быццам пытаўся, —
праўда, ня сьпіцца у сьветлыя ночы?
Ўстань і зірні на вакно, што адзета
тонкаю сеткаю з рож серабрыстых,
пэўна, як глянеш, прыпомніш ты лета,
яркія красак у садзе маністы.
Пэўна прыпомніш ліпнёвыя ночкі,
зорак вузор, прыгажэйшы за сонца,
сонна прыціхлыя ліпкі, дубочкі,
цёмнае неба бяз краю, бясконца.
Ўспомніш, як ціха бывала ў пакоі,
ўсе ужо спалі, а ў вокны глядзела
мляўкая цемра, паўночча глухое.
Ўспомніш, аб чым ты тады лятуцела,
ўспомніш, як бралася плакаць парою,
ўспомніш, як сэрца чагосьці шукала,
ўспомніш, аб чым гэткай ночкай з сабою
толькі з сабоюаднэй гаварыла.
Ўспомніш, як глянеш на срэбныя краскі,
ўсе свае думкі, надзеі дзіўныя,
сумныя, быццам зімовыя казкі,

ясныя, быццам вясьнянкі лясныя.
Ўспомніш пра ўсё, што тады ты хацела,
ўсё, што ў жыцьці ты яшчэ не пазнала,
твары няясныя тых, што нясьмела
толькі у снох, у лятунках кахала...

Ў снох... а ня сьпіцца у сьветлыя ночы,
сон мой сягоньня так рана парваўся
бо цераз вокны мне ў самыя вочы
месяц прыгожы глядзеў і сьмяяўся.

1921

## ЛЮБЛЮ Я СОНЦА ЗАЛАТОЕ

Люблю я сонца залатое,
люблю прыгожаю вясной,
калі ўсё новае, сьвятое
сьмяецца радасна са мной.

Люблю нябёс вясьняных ласкі
цалункі цёплых ясных кос,
што песьцяць дрэвы без падказкі,
што грэюць лісьцейка бяроз.

Аджыў наш сад. Да сонца дрэвы
галінкі цягнуць, бы ў паўсьне.
Направа сіні сьцень, налева —
усё ўсьміхаецца вясьне!

Цьвіце чарэмха і чарэшня,
паненкай яблынка стаіць,
зь ёй ветрык песьціцца, і песьня
сьвятлу, вясьне ўвушшу зьвініць!

Вясна, вясна, дачка лятункаў,
нясі-ж сьвятло, нясі жыцьцё,
нясі атруту пацалункаў,
красуй, вясна,кахай усё!

Любі, тулі, сагрэй каханьнем,
жыцьцё зямлі, жыцьцё людзей!
Табе адкажа сад пяяньнем,
дый сэрцу будзе весялей.

Цалуй лясы, ідзі гуляці
ў палі, ў лясы пагодным днём.
Кахай, кахай зямліцу-маці,
палі яе, палі агнём!

1921

## КРАСАВІК

*Максіму Гарэцкаму*

Неба сіняе, сіняе, сіняе...
ані межаў у ім, ані дна.
На зямлі-ж прыгажуняй-княгіняю
пазірае мне ў вочы вясна.
Лазьнякі срэбным пухам акрыліся,
вецер пыл панад імі мяце,
тут — пралескі ў раўку затаіліся,
сірацінай фіялка цьвіце,
там — жаўцеюць вяночкі вясновыя
красак нейкіх нязнаных яшчэ,
там — ізноў, залатыя, лільлёвыя...
зь іх вясна дываны свае тчэ.
Як тут ціха, ні гулу, ні гоману,
пачынае нат сум засынаць,
ды душою жывою, нястомнаю
чую ўсё-ж я, што ўсюды вясна.
І нічога мне ўжо не жадаецца,
ні каханьня, ні сьветлых мінут,
у душы маёй штосьці зрываецца,
што няўзнак адцьвітае, а тут —
тут фіялкі цьвітуць цёмна-сінія,
сеюць водар салодкі вясны,
што брыдзе прыгажуняй-княгіняю,
рассыпае вясновыя сны.

Вільня, 1922

## СЫПЛЮЦЦА З КЛЁНАЎ ЛІСТЫ

Сыплюцца з клёнаў лісты,
сыплюцца ціха, маўкліва,
крыюць зямлю і кусты
пражаю жоўтай, шасьціվай.

Сыплецца саду краса,
кроплі дажджу, як раса,
зьзяюць сьцюдзёнай палівай.
Восень... дык дождж і ня дзіва...

Сыплюцца з клёнаў лісты,
сыплюцца ціха, маўкліва,
крыюць зямлю і кусты
пражаю жоўтай, шасьцівай.

Сэрца і б'ецца й баліць,
плача па небе й зямлі,
тонець у сумах, сумлівах.
Восень...
дык сум і ня дзіва...

Вільня, 1921

## ТОЛЬКІ ЎЧОРА

Толькі ўчора, здаецца, плылі ручаі
і вясьнянае сонца зямлю цалавала,
а сягоньня ўжо жутла жаўцеюць лісты,
а сягоньня ўжо восень бязмала.

Толькі ўчора, здаецца, пралескі цьвілі
і ў шаўкі прыбіраліся цішкам бярозы,
а сягоньня ўжо яблыкі з дрэваў зьнялі,
і па шкле плывуць восені сьлёзы.

Толькі ўчора, здаецца, над змрочнай ракой
салавей заліваўся,
мы-ж — дыхаць ня сьмелі,
а сягоньня ўжо поўніцца сэрца тугой,
быццам шчасьця й тады мы ня мелі...

Вільня, 1922

## У ЛЕСЕ

*Ф. К.*

Лес вітаў нас нячутнымі словамі,
нам сьмяялася неба празрыстае,
а над намі, ўгары над дуброваю,
хмаркі таялі лёгкія, чыстыя.
Па узгорках, па травах уквечаных
косы сонца нізкога туляліся,
уваўсох запыняліся нечага,
адплывалі, ізь ценем зьліваліся...
Штось шасьцеў лес... дубровай зялёнаю
слаў із ветрам нам шэляхі зводныя,
і здавалася дзіўна знаёмаю
мова іх, і чужая, і родная...

Вільня, 1921

## УВЕЧАРЫ

Смутак няясны зыйшоў на душу...
Кленчыць, маліцца?
Чаго я хачу?
Лёгкія хмары плывуць спакваля,
мглою чырвоны ўбіраючы шлях...
Гукі і гоман нясуцца здалёк,
быццам хто гора задзержаць ня ўзмог
і закрычэў, застагнаў на ўвесь сьвет...

Не, гэта места шуміць так... і сьлед
гукі глухія кладуць на душу.
Сонца заходзіць...
                                        Чаго я хачу?

Хочацца любасьці нечай да мукі,
хочацца сьціснуць халодныя рукі,
хочацца кінуць усё і пайсьці,
думкі разьвеяць мне хочацца...
                                                                ці
ўзяць і заплакаць, каб сьцішыць душу.
Цемра надходзіць... Чаго-ж я хачу?

Можа хачу я таго, што ўжо маю,
можа хачу недасяжнага раю?
Не, не зямных я хацела-б уцех,
радасьцяў дробных празь сьлёзы і сьмех...
Я... я-б раззорыць хацела душу.

Цемра надходзіць... Чаго я хачу?

1922

## ПЕРАД НОЧАЙ

Цямнее захад над палоскаю бору
далёка... далёка... Над самаю-ж скроняй
шапочуць галіны расьцьвілае ліпы,
што цьвет залаты долу сыпле і сыпле.
Успыхнулі першыя зоры ў прадоньні
над цёмнай, далёкай палоскаю бору.
І ноч агарнула сьвет сіняй тугою,
і сьціхлі ў тэй сіні апошнія гукі...
Ды думкам, хаценьням — няма супакою,
плывуць яны, думкі, як хвалі ракою,
аж хочацца выцягнуць, выкінуць рукі
у ноч, што накрыла сьвет сіняй тугою...

Вільня, 1922

*
* *

У небе палаюць чырвоныя хмары.
Як горкія мары, на нівы, папары
        кладуцца вячорныя сьцені.

Ад пахаў гарачых рака, бач, самлела,
нячутна, нясьмела сьвятло адляцела,
        сплёў месяц правідныя сеці.

Ноч сонныя дрэвы прывабіла ласкай,
таёмнай, нянаскай, нячутаю казкай
апошнія сьцішыла гукі.

Закінуў у далечы вецер жалейку,
шго хмару-зладзейку будзіла зьняцейку,
адкінуў і ў вецьці схаваўся.

Адна ноч над цёмнай зямлёй варажыла,
сны-чары насіла, гальлё варушыла,
і горка а дзіўна маўчала.

Ды хто-ж разгадаў яе сумы-трывогі —
гушчары, разлогі ці месяц двурогі?
Не, — кволае сэрца людзкое!

1922

## ШЭПТЫ НОЧЫ

Што сумна шэпчуць мне тыя ночы,
калі на краскі кладуцца росы,
губляе месяц між цемры косы,
як быццам срэбрам праліцца хоча...

Калі з душою душа гавора
аб вечных болях, аб вечных муках,
і пад цяжарам бязьмерным гора
губляе голас у ночных гуках,
калі здаецца, вось-вось уцяміш,
пазнаеш тайны жыцьця і Бога
і пойдзеш новаю дарогай;
калі ўжо золак далечы пляміць,
а сэрца плача і сьмерць прарочa...

Што сумна шэпчуць мне тыя ночы?

1922

## НА МАТЫЎ ХАЎТУРНАГА МАРШУ

Гукі ўрачыстага маршу хаўтурнага
ціха ў паветры імглістым плывуць.
Сэрцы ад сьвету няветлага, хмурнага
ў сьвет неспазнаны, таёмны вядуць.
Гукі трымцяць, наплываюць, зьліваюцца,
плачуць, растуць, ад зямлі адрываюцца.
Зь імі — і сэрца дрыжыць:
досі ўжо, досі ўжо жыць!

Што нам з жыцьця недарэчнага, сумнага,
зь лішняга дня, што, як рэшта, ня згас?
Ляж, адпачні, дзіцянё неразумнае,
з доляй змагацца нямоц і нячас.
Гукі хаўтурнага маршу зь ёй, доляю,
добрай, благою — ня хочуць гуляць.
Чуеш? Ціхой заліваюць патоляю
сэрца, і восень, і жальбы гальля...
Досі ўсьцяж шчасьця шукаць па аселіцах,
шчасьце-ж людзкое, як казкі, — мана.
Ледзьве, бадзяжнае, недзе аселіцца, —
нехта парупіцца ўраз адагнаць...
Досі-ж... А гукі трымцяць, разьліваюцца,
плачуць, растуць, ад зямлі адрываюцца...
Зь імі і восень дрыжыць:
досі ўжо, досі ўжо жыць...
Што ў тэй нязнанай краіне за хмарамі
можа сыноў чалавечых зьлякаць?
Мала іх пошасьці, войны з пажарамі
білі, аж сьлёзы плылі, як рака?
Там-жа — ні сьлёзаў няма, ні гарачага
болю, калі — няма як памагчы.
Там, як калісьці, гадамі дзіцячымі,
возьмуцца сны нашы душы лячыць.
Чуеш... як пошчакі маршу хаўтурнага
ціха ў паветры імглістым плывуць?
Сэрцы ад сьвету няветлага, хмурнага
недзе ў нязнаную далеч вядуць?
Гукі трымцяць, наплываюць, зьліваюцца,
плачуць, растуць, ад зямлі адрываюцца...
Зь імі і сэрца дрыжыць:
досі ўжо, досі ўжо жыць!

1921

## НЕДАСЯЖНАЕ

Мая душа ад скраю і да дна
наліта сьветлай нейкай сілай.
Мне ўсё здаецца ясным, мілым:
і неба сіняе, і хвалі тумана,
і ніў далячыня, і залатыя клёны,
і хвояў баравых убор чорназялёны.
Здаецца,
шчасьце дзесь каля мяне, так блізка,
здаецца, я магу узяць яго рукой.
Ды не сягну... Вось так, як над ракой
сьхінаюцца гальлём вярбіны нізка, нізка,
а ўсё ня здолеюць напіцца тэй вады,
што надзіць іх і дні, і тыдні, і гады.

1921

## НЯЎЖО

Недаверліва ноч надыходзіць,
нешта слухае... Дых пераводзіць...
Цішыня... цішыня... цішыня...
Ў сінім сьцені схаваліся вулкі,
гоман места, далёкі а гулкі,
зьнік з апошнімі косамі дня.
Ў небе зоры сьмяюцца празь сьлёзы
і, хоць ліпы дрыжаць ад марозу,
а сьмяюцца чагось і яны.
Дык няўжо-ж нас жыцьцё так стаміла,
што ня знойдзем хаценьня ці сілы
усьміхнуцца празь сьлёзы і мы?

Вільня, 1922

## МЭТА ЖЫЦЬЦЯ

Мэта жыцьця,
кажуць людзі бязь сілы,
мэта жыцьця — дачакацца магілы.
Як пражывеш ты, сумленна, ці не,
ці ня ўсёроўна, — бо сьмерць ня міне.
Мэта жыцьця,
кажуць поўныя сілы,
з доляй змагацца да самай магілы,
веры ня траціць і страху ня мець,
сьмела, байцамі памерці, згарэць.
Мэта жыцьця, яшчэ кажуць,
ня йрвацца
ў неба, а толькі зямлі прыглядацца.
Зьведаць грахі ўсе, ўсяго спрабаваць,
каб ня так горка было паміраць.
Мэта жыцьця, ўрэшце кажуць,
хавацца
з сэрцам ад смуткаў, зь сьлязіма ня знацца.
Думкі аб праўдзе? Дурное — і ўсё!
Мэта жыцьця — захаваць жыцьцё!

Слонім, 1922

## ЖЫЦЬЦЁ

Клічуць вечарам зоры ў сусьвету прасторы...
Поўны нейкае зморы, ці прыгноблены, хворы —
ня ідзе чалавек...

Ночкай месяц варожа так прынадна, прыгожа...
Гэй, паслухаеш можа, кінеш жыцьце, нябожа?
Не, ня йдзе чалавек...

Не, ня йдзе, хоць паволі сэрцам рвецца да волі,
штодня нудзіцца болей — і жыве мімаволі,
несьвядома амаль,

хоць да самага раньня лёс ягоны — змаганьне,
сумаваньне па шчасьці ці па долю сяганьне,
неакрэсьлены жаль...

1923

## ШЧАСЬЦЕ

Шчасьце — як сонца: маленькая хмарка
пройдзе па небе ціхім сярод дня, —
сонца ўжо сьвеціць так жутла, няярка,
момант — і сонца няма.

Шчасьце — як вішняў вясьняныя краскі:
вецер павее, заплача вясна, —
сыплюцца сьнегам на дол яны гразкі,
момант — і красак няма.

Шчасьце — як сьветлыя, ясныя мары:
рэзкае слова, заўвага адна, —
і дагараюць яны у пажары,
момант — і мараў няма.

Слонім, 1923

## КАЛЫХАНКА

Ноч рассыпала зораў агні,
ў сінім небе яны патанулі.
Вее сон над прасторам зямлі.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

З гэтых зорных чырвоных агнёў
я сспляту прамяністы вяночак.
Над галоўкай павешу тваёй,
люлі-ж, люлі, засьні, мой сыночак.

Будуць зоры маленькаму зьзяць,
будуць сьветлыя сны пасылаць.

Ціша ўсюды і сонны спакой...
Вербы гнуткае веццье сьхінулі
над сьцюдзёнаю, зьмерзлай ракой.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Я падслухаю шэпты вярбін,
я падслухаю шэляхі ночкі
і ў напеў пазьбіраю адзін.
Люлі-ж, люлі, засьні, мой сыночак.

Будуць вербы шасьцець, шапатаць,
Будуць снамі цябе асыпаць.

Як-бы плачучы, ў кропельках сьлёз
прыгажуні-бярозы паснулі.
Гэта ў пэрлы прыбраў іх мароз.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Тыя пэрлы-сьлязінкі зьбяру,
наніжу зь іх пацёркаў шнурочак
і на шыйку завешу тваю.
Люлі-ж, люлі, засьні мой сыночак.

Будзе зь імі малы засынаць,
ручкай пацеркі-сьлёзы кранаць.

Ноч рассыпала зораў агні,
ў сінім небе яны патанулі...
Сьпіць усё, й ты, маленькі, засьні.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Слонім, 1924

## СЬНЕГ ПАДАЎ

Сьнег падаў зь неба іскрынкамі зор...
Ён крыў зямлю карунак дыванамі.
Ледзь вецер шапацеў між голымі клянамі
і зноў ляцеў туды, дзе сьніў прастор,

ды пасам зубчастым сінеўся бор
над анямелымі даўно палямі,
што скутыя ляжалі маразамі,
адпачываючы ад летніх змор.

Адпачывала ўсё — і лес, і поле,
і неба глыбіня... Ды ня людзкая доля.
Людзкая доля бо — усьцяж цярпець,

шукаць чагось зь няўтомнаю тугою,
глядзець на крыўды, зло...
і лятуцець
аб соладзі нязнанай супакою.

Слонім, 1924

## РАЗЬВІТАНЬНЕ

Тонкай мглой абвязаліся сінія далі,
сінія-сінія далі на ўзьмежжы нябёс.
Па жытох расплыліся вятраныя хвалі,
ветру плаўныя хвалі, што вечар прынёс...

І паволі, паволі чырвоным пажарам,
занялося чырвоным пажарам усё:
І жыта, і кляноў верхавіны, і хмары,
й нат будзённае, шэрае ў шэрым, жыцьцё.

Дзень канаў зь недаверлівай, кволай усьмешкай,
з прыкрай, горкай усьмешкаю хворых людзёў,
і зьвінелі яму разьвітаньне узьмежкам
зелянкавыя конікі — дзеці палёў.

Разьвітаньне з жыцьцём, разьвітаньне навекі,
разьвітаньне навекі з жыцьцёвай маной,
калі чорная ноч моцна сьцісьне павекі,
моцна сьцісьне павекі над сьцерплай зямлёй...

Хэлмна, 1924

## РОДНЫ КРАЙ

Сонца заходзіць... На вежах кляшторных
скрозь загараюцца тысячы зорных
зырка-чырвоных агнёў...
Хараша... Сэрца-ж міжвольна імкнецца
ў край, што яшчэ харашэйшым здаецца,
родны, найлепшы з краёў.
Там... Там усё быццам так, а іначай
хваляй у сэрца ліецца гарачай,
там... Там усё мне мілей:
Сіняе, сіняе неба бясконца,
шчыра вясёлае, яснае сонца,
далеч бязьмежных палей.
Там, там у гожыя, цёплыя ранкі
песьняю срэбнай вітаюць жаўранкі
першыя праблі скі дня,
песьняю будзяць ціхія лагчыны,
дзе яшчэ пасмам густым, цёмна-сінім
сонна калышацца ймгла.

Сонца расу там усьмешкаю сушыць,
вецер там краскі калыша, варушыць,
хваляй плыве па лугох,
хвоек зялёных шумяць верхавіны,
ў жаху адвечным трапечуць асіны
ў змрочных, гушчарных барох.
Вёсны там... Пешчы нясьмелыя сонца
будзяць жыцьцё пакрысе у старонцы,
робіцца неба сіней,
вецер крыніцай пад небам плюскоча,
нешта зямлі веснавое шапоча,
звоніць, пяе ў лагчыне.
Леты там... Хвалі па жыце лунаюць,
колер зялёны на срэбны мяняюць,
срэбны на сіні, сівы...
Сьцежкай вузкой у жытох заблудзіцца —
золатам можна накрыцца, заліцца:
жыта — вышэй галавы.
Восень там... Постаці жоўтых бярозаў,
ліст, парудзелы ад першых марозаў,
скрозь пад нагамі шуміць,
плавае зь лёгкаю хваляю ветру,
срэбрам блішчыць у празрыстым паветры
ніць, павучынная ніць...
Зімы там... Песьні дзікія завеі,
ночы глухія, у небе лялеі —
краскі сьцюдзёныя зор,
бор, што прыбраны у сьнежныя шаты
высіцца пышны, магутны, багаты,
топчачы сьценяў вузор...
Вёскі там... Мох, саламяныя стрэхі,
чырвань рабін у садку для пацехі,
студня з даўгім жураўлём,
куст недацьвілай, апалай паўрожы,
крыж учарнелы ў канцы раздарожжы,
дах ад дажджу над крыжом.
Вечарам травенскім тут, на растані,
людзі пяюць, адмаўляюць літаньні,
кленчаць на цёплай зямлі...
Кленчаць, а сонца за вёскай зьнікае,
ніткай густой, залатой падтыкае
крыж, і людзей, і палі...
Верай магутнаю, сьветлаю сілаю
вее над гэтай грамадкай пахілаю,
надзіць прыгожасьцяй май...
Навет адзін абразок гэткі ў полі —
й сэрца цябе не забудзе ніколі,
родны мой край!

Хэлмна, 1924

## ВЯЧОРНЫ АБРАЗОК

Зьмярканьне...
Зь яснага блакіту
зьнікаюць хварбы, бліскі дня,
і чыстым золатам заліта
ціхіх палёў далячыня.

Істужкай сьцежка ўецца ў жыце,
зьбягае ўніз, паўзе вышэй,
паўз ручаёў сталёвых ніці
бяжыць кудысь далей, далей...

На ўзгорку млын-вятрак ляніва
крыламі часам узмахне,
і статак галубоў пужлівых
спад даху ў неба-выш памкне...

Лятуць, купаюцца ў паветры,
зьнікаюць, круцяцца узноў, —
лісты, што ўвосень носяць ветры,
а захад іх хварбуе ў кроў.

Хэлмна, 1924

## ВЯЧОРНАЮ ПАРОЮ

Вечар неба хварбуе ў гарачыя тоны,
чыстым золатам густа залоціць рабіны,
— і здаецца паветра густым і зялёным,
бы вада у вазёрах, зялёных ад ціны.

Гаснуць косы на вежах гатыцкіх касьцёлаў,
запаляючы шыбы дзіўнымі агнямі.
Зоры —
вочы малых засмучоных анёлаў —
мігацяць у хмурынах, парваных над намі.

Час таёмны, ня ноч, ані дзень, калі сьцені,
сьцені ночы зьліваюцца з косамі сонца,
калі хочацца раптам устаць на калені
і стаяць так, бяз руху, маўкліва, бясконца...

Ў гэты час аджывае у думках старое,
ўспамінаюцца даўныя сэрца хваробы...
І так лёгка душою — вячорнай парою —
зразумець сьвету сумы, сумлевы й жалобы!

Хэлмна, 1924

## ПЫТАНЬНЕ

Даль, нябёсаў туманная даль
тае, гасьне над ліпаў калёнамі,
што усталі суцэньмі зялёнымі
паміж доляй ды мною, нажаль,
і зьвіняць пад дажджом, як крышталь.

Цішыня... цішыня над старонкаю.
Ў срэбнай золкасьці травы дрыжаць.
Нат жаўронак із песьняю звонкаю
ў гэткі дзень не ўзьляціць, сенажаць
срэбрам гукаў зь нябёс благаслаўляць,
ані з зоркай рамонкавай тонкаю
летні вецер ня прыйдзе гуляць...

Божа! Дні мае, хіба што шчасныя,
ціха сходзяць, сплываюць удаль,
па сабе пакідаючы жаль,
па мінулым — тугу перадчасную,
што зьвініць, быццам кропляў крышталь.

І пытаюся з болем міжвольным я:
што-ж ты робіш з душою, з сабой,
як праходзіш жыцьця пуцінай,
што ты робіш із воляю вольнаю?
Бо мінуць — і ня вернеш, нажаль.

Хэлмна, 1924

## УНАЧЫ

Ноч спакоем чаравала,
сьцені ціхія сплятала
у бярозах, апавітых
срэбнай, сьнежнаю імглой.

Зьнекуль думак, сноў забытых,
ім, штодзёньнем, скутых, зьбітых,
нечаканы выплыў рой...

Аджылі ўспаміны, здані
дзён калішніх, сны, жаданьні,
неба весьняга павець...

Захацелася уночы
ў змрок зімовы не глядзець,
а, спусьціўшы твар і вочы,
ня любіць і не цярпець.

1924

## НА СЕНАЖАЦІ

Косы зьвіняць... Сьпеўна ўзносяцца зыкі,
поўняць жыцьцём жаўтацьвет-сенажаць,
майстры дзіўныя зь нязнаных музыкаў,
косы зьвіняць...
Кмену пах цягне па мокрых пракосах,
водарыць сенам у пухкіх капах,
дыхае поле у сонцавых косах,
кмену йдзе пах...
Песьню жанкі запялялі нясьмела,
і — зазьвінела уся сенажаць,
з гукамі — ў далеч, здаецца-б, ляцела...
Косы зьвіняць...

Доры, 1925

## УЛЕТКУ

Смугой зямчужнай хмары абвязалі
нябёсы, сонца пуць.
Па залатых жытох за хваляй срэбра хвалі
плывуць, плывуць, плывуць...
Які прастор вакол! Бязь берагу, бяз краю
калышацца жыта,
ў ружовым полымі вятраны дзень згарае, —
як цёпла... Любата!
Шматхварбным дыванам, красой-вясной сатканым,
кладзецца сенажаць,
дзе ўдзень, і на зары, і ўвечары, і зрана
скрозь жаўранкі зьвіняць.
І заклік іх званкі, і ветру уздыханьне,
што баразьніць палі, —
імкнуць у вышыню за ўсіх, за ўсё, за сяньня
маліць, маліць, маліць...

Доры, 1925

## УВЕЧАРЫ

Не ўцячы ад тугі. (Залацістыя сеці
ясны вечар накінуў на нівы й лугі).
Затрымаліся, ўвышу ня хочуць ляцеці
мае думкі крылатыя, дзеці тугі.

Жаль чагосьці, чаго? (Сіняватыя сьцені
праз дарогу ляглі, і сьцямнела ў лагох).
Абудзіліся казкі душы — лятуценьні,
штось шапочуць, і надзяць, і плачуць, чаго?

Нешта ў сэрцы расьце... (Панад срэбрам аблокаў
моўчкі ўзьняў маладзік свой заплаканы твар).
Яшчэ момант... і рыне паводкай шырокай
мая песьня — натхненьне, жыцьця майго чар!

Хэлмна, 1925

## ВАСІЛЬКІ

У житох расьцьвілі, расьцьвілі васількі...
На прасторах шырокіх, ня нашых палёў,
між маўклівых, зялёных яшчэ каласоў,
на чужацкай зямлі расьцьвілі.

Расьцьвілі, па узгорках пяшчаных бягуць...
А ўнізе, пад гарой зелянеюць кляны,
асыпаюцца яблыны — сьлёзы вясны —
і цьвітуць васількі і ў лагу.

Краскі любыя, памяткі іншых палос,
белых дзічак на межах, сьцяжынак-шляхоў,
краскі — памяткі песьні званкіх жаўрукоў
пад паветкаю сініх нябёс...

Там, у родных палёх, вы ня гэтак цьвілі,
гэткі сум ня імгліўся у вашых вачох,
гэтак хутка ваш стан ня хінуўся, ня сох,
краскі роднай, далёкай зямлі!

Хэлмна, 1925

## НОЧ

Загасьлі апошнія косы
кароткай маёвай зары.
І чыстыя зоры, як росы,
як сьлёзы, зазьзялі ўгары.
Растаялі лёгкія хмары
і сталася неба — бяз дна.
Спавіўшы імглою абшары,
там ноч панавала адна.
Акрыўшыся хусткай туманаў,
ступіла яна на зямлю,
над сьветам, паснулым да рана
раськінула ўладу сваю:
спляла сіняватыя сьцені
між цёмных кляновых камлёў,
і месяца косы-праменьні
сыпнула у цемру палёў.
Збудзіла зноў ночныя змовы,
шэпт-шэлях густое травы,
ўзьняла з жабім хорам размовы,
заплакала ў плачы савы.
Да сэрца людзкога паволі
вужакай сьлізкой падпаўзла,
старыя, забытыя болі
з прадоньня узноў узьняла.
Збудзіла ў вадных, няіначай,
як важкай крануўшы рукой,
найгоршае пекла распачы,
а ў іншых — дзіўны супакой.

Хэлмна, 1925



Натальля Арсеньнева ў 1935 годзе.

## ЗАЧАРАВАНЫ КУТ

Ой вы, казкі, казкі-чары!
Із надзённасьцяй зударыць
вас — і трэскі палятуць!
Каб ня вы, ці мала ўбогіх,
нехлямяг, у паўдарогі
пазрывалі-б каліту,
завярнулі, недапялі,
патапіліся-б у жалі,
зьвягай сьцятыя, зьляглі?
А пад вашаю атрутай
хоць навомірг сьцінеш путы,
ўбачыш казку й на зямлі!

Дрэмле багна... На балота
ўжо кладзецца пазалота,
зырка чыркае ваду, —
месяц гэта ўзьняў павекі,
на бары зірнуў, на рэкі,
на дуброваў чараду.
Там, дзе згрудзіліся ў змроку
вербалоз, трысьцё, асокі,
качкі б'юцца на начлег,
млын ляжыць, як воз паловы,
і вачмі сьляпымі ловіць
тую зорку, што сьпялей.
Млын — ня млын... Страхі — нізваньня,
вятругі зьмялі, ня сяньня,
учарнеў, прыгнуўся зруб,
і даўно здубела кола,
ўжо ня сноўдае наўкола,
каб надраць на кашу круп.
Ды ня сьпяць у сенцах сьцені:
ўночы ў поўню хтосьці пеніць
пену ў заставе сухім,
нехта іскры ў цемры крэсіць
і рагоча ў цёмным лесе
насыпаючы мяхі...
Ды ня годзе, на заходзе
ўлетку, ў лётным карагодзе
ймкнуць туды русалкі — піць,
а напіўшыся удосыць,
чэшуць хмель зялёны косаў,
аж, як шоўк той, зарыпіць...
Ноч насоўваецца з бору,
жабы рыпу ўтораць хорам,
гойстра тхне багіньне, тхля...
І тады вось тамка зводы,
здані, страхі спад калодаў
выпаўзаюць спакваля!
Кажаны шатыраць вушы:

ці ня рой шуміць дзе мушы,
крылаў стрымляваюць гон,
совы вухкаюць панура
зь вершалінаў дрэваў бурых
на загубу, на праклён...
Там, а поўначы бяззорнай
вадзянік вылазіць чорны,
бруха мокрае скрабе
і рукой сьлізкой, зялёнай
вее жвір на хлеб надзённы
вадзянісе і сабе.
Там... сам сьлівень, у кароне
залатой на сьлізкай скроні,
з багны, скрут у скрут, паўзе,
спорнік зьмеем прамяністым
зносіць грошы да маністы,
знае сховы, балазе.
Там лясун ідзе у скокі
зь лесавіцай крутабокай,
векавечны маладзён!
Маладзік там ведзьмы сочаць,
зельле йрвуць па роснай ночы,
чорны, злы, атрутны плён...
Ды, калі пявун гарласты
прапяе у вёсцы, — шастаць
у бары сьціхае ўсё.
Ціха зноў... І толькі зоры
гладзь балотную сузорaць
ды калышыцца трысьцё...

## ЛЯСУН

Гулка грымелі ў бары тапары,
гул ня ўсьціхаў ад зары да зары.
Падалі зь енкам пакутным сасонкі,
стан выгінаючы тонкі і гонкі.
Дзесьці ў гушчары на днішчы лагчыны
ў жаху няўсьцішным дрыжэлі асіны,
сьмягнуў маліньнік на лядах, і сох
шэры, карчамі развораны мох...

Плакаў чарот, па бары, над балотам,
грагаў крумкач-гарладзёр пералётам,
шэрыя совы начы не чакалі,
вухкалі скрозь, што ім бор высякалі.
А у гушчары, прысеўшы на пнішча,
плакаў сутоньнямі дзед-лясунішча.
Плакаў стары, абціраючы вочы,
сьлёзы буйныя сплывалі равочкам,
з твару ў кары й лішаёх сіваватых,
зьзялі расою на вусах калматых.

Плакаў лясун, што лясы высякалі,
роў, ажно рэха гуло панад галяй
бору, віхурай валосьсе сівыя
ўзьняўшы, за хвоі чапляў баравыя,
блытаў-ірваў у вяршалінаў гольлі,
зоры зьмятаючы зь небнае столі.

У доўгай кашулі, русалкамі тканай
з лыкаў лазовых і сьцёблаў трысьцяных,
падперазаны паўзкой дзеразою,
хвояй тхнучы ды грыбамі з вузою,
тупаў лясун, уздыхаючы глуха,
раз – занямелы, слабы ад сукрухі,
раз – равучы, як той тур крутарогі,
топча урочышчы ў злосьці й разлогі.
Гуд ідзе борам... Пужлівыя совы
ў дуплях сьляпыя хаваюць галовы,
моўчкі зайцы касавурацца ў страху,
хмарай зрываюцца чорнаю птахі...
Людзі, пачуўшы зьнячэўку грымоты
зь яснага неба, жагнаюцца ўпотай,
пацеры шэпчуць,
а сіверкі вечар
першае жоўтае лісьце камечыць,
круціць віры зь яго, кружыць, калыша
ў жухлай, нямой, насьцярожанай цішы,
чуйна двары углядаюцца ў змрок,
спаць і ня слухаць складаюць зарок...

1921

## ВЯСЕЛЬЛЕ

Ці ня вецер над грэбляй галосіць?
Не вярбіны йрвуць з плачам валосьсе?
Не, спраўляе вясельле ля млыну
вадзянік, бярэ з рэчкі дзяўчыну.

Ледзь брыла маладая, схудзелым,
белым тварам у цемру глядзела,
вусны сінія шчытна сьціскала,
пальцы ломячы, нешта гукала...
Пышны йшоў малады, пасьміхаўся,
да свае маладой пахінаўся,
сам вялікі, нясkладны, цыбаты,
з барадою зялёнай, калматай...
Не сваты маладых запівалі,
як спрадвеку дзяды наказалі, –
заручылі бяда іх і гора,
не запуснай нядзеляй, а ўчора.

Не баяркі сяброўку ўбіралі,
расплятаілі касу русу кралі, —
расплятаілі касу рыбкі-плоткі,
павыймаўшы шаўковыя ўплёткі.
Не браты тыя ўплёты хавалі, —
акунькі іх па дне расьцягалі.
Не радня маладую дарыла, —
хвалі ў вочы сыпнулі ёй жвірам.
Не ў царкве маладых павянчалі, —
на дне віру вянцы ім трымалі,
не баяры у жычках ды ў ботах,
а гнілыя карчы над балотам.
Не маліліся поп ды зь дзякамі, —
здані-вербы шасьцелі сукамі,
на налоі ня сьвечкі гарэлі,
а трухля балацяная з прэляй.
Ня гулі ім дуда ні цымбалы, —
вятругі голым вецьцем шургалі,
ня йшлі ў скокі з хлапцамі дзяўчаты, —
вадзянік адзін тупаў калматы.
Ой-жа—ж тупаў, дзікі, рагатлівы,
абыймаўся з сваёй чарнабрывай!
А яна... А яна галасіла,
каравай свой сьлязіма расіла:
— "Зашумі лес, зялёна дуброва,
уздымецеся, ветры буйныя,
залятайце да роднага таткі,
залятайце да роднай матулі.
Уставай, уставай, татка родны,
ды вынось абраз, родная маці,
баслаўляйце дачушку вясельле,
ой, дзіўное вясельле гуляці!
Ня шуміць лес, зялёна дуброўка,
ня ўздымаюцца буйныя ветры,
не ўстаюць, не, ня йдуць татка з мамкай
баслаўляці дачку на вясельле.
Ой, сасонка мая баравая,
ой, галоўка мая палавая!
Была маткай мне ночка глухая,
родным таткам быў сплаканы ветах,
выпраўлялі мяне браты-ветры,
галасілі па мне сёстры-зоры.
Ой, і моцна-ж званы там нам гралі,
ой, і зырка-ж нам сьвечкі міргалі,
ой, прыгожа-ж папы нам сьпявалі,
калі хвалі мяне спавівалі,
толькі-ж я, ой, матуля, матуля,
ні званоў тых ня чула, ні гуляў"...

Ці ня вецер над грэбляй галосіць?
Не лаза йрве із плачам валосьсе?
Не, спраўляе вясельле ля млыну

вадзянік, бярэ з рэчкі дзяўчыну.
Вераб'іная-ж ноч над вадою
яер тузае, ледзьве устоіць,
разьлівае шчарнелае срэбра
хваль па кола струхлелага рэбрах,
ды яно у пяшчаных сувоях
супачыла, даўно няжывое...

## ПЕСЬНІ

Як бяз сонца не пражыць нам,
без начы для дня ня ўскрэснуць,
так ня ўкорміць хлеб нас жытні,
да яго ня даўшы песьні.
Зь песьняй жыць лягчэй на сьвеце
нат галоднаму зь бязрадным·
і ў хаўтурнай — сонца сьвеціць,
і ў прыгоннай — плешча радасьць...

Кажуць людзі, што сівою
даўніной сьпяваць ня ўмелі.
Скрозь бязь песьні лог травою,
а палі — брынялі сьпеляй,
і, лён сьцелячы увосень,
ці жнучы жытцо сьпякотай,
ці рашчэсваючы косы,
не сьпявалі, нат употай.
Ня было ў сяле дзяўчыны,
каб ды слала ў неба голас,
ды было яно ня сінім,
як ня срэбным быў і колас.
Штось ня спорылася сошцы,
штось ня спорылася й кроснам.
Былі леты — сьпёка, мошка...
Былі зімы — сівер посны...
Ды сьпявалі птушкі ў лесе,
як сягоньня: берасьцянкі,
і шчыглы, і дрозд пярэсты
й салаўі, на зьмерку й ранкам...
Дзесь тады, на аднасельлі,
нарадзіла сына маці.
Сёмы... Выкупала ў зельлі,
узялася спавіваці,
а дзіця ня сьпіць, а просіць,
"Ты мне лапці дай, ня полкі.
Як пачопкі загалосяць,
коле жаль мяне, бы голкі,
дый сысолкі мне ня трэба,
ці-ж яе насьсешся ўволю?
Дай мне лепш акрайчык хлеба,
да яго драбочак солі."

Падзівіліся у хаце,
бабка тройчы крыж паклала,
а што зробіш? Лат па лаце,
ды надзелі неяк малеч.
Лапці ўзяўшы за аборы,
падкасаўшы подал, босы,
сысунок пабег да бору,
сінявокі і бялёсы...
А ў бары сукрысты чырвень
сыпаў скрозь цяплінь і сонца.
Зелянеў на сьцежцы пырнік,
зелянела ймхоў суконца,
і з галінных перасмыкаў,
з круглых дупляў, спад карэньня,
баравое — у сто зыкаў —
залівалася стварэньне.
Стаў малеча... Аж жахнуўся:
ўсё гудзе, зьвініць, сьпявае...
А тады — і сам, як гусьлі
зазьвінеў... Наўзьдзіў параіў!
Паплылі ў гушчары гукі,
паляцела ў сіню песьня...
Задрыжэў, узьняўшы рукі,
бор, каб чар тэй песьні стрэсьці.
Ўраз загралі сьпеўна хвоі,
ўзьняў бярэзьнік пералівы,
дубу бас пакрыў, падвоіў
гэты сьпеў... Няўзнак, жальліва,
зьнеткуль з багны ўліўся мокрай
альт асін... Хвошч шаснуў долам, —
ды часьцей, званчэй устокраць
матчын сын выводзіў голас!
Не падолеў бор, паддаўся,
кінуў весьці, толькі ўторыў...
Гэтак дзіў найбольшы стаўся —
нарадзіўся лек на гора.

І пайшоў адсюль па сьвеце,
звык — шукаць у песьнях рады,
скрозь бо зь песьняй — сонца сьвеціць,
скрозь бо зь ёй — іскрыцца радасьць.
Бо бязь песьні ўжо ня жыць нам,
не лавіць нам вецер весьні,
не пад'есьці лустай жытняй,
да яе ня даўшы песьні.

## БАЛОТНІЦА

Хто там так плача, хто там галосіць,
помачы ў поўначы чорнай ня ўпросіць?
Сыплюць тужлівае рэха лагчынай
сіні сасоньнік, рудая ляшчына,
рэжучы ў сэрцы барозны зыркія.
Пошчаку ўтроп — вусьціш цягнецца зь кіем.
Стане за кустам, прыложыць да вуха
зь кіпцямі пальцы... Пашэпча штось глуха
й зноўку брыдзе,..
А той, нехта, галосіць,
нешта нясьцішна у поўначы просіць...

Высака плавае месяц халодны.
Поўня...
ў балоце за полем бясплодным
сіта чаротаў ледзь цэдзіць густое
срэбра вады. Там, у цёмным настоі,
мые лазьняк каўтуністыя косы,
сьцелюць туманы палотны ускосам,
рукі выцягваюць з хвалі, аж чорнай,
зморы — карчы, плесьню шэрую горнуць...
Вусьцішна, глуха ўначы над балотам:
шоргаюць целаў тычыньнем чароты,
шастаюць суха трысьціны над тоняй,
сочачы зьнічкі у небных сутонях.
Часам, апоўначы як засынае
ўсё, і нат зоры ў багне патанаюць,
з твані балотніца ціха выходзіць...
Выйдзе, устане й на чорнай калодзе
кідае, сее пялёсткі лялеі,
сее й варожыць, варожыць і сее...
Вочы балотніцы сьвецяцца трухляй
жутла-зялёнай, засьвецяцца — й зжухнуць,
косы — агню зелянкавага хваля,
цішкам даткнешся — і пальцы апаляць,
ноч ані сівер іх зьзянь не астудзіць
белае цела, сьцюдзёныя грудзі.
Кіне іх ветру на пешчы, на гулі,
жабія ногі ў багіньні затуліць, —
плача балотніца, плача-галосіць,
помачы ў змрочнае поўначы просіць.
Толькі-ж ня можна ёй дацца, даць веры:
знадзіць, урокшы, на ўлоньне — у нерат,
косамі спутае, шыю ахопіць,
гледзячы ў вочы, задушыць, утопіць.
Будзе тапіць пакрысе, цаль па цалі —
ўзьніме, занурыць, узьніме — і ў хвалі!
Будзе тапіць і сьмяяцца ці плакаць,
можа з уцехі, а мо зь пералякаў:

"Ой, бяда мая, бяда горкая
ўсьцяж ня збудзецца, сэрцам торкае.
На нядолю маю, на няшчасьцейка,
загубілі мяне вочы, ластаўку,
загубілі, зь бядою сасваталі
бровы цёмныя ды крылатыя.
Зь імі соладзі не найрвала я,
загубіла адно душу шчырую.
Дзе-ж спачну цяпер, нястрывалая,
ой, нямашака мне нідзе выраю!
Мела любага... Зь ім хадзілі мы
ў сутань сьцежкамі неастылымі.
Ой, любіла яго я, ой, песьціла,
а ён... зьнік, не сказаўшыся, дзесьцейка...
кон дзявоцкі мой, бяда горкая
ўсьцяж ня збудзецца, сэрцам торкае!
Не магла я жыць, не адна-ж была,
хай адна, адна насупроць сяла:
не дзяды, нат малеча ўсьміхалася,
як я вулкай ішла, калыхалася,
як у сьпёку пад сьвіткай ваўнянаю
я хавала ад іх несхаванае...
Аж дадзела мне доля бяз сонейка,
ночкай рынула я у прадоньнейка.
Цяжка, важка мне на жвірастым дне,
ня суцішыў скон сэрца горкага,
тужыць, сьніць усьцяж неба з зоркамі.
Падыйдзі-ж сюды, я сама ў багне,
прытулі, сагрэй, абдымі мяне!
Цалаваць цябе буду, сокала,
ажно дзень закрасуе навокала!"

Плача балотніца, плача, галосіць,
гора таму, каго грэшная ўпросіць:
п'яўкам ды чорным раком ля спажывы
зьгіне навечна ў чаротах шасьцівых...

Хтось мо паплача, прыстоіць ля весьніц,
гляне у далеч, ухопіцца песьні...
Можа нат прыйдзе удзень пад балота,
мо перагорне чаротаў уплёты,
стане, загляне сюдою, тудою,
нізка прыгнецца над цёмнай вадою...
Ды, дзень па дні,
— і забудзецца згубы.
Што-ж, як адзін дзесь і згубіцца любы?

ЖАЎРУК

Ці ты любіш вецер?
Дык паслухай мовы
ветру ў мокрым гольлі хвояў маладых,
і зь мядзяным роем зыкаў — казку зловіш,
ня спыніўшы навет мернае хады.
Казку пра нядолю, дзеўку вадзяную,
пра ваду жывую, ведзьму ды ваўка...
Зь іх — мацней у жмені затуліў адну я:
пра драбок маленькі, шэры —
жаўрука.
Дзесь,калісь — плёў вецер — жыў хлапец пры маці.
Моцны, шэравокі, валасы ў струкох,
ня гультай ні ў полі, ні ў бары, ні ў хаце,
што сьпяваць надзіва гожа, звонка мог.
Ледзь разьмесіць сонца цемру й дзень павесіць, —
ён ідзе ўжо з сошкай, рэжа глей, пяе.
Рэжа, й як зьмярканьне выплыве над лесам,
і яшчэ тэй песьні ўсё не дапяе.
Нат калі прыгоніць ён парою коні
на зялёны поплаў, сядзе над вадой, —
і тады сьпявае, толькі, каб сутоні
соннай ня трывожыць, ціха, сам з сабой.
Часта зь сіні чорнай, мо каб дзень паскорыць,
абрываў хтось зоры, кідаў далавы,
і ляцеў за зьнічкай кажнай сьлед разорай,
і згараў, крануўшы мокрае травы.
Як аўсы зжыналі і даўжэлі ночы,
зьнічак тых бывала часам, як пяску.
Дык ня спаў хлапчына, думаў — сьлед прасочыць,
аж, дзіўному, золак падаваў руку.
Пачалі зьбірацца бацяны ў лагчынах,
верасы красою ўзьлесьсі залілі...
Давялося хлопцу змрочнаю часінай
аднаму вяртацца ў вёску праз палі.
Йшоў... Сьпяваў... Ня сьніцца-ж!
Зорка—заранiца
ўспыхнула, шугнула і зьляцела ўніз,
адно зьзянь у вочы цісьнецца сьляпіцай
ды ў нябёсах ніткай срэбнай сьлед павіс.
Стаў пяюн абцерці сьлёзы, ажно вечар
пасьвятлеў, як быццам золак беліць сьвет,
штось гарыць узьмежкам, грэе ў твар і ў плечы,
не гарыць... а чэзьне... гасьне у траве —
і ўстае дзяўчына перад ім, з зыркою
залатой усьмешкай, залатой касой,
залатыя вочы радасьці ня ўтояць,
залатыя пальцы торгаюць крысо...
"Хто ты?" — "А дзяўчына зь пералётаў сініх.
Вось пачула песьню, на яе й зыйшла.

Засьпявай якую, звонкую (я ў стынях
угары прастыла) прыпеўку зь сяла"...
А сама гамоніць, а кладзе далоні
на плячо, гуляе з жычкай, люба так,
ціха сьмехам звоніць, дыхае ля скроні,
аж бліжэй, здаецца, ня прыйльгне ніяк.
А тады — зьнячэўку пальцы рук рашшчэпіць
і адрыне целам залатым уся,
ён — за ёю! Ловіць, горне... і у шэпце
тоне песьні пошчак, мкне кудысь прасьцяг...
Ды узноў, здалёку, зьнекуль, выплывае
сьвет урэшце... зь песьняй... Песьня зноў гарыць,
і хлапец ня бачыць, што лаза сівая
ўжо плыве пад ногі,
што яны — ўгары,
што ў густой сутоні ледзь відаць аржоньне,
выспай чорнай выплыў і нырца даў бор,
а над ім, над дзеўкай залатой — сягоньня,
дзе ўзыходзіць сонца і ў вагні простор...
Нат ня бачыць хлопча, што трымцяць, трапечуць
за плячыма крылцы, шэрыя, як ён,
што ня зь ім дзяўчына, стаяла, як сьвечка,
што яна — заранка, ён — не маладзён...
Бо ня тое ловяць дробныя зярняты
чорных вачанятаў, звоніць не таму
шэранькае горла... ..
Ён зьвініць, праняты,
славу дню, што зьзяе жаўруку —
яму!

## ДЗЯЎЧЫНА

Нехта ўжо лесам ідзе і сьпявае,
йдзе і сьпявае, няхай яшчэ росы
стаюць няхутка у сонцавых косах,
хай коле ў ногі атава сівая...
Восень, дык сонца ўстае неахвоча:
ой, і дадзела-ж асеньняя праца!
Ледзь вып'еш росы, адразу трэ брацца
йрваць павучыньне туману, падскочыць
чырвеняй спляміць асіньнік, у полі
высушыць бульбу ў барознах, і бэру
цукрам наліць, і даць сіні у меру
ў небныя ночвы... Ня скончыш ніколі!
Нехта ўсё-ж лесам ідзе і сьпявае —
белая хустачка, босыя ногі...
Колькі гарэхаў ля самай дарогі,
гэткіх буйных, залатых!
І зрывае
дзеўка гарэх мімаходзь, а пад сьвіткай

сэрца-ткі б'ецца, аж коле у грудзі:
каб не дазнаўся хто толькі, бо будзе
кпіць зь яе вёска, над цэпам ці ніткай,
хоць уцякай дзе...
Ды вось ужо й полка
ставу мігціць між камлямі... Дзяўчыну
вусьціш спыняе, бо "сам" каля млыну,
ледзь ня ўпусьціла з гасьцінцам кашолку.
Дзіва! Млынар, кажуць людзі, вядзьмарыць,
моц нялюдзкая у целе старэчым:
кроў замаўляе, варожыць ды лечыць —
гасіць агніцу, шле трасцу на ймшары...
Ды ці йшчэ гэтак старога агудзяць?
Кажуць, дзяцюк ці адзін ваўкалакам
зь дзедавай ласкі ўжо бегае ракам,
кажуць...
Пабачыў. Хай будзе, што будзе.

Госьцю вядун із усьмешкай вітае,
ейныя думкі, як быццам, гартае.
Белы, высокі, калматыя бровы,
твар, як і лес той, пажоўклы, васковы,
белая вопратка, лапці, аборы
і найдзіўнейшае — вочы, як зоры...
Голасам ветлым, ціхім, глухаватым
дзеўку вітае старэча. У хату —
кажа — ня просіць, валей над вадою
сеўшы, напіцца усмак сырадою
восенскіх раньняў... Што зь ёю, пытае,
моўчкі йдзе ў сенцы, дзе цемра густая,
кій свой бярэ, кола кіем абводзіць,
зь дзеўкай яго тры разы абыходзіць,
місу прыносіць сьцюдзёнай вадзіцы,
кідае прыгаршчы зёл ці карыцы,
кажа дзяўчыне ў ваду углядацца,
ходзіць ды ходзіць...
— "І важкая-ж праца,
лепш дзірваны рэзаць сьпёкай нарогам", —
думка апошняя ў дзеўкі, й нябога
дзеду утроп пачынае хістацца,
ажно няма ўжо й чаго прыглядацца,
толькі здалёк із нязнаных далечаў
словы плывуць, цемру й цішу калечаць...
"Ўстану я ды выйду ў лес-бор паволі,
зь лесу-бору выйду ў чыстае поле,
стану я плячыма там да заходу,
стану белым тварам там да усходу"...
Словы мацнеюць, агортаюць, душаць...
Звон б'е дзяўчыне ў скроні, у вушы,
круціцца сьвет... А старэчыя вочы
сочаць скрозь нешта, а голас — шапоча:

"Абтулюся хмарамі сівымі,
абаткнуся зорамі малымі,
абмачуся чыстаю расою,
абсушуся сонцавай касою"...
Шэпча стары ўжо губамі аднымі
словы, што людзі завуць "ключавымі":
"Не зьмяніць тых слоў, ні даказаць нікому,
ні старому, ні някемліцы-малому,
іх замкну я дзесяцьма замкамі,
заключу іх дзесяцьма ключамі,
а ключы па лесе расьцягаю,
на дне возера-прадоньня пахаваю"...
Скончыў вядун, уздыхнуў ды дзяўчыне
піць падае, хай адыйдзе, астыне.
"Шчаснаму, — кажа ёй, — дзякуй дзянёчку,
калі ў пакутах ды радасьці дочку,
пэўна-ж цябе — прывяла на сьвет маці:
долі шчасьнейшай — людцом не зазнаці.
Толькі хлапцоў сьцеражыся, бо гады
з шчасьцем, і з тым, а дадуць сабе рады"...
Вусьцішна краснай... Замлела, зьбялела,
п'е — й як заплача, ні пала, ні села!
Плачучы, сыр з палатніны выймае,
дзеду дае — і бяжыць...
Абыймае
ўзноў яе ціша васеньняга раньня,
шэлях пажоўклага лесу, чаканьне
шчаснага кону, што дзед напрарочыў,
аж... абсыхаюць дзявочыя вочы.
Восень на сьвеце... Імгла палавая
пасмай віецца, ўстае над лагчынай...
Вусьцішна ўсё яшчэ, млосна дзяўчыне,
зноў яна песьню, адлі, запявае.
Вецер узьняўся, ў твар сіверам коле,
й люба дзяўчыне, хай босыя ногі...
Лузаць гарэх, мімаходзь, ля дарогі
толькі ўзялася, —
і вось ужо поле!

## ЛЕБЯДЗІНАЕ ВОЗЕРА

Тут былі калісь бары зь імшарамі,
зь цёмнымі, хваёвымі гушчарамі,
у вянку, заплеценым вярбінамі,
возера ляжала тут глыбіннае,
па вадзе пусьціўшы твані шэрай вязь,
а у возеры тым жыў сам лебядзіны князь.
Жыў ён, князь, зь лябёдачкамі-жонкамі,
жыў ён, князь, з малымі лебядзёнкамі.
Ой, была-ж ім, птахам, тутка волечка
і ўначы і ўдзень, і самацьветам-золачкам:

у трысьці адны яны кахаліся,
гадавалі дзеткі, расставаліся...
Ды прыйшлі канцы жыцьцю іх вольнаму.
Людзі збройныя аднойчы зь места стольнага
у бары гушчарным заблукаліся,
тры начы, тры дні з борам змагаліся...
Скрозь дрыгва ізь нетраю ня зводзяцца, —
ажно выйшлі, досьвіткам, на возера...
Бачаць — вось ляжыць яно, нязьведнае,
місай серабранаю бяседнаю,
адбівае неба, хмары ў чырвані,
бор сівы, як быццам з казкі вырваны...
А сярэдзінаю — лебядзі ўжо плаваюць,
туманы разгортаюць сівавыя,
пёркі абтрасаюць свае сьнежныя,
у суцішы ранічнай кунежацца...
Людзі, што-ж, як людзі... Сэрцы гэткія
выкавала доля ім, як з клеткі бо
вырвуцца — ўсіх крыўдзяць, мест спагадаю
сьвет заліць... Мячом жывуць ды звадаю...
Скрадам ля вады яны цікаліся,
ціха ў трысьці яны згукаліся,
стрэлы павыцягвалі калёныя,
лукі панацягвалі з праклёнамі,
і пабілі матак зь лебядзёнкамі,
ажно пух ускрыў ваду сівой плёнкаю.
А пабіўшы, сталі злыдні цэліцца
у самога князя, трэ-ж асьмеліцца!
слалі стрэлы ў грудзі яго белыя,
слалі стрэлы ў вочы яго сьмелыя,
пёры чыстыя няўзнак скачалі ў гразь...
І сказаў тады ім лебядзіны князь:
"Гэй людцы, людцы вы неразумныя,
горка мне за вас, агорклых, сумна мне...
Зь цяцівы навошта стрэлы слалі вы,
аж пабілі ўсё маё да каліва,
кроў пусьцілі дзеткам маім дробненькім,
білі ў сэрцы белыя лябёданькі?
Будзьце-ж вы, людцы, навек праклятыя
за злабу, за сэрцы за зацятыя.
Не наліць ніколі вам іх літасьцяй,
будуць век яны чужой крыві нясытыя,
будуць век жадой гарэць няўгойнаю,
біць, губіць усё, што супакойнае.
Ні зьвяру, ні птушцы вы ня будзеце
век братамі, ўсіх вакол загудзіце,
пойдзеце й за моры з акіянамі
біцца ізь бязьвіннымі, рахманымі...
Воля ваша... воля незавідная,
быць сабе і ўсім усюды злыднямі...
Беце-ж... Але хто калі, вось так, як сяньнейка,

тут над возерам крывёй зноў абрасяніцца,
лебядзя заб'е ці каляной стралой,
ці ў сіло ўзяўшы над вадой цьвілой,
хто заб'е — дык сам ізь ім загіне ён
сьмерцяй гэткаю-ж, загіннай, лебядзінаю".
Так сказаўшы, выплыў князь сярэдзінай,
паглядзеў на кроў, на пёры белых лебядзяў,
скалануў крыламі лебядзінымі —
і затонуў сінімі глыбінамі...
Выйдзе ён, як людзі скрозь пазводзяцца,
выйдзе ён з прадоньнейка, разводзьдзейца,
затрапеча крыламі магутнымі,
кіне ў неба словамі пакутнымі,
белай пенаю запеніць плёсы чыстыя
і віры з глыбінамі празрыстымі,
скалане нат продань-сінь паднебную, —
і на роўнядзь срэбную — ўсе срэбныя —
плаўна выплывуць лябёдкі белапёрыя
зь лебядзінаю малечаю вясёлаю.
Будуць над мінулым яны суд судзіць,
суд судзіць агулам ды прысуд прасіць.

## ЖОЎТАЯ ВОСЕНЬ

Нэрвы ўвосені страшаць нас совамі,
ша... шасьцяць кажановымі крыламі...
Няпрыветнай вітаемся моваю
мы з асеньнімі казкамі-былямі.
А ці-ж восень папраўдзе панурая?
Груганьнём над ніўямі расьселася?
Рызманамі зрудзелымі, бурымі
на асінах павісла, на верасе?
Жоўта скрозь...
Над палямі шырокімі
сьпяць дубы, як мядзяныя волаты,
ўкруг бярозы стаяць белабокія,
сыплюць з косаў расплеценых золата,
сьпіць лог жоўты, туманамі змочаны,
пахне мохам, лістамі, як ладанам...
І сьціскаецца сэрца няхочачы
смуткам любым, дзіўным, неразгаданым.
Дзе-ж тут жах, кажановыя шэляхі,
плач савіны, вятругі нэрвовыя?
Восень жоўтая смуткам кудзеліцца,
сном кладзецца на вецьце дубовае.
Для мяне яна —
блізкая, знаная,
новай песьняй у сэрца ўціскаецца
і натхненьнямі, здаўна чаканымі,
нада мной, як лісьцём, асыпаецца...

## КАБ КРЫЛЫ...

Злавілася сонца у сеці,
у сеці, сатканыя з хмар...
Каб крылы саколія мець мне
ды дзесь панад хмары ўзьляцець мне,
у сонца нясьцерпны пажар!

Хай вочы мае занявідзяць,
хай змоўкне навекі мой сьпеў,
хай людзі мяне зьненавідзяць, —
а дух мой да сонца ўзьляцеў!

Хэлмна, 1922

## ІШЛА ВЯСНА

І парловыя хмаркі вяночкі плялі
над паўсоннай, імглістай прасторай зямлі,
і цалункі гарачыя сонцавых кос
зь сініх, сініх, прачыстых сплывалі нябёс,
і пралескі ўсьміхаліся ў сьцені лагчын,

і ў мутной, але сіняй вадзе каляін
запаляліся сонцам мільлёны агнёў, —
бо вясна йшла у руні палёў.
І дрыжэлі знаёмыя струны ў душы,
пазрываныя ў часе зімовай цішы,
і хацелася некуды йрвацца, ляцець,
і хацелася крылы птушыныя мець,
і хацелася сьвет абыймаць, цалаваць,
і пяяць, і пяяць, і пяяць, і пяяць, --
бо йшчэ раз за маіх пералётных гадоў
ішла вясна ў зеляніне садоў!

Хэлмна, 1928

## УЗНОЎ ВЯСНА

Тонкім прадзівам сонечных, ясных праменьняў
сад асыпаны, ў белым стаіць захапленьні,
пышнай цешыцца, весьняй красой.
Зноў вясна... Яшчэ раз у жыцьці пералётным
бачу чары вясны маладой, несьмяротнай,
вечна новай і вечна жывой.

Быццам морскія хвалі ўзьбярэжжам —
мкне па выраі вырай бязьмежжам.
Зноў вясна... Яшчэ раз... Колькі-ж іх прамінула,
колькі-ж іх пражыла, ды ці шмат іх адчула
я няўважнай, нясталай душой?
Ці-ж падумала я, што жыцьцё уцякае,
што чагось ад мяне спадзяецца, чакае,
і нічога ня зроблена мной...

"Кінь стаяць на жыцьця узьбярэжжы," —
кліча вырай у сінім бязьмежжы.
"Добра, птахі! Растаеце ў небе-прадоньні,
я-ж пайду напярэймы жыцьцю хоць сягоньня,
разам з сонцам, зямлёю, вясной,
разам з садам, што ў прадзіве ясных праменьняў
сам у ясным, у белым стаіць захапленьні,
пышнай цешыцца, весьняй красой.
А над ім, быццам хвалі ўзьбярэжжам,
мкне па выраі вырай бязьмежжам.

Хэлмна, 1927 г.

## НА ПАРОЗЕ

На парозе ночы затрымаўся дзень,
дзень ціхі, зімовы, спавіты ў ліньлёвы
далікатны сьцень...
І хоць вабіць неба хварбай залатою,
І хоць зьзяюць хмары рожавым агнём, —
цяжка разьвітацца з сонечным сьвятлом,
цяжка спавівацца ночы туманом...
Бо здаецца сонца дарагім бясконца,
бо жыцьцё здаецца проста без цаны,
і жудой халоднай у чужой старонцы
выдаюцца чорнай ночы туманы...
Гэтак перад сьмерцяй сэрца замірае
пры адзінай думцы, што ідзе... туды,
хоць само ірвецца ў край, што сном завецца,
хоць смуціцца, б'ецца,
каб як адляцецца
ад нягод, пакутаў, ад важкой нуды,
адляцець... туды.

Хэлмна, 1928

## ЯШЧЭ АДНА ВЯСНА

Мінулі халады, і сьнег дадзелы тае...
У лужынах вады, у белых балаках,
у сіні загустой, што неба залівае,
вітаю я вясну на полі, між дарог...
Узноў ідзе вясна, йдзе новая адвечна,
як сотні год таму — праменны, дзіўны чар...
Ды сэрца не гарыць, а тужыць недарэчна,
бо ў ім, гаркім штагод— слабейшы весьні жар.
Калісь расло яно, ірвалася у вышу,
зракалася ўвясну усіх, што ёсьць, клапот,
а сяньня — хай вясна, шукае сэрца цішы,
ня сьніць, не лятуціць, закутае у лёд.
І навет слоў няма, каб прывітаць гарача
каханую вясну так, як калісь, даўней.
А ўсё-ткі ў думках нешта цешыцца, ці плача,
і сонца сьвеціць мне штараз ясьней, ясьней!

Хэлмна, 1928

## СЬМЯЯЛАСЯ Ў ВОЧЫ ВЯСНА

Сьмяялася ў вочы вясна адно колькі радасных дзён,
вятром загадаўшы лунаць над люстрамі талай вады...
Ды кінула злосны праклён,
адыходзячы ў далеч, зіма:

узноў халады...
Узноў загулі вятругі у сетцы рухомай галін
і сівер бяз права й пары суворую песьню завёў,
сьцяў лёдам ваду каляін,
і бела узноў...
Ды вернецца, прыйдзе ў палі ў зялёнай кароне бяроз
вясна, прыгажуня-вясна, туліцца пачне да зямлі,
і рогат вятроў і мароз, што сьнегу ў душу намялі,
адгоніць яна...

Хэлмна, 1928 г.

## ПЕРШЫ СЬНЕГ

Сяньня раніца й сонца ўставалі
у вянку з каляровых агнёў,
і карункамі йльдзянымі зьзялі
залатыя галіны кляноў.
Нятутэйшыя, дзіўныя краскі
загараліся ў шыбах вакон...
Было раньне – старонкаю з казкі,
было раньне, як казачны сон.
А пасьля... неба згасла... сьцямнела...
вецер гольлем сухім зашасьцеў,
з шэрай вышы, і чысты і белы
сьнег густы паляцеў, паляцеў.
Ён паблытаў дзіўныя вузоры
у гальлі разварушаных дрэў,
ён маркотныя ніваў разоры
сьнежнабелай пялёнкай адзеў,
сыпкіх гурбаў намёў, перайначыў
сьвет, хаду нашых чынаў і дзён.
Згасіў зоры й агні, каб зазначыць,
што ўсё-ж доля – ня казка й ня сон.

Хэлмна, 1928

## ТУГА

Лёгка-займглёныя восені далі
ў ясна-зялёным блакіце стаялі.
Гаснучы, сыпаўся дзень пазалотай
зь неба на тонкіх бяроз пераплёты.
Чырваняй кволай, старой акварэлі
клёны й асіны у лесе гарэлі.
Дзень дапаліўся, і цемра нядбала
ў шэрасьці хварбы жывыя схавала.
Лес у густым, мутнаватым тумане
ў змрок адыйшоўся, як шэрае зданьне...
Цёмна... Бярозы нябачна у полі,

сыплюць асеньнія сьлёзы паволі.
Ўслухайся ў плач іх, жальлівы бязь меры.
Ці разумееш у плачы тым шэрым,
што яшчэ нехта у вечар туманны
тужыць усупал з табой па нязнаным?

Хэлмна, 1930

## ЧАСТА ЎВЕЧАРЫ

Часта ўвечары, так, на прадвесьні,
калі гасьне заход, перад ночай,
гэтак хочацца выліцца песьняй,
а так мучыць пачуцьце нямочы!
Усе словы здаюцца малымі,
ўсе — ня тымі,што выцьвісьці хочуць,
бо ніяк не параджу я зь імі,
што здалёк і сьмяюцца й сакочуць.
Словы — ветры на крылах птушыных,
словы — зоры са шляху сусьветаў,
словы — пэрлы зь нязнаных глыбіняў,
словы — будзьце слухмяны паэту!
Слова — музыка першых грымотаў,
слова — павадка яблын вясновых,
слова — думкі нястрымнай узьлёты,
слова — будзь-жа паэту слухмяным!
Зь цябе вытку паяс шматкалёрны,
каб агнём у ім ніткі гарэлі,
упляту ў яго зьзяньні ды зоры,
раззваню скрозь жаўронкавай трэляй,
аджыўлю ў табе зыркасьць зарніцаў
і шум—шэлях расістага жыта,
ўспомню ўсё, што забытым маніцца,
ўспомню ўсё, што даўно пражыта.
Не ўцякай-жа нябёснай пуцінай,
не хавайся ў далечах нязнаных...
Слова — вецер на крылах птушыных,
Слова, будзь-жа мне, будзь паслухмяным!

Хэлмна, 1930

## ТАЕ ВЕЧАР

Тае вечар, пачаты на росных лугох.
Ціша... ціша...
З даляў выліўся вецер, пайшоў па кустох,
ледзь калыша...
Смакам сьвежым паветра густое абмыў,
пахам бору,
закруціўся і ў цёмную далеч адплыў,
недзе ў зоры.

Зорам цесна у небе, як нам на зямлі,
ймглой трымцівай
ноч абсыпалі, сьнегам ляглі на гальлі
йгруш над нівай...
Белы пыл, як туман серабраны, залёг
нізам, вышай...
Стаяў вечар, пачаты на росных лугох,
ціша... ціша...

Хэлмна, 1932

## КАЛІ

Калі згасьне апошняе зьзяньне
там, высока, паміж балачынаў,
і выходзіць з лагчынаў зьмярканьне,
абхінуўшыся хусткаю сіняй,
калі сьняць вербалозы над рэчкай
аб вясьняным, аб сонечным сьвяце,
калі белаю воўнай авечкаў
устаюць туманы зь сенажаці,
калі ў небе зялёным, бяззорным
маладзік залаты выплывае,
калі складным, залівістым хорам
жабі род у лагу запявае, —
о, тады забываецца неяк
сьвет і ўсё на зямлі, навакола,
расьцьвітае душа, паланее
і ўзьлятае высока, вясёла,
сьветлым зданьнем — вясёлкай шугае
у нябёснае сіняе поле,
дзе сьмяецца яна і вітае
ўсё, што ёсьць...
а ня будзе ніколі.

Хэлмна, 1932

## ЗАПАЛІЛІ КАШТАНЫ

Запалілі ў прысадах каштаны
сьвечкі белых, пахучых кветак.
Там, далёка ў даліне туманнай,
сьпіць імгла сіняватых палетак,
а над ёю хінуцца узгоркі,
гіне шэраю пасмай далеч,
на заходзе — шнурком пацёркаў
зьзяюць хмараў чырвоных каралі.
І плыве ў неба разам зь вятрамі
сьвет мільлёнам, мільлёнам хаценьняў,
пакуль ноч ня суцішыцца снамі

у палёх, пахаваных у сьцені,
пакуль пацеркі хмараў парваных
не згарэць між нябёсных палетак
і ня згасяць густыя каштаны
сьвечкі белых, пахучых кветак.

Хэлмна, 1932

## ВЯЧОРНАЯ МІСТЭРЫЯ

Сплёў вечар вянок прамяністы
з шыпшыны і макаў чырвоных,
у небе завесіў прачыстым,
на ясных нябёсных загонах...
А сонцу вянок спадабаўся,
у чырвані сонцу да твару...
Так — захад у хварбы прыбраўся,
так вечар заняўся пажарам.
Усё, што такім было знаным,
адразу зрабілася дзівам:
настольнікам, золатам тканым,
пасламіся жытнія нівы,
агнём загарэліся стрэхі,
сады і вяршаліны бору,
і густа праз хмараў узрэхі
сыпнулі, як зерняты, зоры.
Бярозаў зялёныя рукі
застыглі, бы ў часе малітвы,
прачнуліся ночныя гукі,
нячутыя ў дзень працавіты,
затросься лазьняк зь пераляку,
пачуўшы крок чорнае ночы...
І росамі вецер заплакаў,
у змроку хаваючы вочы...

Хэлмна, 1932

## ПАРАЛЕЛЬ

Ціхі вечар, маркотны, ласкавы,
так паволі, паволі зыйшоў,
і зьліліся у змрочнасьці лавы
пад прысадай густых каштаноў.
Заляглі цёмна-сінія сьцені
у завулках, у цёмных кутох,
дзе міргаюць і гаснуць праменьні
у разьбітых, мутных ліхтарох.
Ноч абмыла пяшчотаю парнай
камяніцы і вочы вакон
і прарваўся з блізкое кавярні

неспакойнае музыкі тон...
Гаручковая сьмеласьць размовы,
недарэчны, адрывісты сьмех,
голад шчасьця, спрадвечны а новы,
ўсьцяж жывое жаданьне уцех,
пад прысадамі змрочнымі лавы,
дзе купляюць на ноч пачуцьцё, —
гэта места спрадвечнае права,
гэта места старога жыцьцё...

А далёка, далёка, далёка
сьніць аб лепшым вячорны прастор...
Там жыта падняліся высока,
звоніць рэзвых казёлчыкаў хор,
там туман сіняватай сьцяною
спавівае ужо сенажаць,
там так ветла над соннай зямлёю
тоняй сіняю зоры дрыжаць,
там паволі, маркотна, ласкава
спавівае ноч нівы й палі...

Там, ня тут, там спрадвечнае права,
праўда вечная маці — зямлі.

Хэлмна, 1932

## ЗАВЕЯ

У нясьмелай, замлелай цішы
ўстаў туманны, нявеtлы ранак,
ціха вецер гальлё калыша,
недзе плачуць званочкі санак,
нізка, нізка сівыя хмары
над зямлёю ціхой клубяцца...
Ціша...
        раптам — віхор ударыў,
стаў заводзіць, гусьці, сьмяяцца.
А зь віхурай прыйшла завея,
ўсё зьмяшала,
зьмяла,
пайрвала,
разгайдала гальлё ў алеях,
паблытала...
"Месца, месца,
волі, волі"!
Мкне у месьце,
мкне у полі,
беліць вочы белай беляй
гнеўна — сьпеўная завея,
б'ецца,
ўецца,
скача,

плача,
сыпкім сьнегам сее, вее,
не лякаецца няўдачаў
гнеўна-сьпеўная завея!

Хэлмна, 1933

## НОВАЯ ЗІМА

У вабыймах дзіўнога спакою
сьпіць палёў неабсяжны прастор...
Зноў на шыбах мастацкай рукою
тчэ зіма далікатны вузор.
Зноў сінее зімовая далеч,
зноў зяленяцца змрокі, як лёд,
і гарыць пурпуровай эмаляй
няжывы і халодны заход...
А нядаўна, здаецца учора,
на блакітных палотнах нябёс
ткалі шоўкам зялёным вузоры
маладыя галіны бяроз,
пахла мёднай ліпой у паветры,
дыхаў пешчай гарачаю змрок,
і зьмяталі вячорныя ветры
пыл з распаленых сонцам дарог...
Так нядаўна, учора, здаецца,
хоць мяцеліца сяньня мяце
і на сэрца жывое кладзецца
пыл лядзяны гусьцей а гусьцей.

Хэлмна, 1933

## ЦІША

Ціха... Між клёнаў бязьлістых
туліцца змрок надвячорны.
Месяц сьцюдзёны і чысты
выплыў у небе прасторным.
Сьцішаны сьпевам мяцеліц,
дзень дапаліўся вятраны,
сінімі робяцца белі
даляў чужых і нязнаных.
Сумна... дадзела праменнасьць
зыркіх зімовых заходаў.
Хочацца нейкай адмены,
неперажытых прыгодаў.
Хочацца летніх палудняў,
палкасьці й золатаніваў,
звону чмялёў — перагудаў,
сьмелых, гарачых парываў...

Дзе-ж там!
Між клёнаў бязьлістых
дзень дапаліўся зімовы.
Месяц сьцюдзёны і чысты
выплыў у небе лільлёвым...

Хэлмна, 1933

## ВЕЧАР

Вецер вячорны на клёнах
шпарка праймкнуўся... і зьгінуў,
кінуўшы ўсьлед палатніну
пахаў зялёных.
Дзесь па кутох між дамамі
сьцень сіняваты гусьцее...
Гасіць калёраў завею
вечар над намі...
Ў цемры жывой і гарачай
зьзяюць дзе-не-дзе ліхтарні.
Сонна ў далёкай кавярні
музыка плача...
Ломяцца ў змроку вясьняным
дзіўна маркотныя гукі.
Выцягнуў шэрыя рукі
вечар над намі...

## ВЯЧОРНАЯ ЧАСІНА

Дрыжаць над вадою вячорныя сьцені
дзіўною, няўхопнай бадай чарадой,
і моўчкі хінуцца старыя вярбіны
ў бясслоўнай маліцьве вячорнай часіны,
часіны натхненьня — над соннай вадой.
А захад згарае у зьменных адценях
прадзіўнае хварбы шыпшынна-жывой,
і пылам ружовым здаюцца аблокі,
што таюць бязьмежнай, бязьмернай, далёкай —
як цяг пакаленьняў — нябёс пуцінай.
Так ціха... Не, штосьці дрыжыць і сьпявае,
сьпявае наўкола, ўгары, над зямлёй...
Мо рэчныя хвалі шасьцяць у вярбінах,
мо конікаў песьня зьвініць нясупынна,
мо вецер гуляе зь вярбінкай малой?
І рэчныя хвалі пяюць маліцьвенна,
і конікі звоняць нямоўкна мяжой,
і вецер шасьціць у галінах вярбінаў, —
ці-ж дзіва, што чар перадночнай часіны
расьцьвіў палыменна ўва мне й нада мной?

Хэлмна, 1933

## НОЧ

Згас у хмарах заход прамяністы
і ўзьняла ноч паволі павекі,
варажыць узялася ўрачыста,
уваходзячы ў бору засекі:
"Ад бяссонных пакутаў распачы,
і ад вусьцішы чорнай паўночнай,
ад сьпякоты гарачага плачу,
ад паглядаў нядобрых, урочных,
ад сноў-мараў, што могуць прысьніцца,
ад злых думак, гаркіх а зрадлівых, —
я краплю бор халоднай расіцай.
Адгані сум, лес-бор шапятлівы,
няківайце, калматыя хвоі,
чорнай пражаю тонкіх галінаў:
белы месяц усходзіць вышою,
заглядае у змрочнасьць лагчынаў,
і туман ручніком белатканым
ужо сьцелецца нізка і роўна...
Не шасьцеце-ж аб страхах нязнаных
незгаданых, як доля, бясслоўных".
Шэпча ноч і кідае расою,
навакола кідае ўрачыста...

Там, высока, за хмар паласою,
згас, датлеўшы, заход прамяністы.

Хэлмна, 1933

## ХАЦЕНЬНІ

Як калосьсе ў жытняй ніве —
цягне дух мяне ўгару.
Тут — нічога больш ня дзівіць,
тут — нічога не зьбяру.
Няжывой, зімовай ночай
сьніцца мне ліпнёвы змрок,
а ўвясну — пляла-б ахвоча
я ўжо восенскі вянок.
Цямрывою, бездарожжам
аднаго пайшла-б шукаць:
што ніколі мець ня можна,
што ніхто ня можа даць!

Хэлмна,

## ПРЫВІДЫ

Апусьцілі бярозы зялёныя рукі ў распачы,
больш ня хочуць расьці, зелянець ані гутарак весьці,
шэры змрок над зямлёю паўзе, ноч і цемру сьцюдзёную весьціць,
ледзь калматы лазьняк варушыцца ў лагчыне, ды дзесьці
здань-сава глуха плача...
А ноч чорнае кола сьціскае наўкола, сьціскае,
ўсё бліжэй, і шчытней, аж зацісьне, задушыць, здаецца.
Цішыня уздыхае цішком, а мо кпліва сьмяецца.
Сэрца б'ецца трывожнай, бяскрылаю птушкай у клетцы,
ў чорнай ночы ратунку шукае...
Не, парвецеся струны гудлівыя — ночныя гукі,
расступіся, калматая ноч, і пусьці маё сэрца на волю,
да жыцьця, да сьвятла, да натхненьня, да шчасьця бяз болю!

Срэбнай стужкай туман-пустацьвет зьнік, растаяў у полі
і ўгару узьнімаюць бярозы зялёныя рукі...

Хэлмна, 1933

## ВЯСЁЛКА

Лягла вясёлка мастом трымцівым,
мастом, сатканым з калёраў кволых,
ад мокрых сьцежак, ад росных ніваў
у бор сасонны, сівы й вясёлы.
Красою чыстай ты цешыш вочы,
красой нясталаю, як доля...
Чаго-ж прыйшла ты, чаго ты хочаш,
чаго ўзрунела, вясёлка, ў полі?
Пацешыць хочаш нязвычнай казкай,
узьняць зь нізінаў у вышу вока?
Гарыць вясёлка нянаскай краскай,
мастом трымцівым лягла высока.
Мастом тым здані да нас зыходзяць
з паднебнай вышы, зь нязнаных даляў,
вясьняным чарам нас надзяць, зводзяць,
калышуць сьпеўным напевам хваляў...
З краіны дзіўнай маны й надзеі
і сны сплываюць па ім, няйначай.
Шчасьлівы-ж той, хто сьніць умее,
шчасьлівы той, хто іх пабачыць!

Хэлмна, 1933

## У ЗАДУШКІ

У вогкім ад дажджоў паветры,
паміж крыжоў — туманных зданьняў,
міргаюць сьвечкі жоўтым зьзяньнем
на хваравіта-ўпартым ветры.

Няма ўжо вас... Вы там, няўрокам,
дзе сьвецяць зоры серабрана,
дзе чарнатканыя туманы
хаваюць дзень... Вы дзесь далёка...

Нядаўна й тут вясна нясьмела
цьвіла, дымела срэбрам далеч,
і над крыжамі красавалі
каліны пышна, пахка, бела...

Нядаўна й тут зьвінела лета
ў гарачы поўдзень гудам пчолаў,
і пахла мёдным пахам зёлаў
з магілаў, косамі прыгрэтых...

А сяньня вось, з упартым ветрам,
стаіць асеньні змрок над вамі,
і плача вецер над крыжамі
у вогкім ад дажджу паветры.

Няма і вас... Дзе вы? Ў нязнаным...
Ці лепей вам, ці там мо горай,
вы нам ня скажаце, й з пакорай
прымаем вашае маўчаньне.

Гады ці дні — й над намі, ласка
жывых, трымцець тут будуць сьвечы,
ды вецер на крыжох нявечыць
зноў будзе,
нашыя ўжо,
краскі.

Хэлмна, 1934

## ВЯСНОВАЯ КАЛЫХАНКА

Сьнежнаю мяцеліцай
сыплецца нядзеляю
цьвет — краса вішнёвая,
па траве пасьцелецца
белаю пасьцеляю,
коўдраю пуховаю.
А вятры вячорныя
закалышуць ціхаю
сьпеўнай калыханкаю:
”Сьпі да раньня зорнага,
пакуль ночка дыхае

на траве каханкаю.
Сны хай сьняцца гожыя
табе, крыўды латаюць...
Сонечна-гульлівыя
сны — дзе ўсе прыгожыя,
сны — дзе ўсе багатыя,
сны — дзе ўсе шчасьлівыя!

Хэлмна, 1934.

## ВОСЕНЬ

Восень выходзіць у поле
ў белым вянку з павучыньня,
восень на ўзьмежку, паволі,
зь цяжкай пасажнае скрыні
цягне сувоі туманаў,
тканых на дне балацяных,
голых,
бязьлістых лагчынаў.
Гінуць у шэрасьці далі,
гаснуць у шэрасьці гукі...
Йгрушы на межах расьпялі
цёмнапальчастыя рукі...
Цяжка над ржавым іржышчам
стогне,
заводзіць і сьвішча
вецер, адданы на мукі.

Хэлмна, 1935

## НЕЗГАДАНАЕ

Дзень стуліў залатыя расьніцы,
супачыў недзе ў попеле хмар.
Квола зорная рунь каласіцца,
квола месяца зьзяе пажар.
Нявымоўна глыбокая ціша
тчэ трывожны, дзіўны супакой.
Ноч і надзіць
і кліча
й калыша,
ноч гуляе з душою людзкой.
Незгаданаю ўсьмешкаю Будды
усьміхаецца бездань нябёс...
А зямля спачывае нязбудна
у паводцы нявылітых сьлёз.
І хоць гасьне у сэрцы надзея
пад цяжарам падзей ды ахвяр, —
ў небе зорная рунь зелянее,
ў небе месяца зьзяе пажар.

Хэлмна, 1934

## УВОСЕНІ

Я не магу пісаць, бо хмарамі густымі
спавіта неба сінь, бо сонца ня відаць,
бо кроплямі дажджу, бліскучымі, малымі,
бясконца, дзень увесь, заліта шыбаў гладзь.
І сумна, сумна мне, і сумна нявымоўна,
і хочацца ісьці, знайсьці нязнаны шлях
туды, дзе ўжо вясна, дзе пышна і чароўна
красуе белы сад, салодкі сее пах.
Дзе матылі мігцяць, яскравыя, бы краскі,
калышуцца й шумяць зялёныя жыта,
дзе шчодра, самахоць сплывае сонца ласка,
дзе цешыцца жыцьцём — і чар і любата!

Хэлмна, 1934

## МЕСТА

Над местам у полымі белым
зялезнае рэха стаіць
і цягне бясконца, дадзела
цягуча-пявучую ніць...
Мы топчам рытмічна і гулка
асфальты, нас гоніць пасьпех,
пад намі каменьне завулкаў
зыгзагамі значыць свой бег.
Над намі — бэтонаў штадзённасьць
і шэрасьць панурая сьцен,
над намі нябёсаў зялёнасьць
парэзалі сеткі антэн,
мы слухаем воўчае песьні
сырэнаў і гоману крам,
дзе скрозь запаляецца й чэзьне
зьдзічэлая чырвань рэклям,
мы дыхаем горкай бэнзынай,
муроў абмінаем рады
ды ймкнём наўздагон і гадзінам
і днём, невядома куды,
бяжым... і у смазе пякучай,
што гоніць цікаўных нас жыць,
ня бачым, што ніткай бліскучай,
вясна у паветры дрыжыць,
ня бачым, што гнуткія лозы
ўжо срэбны размоткаюць пух,
што дзесь, паза нашаю прозай, —
праўдзівая радасьць і рух!

1935

## ЗІМОВАЯ НОЧ

Загарэліся зоры агнямі
на палотнах нябеленых хмар.
Дзесь высока, высока над намі
поўнач б'е невядомы званар.
Змрок зімовы калышацца нізка
па лагчынах, сівых хвайнікох, —
ткаць нам дзіўную казку ўзяліся
ноч
і ціша
і месяц — утрох.
Туманамі, што таюць, ірвуцца,
усплываюць над здані хваін,
мост з праменьняў плятуць, каб даткнуцца
ў небе вытканых зорных тканін.
А каб сум па нябёсных прасторах
кажны й тут супакоіць-бы мог, —
запаляюць мільённыя зоры
у прадонных зімовых сьнягох...

1935

## ЗІМОЮ

Пастрасалі, разьнесьлі ўначы вятругі
няжывое, пажоўклае лісьце бярэзін.
Шкляным пылам іскрыцца мароз на гальлі,
беліць далі густыя і мутныя сьнежань.
Па іржавых паўтонах асеньніх гадзін —
навакола паўсонная, белая пустка
ды над гойстрымі вежамі цёмных хваін
шэра-сініх нябёсаў зімовая хустка.
Што зіма — пазнаю не па белі гальля,
а па тым, што ў душы маёй мова маўчаньня:
першы сьнег, раньні змрок дакучаюць, баляць,
кажны крок паўз жыцьцё — запыняюць і ганяць.
Ня люблю я, ня ўмею падкаджваць зіме,
красаваўца на шыбах зімовай шыпшынай,
пакуль холад зімовы дарэшты задзьме
мае думкі й парывы апошнія спыніць.
І жыву я ўзіму толькі тым, што было:
йду між пальцамі золата восені сыпаць
ды ў дадзелым маўчаньні гальля бязь лістоў
слухаць шуму пажоўклых кастрычніцкіх ліпаў.

1935

## МЕСЯЧНАЙ НОЧАЙ

Ноч срэбным пальцам ціха водзіць
па стромкіх пнёх гатыцкіх вежаў
і топіць фрэскі ў белым лёдзе,
і вокны бляскам белым рэжа...

Стаю ў туманным срэбры ночы...
за мною горад празаічны,
няспынны горад плюшчыць вочы —
кругі ліхтарняў электрычных,
цяжарам кол зялезных крышыць
сьлізкі асфальт, дзікія брукі,
і сьніць аб месяцы і цішы
пад хрыплы хор мястовых гукаў...
Галосіць радыё ў кавярні,
нястройна енчаць кляксафоны,
клубіцца змрок густы і парны,
мігціць рэклямаў пыл чырвоны,
у няжывым нэонным блеску
плывуць сыльвэткі самаходаў,
у змрочных вулак пералесках
шукаюць дробнае прыгоды...

А ноч... Ноч срэбным пальцам водзіць
па стромкіх пнёх гатыцкіх вежаў,
ноч топіць фрэскі ў белым лёдзе,
вітражы бляскам белым рэжа.
Ноч цягне месячныя зьзяньні,
сплятае ў мост хісткі, узьлётны,
каб ім завесьці ў неба сяньня
натхненна выцягнены готык...

Вільня, 1935

## ЗОРЫ

У лагох, налітых туманамі,
белым статкам пасуцца таполі.
Зь цёмна-сініх глыбіняў над намі
ноч зыходзіць спакойна, паволі.
Зьзяюць зоры, міргаюць вачыма,
узьнімаюць густыя расьніцы,
быццам сочаць і пільна й няспынна,
што за сон нам сягоньня прысьніцца...
Калі ўгледзецца ў зорныя сьветы
простым, людзкім прыгашаным зрокам —
мала быць расьсьпяваным паэтам,
навет мала — натхненным прарокам.
Хто-ж бо ўцісьне у словы пустыя
чар нябёсаў адвечны і сталы?
І мэтафар на сьвеце замала,

і ўсе рыфмы здаюцца ня тыя,
і ня праўдзяць ні формы, ні меры,
рытм найлепшы — здаецца ніякім, —
можна толькі ў захопленьні верыць
ясным зорам з глыбінь Задыяку.

Хэлмна, 1935

## З ВОСЕНСКІХ НАСТРОЯЎ

Дзень асеньні ўстае панад нівамі,
праціраючы вочы сьлязівыя,
йржавай рызай лісьця ды анучамі
брудна-шэрых туманаў абкручаны...
Ўстаў, зірнуў, пазяхнуў... Зварухнулася
груганоў грамада між асінамі,
чорнай сажай крыльля разгарнулася,
зашумела, ўсплыла над галінамі,
і паймкнула ў палі з крыкам вусьцішным,
сотняй горлаў хрыплівых згарушчаным.
А дзень, збуджаны ім, панад нівамі
скрозь заплёхаў дажджамі краплівымі,
мокрым ветрам разьенчыўся нечага,
растапіўся у смутках
да вечара...

Хэлмна, 1935

## АСЕНЬНІ ВЕЧАР

Чырвоны бляск асеньні захад
праз рэдкі кужаль хмараў цэдзіць,
густы сасоньнік крые бляхай
з рудава-жоўтай, чыстай медзі.
Чырвона й сіня ў соснах гонных,
на ймхі кладуцца пасмай сьцені,
і пах гаркі, лясны, сасонны
ўстае зь зямлі, як сон асеньні.
Яшчэ часіна — і з гушчараў
маўчком, нячутна выйдзе цемра,
ўнізе, паміж камлёў няздарных,
клубком разблытаецца шэрым,
павісьне зрэб'ем нечасаным
над лесам сьцішаным, над намі...
О, ноч, жывога дня нірвана,
прыйдзі
                й суціш, суціш нас снамі!

Равіч, 1936

## ВОСЕНЬ У ГАІ

Ціха восень да ймшы пахавальнай
жаўтатканы дыван расьсцілае
на дне ціхай, вільготнай лагчыны.
Ціха восень да ймшы пахавальнай
паліць жоўтыя сьвечкі у гаі —
ўсё бярозкі малыя, асіны...
Сіняй хваляй клубяцца туманы
і правідным, пахучым кадзілам
спавіваюць пажоўклыя дрэвы...
Сумнай песьняй, няўхопнай а знанай,
песьняй-жальбай забытых магілаў
лес заводзіць, пануры, зжаўцелы...
А у тон яму вецер высока
штось шапоча ў бязьлістых каронах,
мо літаньні да яснага сонца,
мо малітвы да сіняў глыбокіх,
да вясьняных жывых перазвонаў
ў небасяжнай нябёснай старонцы....

Равіч, 1936

## ЧАСІНЫ ТВОРЧАСЬЦІ

Растуць у лесе вершы ўвечары...
Разьлёгся лес імхамі, плесьняю.
Іду сьцяжынкай няпрыкмечанай
і цешу сэрца новай песьняю.
Нялёгка йсьці празь нетры слоўныя,
якія йлгуць, тварыць нязнанае,
і рытмы праставаць няроўныя,
і рыфмы узьдзіраць дзірванныя,
шукаць мэтафары разьменнае
у думках — жоўтых пылных хронікаў,
і ў словы выліваць штадзённыя
глухія гутаркі сасоньнікаў...
А ўсё-ж,
люблю тварыць я ўвечары!
Цямнее лес сьцяною точанай...
Іду сьцяжынкай няпрыкмечанай
па ймхох, расой вячорнай змочаных.
Туман кладзецца між хваінамі,
трасуць асіны пазалотаю,
і цягне вільгацяй лагчыннаю,
вадой стаячай і чаротамі...
Ўнізе, смалой наліты чорнаю,
ляжыць ставок, затканы плесьняю.
Іду, ў ваду гляджу вузорную,
і цешу сэрца
новай песьняю!

Равіч, 1935

## АСЕНЬНЯЯ ЭЛЕГІЯ

Дзень устаў яснай цішай
над сьцішаным полем асеньнім,
усьміхнуўся пажоўклым асінам
празь сіні, настылы туман,
растапіў асьцярожна
ў барознах залеглыя сьцені,
а тады...
зашумеў у лазе,
балазе загулялы цыган.
Закруціласся слупам рыжавым
іржавае лісьце ігрушаў,
загула разнаструнна
над руняй іглістай імгла,
усё ён, дзень,
у палёх пагартаў,
расьцягаў, разварушыў,
пахам восенскім, моцным,
урочным, упіўся, відаць.
На пажоўклыя дрэвы
з напевам хрыплівым зваліўся,
пакрышыў, пераблытаў
пабітыя пальцы сукоў,
а пасьля...
уздыхнуў і уміг
пераціх, занямеў, засмуціўся,
лёг на ўзьмежку нязручна
ў ванучах зрудзелых лістоў...
Так і ў нас
перасьціхнуць калісьці,
як лісьце, парывы, змаганьні,
прамінуць усе праўды,
папраўдзе пайрвуцца, як ніць,
азірнёмся назад,
на бязладныя сьцені,
хаценьні, жаданьні,
ляжам з восеняй сьлёзнай
ў барознах сьлізкіх
супачыць...

Равіч, 1936

## ПРЫЗАБЫТАЕ

Ад палёў паўзе холад восені.
Над рудым жніўём, над пракосамі
ймгла зьвіваецца.
Ў сон зямлі сырой, цяжкі, змораны,
сыпле дробны дождж зярнё спорнае,
увіхаецца...

Час праз пальцы йдзе ніткай шэраю,
ніткай шэраю яго й мераю,
йрву ды блытаю.
А здалёк, з павучыньня няпамяці,
устае, каб ізноў мяне раніць —
прызабытае...

Равіч, 1936

## ФЭСТЫВАЛЬ

Слата... Асеньняе зьмярканьне
глядзіць вачмі сьляпымі ў змрок,
дзе парудзелым, мокрым зданьнем
плывуць бярозы празь пясок.
Плывуць і белымі рукамі
ірвуць густы, густы туман,
а над слатой, над туманамі,
нябёс палатаны рызман...
Бязьлюдпай пушчай выдаюцца
нябёсы, сінія даўней,
у сьценях восенскіх, у пустцы,
штораз пусьцей, штораз цямней.
І толькі рад бярозаў нема
з вачэй сьляпых страсае жаль...

Спраўляюць восень, ноч і цемра
глухі, распачны фэстываль.

Равіч, 1936

## КАЛІ СКОНЧЫЦЦА ДЗЕНЬ

Толькі ўночы жыву я душою узьлётнай,
аб якой гэтак часта ня помню зусім,
і зайздросьціць магла-б тады качкам дзікім,
што ўзьнімаюцца з крыкам над сонным балотам
рухам вольным і дзіўна мяккім.
Я ляцела-б за імі над пасмай зялёнай
шэрым крыльлем касіць парудзелы чарот,
я пазбыцца хацела-б клапотаў, нягод,
як той дзень, што ў прадонныя, зорныя тоні
адплывае над плесьняй балот.
Але тое, што збуджана, сьцішыць няможна,
супраць волі, а сэрца начамі гарыць,
супраць волі, ўсё лёгкім здаецца згары,
хай у цесным жыцьці, як за кратай астрожнай,
так няўдзячна, так цяжка тварыць!

Равіч, 1936

## ВЯЧОРНЫ АБРАЗОК

Вятраны змрок... Старыя вербы
над рэчкай пранікамі пяраць
па шэрай воднай палатніне.
Ўгары, праз хмараў рэдкіх шчэрбы,
зіркае месяц круглатвары,
зялёна-сіні.
Зіркае ў цемру, што лагчынай
паўзе і вільгацяю сьвежай
дубцы лазы надрэчнай мочыць.
А вецер трэпле балачыны
ўгары раськіданай адзежы
і ў ноч валочыць...

Равіч, 1936

## НОЧНЫЯ ГАДЗІНЫ

Ліжа страх няжывое аржоньне
і хінецца да межаў рызманых.
Сенажаць балацяная тоне
ў фасфарычна-зялёным тумане.
Ледзь кульгаюць самотнай дарогай
зданьні бурыя - вольхі старыя.
Пуста, вусьцішна й глуха...
Нічога,
зараз цемра ўсё чыста пакрые.
Ноч расьцягне паўцені на межах
пачарніць фасфарычныя хмары,
вецер песьняй глухою, начлежнай,
разварушыць альшэўнік няздарны,
пойдуць вольхі самотнай дарогай,
а над шляхам іх цёмным, нізінным,
белы месяц бліскучым нарогам
ноч парэжа на ськібы-гадзіны...
Паплывуць яны, ночы гадзіны,
недзе ў цемру бязмэтнай штафэтай.
Ня стрымаеш, ня вернеш, ня спыніш
іх – нязнаныя дзеці сусьветаў...

Равіч, 1936

## ХВОРАЯ ВОСЕНЬ

Дождж імжыць ужо некалькі дзён,
і на сьвеце так нудна і шэра.
На асеньні дурны забабон,
як на грыпа, зямля захварэла.
Хрыпла плача з-за мокрых вуглоў

і трасецца асінавай трасцай,
жоўтай пенай асьлізлых лістоў
у далечы плюе, дзе удасца.
Будзе гэтак туляцца, стагнаць,
пакуль лёд не сатне яе сіні,
пакуль сьнежань ня прыйдзе ёй даць
сьнежнабелы драбок асьпірыны.

Равіч, 1936

## ВУГОРСКІЯ ЙСКРЫПКІ

Да шыбаў ноч ільгне вільготнай, жоўтай мглою,
ў жмутох лісьця чагось шукае шамятліва
і, не знайшоўшы, дзьме ў каштаны песьняй злою,
плюе на плямы шыб дажджом — сьліною шклівай...

Пад столяй радыё гудзе, як рой, музыкай,
дрыжыць на шкле вакон, як звонку дождж і восень,
вугорскіх скрыпак плач, зыркі, гарачы, дзікі.
Так пуштай залатой імкнецца навальніца,
так рэжуць шэрасьць хмар ліпнёвыя грымоты,
й зялёны, шумны дождж прадзе ў паветры ніці,
а йскрыпкі — ўсё пяюць гарачай, шчырай нотай...
Высокі, сьветлы тон пярэчыць дню пустому,
вядзе мяне з жыцьця па залатым праменьні,
і плача, хай праз сьмех, і мкнецца строма, строма,
зьмяніўшы ноч і дождж у сонца зігаценьне!

1936

## АСЕНЬНЯЮ ЦІШАЙ

Над мутнай вадой каляінаў,
над бураю гонтаю дахаў,
у страху
калматыя елкі
зь імглістага хутра галінаў
выцягваюць сінія пальцы
у цёмнае неба...
ў кацелкі
там зоры гуляюць, як мальцы:
блісьне, загарыцца, сарвецца,
пакоціцца зорка —
і зьгіне.
Здаецца, на мокрай галіне
завісьне, згарыць, расплывецца.
І ўзноў супакой, і сіня
і зорна
у небе прасторным,
як можа быць толькі у вышы
асеньняю цішай.

Равіч, 1936

## ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСЬНЯ

Дзень пусты і крыклівы прылёг цішынёю на межах.
Трэскі смольныя вечар у хмарах сівых запаліў.
І над жоўтым натоўпам асін у рызманнай асеньняй адзежы
горкі дым смалякоў туманамі паплыў і паплыў.

Гэтак ціха й чароўна-прыгожа ўсё ў белых абыймах туманаў...
Дзіўным, казачным морам пад ногі плыве сенажаць...
Скуль бяруць вечары гэткі змрок і густы й серабраны,
і ці можна у словах іх чар нявыслоўны аддаць?

Але прыйдзе мой дзень, і знайду я патрэбныя словы,
тыя словы, якія цяпер не пачую ніколі й нідзе,
буду ўмець і чмялямі гусьці ў раззалочаным цьвеце ліповым
і шаўковай шасьцець асакой на зялёнай, зацьвілай вадзе.

Ўсё папраўдзе скажу я тады, для сябе не пакіну нічога,
ўсе памылкі, ўсе ўзьлёты зьлічу і расою рассыплю ў лагох.
Доўг жыцьцю заплачу, рэшту з добрага, рэшту з благога,
паспрабую аддаць яму, хай ня зьлічу, ці ня ўспомню ўсяго.

Раскажу аб мяцеліцах ночных, няспаных да раньня гадзінах,
супакоі асеньніх зьмярканьняў у яснасьці сплаканых зор...
А ўсе словы у песьню злучу я прыпевам нязнаным, адзіным,
а ўсе песьні – ў вадзін, шчэ ня чуты, магутны аккорд!

Зашумяць, запяюць у аккордзе мядзяныя хвалі калосься,
пахінуцца зялёнай сьцяной, загалосяць вяршаліны дрэў,
туманамі заплача над жоўтымі пожнямі восень...
Лебядзінаю песьняю людзі ахрысьцяць мой сьпеў!

Равіч, 1936

## МЕСЯЦ

Месяц мокры і срэбны вылазіць з балота...
Расьхінаючы гушчу пасохлых чаротаў,
панад чорнай вадою, бліскучы й харошы,
лічыць золата жоўтае, золата грошай,
і кідае мядзяную рэшту нядбала
у сьлізкую ваду, дзе ўжо скарбаў цімала.
За балотам, за шляхам, пад цёмнай сярмяжкай
горад дыхае хрыпла, задышліва, важка...
Ў вечным грукаце, скрыгаце й стогне каменным,
лічыць грошы, ці грошы шукае нязьменна,
а бліскучую рэшту, зусім бястурботна,
гэтаксама шпурляе ў сьлізкое балота...

1935

## НА ПРАДВЕСЬНІ

Шэры дзень пазірае ў вакно
шэры дзень, як той пух на вярбіне.
Пуста, сіня
і туманна ў палёх навакол.
Ручаінамі звоняць равы
пад лазою, налітаю сокам.
Гэт, высока
ў даль сівую плывуць журавы.
І хоць сьнег яшчэ ў лесе ляжыць,
хоць з-за хмар льлецца жаўранка песьня,
ўжо прадвесьне,
і так хочацца цешыцца й жыць!

1936

## НОЧ

Ад зораў — аж бела.
З паднебнай ральлі
ноч пільна, ноч сьмела
глядзіць у палі.
Лільлёва й зялёна
дыміць сенажаць,
дзе мокрым пласконьнем
туманы ляжаць.
Разбуджаны месяц
павіс на гальлі
і пальцы, ўсе дзесяць,
камлі абнялі
так моцна, так шчыльна,
што сьцішаны ўздых
скаціўся у шыльнік
з хваін маладых,
пайрваў, расьцярушыў
бель месячных кос
і, ўзноў непарушны,
прыйльгнуў да палос...
Боль, горычы, наўды,
зьляцелі дзесь проч.
Ілгуць усе праўды, —
адна праўда — ноч!

Равіч, 1936

## АХРЫСЬЦІЎ МЯНЕ НЕХТА Ў ЗЯЛЁНАЙ ДУБРОВЕ

Не ў царкоўцы малітвай, сьвятою вадой, —
ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.
Як паганін,
я пушчы пяю залатой,
разумею палёў васільковых размовы.
Да мяне
ня зь імглой, ня з мутой ручаін
надыходзіць вясна, і ня сьнегам шчарнелым, —
мне сьмяецца яна жоўтым пухам вярбін,
срэбным звонам жаўронка ў палёх зарунелых.
Не сьпякотаю й лета мне дыхае ў твар,
не вятрамі красу абівае з чарэсьняў, —
каласістая ніва —
адвечны пясьняр —
залатыя, гарачыя сьпеліць мне песьні.
Восень зноў —
не залой, не сьцюдзёным дажджом,
ня тугою цягучай душу маю раніць, —
мне яна павучыньне пляце над мяжой,
сном ціхім на сівое кладзецца аўсяньне.
І зіма —
не марозамі страшыць мяне,
не сьляпою мяцеліцай засьціць мне вочы, —
над сьнягамі, на сінім нябёс палатне
распаляе яна серабраныя ночы...
І заўсёды,
заўсёды паганскай жудой
маё сэрца сьціскаецца ночай зімовай.

Не ў царкоўцы малітвай, сьвятою вадой, —
ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.

Равіч, 1936

## ПАЭТ

Сьвет гарыць...
Патайком і адкрыта
б'юцца людзі... Ня зьлічыш нязгод...
А над сьветам, маною спавітым,
восень жоўта цьвіце, як штогод.
Ты, паэт,
хоць і бачыш пажары
дзесь здалёк, хоць і ты барацьбіт,
але, ўпіўшыся восені чарам,
лічыш вершаў разбуджаны рытм.
Сочыш сьцень балачын над аўсяньнем,
сінім змрокам малюеш палі...

Для цябе сяньня
гнеў ці змаганьне —
паза межы жыцьця адплылі.

Равіч, 1936

## ЗАМІЖ МЯНЕ

Я —
    ня жыву вясной...
Рунеюць сенажаці,
курэе сіні дым над кратамі палёў,
і за мяне
цьвіце над шэрай пасмай гаці
празрысты, белы пух вярбін і тапалёў.
Я —
    й летам ня жыву,
бо за мяне сінеюць
у полі васількі й хінуцца каласы,
і жаляцца-пяюць на жоўтых пожнях жнеі,
маёй
зыркой тугой дрыжаць іх галасы.
А ўвосені узноў —
заміж мяне асіны
чырвоны гасяць жар у рэдкім тумане,
і плача дробны дождж так нудна, нясупынна,
па сонцы і вясьне,
але...
        заміж мяне.

Равіч, 1937

## МАЛАДЫМ ПАЭТАМ

Вам дадзелі пакора, цярплівасьць і Бог,
як старцы, вы па шчасьце ня цягнеце жмені.
Вершы вашыя пугамі б'юць па людзёх,
агнявымі маланкамі паляць сумленьні.

Я-б хацела гарэць і змагацца, як вы,
разам з вамі каваць так чаканае раньне,
але дні мае іншыя маюць правы:
сыпкім золатам ліпаў маняць і цыганяць.

Мае дні
        над аржоньнем цьвітуць туманом
і плывуць серабраным у даль павучыньнем,
і зьвіняць алавяным асеньнім дажджом,
і ў лясох верасамі мядзянымі стынуць.

Нібы жоўтая восень,
                    стаю над жыцьцём

і гляджу на яго,
хоць навокал — змаганьне.
Мае вершы —
над сонным балотам трысьцё,
ймгла сівая асеньняга раньня...

Равіч, 1937

## СЯГОНЬНЯ

Мне кажуць, што пісаць заўсёды, ўсюды можна.
Папера, алавік, натхненьне... верш гатоў.
Паэт, абы прысеў, а верш змайструе, зложыць,
з радкоў, як зь сена, ўмірг патрапіць ськідаць стог.
Але пра што пісаць?
Прарокам быць па часе,
нізаць каралі рос, вянок асеньні віць?
Пажарышчаў дзікіх мой верш і так ня згасіць,
ня змые з душ людзкіх пурпуравай крыві.
Дапраўды, што пісаць і заўтра,
і сягоньня?
Трупоў не ўваскрасіш санэтам аб вясьне...
Сягоньня
кожны верш хаўтурным звонам звоніць,
найлепшай рыфмай рот галодны не заткнеш...
Пісаць аб салаўёх, аб сьнежнай белі вішняў?
Замоўклі салаўі пад медны рык гармат,
а белы вішняў сьнег таксама сьмешна лішні, —
сталёвы, гойстры штых напіша вершаў шмат...
Няхай-жа сьвет гарыць, хай плавіцца у горне
грымотных новых дзён, куецца, як нарог.
Нарэшце мо й паэт харэі, ямбы згорне,
і зноў пачне пісаць, гусьлярыць...
Даў-бы Бог!

Менск, 1941

## ПЯСЬНЯР

Трэба быць песьняром і цяпер,
калі дзень наш —
ізь сьмерцяй братаньне,
калі ночы, як ранены зьвер,
дзесь па норах залізваюць раны.
Не,
паэт не матыль — у вагні
па-матыльлю апальваць крылы,
на пажарышчах плесьнець і гніць
ён ня будзе...
Паэт-жа — асілак!
Ці-ж ня ён
з трапятаньня асін
укладае асеньнія песьні,
ўмее словам бліскучым скасіць
рунь увесну,
чар казачны зьдзейсьніць?
З чаду,
з шэрага дыму руін,
зь віску куляў, гарматных грымотаў
ён, падумаўшы, выплавіць гімн

гэткі-ж жудасны, гэткі-ж сьмяротны.
Загрыміць новы гімн, шугане
аж у неба крывавай пагоняй,
сэрцы чорнай дугою сагне...
Трэба-ж быць песьняром
і сягоньня.

Менск, 1941

## ПАЛЕГЛЫМ

Дзень гас цьмяным агнём прыкручанай газьніцы...
Асеньні раньні змрок папоўз, кладзецца ніцма
на бурае лісьцё, на мох руды...
Глядзі —
бляшанай конаўкай, прыпаўшы да крыніцы,
сьцюдзёную ваду п'е прагна маладзік.
Іду паволі ў змрок насустрач першым зорам...
Над пусткаю палёў атрад варонаў чорных
узьняўся, завірыў...
Цяпер ім слаўна жыць!
Яшчэ часіна — й ноч у сетку цемры згорне
мяне, і іх, і хвой зламаныя крыжы...
А ўсюды —
тут і там — ня хвояў верхавіны,
ня спаленыя пні — ваенным днём даніны —
запраўдныя крыжы растуць уздоўж дарог.
Пад крыжам, бяз крыжа, падцятаю галінай
на жорсткі, гойстры жвір спаць ці адзін прылёг...
Зьмяшалася зь пяском чупрына маладая,
боль выпіў сінь вачэй і сьвежых вуснаў кроў.
Васковаю сьвячой над імі восень тае,
і сьніць
адзін пра Рэйн, а іншы — пра Дняпро.
Ня рупіць іх нішто... Жахлівыя змаганьні,
магутны чар вайны, крывавыя сьвітаньні,
больш не хвалююць іх...
Яны прайшлі свой шлях.
Але, йдучы на бой паўзь лянішчы, аўсяньні,
палеглых успамін нясуць сябры,
як сьцяг.
Усьцяж растуць крыжы пры ўзбураных дарогах.
За працу для сярпоў, за працу для нарогаў,
за шчасьце й супакой няспынны бой ідзе.
Пахучай сьвечкай з воску залатога
канае
над палеглымі
асеньні дзень...

Менск, 1941

## ТАМ НА ПОЛІ

На куроснах селі на заходзе хмары
Ходзіць жоўты вецер, ходзіць па імшары,
зьнізвае на нітку кроплі журавін...
Пахадзіў-бы, вецер, ты валей па полі,
назьбіраў-бы ягад сакавітых болей, –
поўныя далоні людзкае крыві...
Ой, кіпіць там праца, аж даешся дзіву!
Уздоўж і ўшыр знарады барануюць ніву,
танкі прыбіваюць, баразьняць – штыхі.
У пыл зямлі нясытай спраўна, спрытна, ўмела
сеюць, сеюць зерня – маладыя целы,
спадзяюцца плёну – каласоў важкіх.
Дробны дождж асеньні ўсмак зямлю напоіць...
Прарастуць зярняты чорнаю тугою
на шырокім полі, у людзкой душы.
Не накормяць жытняй лустаю сіротаў,
не загояць ранаў лекамі, пяшчотай,
не патрапяць вочы матак асушыць...

На куроснах селі на заходзе хмары...
Распачаць,
жахацца,
наракаць,
пляткарыць, –
не паэтаў справа, не пясьнярскі тон.
Хай і рунь узыйдзе, хай і плён дасьпее, –
будзем вершам латаць проразі падзеяў,
спатыкаць спакойна
кажны новы скон.

Менск, 1941

## АСЕНЬНІ ВЕЦЕР

Асеньні вецер зноў гайсае
па жоўтым лянішчы палян.
Мятуць бярозы валасамі
нябёс запылены дыван.
Лісьцё рабін, крушыны, бэзу
палае медзяй і вагнём,
над сьвежым ворывам гарэзіць,
вае зь ветрам вараньнё.
І дзіўнай соладзяй кладзецца
зноў на душу асеньні дым,
гарыць пявучым смуткам сэрца,
як плаўкім золатам – сады,
бо страсянула раньнем сінім
зь сябе я даўных спраў цяжар,
знайшла свой шлях...
Іду з краінай

пад новы плён араць папар.
І хоць упарта, аднастойна
пляткарыць вецер у гальлі,
няхай на сэрцы неспакойна, —
я веру ў лёс свае зямлі!

Менск, 1941

## У СОНЕЧНЫ ДЗЕНЬ

Я зачэрпнула сягоньня
жменю сонечных праменьняў
і гуляла зь імі доўга:
перасейвала ў далонях,
рассыпала на каленях,
зноў зьбірала, каб ня стылі,
яны-ж
пахлі хмельна, сонна,
сяньня выбраным пласконьнем,
і было так люба, міла
расьсяваць іх жоўтым пылам.
Сьвет здаваўся сіні, сіні,
і бязьвінны, як калісьці,
лятуцелася, што з сэрца я магла-б,
нібы асіньнік,
стрэсьці жах штадзённай сьмерці,
ськінуць жаль пажоўклым лісьцем,
што магла-б разблытаць шэрасьць,
нашых дзён, пачаць ад старту...
І яшчэ хоць раз даць веры,
што жыцьцё чагосьці варта!

Менск, 1941

## ХОЦЬ УСЮДЫ РУІНЫ

Падыйду незнарок да вакна,
гляну —
ўсюды руіны, руіны...
Дзень асеньні з хмурын цярушыць
дакучлівай сівою кастрой...
Што рабіць,
каб забыцца вайны на малую, малую хвіліну,
змусіць сьветлыя казкі пісаць
паслухмянае ўчора пяро?
Хіба досыць і жаху й тугі,
досыць слацца пад ногі каберцам,
замятаць валасамі зямлю,
сыпаць сьлёзы — рабінавы цьвет.
У грудзёх маеш толькі адно
неспакойнае, людзкае сэрца,

за ўвесь сьвет,
за ўсіх чыста,
за ўсё —
            не наплачацца навет паэт!
Пачакай...
перакоціцца гром,
праплыве навальніца ракою,
пралiецца краплістым дажджом,
змые з чорнай, крывавай зямлі,
з чалавечай душы спаласьне
ўсё малое, благое, дзікое,
закалыша, утуліць, спаўе
ўсё, што смуціць, трывожыць, баліць...
П'яна сонцам уп'юцца сады,
замяцеляцца сьнегам ружовым,
урачыста,
ўладарна, як гром
загрымяць і заграюць бары.
Сьвяткаваць будзем новыя дні
звонкай песьняй і радасным словам,
на шырокіх, шырокіх палёх
                                  будзем
                                            новае шчасьце спарыць.
Набліжаюцца ясныя дні з кажнай шэрай,
цяжкою гадзінай,
з кажным рэхам грымотных гармат,
з кажным крокам крывавых падзей.
Кіну-ж,
          рыну на вецер тугу,
хоць усюды руіны, руіны,
і кастрою сівой цярушыць
абыякавы
            восенскі дзень...

Менск, 1941

## АСЕНЬНЯЯ ДАРОГА

Золата, мосяж і медзь сонца дакоўвае раньнем,
не раскуе толькі ймглы, што спавіла сенажаць...
Зноў напілася зямля соннага зельля туманаў
і у рудое рызьзё лісту зарылася спаць.
Крокам, нага за нагу, цішу разблытваюць коні.
Зорная шрэнь апляла шыю і грыву й клубы.
Вецер у шкляным гальлі мерзлых шыпшыньнікаў звоніць.
Не адгукаецца даль, сытая жоўтай сяўбы...
Ціша васеньняга дня, іржавая пустка наўкола...
Цяжка даць веры,
                        што сьвет душыць за горла вайна,
цяжка даць веры,
                        што ён аж захлынаецца болем,

чорнай, гарачай крывёй,
мусіць цярпець і канаць!
Так,
    разбадзялася сьмерць,
люба ёй зрэзваць калосьсе,
ляскаць клыччом,
                вылупляць ямы вачэй без павек.
Ды не скасіць ёй жыцьця,
нат чалавека ня скосіць, —
ён —
    несьмяротны, як сьвет. Сьвет ёсьць, дык ёсьць чалавек!
А пакуль ёсьць чалавек —
                можна з крыві і руінаў
веліч ідэяў снаваць, найпрыгажэйшых за ўсё,
можна натхненна гарэць за чалавецтва... і гінуць,
каб на руінах жыцьця зноў красавала
                жыцьцё!

Менск, 1941

## ТОЛЬКІ ЎВЕСНУ

Толькі увесну бывае неба такое сіняе,
толькі увесну бывае далеч такая чыстая...
Кіну-ж у неба, высака, гора маё палыннае,
сьлёзы зьніжу на нітачку,
                хай-жа зьвіняць маністамі.
Смуткі мае між хмарамі згаснуць рудой пагараю...
Ў годы грымот, пажарышчаў, у дні змагароў і волатаў,
іншаю мерай мерыцца ўсё,
                нашы сэрцы старыя
нанава лёс перакоўвае казачна-цяжкім молатам.
Горан палае зорамі... Зоры імкнуць камэтамі,
сьвет наляту падпальваюць, гасяць жыцьці мільлёнамі...
Дзе-ж маім смуткам мерацца з плачам — тугою сусьветнаю?
Буду-ж трываць, угледжвацца ў далі палёў зялёныя!

Менск 1941

## НЯ ХОЧАЦЦА

Доўга на вуліцах ліпы жоўтае лісьце лічылі,
а палічыўшы,
                сыпнулі ў ледзьве прымерзлую гразь...
Нейк ня хочацца словам зноўку разьвязваць крыльле,
рыфмы ў далонях туліць,
сэрца тугою араць.
Так, бо пісаць і тужыць — сяньня адно, сынанімы.
Кажнае слова баліць, колець іржавым цьвіком,
з кажным зьнізаным радком зноў устаюць успаміны

ночных пажараў, трупоў, ледзьве прыкрытых пяском.
Хочацца бегчы, шукаць нейкія новыя словы,
словы, якія з жыцьця ветрам гарачым зьмялі-б
жоўтыя рукі крыжоў, шэрыя твары палонных,
целы, што гойдае ноч на шыбяніцах галін.
Дзе іх шукаць?
ці ў душы,
ці – у заплаканых хатах,
ці мо ў лісьці, што лягло ў ледзьве прымерзлую гразь?
Слоў гэткіх сяньня няма...
Вось і ня хочацца крата́ць
рыфмамі чорныя дні, сэрца тугою араць...

Менск, 1941

## СТАРЫ СЫМОН

Замялі бярозы жоўты шлях за сонцам
і сустрэлі шэра-серабраны змрок.
Бляючы, авечкі праплылі ў прагонцы,
маладзік над лесам паляваць залёг.
У палёх, у вёсцы
скончылі работу:
празванілі звонка вёдры пра удой,
прарыпелі нешта пра сяўбу вароты,
папаўзьлі кутамі ціша й супакой.
Зь ліхтаром і зь кіем, зь неразлучнай люлькай
на пярэклець моўчкі сеў стары Сымон.
Уздыхнуў... пачухаў грудзі пад кашуляй,
закурыў, каб лепей адагнаць той сон...
– Вось і маем зьмену...
Ці-ж бы хто даў веры,
што на столькі дзіваў прыдзецца глядзець?
Зьдзекамі, галечай дні і тыдні мераў
кажны ў іхнай вёсцы, век плаціў бядзе.
Вось і ён, Сымонка, – роўна сем дзясяткаў
калупаў сахою посную ральлю.
Паарала гора твар, калісьці гладкі,
сотнямі барознаў, сотнямі калюг...
Зжыў свой век дзядуля, як усім жылося –
за цара, за веру біўся-ваяваў,
сьпіну гнуў, як гнуцца жытнія калосьсе,
пражыў кастрычнік, голад і развал...
Прычакаў калгасаў...
Большы сын у горад
ад калгаснай долі на завод уцёк.
Меншы –
хоць нічога не зрабіў благога,
у тайзе сьсякае з хвоямі жыцьцё...
Сын сярэдні й тутка пражыў даволі,
учарнеў, зьнядужаў, высах без пары:

невясёла пырнік-лебяду на полі,
на калгаснай ніве гадаваць-спарыць.
Ссох і дзед памалу і адно ўжо думаў:
легчы на магільнік, у сыры пясок,
адпачыць ад крыўдаў, ад цяжараў, глуму,
ўнукам свой галодны адступіць кусок.
Ды іначай выйшла...
Загулі, запелі
цёплым сінім раньнем галасы гармат,
галашэньнем-плачам бабы да аселіц
выправілі ўзятых на вайну салдат.
Паплылі у вырай плоймы самалётаў,
ноч крывёй чырвонай хмары заліла,
папаўзло "начальства" па кустох, чаротах,
і ўздыхнула важка родная зямля...
Аджыла надзея... Яшчэ раз... Ці ўцэліць?
— Каб зь які гадочак, — б'ецца ў галаве, —
паглядзець-бы дзеду, ці з будзён дадзелых
хай крыху-ткі лепшы, а надыйдзе век.
Ды дасі-ж ты веры, каб штыхом ці куляй
хтось прынесьці шчасьце або й волю мог?
Дось крыві старому,
і зямля-матуля
ня штыхоў чакае... Ёй карціць нарог.
Б'ецца ўсё-ткі сэрца... Хочацца й старому
загрудзі узяцца зь лёсам злосным, жыць...

Вось каб толькі хлопцы ўсе прыйшлі дадому,
ды пад сінім небам не расьлі крыжы.
Ўстаў Сымон...
У неба ўзьняў старыя вочы.
Воз зь зямчужным дышлем коціць паміж зор,
млечны шлях бруіцца, ручаём балбоча,
сыпле пырскі-блескі на прыціхлы двор.
Аб халяву вытрас дзед паволі люльку,
пасмактаў, падумаў: ну і год-жа, год!
І старэчых думак раскруціўшы шпульку,
пакульгаў паволі ў ночны свой абход.
Хай спрабуе ўночы падцікацца злодзей,
хай захоча вораг дзеда спадманіць, —
хоць дзясятак восьмы за сабой ён водзіць,
хай жыцьцём наложыць — будзе бараніць!
Голас мае гучны. Ўраз узьдыме гоман,
адгукнуцца рэхам сонныя палі...
Не, не падвядзе ён, як яму, старому,
долю роднай вёскі вартаваць далі.
Сьпіць яна глыбока ў серабраным сьцені,
канапляным п'яна ўпіўшыся віном.
Можа толькі недзе
маці на каленях
плача й ловіць рэха крокаў за вакном...
Ціхама падаўся дзед пад хлеў, да коняй,
прашаптаў: "Што, косі, мо й жывы сынок?

мо да хаты прыйдзе заўтра ці й сягоньня?"
І рукой дрыжачай спрабаваў замок...
Падыйшоў пад сьвіран... абыйшоў навокал...
шэры сьцень кашэчы спудзіў на страсе...
Ціха ў сьвеце, ціха...
                                        ледзь чуваць здалёку
брэх сабачы й грукат колаў на шасе...

Пабялелі зоры... Воз зямчужны дышаль
павярнуў да ўсходу...
                                        Высах Млечны Шлях...
Вецер зь ніў па вольхах праляцеў і цішу
раскалоў надвое
гутаркай гальля.

Менск, 1941

## НЕ ЗАПЛАЧУ БОЛЕЙ

Выпраўляў із гольлем жоўты вецер гулі,
шамятліва поўзаў па страсе няўтульнай,
увайсьці у сэрца ўсё-ткі не наважыў,
хоць за поўнач думкі, чорныя, як сажа,
я віла на шпулю разам з пражай.
Навівала, прала пачась і кудзелю,
адляцела цемра з шыбаў запацелых,
перасьціхлі мышы грызьці ночы лішак,
залатою ніткай золак неба вышыў, —
прасьці не дадзела мне у цішы...
Як насыпле сонца на вакно пшаніцы, —
калаўрот адстаўлю, выйду да крыніцы,
набяру ў дайніцу серабра густога,
уздыхну у неба шчыра, каб ня торгаў
сэрцам жаль па любым ані ў хаце ніцай,
ні дарогай.
Праўда, цёмнавокі мой Габрусь далёка,
эх, адсюль ня згледзіць ні каршун, ні сокал,
праўда, рукі вісн уць у тузе павесмам, —
але прычакаю зноў хлапца увесну,
як нальлюцца лозы залацістым сокам,
сэрцу стане цесна.
Ён увойдзе ў хату, вымытую бела
сонцам і вясною, чубам замяцеліць,
крыкне: "Гэй, дзяўчына, годзе стыньма стынуць,
глянь, ужо-ж благое за высокім тынам,
ужо кроў ня пляміць ні душы, ні цела,
можна адплачынуць!
Чуеш?
            сьпяць гарматы, сьмерць ня ладзіць сьвятаў,
і ня йдзе паночы роспач сэрцы кратаць,
шчасьце — ява, праўда, не адно — надзея,
васільковай цішай Беларусь сінее,

пойдзем шчэрбы латаць,
долю сеяць!"
Сэрцу не параю, хоча верыць, знаю,
што мінецца ліха дзесь зялёным маем,
хай штаноч спраўляе сяньня восень гулі
із асеньнім ветрам на страсе няўтульнай,
і кастрывай ніткай смутак навівае
мне на шпулю.
Не заплачу-ж болей, хай журбота коле,
як іголкай, сэрца, хай туга скуголіць
пад вакном сабакам...
Што за радасьць плакаць?
Пеража́ыць патрапім мы й пяць бедаў з гакам,
але ўспыхне, ўспыхне
ўрэшце й наша доля
ў полі макам!

1941

## СПАРЫШЫ

Выйшла я серпам зубчатым
срэбра калосься крышыць.
Пахла дакучліва мятай,
я ў жыце знайшла спарышы.
Сьмехам сыпнулі сяброўкі:
"Ой, сьцеражыся, глядзі!"
Сноп я вязала, аж змоўклі,
моцна-ж вязала, наўзьдзіў...
Што-ж, каб Васіль тут на полі
зносіў за мною снапы, —
я ня ўтуліла-б ніколі
вачэй,
не баялася кпін.
Гэтак хацеў ён жаніцца,
так супакойваў мяне...
Ўсё панясла навальніца,
я ўсё адступіла
вайне.
Зьмеў, наляцеўшы на вёску,
хлопцаў вясковых віхор,
чырвань пажараў расплёскаў
усюды —
зь зямлі аж да зор...
Жудасна, доўга дымілі
гэнымі днямі бары...
Сэрца трывогаю стыла...
Няхай яно лепей згарыць!
Хай спапяляцца на попел
сэрца і ўсё у жыцьці!
Як прычакаць цябе, сокал,

сынка як табе нарадзіць?
Дзе успаміны закінуць?
Як тут прысыпаць пяском
ночы струмень цёмна-сіні,
сузор'і — луску акунькоў,
росную мяккасьць пракосаў,
здушаны шургат гальля,
дзяцельнік ссохлы у косах,
распалены шэпт Васіля?
Эх, Васілёк,
мой хлапчына,
зь кім ты начуеш і дзе?
У пыле сыпкім каляінаў,
ў цьвілым багавіньні ў вадзе?
Выпіў ты ўжо,
ці ня выпіў
чарку да дна?
Не сьпяшы...
Пахнуць дакучліва ліпы.
Я ў жыце
знайшла спарышы.

Менск, 1941

## МАЦІ

— "Годзе-ж плакаць, ну, дось — сягоньня,
ці мо заўтра, а прыйдзе сын.
Ен напэўна даўно ў палоне...
Годзе-ж плакаць,
чакай вясны!"
Гэтак кажуць табе суседзі,
гэтак ты запаўняеш дні...
Але-ж ночы?
Як іх праседзець?
Як іх зьвесьці, як спадманіць?
Чорны твар яны шчыльна туляць
да затканых марозам шыб, —
пачынаеш дзіўныя гулі
з успамінамі з дна душы.
Ўспамінаеш яго галоўку
у калысцы, і першы крок...
Падпаўзае галодным воўкам
боль,
высмоктаваць з сэрца кроў.
Ўспамінаеш трывожны дотык
кволых, цёплых дзіцячых рук:
— Мама, мама!
— Чаго-ж, чаго ты?
Не, ня бойся, я не памру. —
Ты сцалоўваеш шкло сьлязінкаў,

песьціш шоўк палавы валос,
ночы ў вочы кідаеш: "Сынку!"
А далей —
не стае ўжо слоў.
Нястрымана дрыжаць расьніцы,
пад рукамі палае твар,
і упарта,
упарта сьніцца —
паараны вайной папар,
абгарэлы нямы сасоньнік,
няўмыты зімовы дзень,
адубелыя трупы коняй,
дзіўна знаны, расьпяты сьцень...
Твар у гліну рудую туліць.
жах сьмяротны ў сівых вачах,
захлынаещца —
ой...
матуля...
А табе тут —
"чакай, ня плач!"
Зблякне ноч...
Запалае макам —
відуком балачын града...
Сны — мара́!
Кінеш, маці, плакаць,
зноў пачнеш спадзявацца, ждаць.
Але толькі па сотні ночаў,
і па сотні, ці болей, дзён,
глянеш лёсу нарэшце ў вочы,
адгадаеш яго закон.
Тады ўспомніш бязь сьлёз пра сына,
і угнешся сухім трысьцём...
Зразумееш, што сьмерць, руіны,
гэта ў будучыні —
жыцьцё!

Менск, 1942

## КРАІНЕ

*Прысьвячаецца ўсім зьняволеным*

Днём, што цiснуўся ў зморы да крат,
і да скону гатоваю ночай
вашы крокі гадамі дзяўблі,
узьдзіралі халодны бэтон...
Заціскаўся ў бясьсільлі кулак,
прагна ў краты ўзіраліся вочы,
разам зь вершам зрываўся, канаў
над вастрожнаю юрцай
праклён.

Вёсны кідалі вам на вакно,
на зялезныя йржавыя краты
зырка-сіняга шоўку малы,
недарэчна малы шкумяток,
лета ліпла кашуляй да цел,
сьпёкай горла сьцінала зацята,
восень —
сыпала ў шыбы, ў душу
алавяны, атручаны шрот.
Белым пылам чарэмхаў, ігруш
на вас вечар вясновы ня веяў,
цёплы вецер ня песьціў рукой
па гарачым твары, валасох...
Некаторых — сібірскай пульгой
замяла назаўсёды завея,
іншых зноў
як сабак, бяз крыжа,
жвіраваты прысыпаў пясок...
Нат і тым
што пяялі ўсяго
пра васеньнія жоўтыя раньні,
ткалі сінія вершы аб тым,
як расой асыпаецца ймгла, —
у бяскрайных палынных стапох
успамінам краіны каханай
сотні дзён,
сотні дзікіх начэй
давялося душу калыхаць!
Хто вярнуўся, хто не...
А тады —
у паветра ўзьляцела штадзённасьць,
пралілася над краем крывёй
навальніца сусьветных падзей,
і каго не зьмяла яна ў роў,
не засыпала жвірам сьцюдзёным, —
па шляхох, перарытых вайной,
ўсе зыйшліся,
мой край,
да цябе.
Дні за рукі ўзяліся, ідуць
шэрым, жудкім, глухім карагодам,
абіваючы з душаў,
з галін
цьвет вішнёвы, ці прагу жыцьця,
ўтроп цікаецца голад,
на нас
вышчарае клыччо мімаходам, —
ды жывём мы і зь ім, бо дзе Ты,
там і наш сяньня высіцца сьцяг.
Калі-ж хто адыйшоў
і ў гушчар цішкам воўкам запоўз
і чакае,

ці праменьвае важкія дні
на спакой ці на сытны абед —
ён ня наш. Без такіх
мы прыжджом
бела-бела усьпененых маяў,
залатога пяску каласоў...
Возьмем шчасьце
сабе і Табе!

1941-42

## КАЛІ

Ой, калі-ж высахне кроў,
знойдзецца нейкае выйсьце?
Ці калі тлець будзе зноў
вогнішча жоўтага лісьця,
ці калі прыгаршчы зор
сьнежань сыпне на узьмежжы,
ці калі сонца лязом
год напалам перарэжа?
Мо тады сьціхне дыміць
смутак і нашы і печы,
можа адвучымся мы
позіркам кідаць за плечы,
можа заўмеем сягаць
зноў неаглядна у зоры,
мо з нас нарэшце туга
вечную змые пакору?
Белак пенай вясна
плешча на шэрыя брукі...
Сны нецьвярозыя сьняць
лозы, раськінуўшы рукі,
важка, паволі ў душу
капае сонечны солад...
Я-ж
 раўнадушна пішу
словы, што навет ня колюць.
Ціха скрыголіць пяро
звоніць зялёнае лісьце...
Ой, калі-ж высахне кроў,
знойдзецца нейкае выйсьце?

Менск, 1942

## ВЕЧАР

Змрок папэцкаў куты і парог,
пачыркаўшы іх чэрняй крэсак,
падпаліла бабуля стог
кучаравых, пахучых трэсак.

Сьцені кінуліся пад столь,
забубнілі крыламі ў вокны.
( А мо гэта ня сьцені — боль
шэрай прэляй на шыбах мокне? )
Пазяхаюць у куце багі...
Пахне хлебнай кісьлёю і потам.
Моўчкі ўём мы тугу на калкі,
цягнем, цягнем душу
з калаўротаў.
За ільняную нітку даўжэй
цяпер доўгія, чорныя ночы.
Во й зыходзіцца прасьці кужэль
да бабулі
ўвесь статак дзявочы.
Ўецца, ўецца, ня скончыцца ніць,
завіхаюцца пальцы, аж млеюць...
Толькі думак ніяк не зманіць —
плачуць, скачуць вірлівай завеяй.
Сумна... Цяжка...
У Зоські браты
недзе ў вырай крывавы зьляцелі.
Ганька — паліць у сэрцы масты
за аднэй векапомнай нядзеляй...
У Агаты — мужык на вайне.
Тыдзень толькі жылі, дык ня сточыць
успамінаў, і трызьніць у сьне
аб пахучых чаромхавых ночах.
А ў мяне...
ные, ные нутро:
"Не, ня прыйдзе наш Янка ніколі,
ўжо даўно нат ягоную кроў
восень жоўтым абцерла прыполам".
Янка, Яначка, галубок,
на каго-ж ты нас тут пакінуў?
І ўзноў сыплю ў кудзельны мох
я сьлязьмі — ільняной мякінай...
Есца ў вочы хваёвы дым...
Уздыхае бабуля пры печы...
Колькі-ж, колькі віхор вайны
сэрцаў людзкіх разьбіў, скалечыў!
Ня стрываю, пайрву, пайрву
плач глухі калаўроту і нітку,
зарыдаю, ўтулю галаву
у бабуліну шэрую сьвітку.
Заміргаюць багі у куце...
Гляне бабка на смутак іх скоса,
нахінецца, папесьціць, спляце
каласьсё маіх сьпелых косаў...
— "Годзе, ўнучка, ня плач, ня плач,
я — дапрала жыцьцёвы кужаль...
Давялося мне — і выбачаць,
і прасіць, і цярпець, і надужаць...

Не хаўтуры наш кон,
дый ня баль,
кон гарачы і дымны горан.
Хтось куе там і сьмех і жаль,
перакоўвае наша ўчора.
Трэба жыць,
аж зжывеш свой век,
не сьпяшацца
і не марудзіць...
Шчасьце, ўнучка, не салавей,
ноч у ночку пяяць ня будзе!
Але ведаю я адно:
чуе сэрца, трымціць старое,
што ня пойдзе наш сьвет на дно,
хай найгорш — час усё загоіць...
Не надарма пад віскат куль
кроў сьцірае там недзе восень.
Дзеткі,
сьлёзы ды боль зь пяску
залатым узрастуць калосьсем.
Ськінем з плеч разьвітаньняў цяжар
і забудзем гарматны рогат...
Хай ня нам, але-ж прыйдзе год —
засьмяецца зноў сьвет... Так,
зь нічога!"

1942

## ЯРЫЛАЎ КОНЬ

Прывыкла сэрца ўжо даўно
да гарадзкое каламуты.
Бадай што кпінай ці маной
здаецца ў полі ветраў тупат...
Ня помніш неяк між руін,
у чорных пастках пажарышчаў,
што дзесь вясна ў палёх бруіць,
вясна —
якой ніщто ня зьнішчыць!
Так,
забываешся: жыта
ўжо дзесь туман зялёны веюць,
плывуць, і гнуцца, і шасьцяць,
і хлебам пахне мякіш глею...
Ня йдзеш сачыць,
як сіні квас
жыцьця з лагоў плыве расьцьвілых,
як у ярыны на папас
імчыцца белы конь
Ярылы!
Ня чуеш, не,

як ён храпе
і б'е падковай серабранай,
як быццам брагі не пасьпеў
напіцца сонечнай адрана...
А ўсё-ж, хай так...
Зямля! Зямля!
Пахучы вецер зь межаў сьвежых!
Жаўронкам сэрца я узьняць
хацела-б з вамі у бязьмежжы!
А там
у сонечны пясок
занурыць крыльле і забыцца,
што на палёх баёвых лёг,
лёг перад сьмерцяй сьвет наш —
ніцма.
Чакай!
Ярылаў белы конь
Праменьмі, ўплеценымі ў грыву,
прапаліць сьмерць
і сьпеў падкоў
абвесьціць сьвету дзень шчасьлівы.
Ці сяньня будзе гэта, ці
тады, калі ўжо зложым крылы —
ня нам гадаць,
але зьляціць
калісь бяду скасіць Ярыла!
На край зьнямоглы,
на людзей
сыпне ён сонечныя стрэлы.
І расьцьвіце, і загудзе
жыцьцём
пустэча пагарэлішч!

Чырвень, 1942

## ЗОРЫ СІТЦА

*Пока не требует поэта*
*К священной жертве Аполлон,*
*В заботы суетного света*
*Он малодушно погружен.*

Пушкин

Ці-ж гэта так,
скажы мне, сьвет сьляпы й зайздросны?
Скажы, ці хто душу паэта раскусіў?
Што й як рабіць, што піць,
як есьці й плесьці косы,
каб сьвет сказаў:
"Але, о, ён паэт наўзьдзіў!"
Што-ж трэ рабіць?
забыцца й вусны сьціснуць,

як пальцы, у бядзе,
згасіць вачэй агні?
Бяз сонца, ў цемры дзесь
сьпяліць тых вершаў вішні,
хвальшыўствам гандляваць,
а шчырасьці — ані?
— Паэт-Надчалавек, і піць ваду далоньмі,
як кажнаму, зусім няхораша яму, —
пачуеш тут і там, —
абраньнік зорных тоняў
ці-ж можа ўсмак смактаць жыцьця зямнога муць?
— "Зямная муць, — скажу ў вадказ я, —
гэта шчасьце
адзінае, што мы тут маем на зямлі.
У ёй і пекла — й чар,
праклён — і сонца,
снасьці,
зь якімі слоў званы паэты могуць ліць.
І каб паэтам быць,
дык трэба ўсіх крыніц напіцца,
а не хавацца ў змрок
і не ўцякаць ад іх...
Таму я і гляджу ўначы у зоры Сітца,
Напіцца ўсмак хачу ўсіх радасьцяў зямных!"

Менск, 1942

## ПАСЬЛЯ БУРЫ

Загрымела,
відаць, на "бывайце" у полі...
Уздыхаючы хрыпла, між зблытаных зёл
адпаўзае ў бязьмежнае хмара, паволі
падымаючы цяжкі, намоклы прыпол.
Над чупрынай хваінаў чырвоным алоўкам
нехта цёмнае неба чыркнуў яшчэ раз.
Вецер срэбныя кроплі пасьцягваў з чаромхаў
і павёў у вячорную даль — на папас.
Я злавіла адну зь іх...
Заціснула ў жмені,
ды сплыла паміж пальцаў яна няўпрыцям.
Не злавіць,
ня ўтрымаць,
белым хмелем ня ўсьпеніць
і няўлоўнае шчасьце людзкога жыцьця!

Менск, 1942

## ХТО ЁН, ПАЭТ?

Хто ён, паэт?
Біблійны мытар,
прарок натхнёны, сьвету лекар,
ці чалавек з душой,ускрытай
лязом хістаньняў, скрозь нясыгы
жыцьця і сьмерці,
славы, зьдзеку?
Мячом ягоным
шэпт ці крыкі?
Пра што і як пісаць ён мае?
Лавіць нябёс вясновых зыкі
ягоны кон,
ці сьвету сыкаць
у твар за зло, за злыдні лаяць?
І трэба-ж слоў баяцца сяньня?
Той кажа:
час спаліць, падзерці
стары канон вершаскладаньня,
бо не краса, ня мроя паняй
у век крыві, агню і сьмерці.
Не замалюеш долі сьвету
цяпер вішнёвай пеннай беляй,
жыцьцё — зусім не акварэля,
і ў час вайны не да санэтаў,
не да мадоннаў Рафаэля...
Той зноў —
з кута шасьціць другое,
узьвёўшы вочы дзесь у хмары:
— Пясьняр, — мастак паўтонаў, мрояў,
ён гнойных ран людзкіх ня гоіць,
на бруд ня квапіцца,
ён — марыць.
Яго стыхіяй — неба тоні
ці чар мядзяных лістападаў,
ён на ўспалох як звон ня звоніць,
ён ня грыміць...
а як сасоньнік
шасьціць ціхой і мудрай радай...
Вось суд людзкі...
каго-ж зь іх слухаць,
куды ляцець,
зь якою плоймай?
Ці нінашто ня весьці вухам,
ці йсьці, плысьці з усіхным рухам,
шалее сьвет, — шалець падвойна?
Што, што пачаць, каб быць заўсёды
на грабяні чароднай хвалі,
каб чуць сябе —
душой народу
заўжды

ў зару, і у нягоду,
што-б сьвет ні гуў,
што-б ні казалі...

І ці калісь
хтось
слова кіне,
што песьняра, як сьлед, асьвеціць,
якіх даць вершаў, ветраў, плыняў,
каб сіня ўрэшце, сіня, сіня
было і ў сэрцах
і на сьвеце!

Менск, 1942

## З ВЫРАЮ

Як засмаглы за песьнямі шчыгел,
прыляцела із выраю й я...
Зноў ступаю няўмытай Нямігай,
зноў сугуччамі думкі пыляць.
Так іх шмат,
што ня зловіш рукамі,
у вадмераны рытм не ўвагнеш.
Белай брагаю пырскае, пляміць
твар мой
першы, йшчэ восенскі сьнег!
Сэрцу цесна у сетцы адзежын,
столькі сілназьбірала я ў ім!
Сяньня —
ўсе я пазносіла-б межы,
сяньня —
ў пекла пайшла-б, як у дым!
Гнуць сьпіну прад бядой —
перажытак,
шчэ дурней —
шчэцяй руннай дрыжэць...
Не баяцца давайма,
а жыта
нашай долі высьпельваць баржджэй!
А як кон напару і ударыць
кулаком алавяным з пляча
па вятрамі распаленым твары —
шкода сілаў і сьлёз —
распачаць!
Лепей жылы сухія напружыць,
сьціснуць пальцаў пругкіх пяцярні —
міма сьцежак чужых
і калюжын —
выйсьці шчасьце сваё бараніць!

Менск, 1942

## ВОСЕНСКІЯ ЧАРЫ

Сярэднявечны маг-альхэмік
у васіньнік
зашыўся... Падаслаў
пад ногі шэры порт –
зь іртуці ймглы,
зь іржы
зьмярканьняў нясупынна
скарб плавіць залаты,
што жоўтым лісьцем стыне
на дне лагчын – сівых, запыленых рэторт.
І столькі ўсюды іх,
тых залатых крупінак,
на гладкіх шыях ліп,
на пальцах тапалёў,
у валасох асін і увушшу калінаў, –
што куляй залатой
пакоціцца і зьгіне,
здаецца,
навет дзень, што на узьлесьсі лёг!
Ды надыходзіць ноч...
І чарадзейскі тыгель
губляе неяк моц і кідае бурлець
і пеніцца й кіпець,
а сэрца мага – шчыглам
ня скача, быццам кроў
із жыл маніцца выгнаць,
але, як сьвет увесь,
сьцішаецца ў імгле...
І калі ўраньні я выходжу – кажурынай
сівой акрыты сьвет,
трапеча сьнежны пыл
і туліцца да губ,
што на марозе стынуць,
як быццам расьцьвісьці
камусь
маглі-б шыпшынай
яны у гэткі дзень
пануры і сьляпы!

Менск, 1942

## КРОПЛІ ЗОЛАТА ВОСЕНЬ ГУБЛЯЕ

Кроплі золата восень губляе
зь перапоўненай чары жыцьця...
Што да чараў,
дык пэўна – я ляік,
а жыцьцём я іду –
напрасьцяк.

Мо таму хіба й смагі ня маю,
хоць асеньняе пахне віно
ніто верасьнем мне,
ніто маем,
кружыць голаў зьнямогай ляной.
Жоўты сьвет
                    ім упіўся дап'яна,
я-ж
    цьвярозая ўдалеч іду.
Досыць маю асінавых панік,
сьнегападаў кляновых
                                        і дум.
Але сэрца пасвойму
і шчасьцем
і тугою няўлоўнай баліць...
Мо таму, што з сабой яго нашча
я ў рудыя забрала палі,
мо таму,
              што ў васеньняй трывозе
ёсьць атрута, нязнаная нам,
і цыкутаю жоўтаю восень
труціць нашыя сэрцы няўзнак?
Не!
    Ў паэтаў яна не пацэліць,
не патрапіць іх долу прыгнуць.
Скажуць:
              "Вішні вясной запылелі",
й кажны ў сэрцы
пачуе вясну!

Менск, 1942

## ВОСЬ ТОЛЬКІ ВЫПІШУСЯ ТРОХІ

Сьціскаць ня варта думы, словы
ў цясноце сэрца...
                              На паперы
ім павальней — мільгаюць, ловяць
адны адных —
                        якраз у меру.
Калі-ж зашмат іх набярэцца —
як там ня сьні, усіх ня высьніць,
асьвіным джалам джгаюць сэрца,
ля пясьцяў рук павесмам віснуць...
І мімаволі мроі мроіш,
і ломіш рытм жыцьця ў жаданьнях,
уцелаўляешся ў гэрояў
паэм,
          якіх няма ўжо сяньня...
Як-бы няхочачы, стаўляеш
сябе адну — у цэнтр сусьвету

і па сабе зьгінаеш бai
старых і новых запаветаў.
А дзе ні глянь —
мільлёны жыцьцяў
ірвуцца ніткай перапрэлай,
мільлёны зноў —
шукаюць сыці,
руін разблытваючы шэрасьць.
Як тут ня йсьці за імі сьледам
і як на леры ім ня бразгаць,
каб пылам слоў прысыпаць беды,
прыцяць зубоў галодных лязгат?
Вось толькі выпішуся трохі
аб жоўтых восенскіх узьлесьсях —
зноў бястурботным скамарохам
пайду руіны песьняй песьціць,
узноў пачну смуціцца штодня
чужой тугой,
душу шыпшыніць
чужой вясёласьцю й паходняй
гарэць на ветры
за краіну!

Менск, 1942

## ПЕСЬНЯ КАЛІНОЎЦАЎ

Палыном і быльлём парасьлі нашы нівы,
як ні б'ёмся, ні гнёмся над імі у крук,
плён адвеку чужынцы зьбіраюць, ня дзіва,
што канае народ твой і ты,
Беларусь!
Але годзе!
Мы ўстанем!
Ціхім раньнем, на ўсходзе,
ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару
і ў сталёвым ад кос і ад песьняў паходзе
возьмем волю сабе і табе,
Беларусь!
Каліноўскі нас кліча і агніста й зацята,
на змаганьне за сьвята для мазолістых рук,
за зямлю для аратых,
і за сонца у хатах,
за увесь твой народ, за цябе,
Беларусь!
Дык ударма, як гром, дык лінем навальніцай,
дык праб'емся-ж крыніцай
спад зямлі угару,
каб мядзянай пшаніцай мог зігцець-каласіцца
наш загон, і бязьмежжы твае —
Беларусь!

Гэй, сьмялей,
гэй, далей,
не лякаймася сьмерці!
Нашы целы і славу сыны падбяруць.
Хоць і зложым на пожнях гарачыя сэрцы,
але ты будзеш жыць і расьці,
Беларусь!

Менск, 1942

## У НАВАГОДНЫ ВЕЧАР

Рвецца,
рвецца,
пайрвалася,
зьнікла
ў хмарах неба вячорная ніць:
новым вершам я,
новым іх цыклем
пачынаю зімовыя дні.
Зоры сьнегу ськідаю з расьніцаў
(цалаваць — хай цалуюць у твар).
Кружа ў думках,
мігціць,
мітусіцца
нейкіх словаў нязьдзейсьненых чар.
Хай мігцяць...
Усяроўна зьбяру я
іх у верш ці паэму пасьля,
а цяпер...
разьмяту панад руняй
сьнегавой...
Сяньня я — ня гусьляр,
не паэт...
Павясеньняму сіня
уваччу, серабром пад дугой
заліваецца сэрца, бо гіне
год стары й Новы родзіцца год!
Можа будзе да нас ён ласкавы,
а ня гэткі — зь сьлязьмі і крывёй,
з кажным днём можа,
з кажнаю справай
праўдзівей, праўдзівей зажывём...
Пералічым крыжы
і павернем
забываць,
будаваць
і тварыць,
новай праўды прарошчваць зерне
на папелішчы праўдаў старых!

1942-43

## УСПАМІНЫ

Дзедка, чаго ты? Ну, ведама, дзеці,
вось і сьмяюцца. Сьмех іхны йшчэ танны.
Лепш адпачні тут у сонцы... На сьвеце
сяньня-ж такое блакітнае раньне!
Вецер вясновы спаўе цябе, змые
з вуснаў і горыч і... слова благое...
Досі-ж у гневе размахваць кіем,
гора, дзядуля, і так ты ня ўтоіш.
Кажаш — згадала я?
Кажаш, забралі
сына на бойню у першае-ж раньне,
йшчэ калі сонца між хмарных прагалін
жутла-чырвонай крывавіла ранай,
глуха вароты рыпелі на вёсцы,
плач маладзіцаў ірвучы на пасмы,
недзе-ж за лесам у ладкі хтось плёскаў
гулка, грымотна і страшна?
Кажаш, за ім
                    із акрайцам апошнім,
высахлым, бегла, ня зьбеглася баба,
кажаш,
            адгэтуль вось нейкая пошасьць
кіпцямі сэрца спанатрыла скрабаць?
Жвавасьць згубілі няўтомныя рукі,
прысачкам шэрым засыпала вочы,
селі на карак бяссоннай дакукай
полымем зьлітыя ночы?
Кажаш,
            быў хлопец адзінай удачай,
хіба, тваёй у жыцьці... ну й загінуў...
Дзедка, паслухай —
хто-ж сяньня ня плача
ці па бацьках, ці па сыне?
Хто ня згубіў у вірлівым разгоне
дзеяў
         ці ўсьмешкі, ці сэрца, ці шчасьця?
Эх, каму, ціснучы рукі,
                              сягоньня
гора ня крышыць і пальцаў і пясьцяў?
Толькі — што з гэтага?
Глянь у засьценкі
шэрых руінаў, прадоньні пажарышч:
сонечным мёдам, салодкім і пенным,
зноўку залоцяцца іхныя чары,
зноў васількамі красуе паднеб'е,
зноў аж заходзяцца сьмехам зялёным
лозы,
         і мякка, пяшчотна цярэбіць
вецер вясновы чупрыніны клёнаў...
Дзедка,

так будзе штагод...
І астыне,
хочаш, ці не — найдзічэйшая роспач,
і адцьвітуць пакрысе успаміны,
як пустацьвет, неўсьцярэжна і проста...
Ну, дык чаго-ж ты?
Кінь, ведама, дзеці,
вось і сьмяюцца... сьмех іхны йшчэ танны.
Лепш адпачні тут у сонцы...
На сьвеце
сяньня-ж такое блакітнае раньне!

Менск, 1943

## ТКАЛЬЛЯ

Наснавала дваццаць губак
на пасаг, на ручнікі.
Як зара чырвоным чубам
махане над бору зрубам,
паўкідаю ў бёрда іх.
Нат ня буду задумляцца,
ці пашле той кон сватоў, —
запяю і буду ткаці,
як вучыла дзеўку маці,
у дванаццаць у нітоў!
Жоўтым вокам пазірае
скрыва, скоса ў шыбы дзень....
Я пры кроснах ня гуляю,
прыбіваю, датыкаю
мо ўжо губку, мо ўжо дзьве...
Зігаціць асновы кужаль,
бы цымбальных струнаў гладзь.
Эх, заграю!
Мушу здужаць!
Чаўнакі расстаўлю гужам,
cькіну хустку, буду ткаць!
Калі-ж вечар змочыць бровы
мне зарой,
і на сьцяну
кіне полымем, — я словы
песьні зблытаю ў палове
і уток пакіну снуць,
бо ў яры,
ў зялёным гудзе,
у чарэмхавых дымох,
хтось чакаць на ткальлю будзе,
каб хоць сяньня не змарудзіць,
шчасьце сплесьці удваёх...
Што з таго,

што ўсьцяж гарматы
выюць дзесь на маладзік,
што галосіць сьмерць па хатах,
па барох?
Ня бойся, сватай,
а на рэшту — не глядзі!

1942

## ПЕРАД БУРАЙ

Неба пеніцца сіваю шумаю хмараў.
Прыціскаючы крыльле да сэрца,у сіні,
як п'яныя, куляюцца ластаўкі...
Парыць...
Сонна пчолаў сузор'і зігцяць у шыпшынах...
Ся...
Грыміць...
Так, здалёк, знад балотаў і плёсаў
глуха коцяць грымоты, зьгінаючы лозы,
быццам нехта сьпяшаецца з поля ў калёсах
па няроўнай, дзікой, камяністай дарозе.
Далеч пахне налітымі мёдам вульлямі,
ажно чуецца дзіўная соладзь на вуснах,
і здаецца жыцьцё залатым караваем,
а ня місаю брыдка накрышаных лустаў.
Нат вайна —
ўжо ня боль, толькі стрэмка-дакука,
хоць часамі так зблізка загляне у вочы,
што асмаліць мне вейкі,
апырскае рукі
журавінавым сокам...
Сэрца жахам падточыць.
Так, хоць часам,
часамі і сьціснуцца грудзі,
хоць заломяцца пальцы у гойстрай журбоце, —
сонца жвірам мядзяным сьпяшаецца-студзіць
успаміны...
усьмешкай за смуткі мне плоціць.
Бо й навошта тужыць,
калі хваляй калосься
ўжо за год ураджай усплыве на магілах,
і заплачуць на даўных баёвішчах восі,
каб снапоўе на сініх аржоньнях ня стыла.

Менск, 1942

## МАЛАДЗІК

Ноч надыйшла баразьніць
неба прастору пустую.
Выпаўз на дах маладзік,
выцягнуў меч...
                    і вартуе.
Хай падцікаецца зло, —
ўмірг адсячэць яму голаў...
Хто там?
            Не, гэта гальлё
ліпаў прасейвае шолах...
Ціха... Ся...
                    Кроплямі ў змрок
капае нечая песьня,
пэўна, хтось сэрца урок
ночай лілёвай ля весьніц...
Голас, ну й голас!
Наўзьдзіў!
Эх, і даецца-ж у знакі!
Комін абняў маладзік,
меч апусьціў...
                    і заплакаў...

1942

## СТАЛЁВЫ ЗЬВЯЗ

Ня дось крычэць аб Беларусі
і захлынацца ўласнай сьлінай,
ня досыць верш слабы згарусьціць
і прысьвяціць яго краіне.
Ня той,
            хто трубіць аб пачуцьцях
па цемнакуцьцях —
                        патрыёта.
Бяз чыну —
                слова не скалмуціць
нат твані лужыны балотнай.
А што казаць,
яшчэ вось сяньня,
аб акіяне людзкіх душаў?
Іх,
хоць кругіч сабе да раньня,
сьпяваньнем жабім не ўзварушыш.
Ня словаў трэба,
                        а хаценьняў,
і сіл асілкавых, і згоды,
і гарту ўпартага,
                        каб сьцені
на шлях ня палі перашкодай.

Нат больш...
Каб справы не скалечыць,
каб не праспаць узноў сьвітаньня,
высілкаў трэ нечалавечых,
і процьмы цёплага каханьня.
Тады...
Тады мы зьвяз сталёвы
з блакітнай Бацькаўшчыны зьвяжам,
і раз нарэшце моцным словам
ня нам,
а мы штось сьвету скажам!

Менск, 1942

## ПУСТАЦЬВЕТЫ

Летась... Сёлета... Налета...
Усьцяж адно: пажухлы ветах
гоніць хмар пужлівых стаю,
дзьмуць віхры,
і пустацьветы
год па годзе адцьвітаюць.
Хай вясна, хай бела, пенна —
ў нашых рухах сум і ленасьць,
уваччу сутоньне мрояў,
і ня кленчым маліцьвенна
мы ні ў змрок ні прад зарою,
ня цьвіцім вішнёвым вецьцем,
ня кідаем наўзьвейвецер
чынаў, вартых нейкай славы,
ды нічога тут на сьвеце
мы ня бурым, ані правім.
Каплюць дні пякучым варам...
Мы-ж, мы стыгнем і ў пажары,
бо на сэрцах нашых латы,
ў думках золь, ну, а на тварах —
маскі, маскі Гіпакрата!

Досьі Хадзем! Няхай і пеша!
Што за ліха? Ці мы ўрэшце
так быльлём благім і ссохнем?
Што-ж грызе нас,
што нас цешыць,
вечных марных скамарохаў?
Досьі!
На прызбах, на парогах
мы ня выстаім нічога,
хтось яшчэ мо й словам зраніць.
Досьі Хадзем!
Хай ныюць ногі
на пяскох, прыгрэтых раньнем!

Хай крывыя дугі сьцежак
нас вядуць, куды належыць,
хай прадуцца тонка, тонка,
хай віюцца на бязьмежжы,
на сухі, руды сасоньнік!
І ня будзе ўсё, як летась,
хай у небе жутлы ветах
гоніць хмар пужлівых стаю...

Гляньце!
Новым, весьнім цьветам
дні прад намі расьцьвітаюць!

1942

## ВЫ ХОЧАЦЕ

Вы хочаце вершаў бадзёрых,
ня горам атручаных вершаў,
а поўных магутных сугуччаў
пякучых паэмаў аб лепшым.
І мне-б тут хацелася прасьці
аб шчасьці ў паўтонах, паўценях...
Ды лён мой сівы, валакністы
ўвесь чыста спаліўся пламеньнем,
тады, як гарэлі злавесна
нябёсныя бездані, хмары
і зьбітыя ў статак хваіны
ў нізінах, гараных пажарам,
калі галасілі гарматы
над кратамі піваў аб сьмерці,
калі саламяныя стрэхі
кос вехці хапаліся дзерці.
З чаго-ж вам напрасьці пякучых
сугуччаў, усьцешаных вершаў?
Гарэць, захапляцца ўрачыста
ўсім чыста — і рана і сьмешна.
Вось лепш вам скажу аб штадзённых
зялёных і сініх зьмярканьнях,
аб тым, як мы ловім надзею
з падзеяў, паўсловаў, жаданьняў,
аб тым, як сівым сырадоем
нас поіць завея дзікая,
аб тым,
як над кажнай няўдачай
ня плачам,
а зубы сьціскаем.

Менск, люты, 1942

## А ЎСЁ-Ж БУДЗЕМ ЖЫЦЬ

Сьцюдзёныя хмары паўзуць у руіны,
настыглую цэглу лілёвяць і сіняць...
І ходзіць па месьце зьмярканьне у зрэб'і,
сьсінелымі пальцамі сэрцы цярэбіць.
Ня ўцяміш —
ці змрок нам туманіць галовы,
ці пыл успамінаў,
ці водгульле словаў
пачутых калісьці, —
і даўна й нядаўна,
а можа й ніколі нікім не складаных.
А тут —
перад намі йшчэ студзень і люты,
тут — вогкага ветру прастуджаны хлюпат,
і неба — прадонны ў нязнанае вылам,
і пустка руін, што нарэшце астыла...

А ўсё-ж будзем жыць!
І ня так, "абы з возу",
Інакш —
каб у сэрцах пылеліся лозы,
і кроў бурбалела бярозавым сокам,
і можна было-б і на долю зацмокаць!
Жыць так,
каб далося нам выпіць і з смагай
і поўнаю чарай жыцьцёвую брагу,
а выпіўшы —
чаркаю вобземлю кінуць,
каб рэха на сьвеце зьвінела з гадзіну
на зайздрасьць і злосьць усялякім суседзям,
што й сяньня йшчэ —
нас тут ня ўмеюць угледзець!

Менск, 1942

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

Радасьць жаўранкам звоніць над хмарамі,
хай ня згледжу яе, не зьбяру...
Дні насталі важкія, змагарныя,
зноў
спрабуе расьці
Беларусь.
Зноў спрабуе,
із думкамі нашымі,
зь дзіўнай, кволаю музыкай слоў...
слоў,
што кпілі зь іх ворагі, страшылі,
што ледзь ветрам іх не замяло.

Наша-ж мова —
цудоўная, сьпеўная,
ўмее сьпелым калосьсем шумець,
галасіць навальніцай улеўнаю,
верасьнёваю медзяй зьвінець.
Мова наша —
выкутая з золата —
не йржавее,
блішчыць,
зігаціць.
Гэта мова паэтаў і волатаў,
скарб, які нас трымаў пры жыцьці.
Каб ня мова,
даўно-б мы растаялі,
расплыліся-б імглой між чужых,
зьбеглі ў вырай гусінаю стаяю...
Але з мовай —
і мы будзем жыць.

Будзем жыць!
Днямі яснымі, новымі,
пойдзем, пойдзем з табой у гару,
наша жытная
і васільковая,
несьмяротная Беларусь!

Менск, 1942

## ХАЙ ГРЫМІЦЬ

Прагрымела над краем навальніца...
Віднее...
Мятны вецер з налёту разьмятаець імглу.
Напілася ральля і крыві і падзеяў,
выйшаў раны заворваць, адварочваць плуг.
Пакрысе надыйшлі і аратыя, жнеі,
думаў, сэрцаў знайшлося залатое зярнё...
Год мінуў...
Паплыла кволым сонечным сьценем
ураджаю зьмяна зноў на родных ніўёх.
Паплыло,
зацьвіло,
наліваецца,
сьпее
столькі слоў беларускіх —
жывых каласоў!
І зь іх кажнае — наша,
ў кажным гарт і надзея,
і драбочак душы — наша, нашае ўсё!
Хай грыміць...
Хай ірвуць хмараў зрэб'е маланкі...

Мы — упарта працуем,
мы — упарта жывём!
У палёх, узараных нарогамі танкаў,
беларускага слова падбіраем жніво.

Менск, 1942

## У ДАЖЫНКІ

Над шэрай краінаю тае
апырсканы золатам дзень.
Пялешчацца жвавая стая
сьцягоў у нябёсаў вадзе.
І йдуць,
і плывуць,
і мінаюць,
і граюць, шасьцяць, шалясьцяць
вянкі ды калосьсе...
Ой, Раю!
мы сьвята спраўляем жыцьця,
дажынкі спраўляем сягоньня
на зжатых вайною палёх,
а ў сэрцах сумлевамі звоняць
надзея
і восень — удзьвёх.
Надзея на заўтра
бяз плачу,
на хлеб залаты на стале,
на тое,
што будуць іначай,
вясёласьцяй сэрцы пылець,
што доля маністы ізь сьмеху
парвець,
і пакоціцца ён
па краі сярэбраным рэхам
пад песьняў дажынкавых тон.
Хай кон сяньня ў вочы нам хлусіць,
хай сьцёбае,
нішчыць угрунь, —
а будзем
з крыніц Беларусі
мы жменяю
чэрпаць зару!

Менск, 1942 г.

## НАВАЖНАСЬЦЬ

Вось, вось, здаецца,
жвавы травень
чубы бярозаў кучаравіў,
вясновай наквецяй сінеў, —
а столькі ўжо таго благога
вузкой жыцьцёваю дарогай
мінула моўчкі паўзь мяне...
Ды мы жывём, і сонца ловім,
і ветрам дыхаем лілёвым,
і ў далячынь ідзём, бы ў дым —
у век наш бурны, навальнічны,
знайшліся-ж сэрцы, што крынічыць
жывой крывёй маглі-б гады.
Зь сіла грудзей мы іх ня выймем,
ня бразьнем вобзем...
Жоўты жнівень
шасьціць снапамі на тарпе,
а і ў лагох, і на узвышшах,
хай за імглой дагэтуль прышласьць,
грызе жыта упарты серп...
Усюды, ўсюды рух, змаганьне.
Ні ночны жах,
ні смутак раньняў
нас ад жыцьця не аджане,
ці радасьці нальле вішнёвай
нам у далоні кон, ці новай
бядой
у вочы нас кальне.
У панцыр сэрцы мы закулі,
нат не пакінулі адтулін,
уцехам кінулі "бывай".
Яшчэ нам вынясеш, краіна,
на ручніку ільняным, сінім,
вясельны белы каравай!

## ЖЫВІ

Над раськіданым логавам мест
дагараюць пабітыя ліпы...
Вечар, новы спраўляючы хрэст,
іх расою чырвонай асыпаў...
Так,
шчасьлівы, хто йдзе праз жыцьцё
ў дні вялікіх, як сьвет, пераменаў,
раськідае старое шмацьцё,
разьбівае зацесныя сьцены,
ня сьхіляе нідзе галавы,
на глухіх раздарожжах ня стыне,

не баіцца
у мора крыві
пераджытыя праўды укінуць!
Нашым векам сталёвым —
гасьцём
быць у кузьні грымотнай ня варта:
толькі той, хто дае зь сябе ўсё,
мае права на лепшае заўтра.
Дык жыві!
хай над логавам мест
дагараюць пабітыя ліпы...
Вечар, новы спраўляючы хрэст,
іх расою чырвонай асыпаў.

1942

## МАЛІТВА

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменьне Свае хвалы.
Дай спор у працы будзённай, шэрай,
на хлеб штадзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласьць — дай!
Дай урадлівасьць житнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу, і наш народ!

## ПАКУЛЬ ЖЫЦЬЦЯ

Хтось
заместа зор
у вышу кінуў
жменю серабранага аўса.
Ды зярнё дарэмна ў небе стыне:
ні сініц, ні соек у шыпшынах,
не лятуць пад зорамі гайсаць...
Пэўна ўжо мяцеліцы дасыта
напіліся ў згорбленым суччы.
Ну й дала-ж яна,
дала нам сяньня пытлю!
Мо пахучай вікаю аблытаць
прыйдзе сон
і нас і далячынь?
Мо прысьніцца нам, што доля поіць
нас усмак ня палкім палыном,
а духмяным накіпам ліповым,

што гаркія сіраты і ўдовы
ў зыркім шчасьці
грэюцца даўно?
Але штось і ў сьне —
ня выпіць думаў,
у крыві — вагнішчаў не згасіць.
Ніто з радасьцяй дзіўной,
ніто із сумам,
мы і ў сьне брыдзём шукаць па гумнах
неабітых доляй каласін...
Бо пакуль жыцьця —
відаць, нязьменна
трэба ўжо у бразгу зелязьзя
нам люляць і песьціць лятуценьні,
растрасаць упарта стырты сьценяў,
каб нарэшце
сонца ў рукі ўзяць!

Менск, 1942

## ДОСЫЦЬ

Досыць, як зерні пацёркаў,
перасыпаць у далонях
жаль заплясьнелы і горкі,
смутак салоны.
Досыць —
даволі па горла
думак галодных аб страве,
слоў аб крыжох,
аб памёрлых,
згаслых бяз славы.
Кіньма хістацца, заводзіць
сьледам сьлязьлівай завеі,
ў Новым з карэньнямі годзе
знойдзема, зловім надзею,
моцна зацісьнем у жмені,
болей ня пусьцім у вырай,
хай
з сэрцаў выдзяўбе сьцені.
І —
дні расступяцца шырай,
кроў варам думкі абварыць,
рукі узьнімуцца й грудзі...
Кпіць будзем з крыўдаў, удараў,
хай далей будзе, што будзе!

1942

## СЛОЎ НЯ ТРЭБА ШУКАЦЬ

Слоў ня трэба шукаць...
словы — самі зьлятуць,
што за сэнс штучна ў сэрцы распальваць золак?
Прыйдзе час —
і праб'юцца яны праз чмуту,
і уколяць душу срэбрам зорных іголак.
Дзесь адыйдзець усё,
што балела удзень,
шалупіньнем з душы адпадуць успаміны,
пойдзе жыламі кроў, як кругі па вадзе, —
будзеш сам сабе й Духам тады ты і Сынам!
Як цудоўна сусьветам,
як дзіўна ўладаць,
рухам пальцаў затрымліваць гонку сузор'яў,
недзе ў "Вэгу" нацэльвацца
з луку "Стральца",
ці сьпіральных імгліцаў падпальваць порах!
Так,
паэт — чараўнік!
Ці-ж у моры на дне,
разагнаўшы мэдуз, ён пяшчынак ня зьлічыць,
ці-ж на струнах зары
ён "вясельля" ня ўтне,
не запаліць ірдзеньнем сусьвету аблічча?
Ці ў натхнёным палёце
ён знае мяжу?
Ці-ж ня фікцыяй —
час для яго і прастора?
Навет сьмерць яму — пыл,
бо цялесны кажух
ён ськівае часом, як стаптаны апорак!
Так, паэт — валадар!
Ён — патрапіць усё,
толькі долі ды шчасьця для сьвету ня знойдзе.
У сэрцах прагных, завідных
яго каласьсё
неяк зь ветрам зялёным ня ўнадзіцца гойдаць.
Сьвет гарыць
незагаслым,
крывавым агнём,
ці маўчаць,
ці сьпяваюць, як шчыглы, паэты.
Нат сумлеўна,
ці ў радасьць яшчэ мы спаўём
лёс наш —
жутлы, маркотны і стомлены ветах.
Ды ня сьціхнуць паэты сьпяваць,
хай і так...
Яшчэ мёду нап'ецца і людзкае шчасьце!

Словы — самі зьлятуць,
слоў — ня трэба шукаць,
толькі ціха,
ціхутка,
пяшчотна прылашчыць...

Менск, 1942

## МУЗЫКА

*От, такі быў музыка чарадзейнік,*
*Што захоча — ўсё з сэрцам зробіць.*

(з казак Беларусаў-паляшукоў)

На Палесьсі, дзе ўвосені просяцца
сосны плачам прыглушаным, дзікім,
над вадою, ў васмаленай восеці,
жыў калісьці чароўны музыка.
Наша маці-зямля беларуская
нарадзіла музыкаў цімала,
а ніхто, так, як ён, ня выпускаваў
хараства з расьсьпяваных цымбалаў.
І ніхто
так, як ён, не атручваў
далікатнай пяшчотай іскрыпкі,
каб усе свае думкі пякучыя
яна
песьняй расказвала сыпкай.

Граў музыка вясельлям
і хрэсьбінам,
галасіў над труною сасновай.
Зносіў людзям паўнюткія рэзьгіны
гукаў сьпеўных,
і знаных, і новых.
Мог зрабіць
із салодкага — горкае,
з жалю палкага — выцьвісьці шчасьцем.
Ледзьве пальцамі струны паторкае —
ўмеў душу ён людзкую украсьці!
Так хадзіў ён па сьвеце
з расхрыстаным
сэрцам, з поўнымі жменямі песьняў,
дзень па дні адкідаў, пераліставаў,
сяньня тут —
а назаўтрае — дзесьці.
І ў сваім падарожжы,
захоплены
хараством серабраных сузор'яў
ці вячорнае медзі растопамі, —

забываўся,
што сяньня,
што – ўчора.

Аж тут рынулі чорнаю хмараю,
разьліліся чырвонаю плямай
дні інакшыя:
з жудзяй, з пажарамі,
з горкай мглою дымоў над палямі...
Сьмерць...
Руіны...
Крыжы і пажарышчы...
Роспач, голад,
калецтва, жалобы...
Аб прыгожасьці тут не размарышся!
Граць, сьпяваць –
на якую хваробу!
Занямовеў музыка,..
Спалоханы,
зь непатрэбнай іскрыпкай пры сэрцы
мерыў гора ён доўгімі крокамі,
і хацеў,
і баяўся памерці.
Ўсюды, ўсюды
крывавымі зданьнямі
уставала насустрач
сягоньня.
Сьвет увесь быў суцэльнаю ранаю,
бессансоўным
і велічным сконам!
Стаў музыка пад спаленай хвояю,
цесна йскрыпку прыціснуў, ударыў –
жудкім гімнам тузе незагоенай
далучыўся да гулу пажараў.
Скрозь мацнелі акорды,
скрозь дужалі,
ўгору йшлі з шэптаў лісьцяў пажоўклых
да грымотаў... Аж ніткаю кужальнай
абарваліся рэзка...
і змоўклі...
Дзіка крыкнуў музыка...
(сугуччамі
адгукнуўся асіньнік асеньні),
і разьбіў сваю йскрыпку пявучую
аб сівое-сівое каменьне...

Мгла лягла на рудыя папелішчы,
спавіла сьвет калекі
й музыку...
І падзеўся ён недзе ў мяцеліцы
п’яным п’яных падзей...

Ня прыклікаць.
Хай, галуб, выйдзеш,
выйдзеш на досьвітку
на засланае лёнам аўсяньне...
Лёгкі ветрык разгортвае вопратку,
навакола —
бой сьценяў і зьзяньняў,
небам — хмары шыпшынна-ружовыя,
ў сэрцы —
ціхае, яснае сьвята...
Ды музыку гарачымі словамі
ня прыклічаш...
Ня пойдзе па хатах...
І ня будзе цудоўнай пяшчотаю
песьціць зноўку пявучую йскрыпку, —
роспач,
жахі крывава-сьмяротныя
засыпаць песьняй лёгкай і сыпкай!

1942-43

## ГОДЗЕ!

Ціха клёны лісьцё наземяць,
перажыўшы сваё
на сьвеце...
Ці-ж, як мы тут, журбой асеньняй
будуць песьціцца й нашы дзеці?
Дзіўна-ж сум нам уеўся ў косьці,
неяк самі хінуцца сьпіны,
хай бадзёрымся часам: "досыць"!
Пятушымся: "Нас не запыняць!"
А паціху — і той закіне,
ну, і гэты ў радкі уцісьне:
"Край наш ніцы, дзяды, дзяды мы,
не дае лёс нам шчасьця высьніць!
Век нам муляе карак зрэб'е,
мы ў лапцёх пагнаілі ногі,
на застольлях у нас —
бясхлеб'е,
пазьбівала бяда парогі..."
Годзе!
Годзе нарэшце,
годзе
чарвякамі зьвівацца, поўзаць!
Хоць нас доля й дагэтуль зводзіць,
хоць ісьці нам парой і коўзка, —
насьмяёмся яшчэ і зь ліха!
Досыць падаць прад кажным ніцма!
Лепш на момант
агнём успыхнуць,

чымся літасьцяй век давіцца!
Што далі нам калі чужыя?
Ці калі, хто — наш плач усьцішыў?
Дось!
        Напружым пастронкі жылаў,
самі злыбяды нашы скрышым!

Ціха клёны лісьцё наземяць,
паражыўшы сваё на сьвеце.
Не,
    ня будуць журбой асеньняй
так, як мы тут, смуціцца дзеці!

1942

## ХАРАСТВО

Лякам рожавым апырскаў неба вечар...
Я —
      іду удаль з паніклай галавой.
Трэба воўчае, дапраўды, мець-жа сэрца
каб бясклопатна
піць сяньня харальство...
Столькі едкае бязглузьдзіцы наўкола,
столькі тайніцаў
пякучых і гаркіх,
што нат сорамна вышэй узьняць нам галаў,
крок жвавей сыпнуць
на шэрыя шляхі...
Харальство...
Антычны сьвет...
Санэт Пэтраркі...
Ну а кроў,
трупоў грымасы, гэта што?
Як сьпяваць,
калі ахвота злосна гаркнуць,
або сэрцам бразнуць з роспачай
                                                    аб ток?
Што з таго,
калі й цьвітуць зарою вейкі,
водбліск вечару трапеча уваччу?
Душыць, душыць нас смугой сьлізкой і клейкай
задаўнёны жаль,
а лепшага — ня чуць!
Ці адзін тут з нас
Крывіччыне пад ногі
ўчора сьцінуў з плеч
апошні свой рызман?
Дзіў,
        што гне цяпер,
захлыстваe трывогай
нас

падзей і слоў бурлівы гураган...
Ды,
ня даць яму ўсё-ж рады із народам,
не,
ня зьнішчыць нас —
нікому у жыцьці.
Дык чаго-ж чакаць нягодаў зь пекла родам?
Лякам рожавым —
нам вечар зігаціць!

1943

## СУТУНКІ

Як сумаваць —
дык так, каб аж канала сэрца,
а цешыцца —
агнём на ветры палымнець.
Паўхварбамі цьвітуць адно зьмярканьні й верас,
а іх ужо даўно, даўно засыпаў сьнег.
Не,
не да верасоў лілёвых ці сутункаў
сягоньня нам... Ня іх наш край на пальцах рук
рахуе, раз-па-раз мыляючы рахункі, —
яму баляць крыжы,
што цягнуцца ўгару...
Іх — шмат... Іх — штораз больш...
загуслая жывіц
залоціцца на іх, маўляў рудая кроў,
і думкаю ля іх з нас кажны сутуніцца,
хоць ці на момант мо і ня прыпыніць крок.
Спыняцца — нельга нам...
Хто спыніцца — ня зойдзе
туды, куды імкне п'яны крывёю сьвет,
дый шмат лягчэй пад рытм жывой хады разгойдва
у сэрцах помсты злы, гарачы сухавей.
Ён загудзіць яшчэ!
Ужо дрыжыць, трапеча
і родзіцца агонь на дне настылых душ,
хоць і цьвіце яшчэ нам верасамі вечар,
хоць сутуніцца й той, і гэты нахаду...
Ужо й цяпер, калі пра гэта роіць станеш
сутункам залатым — па жылах мкне агонь,
як быццам той, па кім сумуеш, нечакана
на сэрца палажыў гарачую далонь!

Менск, 1942

## САЛАЎІ

Ў сырадой пахучы ночы
я нырца дам з галавой.
Запяю
        і заахвочу
ў жоўтых лозах салаўёў.
Зазьвіняць яны...
                          пасыплюць
трэляў шкляную капель.
Пад чаромхай роснай вып'ю
я па кроплі іхны сьпеў.
Буду піць, каб чар ня зьнішчыць,
аж да раньня,
                    аж да дня,
пакуль сінія агнішчы
у лагох не задымяць,
пакуль сонца бель ігрушаў
жоўтым шоўкам не затчэ
пакуль дзень не запарушыць
пылным золатам вачэй.
А тады...
              ніхто ня ўловіць,
ці пяю я сонцу гімн,
ці ў налітых сырадоем
лозах
        звоняць салаўі.
Ня уцяміць,
                  ці то трэляў
мкне кіпенны сьнегапад,
ці п'яную радасьць меле
поўны пчол і сонца
                          сад?

1942

## З КАМАРЫНАЙ ПЕСЬНЯЙ

Ледзь астыг над руняй маладою
залаты, гарачы жвір зары, —
пацягнулі зь песьняй камары
у лагі,
        ўпівацца сырадоем...
І чамусь —
              надумалася й мне
ськінуць з плеч штадзённасьці пастронкі
й з камарынаю гурбою звонкай
патануць у цёплым тумане...
Бо дадзела
              ўсьцяж па нечым плакаць,
у далонях крыць настылы твар,
кажны страх,

і крыўду,
кажны ўдар
пераж оўваць сто разоў, як жваку,
Збрыдла жар надзей спад друзаў выграбаць,
і назад пужліва аглядацца,
і цярпець,
каб хіжым рыжым пацам
грызла сэрцы нам зьмярканьнямі журба...
Не, дарма!
Нас выстругаў калісьці
не зь мяккой, струхлелае асіны Кон,
але з дубу моцнага, пад звон
рэзвых ветраў і буйнога лісьця.
І таму —
ня ўдол, а дагары
мы глядзём, зрадніўшыся з жудою,
хай плывуць над руняй маладою
зь недапетай песьняй
камары...

Менск, 1943

## НАШЫМ ПАЭТАМ

У кажнага з нас, песьняроў, свае мроі,
у кажнага з нас, песьняроў, свае вершы.
Ці варта
скрыжоўваць і словы і зброю,
ці варта спрачацца,
хто "першы ды зь першых"?
Паэту-ж адно абы ясна і сіня!
Зьбірае ён з роўнаю, пільнай уцехай
і белую наквець вясновых калінаў,
і восенскіх клёнаў зрудзелыя вехці,
патрапіць набрацца прыгожасьці дзіўнай
і з россыпаў зорных,
і з сонечных пасмаў,
і з чорна-крывавых рабрынаў руінаў,
абдзёртых са скуры жывое і мяса...
Не!
Зайздрасьці горкае знаць не павінна
дрыготнае, ўзьлётнае сэрца паэты.
Ніхто-ж яго ў лёце імклівым ня спыніць.
Айчынай ягонаю — сіні сусьветаў,
ён зь песьняю млечнай вандруе дарогай,
парослаю росным, сівым малачаем,
ён — месяцу спрытна прыкручвае рогаў
і ў продань міжзорных прастораў лучае,
глядзіцца адважна і ў мглістую прышласьць,
і даўных падзеяў разблытвае шэрасьць,
захоча —
гэкзамэтр Гамэравы крышыць,

захоча —
йрве краскі граху із Бадлерам...
І сьвету
адны толькі вінны ён ласкі:
захоўваць памеры і рытм беззаганны,
у ладкі над горам нарэдным ня пляскаць,
і сьмехам ня сыпаць на сьвежыя раны...
А ранаў тых шмат:
ад мячоў і ад словаў,
ад восенскіх бураў,
ад мрояў
ад вершаў...
Зальлем-жа вадою гаючай, жывою
іх мы, песьняры,
ці апошні, ці першы!

1943

## КУДЫ?

Сыны зямлі, сыны сусьвету,
куды із прагнасьцяй дзікой
вы імкняцё?
Паверце, й кон,
і чар няўлоўных, дзіўных мэтаў —
адно Калюмбава яйко.
І разгадаць жыцьцё так проста,
так нескладана, нудна жыць!
Усе-ж мы дойдзем да мяжы,
усе-ж уславім пенным тостам
жыцьця й дажынкі,
і зажын.
Дапраўды,
мала трэба спрыту,
каб лёс наперад варажыць:
і фарысэй, і шэры мытар
адным прасеяцца тут сітам
і пад адзін патрапяць крыж.
Дарма вагенчык блудны веды
спрабуе зь цемры нам міргаць.
Не аджанець ён нашых бедаў,
брыдзе, кульгае нашым сьледам
старая, ў зморшчынах, туга...
Сыны зямлі, сыны сусьвету,
куды-ж із прагнасьцяй дзікой
вы імкняцё?
Паверце, й кон,
і чар няўлоўных, дзіўных мэтаў
адно — Калюмбава яйко.

1943

## У САКАВІКУ

Ледзьве з падневя угледзеўшы золак,
зоры сплылі лебядзінаю стаяй.
Вецер у вочы кідаецца солма,
плечы гарбатыя стрэх акладае
пугамі сьнежных вясёлак.
Сьцёбайце,
беце,
чапляйце з разгону
крыльлем каршунім за лапіны хвояў,
торгайце сэрцам — разгойданым звонам,
джгайце нас,
джгайце разьюшаным роем
дзіка паблытаных тонаў!
Што нам
і вашая лютасьць,
і радасьць?
Мы ўжо глыталі ня гэткія страхі!
Сто раз дзічэй нам сьпявалі знарады,
полымя зьлейшае зьлізвала дахі,
пеўнем хрыпела ў прысадах.
Ды пад нагамі ў нас сяньня завеі —
сонца ўжо зь песьняю лазіць па стрэхах,
зараз мядзянай жывіцай заклеіць
шчэрбіны ў сэрцах,
успышкамі сьмеху
зноўку зайграе на вейках,
соладзяй грудзі набракнуць зялёнай,
вершамі думкі пачнуць каласіцца,
і у сутоні нябёснай патоне
ўсё,
што на яве пляцецца
ці сьніцца
сакавіковым сутоньнем!

Менск, 1943

## УСЁРОЎНА

Круціць вецер сінякрылы
на дарозе пугі з пылу,
крышыць лужын дробных шкло...
Як мне хмель вясновы выліць?
Дзе нарваць зялёных слоў?
Як хмурын блакітных накіп,
пах кляновых, ліпкіх лапін,
трэскі сонца на траве,
белы чар ігруш —
патрапіць
пераліць сягоньня ў верш?

Выйдзе ясным ён —
мо людзі
й скажуць: "Сьмехам грэх агудзіць
важкасьць сяньняшніх турбот,
у мутной вадзе, бач, вудзіць
сваю рыбку вершаплёт!"
А журбою верш напоіш,
налієш зьлячэлым лоем
і былых і новых бед —
скажуць зноў:
"Завёў старое,
мы-ж гарым у барацьбе!"
А, ўсёроўна!
Годзе, досыць!
Што мне сяньня сьвету лёсы,
дзеяў леташніх быльлё,
калі сонца сьцені косіць
над вясьнянаю зямлёй!
Калі вецер смаглым смыкам
па зялёных рэжа віках,
па твары гарачым тне...
Не!
Й вайна ня скруціць лыкам
крылаў песьням
і вясьне!

1943

## MEMENTO MORI
("Памятай, што памрэш")

Я знаю — час плыве, па кроплі кропля, ў змрок.
У кволай чары рук яго ня утрымаеш.
Налета — у цішы разбураных муроў —
ён расьцьвіце мо зноў, але ўжо іншым маем.
Ды так сплялося, што — ці хочацца, ці не,
ісьці кудысь туды нам з часам падарозе.
Вось мы й брыдзём сабе, а ў плаўкім тумане
абапал — то цьвітуць, то адцьвітаюць лозы.
Парыпвае, хрумсьціць падмоклы, гойстры жвір,
сабакам верным сьцень туляецца пры боку.
І добра... Толькі менш тых зораў у крыві
і зораў уваччу із кожным новым крокам...
'Memento mori', гуў калісь, загнаны ў кут
жудою нябыцьця, наш сьвет па цёмных норах.
Яшчэ й цяпер, парой на зблытаным утку
бярэ ён зноў снаваць сваё 'Memento mori'!
Ды іншыя мы ўжо...
У вецер і зару
імкнуся я зь вясной зялёнаю у згодзе,
бо ведаю, што хоць калісьці — і памру,
"Жыцьцё — ніщто, як сьмерць,
а сьмерць — жыцьцё!"
і годзе!

Менск, 1943

## У ДАЖЫНКІ

*А ў нас сяньня дажыначкі...*
Народная песьня.

Цалуе сонца шэры камень
туманных вуліц...
Восень зноў.
Яшчэ раз рупнымі рукамі
мы дажынковы вяжам сноп.
Яшчэ раз хмелем родных песьняў
мы наліваем чары сэрц.
Хай сьвет вакол,
як лета чэзьне,
а жыць мы будзем пакрысе!
Мы будзем жыць,
дарма, што восень
узноў на карак села нам:
ужо мы літасьці ня просім
і забываемся стагнаць.
Вядзі-ж,
вядзі нас у камору,
наш выкрутасты лёсе-сват,
перасяваць на сіце зоры
на дажынковы каравай.
Вядзі!
Мы-ж — хмелем родных песьняў
нальлём да шчэрці чары сэрц.
Хай сьвет вакол, як лета, чэзьне,
а жыць мы будзем пакрысе!

Менск, кастрычнік, 1943

## НЯ ВАРТА ЗЬВЕШАВАЦЬ ЧУПРЫНАЎ

На кажановых мяккіх крылах
нячутна хмары ймкнуць кудысь...
Не, мы ня з тых,
што будуць стынуць
на пабаёвішчах гады.
Дымы...
Пажары...
Посьвіст куляў, —
дай Бог, мінулася усё.
Заўем залом-жа над мінулым
і прывітаем зноў жыцьцё.
Запросім вось у госьці зоры,
пасадзім маладзік на кут,
прап'ем да іх, —
і ўтопім зморы

ў п'яным бярозавым саку!
Ня варта зьвешаваць чупрынаў,
хоць нас усьцяж і страшыць лёс:
шчэ шмат для нас хавае ў скрынях
жыцьцё зайздроснае дзівос.
І ці адзін над намі вечар
спакойна пойдзе йшчэ на дно...

Ніхто-ж, ніхто ня зьмерыў вечнасьць,
не палічыў яе гадоў!

1943

## ТУМАН

Вечар...
Па бурым аржоньні нябёс
бродзіць сузор'яў разгублены статак...
Месяцу плёнчык спад хмараў прарос
і задрыжэў, заківаўся, заплакаў
ў лужынах, срэбным рассыпаным макам...
Недзе згукаюцца восі калёс
крыкам, вырваным дзіўным пералякам.
Вецер іх крык падхапіў і панёс
проста ў каноплі, сівыя ад рос.
Выпаўз, прываблены рэхам тужлівым,
зь цемры рызманны туман — на спажыву.
Выпіў ён скаргу сялянскіх калёс,
высмактаў вецер вячорны, скуглівы,
вылізаў зоры і шэрасьць нябёс,
сыты —
разьлёгся да раньня на нівах...
А у душы,
як на злосьць цішыні,
ўспыхнулі думкі вагнішчам начлежным.
Крыўдна ім даць дагарэць у вагні
і не насыціць душы як належыць
словам ды рыфмай —
пясьнярскаю ежай.
Буду-ж пяяць...
толькі ціха, бо сьніць
шчасьце мо сьвет пад дзяружнай адзежай.
Шкода будзіць, блытаць ясную ніць,
можа адзіную ніць, што спыніць
шэрым людзём не дае падарожжа
шляхам жыцьцёвым, цяжкім і варожым...
Нат шкадаваць я ня буду ані,
калі мяне не пачуе, быць можа,
сяньня ніхто...
У мутной цішыні
сьвету шлі сны толькі сьветлыя,
Божа!

1943

# САЛАЎЁМ У ЛАЗЕ

Дзіўна любіць жыцьцё нам сьмяяцца у твар,
ашукаўшы йшчэ раз...
мо дзясяты, мо соты?
Аж дапраўды паверыш, што зла не сарваць,
аж сьцюдзёным, сьцюдзёным ускрыешся потам.
Не ўцячы ад яго...
Уцякай — не ўцякай,
а жылястай рукой за крысо цябе схопіць,
зноў прымусіць і сэрца й душу паласкаць
успамінам магілаў,
ахвяр,
далакопаў...
Дзе ні пойдзеш —
адно паланее ў душы
і захлыствае пенай салонаю вочы:
нашы вёскі,
а ў іх — маладыя крыжы,
йшчэ ня ўскрытыя сеткай крывых чырвяточын.
Гэтак горка, што й вецер, здаецца, імкне
сяньня ў далеч ня беляй,
а чорнаю сажай...
Ці хто ў гэткія дні
аб зары, аб вясьне
салаўямі сьпяваць-захлынацца наважыць?
Ды няўжо-ж замаўчаць,
ды няўжо-ж дагарэць
над народнай бядой дробнай вязкаю словаў?
Не! Паэты —
няхай абнаглелая сьмерць
ім у вочы плюе,
не апусьцяць галоваў!
Што ім сьмерць!
Хай прысыпле ім бровы зямля,
хай ім рукі сатне крапіва і маліньнік,—
будуць іхныя вершы, як некалі, зьзяць
залатою смалою на пальцах хваінаў,
будуць тут, на радзіме, ў сівых ячмянёх
перапёлкамі ціха зьвінець на сьвітаньні,
сінявокім у вочы глядзець дзіцянём,
і няпраўду агністымі словамі ганіць!
Дык хоць сяньня й здаецца —
завея імкне
ў сьвет ня беляй сузор'яў,
а чорнаю сажай, —
ля крыжоў
ці адзін зь песьняроў
аб вясьне
салаўём у лазе
захлынацца наважыць!

Менск, 1943

## КРЫГІ

Ноч у чорную грыву ўпляла
бомы дробных сярэбраных зор.
І здаецца —
                  даткнецца віхор —
заімгляцца яны, запыляць
шкляным пылам па місах лагчын,
па нявымытых дугах дарог,
чыста выбеляць ветаха клін,
срэбрам выкладуць бору парог...
Ноч запахне цяплом, балазе
уздыхне й нашатырыцца рунь,
сэрцы крыгаў заб'юць у лазе,
запульсуюць, паймкнуць у гару,
а як спыніць іх імпат лазьняк —
знаравяцца і стануць дыбца,
доўга будуць малоць, засыпаць
у паставы сярэбраны ляк...
Раньне спыніць іх роспач і злосьць,
паплывуць яны ціха
                          канаць...
Што-ж пачнеш, як вясна кажа: "досьць"!
Што захоча, з нас робіць яна!

1942

## НЯ ЎМЕЮ Я ТУЖЫЦЬ

Як ні круці —
жыцьцё
свой собскі мае шлях.
Не навярнуць яго да нашых развražаньняў
і ўпадабаньняў...
Зноў — на душы назаляць
пляцецца лістапад,
а зь ім — пакут ражанец!
Іх болей, як лістоў, праедзеных іржой
асеньняй,
навет больш, як тэй гразі на бруках...
Ня хочацца усё-ж прызнацца, што ужо
так хутка ў сонцы мы
не апалошчам рукі,
што трэба прытаптаць нагой чырвоны жар
хаценьняў, адаслаць іх з буслам у вырай,
каб залатых, сівых і сініх міль цяжар
пачулі яны досьвіткам на крылах.
Ды ўсё-ж ня ўмею я тужыць і распачаць
паводля ўсіх людзкіх, нязломных "прадпісаньняў":
зьялчэлы сум хаваць у згашаных вачах
ці на пялёстках губ

я тыднямі ня стану.
Жыцьцё —
заўсёды чар,
няхай сабе з кляноў
ня капае ужо густы і жоўты солад,
а валавяны пот, хай нудна пад вакном
глухая ноч рудой ваўчыцаю скуголіць.
Не, для мяне жыцьцё —
шуканьне выйсьця, шлях
для сілаў, што інакш мне рассадзілі-б грудзі.
Зноў пылам залатым яны пыляць, пыляць,
іх навет лістапад ня згасіць, не астудзіць!
А што з таго, калі да яснасьціісьці
і выпадзе мо нам, ірвучы муць туманаў?
Тым будзе саладзей,
прамерзшы да касьці,
на дзідах сонца ў кроў
гарачы твар параніць!

1942

## ХАЙ САБЕ І ШЭРА

Парудзелым стогам у сівых імшарах
я ня ўмею,
рукі апусьціўшы,
стыць.
Мае дні згараюць залатой пагарай
нат калі у вочы й едкі есца дым.
Ува ўсім знайду я хоць пылінку сонца,
з кажнай студні вып'ю кроплю хараства.
І пасвойму
радасьць я бяру ў вабоймы,
і пасвойму
ўмею радасьць аддаваць.
Не асьлеплы лірнік — лёс мяне цягае, —
ён
ідзе за мною ўдаль на павадку.
Дзе-ж абы назоле тэй — са мной параіць?
Дзе-ж абы нягодзе — так мяне й падкуць?
Хай сабе і дымна,
хай сабе і шэра —
неаглядна шчасьця я шукаю скрозь.
Хоць і сотні вёрстаў трэба перамераць —
вечнае імкненьне
мой раўнуе крок.

## ЛЯТУЦЬ ЛІСТЫ

Лятуць лісты пуцінай жураўлінай
у вырай сонечны даўно.
Мо крылы й нам,
і нам узяць раськінуць
і ў сіню рынуць, аж на дно...
Мо мераць дні, як залатыя вёрсты,
і выглядаць гранічных вех,
аж ня прысыплюць сьнежныя пялёсткі
і сьлёзы нашыя,
і сьмех...
Лятуць лісты пуцінай жураўлінай
і вабяць нас у далячынь.
Ды з жоўтых пожняў роднае краіны,
дай кон,
у сьвет нам не ўцячы.
Мы неаглядна сэрцы застрамілі
каханьнем палкім і дзіўным.
Няхай лятуць лісты сівыя мераць мілі —
там,
безь Цябе,
што-ж варты мы?

1943

## ВЕЧАР У ВІЛЬНІ

Расплёў, разьмёў віхор пярэстых хмараў дым...
Дзень адпаўзае ў зьмерк вузкіх завулкаў лазам...
І вее на мяне з кутоў, з муроў рудых
сівым, як даўніна, даўно забытым сказам.
Мне чуецца ці сьмех, ці плач, ці штось яшчэ
ў сымфоніі ціхой вячорных гукаў места.
Лязом мяча Вяльля спрабуе заблішчэць,
і полымя зары Пяркуна хорам песьціць.
Над дахамі, у выш узьняўшы бель крыльля,
стаіць, усё ў вагні, Трохкрыжжа на старожы,
і кленчыць перад ім лясоў лілёвых шлях
ды налітыя ймглой далечы бурых пожняў...
Як тут люблю я ўсё:
чырвоны вулак брук,
і залатым пяском асыпаныя дахі...
Манюся тут сваю апошнюю зару
я сустракаць,
адсюль —
пайсьці адвечным шляхам.
Але пакуль жыву — хоць дзе — цяжкім каўшом
хачу я піць жыцьця і мёд, і навет дзёгаць.
Хачу, каб лёс мяне на шумных кірмашох

вадзіў,
вадзіў,
вадзіў,
як лерніка сьляпога.

1943

## АБСЬПЯВАНАЕ

Напісаў, хоць на жарты, адзін —
абсьпяванае
ўсё ў жыцьці,
адзвычайнае рэдзькі — да выраю,
і няма ужо слова, для вуха нязнанага,
і няма ужо думкі, па шчырасьці шчырае.
што-ж, здаецца, і праўда...
разоў можа з тысячу
навіталіся ў вершах мы вёснаў і восеняў,
анапэсты і ямбы й гэкзамэтры крышачы,
зачыналі нанова зажынкі, закосіны.
Перад намі —
ўсё чыста на сіта прасеялі,
спрабавалі пяяць на мажор, памінорнаму,
нашы продкі йшчэ
сьледам паўзьлі за падзеямі,
гаму колераў, гукаў разьбілі, разгорнулі...
І таму мо цяпер,
хоць унукам і ўспыхвае
сэрца з кажнаю новай вясною пановаму,
хоць і пішам аб вёснах, што сінія, ціхія, —
ажно палімся іншымі выпець іх словамі,
Мо такімі,
якія да плыні вясёлкавай
дадалі-б яшчэ зь дзесяць нязнаных нам колераў,
накурылі-б у душах купальскімі зёламі,
запарушылі-б вочы вішнёвымі зорамі...
Толькі-ж дзе іх знайсьці?
У якім яны выраі
шчасьце шчыплюць багуннае, хмельнае, п'янае?

Так... усё у жыцьці —
і найбольш навет шчырае
захапанае пальцамі рук...
Абсьпяванае...

Менск, 1943

## ПРОСТА Ў ВОЧЫ ЖЫЦЬЦЮ

Так, жыцьцю дагадзіць немагчыма...
Лёс –
        пражэрлівы, прагны стары...
Ён ня сьцішыцца, покуль ня выйме
духу зь цела бяз права й пары...
У спагадай сагрэтыя рукі
ён чужое душы не бярэ,
не сьпяшаецца кволых адхукаць,
ня імкнецца вандроўных сагрэць.
Можаш, молячы, моргаць вачыма,
можаш слацца пад ногі, як дым,
ён табе яшчэ пальцы ушчыміць,
яшчэ ўсмак насьмяецца зь бяды!
А наважыш ізь ім прававацца,
свае праўды даходзіць – канец!
Ён ня раз, і ня дзесяць, ня дваццаць,
цябе з роду у род пракляне!
Хай-жа лепш і кусае і раніць
сэрца
болю калючы асьцюк, –
трэба, зубы заціснуўшы,глянуць
проста ў злосныя вочы жыцьцю.
І яно
іх апусьціць нязручна,
і усьмешкаю выкрывіць рот...

Хто прад лёсам віхляе анучай,
той і звацца ня варты:
                                "народ"!

1943

## ВЕЦЕР

Вецер крыльлем у лозах лапоча,
далеч-хмар апляла дзераза...
Штось журботаю сіняцца вочы,
а чаго –
            каб-жа хто адказаў...
Ня згубіла я сяньня нічога,
ня зьбіраюся й заўтра губляць
ні на струнах вясковых дарогаў,
ні ў зялёных засеках гальля.
Засьмяюся-ж!
                    Пакіну смуціцца,
змыю смутак з расьніцаў зарой,
хай вячорнага ветру іглiцы
сэрца навет і ўколюць парой!

## НА ДОСЬВІТКУ

Ночы срэбны паўмісак на золку
зматавеў, пачарнеў...
                    Ці урок
хто, ці ў ім не запраўднае, толькі
"накладное" было серабро?
Ня ўсёроўна?
            Цёр ветах заспаны
яго, праўда, рызманьнем зь імглы,
упацеў нат ружовым туманам,
злы,
    у сеці чаротаў заплыў, —
ды ня сьцерліся шчэрбы і рысы,
як ні мыў ён сьцюдзёнук гладзь...
Хіба ўстаць,
            і кашулю расхрыстаць,
губы раньняму ветру падаць?
Увайсьці ў пыл туманны па шыю,
бястурботна ўсьміхнуцца камусь?
Эх,
   ці ёсьць дзе йшчэ золкі такія
як у нас із табой,
                Беларусь!

1942

## МЯЦЕЛІЦА

Прамінула мая улюбёная
жаўтаклённая, шкляная восень.
Ужо з тыдзень гугнавай мяцеліцай
па аселіцах нема галосіць.
Наглыталіся белага соладу,
адно робіцца горка ў роце,
ды дагэтуль
            зімовую моладасьць,
хоць і Коляды ўжо —
не змалоцім.
Быльнягом хіба легчы пад межамі
безьбярэжнымі, аж да прадвесьня,
вочы шчытна заціснуць павекамі,
пад засекамі сьнегу заплесьнець,
і чакаць,
         аж кальчастымі стрэламі
сонца
проста у сэрцы пацэліць,
ажно соладзяй млявай, аернаю,
наліюцца настылыя целы,
аж усё,

што увосені згублена
на пусткоўях зрудзелых урочышч,
зноў аднойдзецца
зеленарунн аю
і багуннай вясновою ночай!
Бо што знойдзецца дзесь між галінамі –
што-ж тут дзіўнага?
Толькі-б імкненьне,
й зноў асмужым вятранымі плынямі,
сінімі-сінімі,
нашу штадзеннасьць!
Тае сілы,
што ў нас заварожана,
ня прысьпіць, бо і ня перакрынічыць
нат мяцеліца,
колькі-б над пожнямі
незагаслым ня ўспыхвала зьнічам!

1943

## ТУГА

У небе зор агні зьбягаюцца на веча,
трывожна ў звон гудзе мядзяны маладзік...
Узноў,
як шмат разоў,
чырвоным ветрам вечар
мне у душу
тугой дзіўною накадзіў...
Іду, ірву, як шоўк,
штадзённых справаў сеці,
трымаю палатно кашулі на грудзях,
але гуляе зь ім усё-ж крывавы вецер,
знайшла усё-ж туга
кружлівы ў сэрца шлях.
І загуло яно віхурай пурпуровай
у ветразях сівых і бура-шэрых хмар:
"Усё мара – і жаль,
і ўспышкі вершаў новых,
і жах, якім жыве ўвесь сьвет, –
усё мара́...
Ты думаеш, што ты штось робіш, штосьці варты
і дум тваіх узьлёт,
і белых словаў сьнег?
Сто, тысячу разоў вартней мо той, хто жартам
зрывае каласы жыцьця,
а сум жане.
Паэты –
гэта міт камічна-недарэчны
у наш нахабны, злы, кусьліва-злосны час,
што добрае калісь –

сягоньня гне й камечыць,
а ўбачым,
ці спляце штось лепшае для нас...
Я адказаць хачу, крычу "спляце",
ды гасіць
зьмярканьне й веча зор, і ў ноч ціхую ўступ.
Так, для тугі няма адлежнасьцяў ні часу:
усюдых і заўжды яна із намі, тут!

1942

## МОЎЧКІ НОЧЫ СУЗОР'ЯМІ КАПАЮЦЬ

Моўчкі ночы сузор'ямі капаюць
на стаптаны, скамечаны сьнег.
Над хваінай сівой, сівалапаю,
месяц дугі ад вечара гне...
А у думках – гады пражытыя,
безьліч белых да прыкрасьці зім,
ніткі тропаў, што гурбы аблыталі,
нудны сьпеў, што вядуць палазы,
белых стрэхаў снапы, абабітыя
злой, кусьлівай Ягой – вятругой,
мроі, што пад асьнежаным выкратнем
закілзаць не дающца й тугой!

Ды чаму-б
і ня ўпесьціцца мроямі,
аж пачне над радзімаю днець?
Моўчкі капаюць ночы сузор'ямі
на стаптаны, скамечаны сьнег...

Менск, 1943

## ЧАГО ТУЖЫЦЬ

*Не заірдзіцца у кустох ружова раньне,*
*І толькі ў чужыне прысьніцца мне.*

Л. Геніюш

Я ня тужу сягоньня па краіне.
Сягоньня –
Бацькаўшчына й мы – адно.
У кажным сэрцы тут яе аськепак сіні
мігціць,
запаўшы глыбака на дно.
Балюча ёй –
і мы віёмся з болю,
а крыўдна –

й мы сьціскаем кулакі.
Яе туга —
і нас шыпшыннай дзідай коле,
бяда —
ўбівае й нам
у сэрцы клін.
Жывём айчынай мы...
Айчына — намі...
І мы тугой яе ня важымся карміць.
што сьлёзы прадзяўбсьці патрапяць навет камень —
ну, гэта і стары
й зусім няўдалы міт...
Нам не да міту-ж тут...
Па воўчых тропах ловім
мы змрочнай ночай крок паўночных валацуг,
мы вучымся ніжэй не пахіляць галоваў,
як толькі да зямлі,
хадзіць нага ў нагу...
Здараецца,
што той і гэты з нас прыстане,
у шэры пыл пацзе, сьмяротным сьцяты сном, —
апусьцім вочы —
й дальш!
Хто-ж долю купіць танна?
Нам сьмерць —
ня страх, ня дзіў,
калісь — усе-ж памром.
Чаго-ж тужыць па Бацькаўшчыне сяньня?
Ня ворагам,
а нам туга — у сэрцы нож!
Мы паміраем тут,
каб зь песьняю сялянкі
маглі і заўтра йсьці
"дарогай басанож"!
Каб зноў было ў палёх ад белай грэчкі бела,
каб з матчыных вачэй
навечна сплыў адчай,
каб слова роднае ніколі не датлела,
"упаўшы дзесь у польны малачай".

## ПРЫСЯГА

Беларусь!
Наша маці-краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня зьгінем,
пакуль Ты нас наперад вядзеш!
Пастаім за Цябе, як асілкі,
нашы сэрцы палаюць агнём,
дружна, мужна
за лёс Твой расьцьвілы

супраць Чорнае Моцы мы йдзём.
Не шкада нам жыцьця маладога,
не шкада нам гарачай крыві,
абы толькі праменнай дарогай
крочыў горда народ наш жывы!
Прысягаем
Табе мы сягоньня,
што пакуль хоць адзін з нас жыве, —
нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
мы ня зганьбім,
мы ўславім яе!

1943

## ЭЛЕГІЯ

Ветах поўна ў гліняны гладышык
нацадзіў залатое зары...
Душны вецер шалее у вішнях,
туліць вусны да гладкай кары,
песьціць вечна нясытыя вочы
лёгкай грацыяй гнуткіх галін...
Ледзь віднее,
ды з ложка саскочыў
сон мой раньні
і зьбег у палі.
Пазяхаючы лена, вітаю
я народзіны новага дня.
Неяк цяжка дрымоце параіць,
вочы сонцу насустрач падняць.
Так дадзела
— навонкі спакойна —
мераць шэрыя лёсу шляхі...
Ўсьцяж шасьцяць перасохлай лускою
ў сэрцы жах задаўнёны, глухі.
І ня ськінуць яго,
не абтрэсьці,
не пазбыцца —
на сьвеце вайна,
і тут, блізка,
і тамака дзесьці,
сьмерць наш сьвет абкрадае няўзнак...
Душны вецер шалее у вішнях,
прагна песьціць рудое лісьцё,
жоўты ветах расплёскаў гладышык
залатое зары — і уцёк.
Эх, паэт ня скупы,
хай-жа кіне
зь ветрам жалі, што ўчора сабраў.
Заўтра-ж зноў,
як асеньні асіньнік,
загарыцца у сэрцы зара!

1942

## НА ПАРОЗЕ ВОСЕНІ

Прарыпелі гарачыя дні
залатымі, важкімі вазамі.
Тыдзень, два —
ўзноў іржою запляміць
восень пожні скачаныя ніў,
перадчаснай сівізнай сьсівеюць
пад парканам крывым быльнягі...
Толькі-ж нам
зь імі разам ня гніць,
нам
ня суджаны сон і бязьдзейнасьць.
Давялося нам жыць і тварыць
у грымотныя дні навальніцаў.
Мы —
народ ня ціхі ўжо, ня ніцы,
Мы — ці хочам, ці не —
змагары!
Мы закулі у панцыры сэрцы,
ні трупы нас ня кволяць, ні кроў,
ды за роднага краю дабро
мы гатовыя
штодня памерці.
І хай раз-за-разом нас той кон
туга скручанай сьцёбае пугай, —
праз муто́й наліты́я калюгі
мы ідзём,
пакуль сілаў і дзён.
Ня спыніць нас...
"Пад камень ляжачы, —
кажуць людзі, —
й вада не цячэ".
Нашы-ж сэрцы — ня камень яшчэ,
нам карціць не адно яшчэ ўбачыць.
Дык няхай у прадоньне плывуць
дні й здарэньні нястрымнай улевай,
хай нат сэрцы ушчэнт зайржавеюць, —
ня угнём
прад жыцьцём
галаву!

1943

## ВЯЛІКОДНЫМ РАНЬНЕМ

Налілася далеч радасьцяй зялёнай...
Навет думкі тыя — рой пчаліны зор —
аб вясьне і сонцы й сінім ветры звоняць,
пахнуць залацістым мёдам і вузой!
Рашчынілі сэрцы мы вясьне наросьцеж, —

хай нуду сівую вымяце, як сьлед,
хай апаліць вечнай, пеннай маладосьцяй
нашыя хаценьні,
дый ляціць далей!
Дзень яшчэ, ці дзесяць — і пялёсткаў сьнежных
май насыпле ў сеці яблынных садоў,
выйдзе сьвет заворваць быльнік на узьмежжах,
выглядаць на руні сонцавых сьлядоў!
Праўда, не адно нам давялося зьнесьці,
праўда —
й наша сяньня шчасьцем ня тутніць,
ды яшчэ так хутка не астынуць песьні,
ня прыстануць сэрцы,
не датлеюць дні!
Эх, чаму-ж вясьняным вялікодным раньнем
не сягнуць крыламі ў сонца, як Ікар,
ня зыйсьці нарэшце зь вечнага растаньня,
з крыжавых дарогаў
нам з табой, наш край?
І чаму на гнуткіх і пявучых струнах
новых пуцявінаў, сьцежак і дарог
не пайсьці вось гэткім раньнем цемнарунным
рэзаць маршы жвавым, рэзвым смыкам ног!

1943

## НА ПРАДВЕСЬНІ

Паўшываў у хусьцё палявін
вечар прошвы ружова-сінія,
далеч хмелем сівым завіў,
пачыркаў соткай мяккіх лініяў.
Пад нагамі галосіць сьнег
палазянай, рыплівай нотаю,
але штось аб блізкой вясьне
сэрца мроіць зь ляной ахвотаю.
Хоць і знаеш яе, вясну,
за найбольшую ў сьвеце зводніцу, —
дзіўна соладка піць ману,
зь ёй і думкі й хаценьні годзяцца.
І хоць гэтулькі іх ужо было
вёснаў бела-зялёна-ўсьпененых, —
яшчэ раз
да яе ў палон
пойдзе сьвет,
каб цьвісьці й зяленіцца!

1943

## МЫ – МОЛАДЗЬ

Мы – праўда,
мы – сіла,
мы – радасьць,
мы – рух!
Выцягваем крылы
мы ў сонца, ў зару!
Мы ймкнём на узвышшы,
нам – межаў няма,
здаецца нам прышласьць –
праменнай, як май!
Мы – шчырасьць!
Сваволя!
Мы – песьня!
Мы – сьмех!
Вітае нас доля
мільлёнам уцех.
Бядзе, гураганам
сьмяёмся мы ў твар,
вясёла, шматзьзянна
нам зоры гараць!
Ніхто нас ня спыніць
у лёце да зор!
Мы – імпат няспынны,
мы – моц!
Мы – віхор!
Мы выйшлі з народу,
з крывіцкай сям'і,
і ў кожнай пагодзе
зь ім побач стаім.
Мы з краем каханым
расьцём угару.
Мы – сьвежасьць!
Мы – раньне!
Мы – радасьць!
Мы – рух!

1943

## ПЕРАЖЫТАЕ

Заўсёды знаю я, куды ісьці манюся,
хай часам праз жыцьцё і вобмацкам брыду.
Чаго-ж стаяць, чакаць, аж сонца твар апусьціць
і сьцені на душу далоні пакладуць?
Ужо-ж і так, няўзнак, з упэцканай палітры
нябёсаў сьцёрла ноч чырвоны цёплы тон
і адкаціўся ў змрок хмурын мядзяных зьлітак,
за сонцам і за днём кароткім наўздагон.

Ужо-ж і так, і так зімовае зьмярканьне
паблытала ніты далёкіх пуцявін,
і адпаўзла, стаўляць нам пасткі, нечаканасьць,
і неадцяты шлях застаўся нам — адзін...
А трэба йсьці далей,
Бо толькі тое наша,
што нам само яшчэ пад ногі не лягло,
што зьзяе нам здалёк,
што нас і цягне й страшыць...
А пералытае —
хай ноч засыпле ймглой!

1943

## З НОВЫМ ГОДАМ

З Новым Годам!
Зноў — із Новым Годам!
Зноў хвалюемся,
— прывычка ўжо старая —
можа гэты ўрэшце злыбядам параіць,
можа ў гэтым
нам бяду удасца сходаць?
Можа ў гэтым —
пойдзем, пойдзем праз туманы,
кучаравае сваё аднойдзем шчасьце,
шлях упартасьцяй асмужым завіхрастай,
лёс бадзёрай, жвавай песьняю спадманім?
Можа й так?
А скрывіцца сьцяжына,
не захоча легчы ў сонца
струнна, проста, —
мы лапаты звонкія нагострым,
пад кашулямі сталь цяглівацаў спружынім,
і як пойдзем раўнаваць і долы й горы,
і як пойдзем сыпаць жвірам лёсу ў вочы, —
дзе-ж устоіць? Дасьць і тое, што няхоча,
ўсе куткі за нашым шчасьцем перапора!
Дык із Новым,
новым, сьветлым, шчасным Годам!
Хай гарматы гімны сьмерці ў сэрцах граюць,
можа гэты
ўрэшце злыбядам параіць,
можа ў гэтым
нам бяду удасца сходаць!

1943

# ПЕСЬНЯ

*Прысьвячаецца Забэйду-Суміцкаму.*

Не тады, ведай, родзіцца песьня,
калі просяць паэту:
"Пішы",
а тады, калі пенай чарэсьняў
яна ўсьпеніцца недзе ў душы,
калі сэрца зярняты пачуцьцяў
ператрэ, перамеле на мак,
калі ўдасца закелзаць і спутаць
моцнай рыфмаю слоў маладняк.
Так было тут
і з нашай сустрэчай
ды із музыкай песьняў тваіх.
Іх паслухаць мы йшлі, як на веча,
хай нам звон вечавы не званіў.
У той вечар –
твой голас быў звонам,
ён – званіў з нашым сэрцам улад,
ён – у душы нам сыпаў лявоніх
залацісты, агністы апад,
ён у вочы пылеў нам,
ня песьняй –
нашай шэрай, нішчымнай вясной
ён – іскрыпкаю сьпеўнай ля весьніц
сустракаў каласістую ноч,
цьмяным смуткам пад ногі нам слаўся,
зыркім вогнішчам кроў распаляў,
і сьмяяўся задзірыста й плакаў,
змазваў з душаў штадзённасьці ляк...
Ен – зь няшчырасьці нас абяззбройваў,
а што нам над усё даражэй –
ён, твой голас –
гарачай тугою
па краіне таптанай дрыжэў...
О, пясьняр!
Ты так дзіўна упесьціў
нас, што з душаў пяшчоты ня змыць!
Хай жыве-ж беларуская песьня,
несьмяротная –
так, як і мы!

Менск, 1943

## ВАРТА ЖЫЦЬ!

Пазьмятала даўно кволай жоўтай далоняй
восень пену лістоўя з пажоўклых сьцяжын.
Адцьвілі верасы,
ад'ірдзеліся клёны,
але-ж трэба і сяньня
змагацца і жыць!
Кажны з нас яшчэ-ж верыць у нешта сьвятое:
хто ў Хрыста,
хто у Край,
а хто — проста ў сябе,
і пад вейкамі смагі жыцьцёвай ня ўтоім
мы,
як нізка ні гнула-б нам гора хрыбет.
Варта жыць!
Варта вечна чагось спадзявацца,
чуцца часткай айчыны, малой, а жывой,
песьціць сьцерплыя пальцы адвечнаю працай,
разьвіваць слоў і чынаў бясконцы сувой,
і тварыць...
Заўтра-ж зь неба зарою крамянай
не зьляціць,
і ня выцьвіце зь нетраў зямлі.
Наша заўтра народзіцца з нашага сяньня,
з усяго, што нас цешыць,
і што нам баліць.
Калі-ж мо й давядзецца няўсьцішныя сэрцы
йшчэ ці раз нам снапоўем злажыць на таку —
не бяда!
Ўжо нікому наш сьлед не зацерці
на гасьцінцах зямных,
нашай сілы — ня скуць!
Хай цьвітуць верасы,
хай мядзяняцца клёны,
хай мяцеляцца зімы над беляй сьцяжын.
Нашу долю мы ймклівей за ветры здагонім,
а для гэтага варта
змагацца
і жыць!

1943

## НА СЬМЕРЦЬ ЗМАГАРА

Яшчэ адзін змагар жыцьцёвы скончыў шлях.
злажыў сваё жыцьцё ахвярай за айчыну,
за тое, каб ніхто не падцінаў крыльля
ні ейным вывадкам,
ні іхным песьням сінім.

Мы ведаем, што ўсім –
дарога нам адна,
і ў вочы прышласьці глядзём спакойна й сьмела.
А хочацца усё-ж,
каб расьцьвіла пры нас
радзіма хараством вясьняным, пышным, белым.
Таму –
да сьлез шкада,
што йшчэ адзін змагар
із намі не дажыў да сьвята ўваскрасеньня...
Ды сяньня
не да сьлёз.
далей, пакуль мага,
пакуль у сэрцах гнеў ракою плешча пеннай!
Хай кроў сьвятых ахвяр
прад намі, на пяску,
каралямі суніц жывых, чырвоных сьпее.
Ня стане ні злабы у ворага, ні куль,
каб зь беларускіх душ ды выпаліць надзею.
Не паддадзёмся мы,
хай ці адзін змагар
яшчэ аддасьць жыцьцё за нас і за айчыну.
Бывай, адбылы, сьпі...
Жыць будзе родны край,
пакуль на сьвеце
сэрцаў, вёснаў, сіні!

Менск, сьнежань, 1943

## АСЕНЬНІ ХОЛАД

Так неяк збрыдла мне усё.
Жыцьцё даўно ў жалобнай раме.
Стаптаны мрой сівы драсён.
Трэ зачыняць, здаецца, краму.
Ні новых тэм, ні слоў няма,
усё абсмоктана, бы костка.
Хто-ж днём асеньнім пераймаць
паймкне бель яблынных пялёсткаў?
Хто з шэрай сівернай імглы
наткаць патрапіць ясных тонаў?
Хто пераўе сухі палын
на шоўк вясны, мяккі й зялёны?
Бадай у кажнага ў грудзёх
трымціць асінавае сэрца.
Ня чуе сьвет з трывогі ног,
ці-ж да актаў яму, да тэрцын?
Сьпявай сабе, як салавей –
на радасьць песьні не спатрэбіш.
Пагардай сяньня дораць верш:
зь яго-ж ня выймеш булкі хлеба,

не затаўчэш ім ні куцьці,
ні вернеш тых,
каго ня стала.
Скрозь нудна, шэра у жыцьці,
навін так шмат —
і гэтак мала!
Дык хоць гарыць лісьцё асін
чырвоным сполахам наўкола,
сінеюць пальцы, і ў душы
такі асеньні, золкі
холад...

Менск, лістапад, 1943

## СТУДЗЕНЬ

Студзень сьнегу назьмятаў са сьвету,
зраўнаваў бель стрэхаў і аселіц.
Матылём ля гурб віецца вецер,
сонцу сsocнаму пасьцелю сьцеле.
Вечар сьцені ў засенях усьпеніў,
накідаў калод упоперак дарогі.
На маіх вячорных лятуценьнях
хіба чорт,
і той паломіць ногі.
Ну й аб чым нам можа сяньня сьніцца?
Нат няведама,
з чаго й пачаць такое.
Шчасьця ня прыймчыць з далеч сініца,
слава мне ня ўсмак з часоў старое Трoі.
Трэба жыць, і ўсё.
Аб чым тут мроіць?
Мроі сьвету ня вядуць наперад.
Сяньня
імі ранаў не загоіш,
і ня ўкінеш нашай дзіўнай долі ў берда.
Сьмешна сяньня ў трубадура ўцелавіцца,
аб Раляндах сьпеў цягнуць пад тынам:
кажны з нас тут сам
Ралянд і рыцар,
Рансэвальскаю далінаю Краіна.
Не да "ніцых" нам сягоньня лятуценьняў,
рытмы маршаў адбіваюць ногі,
хай зьмяркаНьне пасмы сініх сьценяў
і кідае ўпоперак дарогі.
Хай зьмятае студзень сьнег са сьвету,
бель раўнуе стрэхаў і аселіц,
хай ля гурб віецца зь песьняй вецер,
сонцу соннаму пасьцелю сьцеле.

Менск, студзень 1944

## О, РОДНЫ КРАЙ!

Мне вечар разгарнуў пурпурныя балоны
вялізнай бібліі,
якую зваць "жыцьцём".
Яе лістаю я, а сонца дыск чырвоны
зьбіраецца тымчасам науцёк.
Не затрымаць яго,
як ня стрымаць жаданьняў,
як ня стрымаць гадзін і дзён,
што лёс дае.
Яшчэ часіна, дзьве...
і з дна начы вясьнянай
устане цьмяны сон і шыю абвіе.
І будзе спаць,
хто спаць яшчэ сягоньня ўмее,
і смачна грызьці сны, бы яблык сакаўны,
хай ці адна бяда яшчэ над сьветам сьпее,
хай і гудзе вакол дзікі пажар вайны.
Дзіўныя ночы й дні мы кідаем за плечы,
дзіўнейшыя яшчэ нам прыйдзецца спаткаць.
І добра!
Шмат каго мо лёс і пакамечыць,
ды сілы набяруць і сэрца і рука!
А сілы трэба нам,
магутнай,
чараўнічай,
каб выкуць сьветлы лёс,
каб зло перамагчы,
каб Нёманаву сінь, і Буг, і срэбра Пцічы,
і ветлы наш народ
як шчасьця навучыць.
О, родны край!
Другі такі ці-ж ёсьць на сьвеце,
ад сонца залаты, сівы ад тумаоў,
і белы
і густым, вясновым, пенным вецьцем,
і чыстаю, як сьнег,
душой тваіх сыноў!

Менск, красавік 1944

## САЛАВЕЙ

*Забэйду-Суміцкаму на 15-я ўгодкі*
*ягонае пясьнярскае працы.*

З выраем звонкім, што зь ветрам плыве,
зноў ты да нас прыляцеў, салавей,
роднаю песьняй нас песьціць.
Зноўку твой голас узбурыць дадна

нашыя сэрцы, як сонца й вясна,
госьці ў закураным месьце.
Дык засьпявай нам, заліся, вазьмі,
як у зялёным хмызьзі салаўі
вечарам сінім у траўні.
Пей нам аб сонцы, што ў лозах густых
жоўта-сярэбраны гойдае дым
рухам павольным і плаўным,
пей аб вясьне, што ружовы туман
сьцеле ўваччу і на сьвеце на зман
пей аб тузе і уцехах.
Песьняў тваіх раззалочаны сум
ветры па рунях сівых панясуць,
збудзяць вясновае рэха.
І заліецца ўвесь край, загудзе,
ажно кругі паплывуць па вадзе,
яблыны ўздымуць завею.
Пей, салавей, хай па сьвеце гучыць:
слаўна-ж умеюць сьпяваць Крывічы,
зь песьняй — іх лёс ня сьсівее!

Менск, 1944

## СЬМЕЛА, НАПЕРАД

Лёс мне казаў сяньня быць амазонкай,
меч даў у рукі, а сэрцу адвагу,
годзе сьпяваць па сасоньніках гонкіх,
годзе зьмярканьні абдорваць увагай.
Сьмела, наперад,
ня ў сонечны вырай,
як бы ні вабіў ён мёдам і хлебам,
але праз шэры трыпутнік і пырнік
бацькаўскай сьцежкай, радзімаю глебай.
Сьмела, наперад,
насустрач лагчынам,
вольхам, апырсканым травенскай цьвіляй,
хмарам пярэстым, падзеям і чынам,
дзе пехатою, а дзе і на крыльлі.
Іх не зламала нам горкае ўчора,
іх нам ня зможа й змагарнае сяньня.
Сьмела, наперад,
хай рэха уторыць
нашаму маршу па сьцежках жарсьцьвяных.
Клікаць жыцьцё, жыць пустою надзеяй
сьмешна,
пакору час пылам распыліць.
Сяньня мы самі жыцьцём паланеем,
сяньня мы самі надзея і сіла.
Сьмела-ж наперад,

ня ў вырай прывольны,
як бы ні вабіў ён мёдам і хлебам,
але па нашую ўпартую долю,
птушку,
што ўсё йшчэ
лунае ў паднеб'і!

Менск, чырвень 1944

## НЯХАЙ ЖЫВЕ УПАРТАЯ РУКА

Бяз сонца жыць ня ўмее каласьсё,
а без таго драбочка шчасьця — людзі.
Таму, праз асаты ды праз трысьцё
мы ймкнём, каб долю ўзяць за грудзі.
Ня час цяпер, як лялька, спавіваць
яе ў пяшчоту слоў ды просьбаў лопат.
Каб ніваў пух не парасла трава,
ці-ж пары дужых рук ня хопіць?
Дык хай жыве
упартая рука,
пяро ці плуг
яна трымае сяньня.
Дзядамі босымі ды з торбамі блукаць
мы ўжо ня хочам на сьвітаньні,
ня прагнем больш часінку супачыць
у пыле
коламі ўзаранага гасьцінца,
з пакорай стукацца пад вокнамі ўначы,
і кажнай цешыцца і костцы і скарынцы.
Мінуць,
маўляў вада вясновая сплывуць,
і гэтыя гады завей і паднявольля.
Узноў у сонца мы узьнімем галаву,
і мо адно ўспамін
праймаць нас будзе болем...
Забудзецца і ён...
Працуйма-ж, распачаць
аб хлебе заўтрашнім
і позна, і зарана.
Няхай жыве упартая рука,
пяро ці плуг яна трымае сяньня!

Менск, травень 1944

## ВЯСНОВАЕ

Мне вясна ў галаве закруціла,
я сягоньня п'яная вясной.
Зацьвітае вясновай цьвіляй
у сасоньніках сіні сон,
сонца золатам косы чаромхаў
падплятае,
               мігціць у траве,
сяньня сэрца усё навонках,
хоць зь вятрамі вазьмі, разьвей!
Глянь!
У руні радкой яшчэ, тонкай,
зерне сонца дзяўбуць крумкачы,
зь неба песьняў зямчуг жаўронкі
сыплюць,
робячы першы пачын...
Сыпце й вы серабраныя кроплі
слоў раззвончаных,
вершы мае!
Мо званчэй мы за ўсіх ухопім
сяньня гімн адсьпяваць вясьне

Менск, красавік 1944

## ДЫСАНАНС

Сыпле цёплым жвірам
сонца проста ў твар,
уваччу ўсё шырай
залаты пажар.
Скачуць па балонках
"зайчыкі" й пяро.
Каб хутчэй із сонцам
скочыць за парог!
Не сядзіцца неяк
мне сягоньня тут:
заўтра-ж вішні белай
беляй зацьвітуць.
І здаецца — гэткай
кволай вішняй я
аб вясьне над сьветам
буду зноў пяяць.
Гэта я, ня вішня,
белы, сыпкі сьнег
буду сыпаць цішкам
у мой верш,
               ці-ж не?
Я — пачую радасьць —
прызабыты скарб —
я —

дам жалям рады,
уздыхнуўшы: "Каб,
каб хутчэй, нарэшце..."
І... стае пяро...
Ну й каго тут цешыць,
калі ўсюдых —
кроў?

Менск, красавік 1944

## ДЗЯДОЎСКІ ЗАПАВЕТ

Жылі калісь дзяды
скупою лустай хлеба
з крывіцкіх палявін,
а ўмелі і гады,
і сілу рук спатрэбіць,
каб гнёзды дзецям зьвіць.
Умелі апавіць
пяскі калосься морам,
бары раскарчаваць,
іх потам напаіць,
абы рунелі спорна
і жыта і трава,
як той каршун з вышы́
нырца давалі ў зёлы
лязы сталёвых кос,
і смагу ніў гасіў
зярнятаў дождж вясёлы,
кіданы ўпрост і ўскос!
Зьвялі дзяды няўзнак
дрыгву і камяніцу,
цімала сіл сваіх,
ды навучылі нас
у долі не прасіцца,
а моўчкі моц раіць.
І сяньня,
у падзол
упіўшыся карэньнем,
у шчасьці і ў бядзе,
за лёс твой,
краю сёл
спакойных і старэнных,
мы, ўнукі, ў бой ідзём!
А праца —
запавет
дзядоўскіх рук і сэрцаў
сягоньня й наш закон.
Дык лі зару жвавей
на нас, на ніў каберцы,
крывіцкі добры кон!

Менск, 1944

## НЕ АСТЫЦЬ НАМ

Залатою мяцеліцай кружаць лісты,
дываны залатыя па вуліцах сьцеляць.
Нам, сябры,
й на чужыне, відаць, не астыць,
не пачуцца старымі ні сэрцам, ні целам.
На зьмярканьні,
калі аб брусы каміноў
месяц серп свой стары і зазублены гойстрыць,
калі цягнець усё да лятункаў, да сноў, —
лічым мы і далей
адно крокі ды вёрсты.
Навіліся ўжо туга на шпулю шляхі
Крывічоў — нашых продкаў, бацькоў,
ну, і нашы,
але ўсьцяж прад вачыма адно небасьхіл,
зоры й далечы ўсьцяж нас і надзяць, і страшаць.
Мы ўсьцяж верым,
што нашыя сьцежкі ў тупік
не вядуць, так упарта чакаем сьвітаньня, —
і яно расьцьвіце,
Край яго не засьпіць,
ці-ж дарма столькі год уздыхалася:
станься!
Хай сабе сівер трэпле шматкамі лісьця
й трэплюць нашымі сэрцамі тут успаміны.
Як лісьцё, мы іх кінем у ймглісты прасьцяг,
не яны сяньня твораць важкое,
а чыны.
Найясьнейшы ўспамін — гэта толькі ўспамін,
хай сабе дарагі, хай упойны...
Нам, воям,
што па ім, калі лёс наш мудрэйшы за сны,
калі кажная жылка ў нас б'ецца крывёю,
калі нам і ў чужыне ніяк не астыць,
не пачуцца старымі ні сэрцам, ні целам,
хоць і восень ужо, й залатыя лісты
дываны залатыя па вуліцах сьцеляць.

Бэрлін, кастрычнік 1944

## ІМКНУЦЬ ДНІ

Імкнуць, як на ветразях, шпаркія дні
няўтомна, няўлоўна, бязь сьмеху, бяз сыці.
Ды люба душу непакоем дражніць,
асеньняй трывогай трымцець, залаціцца...
Хто ведае,
можа пакутай, жудой

нам быў-бы дзядоўскі спакой ці пакора,
і ў шчасьці —
із прагай дзікой, маладой
шукалі-б мы дробных аськепачкаў гора.
Сягоньня, прынамся, жывём запраўды
мы й кажнаю думкай
і кажным імкненьнем.
Ня трэба нам праўды з маною гадзіць,
ня рупіць —
мы грэшныя болей ці меней.
Нат шчасьце —
і тое інакшае ў нас:
ня сон супакойны, а чын і змаганьне.
Інакшаю ўцехай нас поіць вясна,
інакшай тугою нас восені раняць...
І цяжка нас слоўкам пустым спадманіць,
спаіць палыном мест купальскага зельля.
Імкнуць, як на ветразях, шпаркія дні,
у лепшае заўтра
дарогу нам сьцеляць.

Форст, жнівень 1944

## НЕ

Узмахнула зыркім крыльлем
над руінамі зара,
і расьцьвіў ружовай цьвіляй
пажарышчаў смутных рад.
Зноў узорыліся дзесьці
прорвы чорныя вакон...
Мітусьлівы гоман места
сьцяў нарэшце чуйны сон.
І адно па рэйках звоніць
капытмі Пэгас — трамвай.
Сьню...
і ў снох маіх сасоньнік,
ціша,
росы
і трава...
Эх, каб нам, маё натхненьне,
выйсьці сяньня у палі
у вагнішчах палыменных
грэчак сум стары паліць,
і цьвісьці разом чаромхай,
і шыпшынай, і ліпой,
а ня кручай дзікай, стромкай
недзе ў змрок брысьці ступой.
Дык хадзі-ж,
пакінем брукаў

паблытаныя шнуры.
Сьлёз чужых набраўшы ў рукі,
цяжка, ведаеш, тварыць.
А тут сяньня
кажны камень
зьліты нечаю сьлязой...
Не?
Ну што-ж,
хай месяц раніць
сэрца й нам крывым лязом.

Бэрлін, жнівень 1944

## УСЬМЕШКА

Як малое дзіця,
ён шукае рукі —
апякункі, бы ў шэрую цемру ня рынуць.
Кіем ловіць прастор...
Маладзенькі такі...
А навокал —
руіны, руіны, руіны...
Ранкам жнівенскім сонца бадзяжыць у іх,
ночай — плачуць над іхнай пачварнасьцяй зоры...
Свае зоры, — блакітныя вочы — ў баі
ён за сонца для іншых аддаў із пакорай.
Як штадня,
места ймкне, мітусіцца, бяжыць,
аж ня ляжа на ходзішчы попельны вечар.
Ён стаіць...
Больш ні мэты ў яго, ні мяжы...
Для сьляпых-жа ні сьцежак няма,
ні далечаў.
А для нас, лёс?
Для краю, што ў неба гарыць?
Для абкрадзеных матак?
Чым гэтых суцешыць?
Чым ім жыць, адкажы!
І вось тут... на твары
без вачэй
расьцьвіла, задрыжэла усьмешка.
Быццам сілай наліў нехта чару нябёс...
Зноў пасыпалі ліпы залочаны прысак...
Не,
падступны, кусьлівы, насьмешлівы лёс,
нат ахвяраў сваіх
ты ня змусіш скарыцца!

Бэрлін, жнівень 1944

## НЯ ПЛАЧЦЕ

Ня плачце...
Не таму, што сьлёз шкада.
Ці шкадаваў іх хто калі дзеля краіны?
Але таму, што лёс яе нам зноў аддасьць,
тут, на чужыне,
нас ня кіне.
Мы вернемся дамоў!
З адкрытай галавой,
із сонцам у душы і песьняю на вуснах
мы пройдзем па шляхох, парослых злой травой,
апырсканых крывёй, —
і ў пыл затопчам вусьціш.
Як зоры
на вачох у кажнага сінець
каралі будуць сьлёз,
хоць выплакана столькі.
Ды вецер з родных ніў журботу аджане
і павыймае з душ тугі дзікое голкі.
Прысеўшы на пяску пад ніцаю зярбой,
падставім мы вятром паніклыя чупрыны
і скажам:
"Родны Край,
даў Бог, мы зноў з Табой.
Дазволь служыць Табе,
мы ўсё з пакорай прыймем".
І усьміхнуцца нам, аж сэрца забаліць,
і усьміхнуцца зноў, аж у грудзёх заколе,
Крывіччыны мае блакітныя палі,
каханыя ў чужой краіне,
як ніколі.
Ня плачце-ж,
не таму, што сьлёз шкада.
Ці шкадаваў іх хто калі дзеля краіны?
Але таму, што лёс
яе нам зноў аддасьць,
тут, на чужыне,
нас ня кіне!

Бэрлін, жнівень 1944

## ЯШЧЭ КРЫХУ

Заміж сноў сакаўных, зялёных,
мрої жоўтыя сьніць зямля...
У "вачко" із жыцьцём і сконам
мне дадзела ўжо гуляць.
Ды гуляй — ня гуляй,
а з касою

ўсьцяж вакол пахаджае сьмерць,
чорным макам нас пільна поіць,
лютай сьцюжай у вочы дзьме.
Сьсябраваліся мы, як зь сябрам,
і з чужой бядой,
і з сваёй.
Сяньня-ж сьвет увесь — дзікі табар,
дзе адзіны пан —
пугаўё.
Але нашыя сьпіны цьвярдыя,
іх ня зломіш,
баржджэй — батог.
Ці-ж дарма нас ніўя пустыя
гадавалі,
і пыл дарог?
Ці смакуе ня роўна гойстра
нам і радасьць цяпер
і жаль?
Ці жывём мы ня ўсьцяж пасвойску,
хоць далёка свая мяжа?
Шчэ крыху —
і параім сьмерці,
і загонім у кут бяду,
хай сабе нас цягаюць чэрці
праз агонь, зелязьзё й ваду!

Бэрлін, верасень 1944

## ЗЬВІНІЦЬ МЯДЗЯНЫМІ ЗВАНАМІ

Зьвініць мядзянымі званамі
над галавой мэталь лісьця...
А мы
пытаемся ў жыцьця —
варажбіта,
што-ж будзе з намі?
Куды цяпер нас павядзеш,
ты, наш стары, крывіцкі Коне,
ці наша змрочнае сягоньня
йшчэ зьменіш ты на ясны дзень?
Ці мы у сіняе сьвітаньне
яшчэ узьнімем зь верай зрок?
Ці з пылу крыжавых дарог
калі на ногі моцна ўстанем?
Усё далей, далей, далей,
дзесь у сівыя далячыні,
сплывае шчасьце...
Смазе чыну
ў грудзёх, аднак, не спапялець.

Яна ня зьгіне навет з намі,
бо ўсьлед нашчадкі возьмуць сьцяг.

Звані-ж, звані, мэталь лісьця,
ўгары мядзянымі званамі!

Бэрлін, верасень 1944

## БЯЗЬ ПЕСЬНІ ЖУРАЎЛІНАЙ

Сказалі ўсё, што мелі, адшасьцелі
аб залатой вясьне асіны ды кляны
і ськінулі лісьцё...
Канец навэлі...
Пачатак новае, так іншай ад вясны.
Ці шкадаваць старой,
ці захапляцца новай,
якую нам ужо тчэ восенская ноч?
Ня знаю...
Ды дрыжаць узноў на вуснах словы,
і сэрца ўзноў снуе ў грудзёх, маўляў чаўнок.
Гудуць гудкі, грымяць па бруках колы...
У думках — сьмерць... жыцьцё...
жыцьцё і сьмерць.
Каго хвалюе тут, што восень поліць
лісьцё прысад,
каму
па іх тугу займець?
У месьце, між руін, пад гуд машынаў
нячутна-ж, як зьвіняць у небе журавы,
у вырай лятучы...
Тут, на чужыне,
як ні глядзі, іх вокам не злавіць.
А што-ж за восень
бяз журботы жураўлінай,
без павучыньня і бязь сініх туманоў?
Таму —
хоць ня цьвілі,
на вуснах вянуць словы
і сэрца
— ня снуе, ледзь, ледзь трымціць —
чаўнок.

Бэрлін, верасень 1944

## УНОЧЫ

Калматыя, чорныя бровы
суровая хмарыць ноч.
Лірычныя мроі ды словы
адкінула я даўно.
ІСьці праз жыцьцё із санэтам —
сягоньня, дапраўды, сьмех:
нат з гойстрым штыхом да сьветных
ты сяньня ня дойдзеш вех.
Ня слова сягоньня,
а куля
парадак вядзе у нас.
Паэт лепшы той, хто туліць
гранату ў руках...
Вайна...
Інакшых і рыфмы і рытму
жадае людзкі натоўп.
Іх зь вёснаў ці сноў ня вытчаш,
спрабуй хоць-бы пораў сто.
А ўсё-ж,
як ніхто ня бачыць,
ледзь ноч начапляе зор
на неба, —
лірычным плачам
зноў плача маё пяро.
І сьняцца мне нашыя нівы,
і роднага неба дыван...
Аб іх успамінаў ня змыеш
із сэрца,
як ні змывай!

Бэрлін, верасень 1944

## СУСТРЭЧА

На станцыі —
сьвісткі, хаос, перапалох.
Снуе натоўп, патраціўшы галовы.
Над клумкамі пярэстымі
удзьвёх
стаяць дзяўчаты з "Ост'-ам" на грудзёх,
і сьвет здаецца ім страшным і новым.
Яны
нядаўна з Случчыны...
Яшчэ
нат не даелі чорнага акрайца,
што маці ім паклала ў торбу, бо пячэ
ён штось у горле сяньня... Шмат начэй
ня спалі...

А куды цяпер? "Парайце!"
Паказваеш ім, дзе, куды й пашто.
Пайшлі...
Забарбанілі колы нудны марш па рэйках.
Іду і я...
І пахнуць мне палі
І сасьнікі мае айчыны, як калісь,
і сум пякучы паліць вейкі...
Ну, а яны, дзяўчаты, пэўна, сьпяць
ужо ў куточку дзе, і сьняць,
што сьвежым
асеньнім ранкам на сяле рыпяць
вароты,
што курыць імглой лісьцё куп'я,
і што вакол —
спакой бязьмежны...

Бэрлін, верасень 1944

## БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Восенскае волава
капае з гальля.
За крыніцай з жоравам
мокры дрэмле шлях.
Па шляху, па лужынах,
босыя, ў лапцёх,
моўчкі сьцені сунуцца,
клянучы жыцьцё.
Як ваўкоў, вартуюць іх
колкія штыхі.
Сэрцы-ж не ўтаймуюцца,
мкнуць на небасьхіл,
дзе тырчаць з папелішча
ў неба каміны,
дзе й свае
між целамі
засталіся гніць...
Мой расьпяты ворагам,
шматпакутны край,
ня тужы,
йшчэ ў сполахах
расьцьвіце зара.
Усе з далёкіх выраяў
мы дамоў зьляцім.
Накш,
скажы па шчырасьці,
што нам па жыцьці?

Бэрлін, кастрычнік 1944

## ПРЫЙДЗЕ ЧАС

У чаромхавай у мяцеліцы,
у бярозавых туманох,
па загу́меньні, па аселіцы
слала дзеўчына палатно.
І піло яно росы цёплыя,
плынны, сонечны, жоўты мёд.
Мела дзеўчына працы з коптарам,
ды й турбот ня менш — ля гумён.
Ці кідаць усё чорту лысаму,
прад навалаю уцякаць,
ці застацца мо
і пад прысакам
куль і зьдзекаў жыцьцё сукаць?
Шкода скрыні цяжкой, пасажнае
з дыванамі у шмат нітоў,
мірты буйнай... А як адважыцца
кінуць край свой,
сваіх братоў?
Ды смугою далечы хмарацца,
глуха шыбы ўначы бражджаць,
з крыкам кружаць над хатай галіцы,
рэжуць сэрцайка без нажа...
І... зьвіліся палотны трубамі —
хай нябеленыя ляжаць.
Запрагай каня, бацька, й лубінам,
нацянькі, на шлях выяжджай!
Чым зь нядоляй пазнацца жорсткаю,
лепш, як прыйдзецца, —
і пагалець,
мо упоперак горла косткаю
і ня ўстане чужацкі хлеб?
Прыйдзе-ж,
прыйдзе час —
па аселіцы,
у бярозавых туманох,
у чаромхавай у мяцеліцы,
будзем зноў мы слаць палатно!

Бэрлін, кастрычнік 1944

## УЦЕКАЧЫ

Віюцца, як кужаль блакітны,
на шпулю калёсаў шляхі...
На возе —
малыя, мяхі...
Навокал —
ніўя ды ракіты,

імшары, сасоньнікі, сітнік,
сівы небасьхіл...
Сьмяюцца малыя й скуголяць,
сысолячы чорны сухар.
Бацькі-ж...
быццам плёхае вар
на сэрца ім нехта няўмольны,
калі расьцьвітае над полем
уночы пажар.
Ён топча ім здаўна па пятах,
лапочачы крыльлем рудым.
Грызецца у вочы, бы дым:
ці гэта ня родная хата?
І рвецца да нівы нязжатай
душа...
каб туды...
Віюцца нячэсаным зрэб'ем
дарогі на шпулі калёс.
Жаўцее на ўзьлесьсі гальлё,
зьвіняць журавы у паднеб'і,
сумуюць палі:
дзе наш сейбіт,
куды ўжо занёс яго лёс?
А ён —
у чужыне,
ён чэзьне
па краі, бы ўвосень быльнёг.
І сьняцца яму, абы лёг
па працы —
дзядоўскі бярэзьнік,
і сонца, і вецер гарэзны,
і звон аваднёў.

Бэрлін, лістапад 1944

## СІВОЙ ВЯРБОЙ

Слата і змрок...
Душа пустуе,
ў смузе маркотнай далячынь...
Сівой вярбой, хіба, пайду я
над плёсам цішу сьцерагчы.
Ўрасту карэньнем моцна ў гліну,
карой адзенуся рудой,
шырока рукі разгаліню
над шэрай, соннаю вадой.
І буду жыць,
як жыў спрадвеку
увесь вакольны, вольны сьвет:
піць туманоў надрэчных лекі,

пух белы сеяць на траве.
І браць, раськінуўшы галіны,
із прагай сонца і цяплінь,
у гуд услухвацца пчаліны
і ціха зерняты сьпяліць.
Ці раз вярбіну ўпесьціць лета,
ці раз да сну утуліць сьнег, –
і я забуду ўсё, што ў сьвеце
мяне змушала паланець.
І пад карой маёй,
на ветры,
ня будзе біцца ўжо й званіць
нямоўчны звон –
людзкое сэрца,
крыніца праўды і маны.

Бэрлін, лістапада 1944

## ЗДАГОНІМ СОНЦА

Малоціць дождж снапоўе стрэхаў,
аж шэры пыл вакол курыць...
Хто-ж рассыпкім прысыпле сьмехам
сягоньня смутак наш стары?
Ўжо-ж не здагнаць цяпла і сонца
на крылах навет журавом.
Ды трэба жыць, каб шлях свой скончыць
як мае быць,
і мы жывём...
Ірвёмся, ймкнём, сварымся, просім,
а шчасьця ў рукі ўсё ня ўзяць.
Ці не няпрошаныя госьці
мы на балі тваім, зямля?
Як так – ня думай, што пазбыцца
ты нас патрапіш абы чым.
І мы у твар заўмеем выцяць
каго патрэба,
хоць маўчым.
Малоціць дождж па стрэхах пясьцяй,
аж золкім дымам дзень дыміць...
Здагонім сонца ўсё-ж і шчасьце,
калі ня журавы, –
дык мы!

Бэрлін, лістапад, 1944

## СЬНЕЖАНЬ НА ЧУЖЫНЕ

Сьнежань...
Не такі, як там, у нас,
расшываны прошвамі бярэзін
і хваін,
пабелены да дна
серабранаю завеяй...
Чысты...
Сьвежы...
Тут — яшчэ ўсё восень, золь, дажджы
і шнуры асьлізлага асфальту.
Тут,
калі й прыжджэш, рады ў гады,
як мяцеліцы —
дапраўды, жалю зарта!
Тае ўмомант жменька сакаўных
яблынных пялёсткаў пад нагамі,
не пасьпееш навет і сасьніць
аб далёкім,
родным, аб каханым...
Аб парошах, гурбах, што нагроб
каля весьніц вецер, азяродах,
дзе тырчыць яшчэ забыты сноп
канюшыны, зьбіты непагодай...
Каб туды як сяньня,
распыліць
сум, упіўшыся дап'яна белым сокам,
хай трашчаць, з рабінаў срэбны пыл
абтрасаючы,
сварлівыя сарокі!

Бэрлін, сьнежань 1944

## ЖЫЦЬЦЁ

Жыцьцё —
як бярозавы сок,
жыцьцё —
як салодкая брага:
п'еш, п'еш —
і, маўляў хто урок,
яшчэ горшая чуецца смага.
Ледзь верасень, спрытны каваль,
у медзь закуе далячыні, —
нам хочацца ўжо, каб трава
узноў зелянела ў лагчынах.
Ледзь цёплаю сіняй пляхне
вясна па марцовым рызманьні,

ледзь ветры пазьлізваюць сьнег —
зноў сьняцца нам восень, туманы...
Адразу жадаем абняць
мы ўсё (не пакінуць нічога):
прасьцяг каласься і сасьняк,
і продані неба сівога.
З кульгавай, гугнавай нудой
сустрэцца цяпер цяжкавата.
Ня зьвіць ёй між намі гняздо,
калі ўсьцяж —
ні ўцехі, ні сьвята,
калі не ўтаймуеш бяды,
хай сэрца жывое ёй выймі,
а кон —
мо узноў на гады —
сыноў разлучыў із радзімай.
Ня дзіва, што п'ецца, як сок
сягоньня штадзённасьць, як брага,
дык быццам знарок хто урок,
яшчэ горшая чуецца смага.

1944

## РАБІНА

Асыпала попелам сыпкім зьмярканьне
вакно, і паперу, пяро, і мяне...
Пад небам зімовым,
над шэрым парканам
рабіна галіны шкляныя хіне.
І столькі спакойнае, простай пакоры
прад лёсам зь вятрамі ды сьцюжай у ёй,
што гасьне імкненьне падзеі паскорыць,
і цішаю поўніцца сэрца
й маё.
І хочацца шрэняй ахутацца срэбнай,
таксама хістацца на ветры й чакаць
із верай глыбокай,
аж зь сіняга неба
хлыне на зямлю залатая рака,
аж сокі густыя закружаць у жылах,
аж сэрца заб'е ў залатыя званы,
і сном недасьнёным растае ў расьцьвілых
далечах
туга
прад абліччам вясны!

Бэрлін, студзень 1945

## Я СУЦЯШАЮ НЯ ІНШЫХ – СЯБЕ

Я суцяшаю ня іншых –
сябе,
і найчасьцей,
як суцеха – ў ваблоках,
хоць, як на злосьць, як галоднаму хлеб,
мрояцца словы спагады глыбокай.
Толькі сабе
ўпарта цьвярджу:
”Сьмела, наперад, хай смутна, хай шэра”...
Можа бяздумна накручаны жмут
рыфмаў –
                папраўдзе параіць няверы?
Мо дапамогуць камусьці і з вас
вершы мае над сабой не заплакаць,
і не рассыплю я ўсё-ж надарма
сэрца вішнёвую, пенную наквецць?
Тое, што крышыць сягоньня ваш гарт,
вочы й мае
злой маркотаю засьціць.
Хоць і сьмяюся я, колькі мага,
сэрца чамусь не сьмяецца,
і часта
мне тут даводзіцца ў смутку гібець,
толькі мо плачу я трошкі інача́й...

Я суцяшаю ня іншых –
сябе,
а найчасьцей, як суцехі ня бачу.

Бэрлін, студзень 1945

## ЗАБУДЗЕМСЯ

У ночвах завулкаў вечар
марознай імглы намясіў...
Цалуе у твар мяне вецер,
згарнуўшы на бок валасы.
Прыемны мне сьмелы дотык
ягоных сьцюдзёных губ.
Хай будзе, што будзе потым –
дап'ём наш п'яны багун!
Забудземся хоць на ймгненьне,
што сочыць, як той ганчак,
сьмерць нашы сьляды і сьцені,
што шмат хто – ужо зачах,
што трэба ісьці наперад,
хоць сяньня
і гэнам – ноч,

празь сілу, бяз смаку й меры,
крывавае піць віно...
У ночвах завулкаў вечар
марознай імглы намясіў...
Да рук маіх туліцца вецер,
згартае на бок валасы.
Абвій-жа мне шыю,
варта
даткнуць маіх цёплых губ.
Хай будзе, што будзе заўтра —
дап'ём наш п'яны багун!

Бэрлін, студзень 1945

## ТАМ...

Студзенскі попельны змрок.
Твар ад марозу гарыць.
Рвуць серабраны уток
тонкіх галінаў
вятры.
Думкі, як пыл сьнегавы,
мкнуць то уніз,
то ўгару.
Ня прытрымаць, не злавіць
іх, матылёў, упару.
Ды і нашто?
Хай плывуць
із вятругой прад сабой.
Я-ж
пахілю галаву,
стану пад белай вярбой,
і апынуся... далёк,
там,
дзе ня гэткі мароз
туга паскручваў гальлё
сплаканых горка бяроз,
дзе натаптана у сьнег
столькі сягоньня бяды,
дзе ў папялішчах, на дне,
чорны качаецца дым...
Гэта — радзіма мая,
дзён маіх мклівых зажын,
край, дзе так дзіка рыпяць
сяньня праклёны чужых...
Зыркай паходняй гарыць
сэрца маё за яе.

З плачам зьмятаюць вятры
сыпкі, як попел той, сьнег...

Бэрлін, студзень 1945 г.

## ПАЧАКАЙ!

Мы прыйшлі сюды з вузкіх загонаў,
раззалочаных мятліцай і званцом,
спад нябёсаў сініх і прадонных,
ад народам складзеных канцон.
Дзе-ж у сьвеце ройным і шумлівым,
між вянкамі іскрыстымі зор,
ёсьць такія йшчэ, як нашы, нівы,
ёсьць такая ціша і прастор?
Дзе яшчэ
зьнічом чырвоным паланее
гэтак гольле восенскае ліп?
Дзе такія сінія завеі
мкнуць навыперадкі ўвесну паўз палі?
Дзе
прад абразом нябёсаў сьветлым
ночы паляць столькі зорных сьвеч,
дзе,
дзе-ж гэткі вось шчасьлівы й ветлы,
як у нас,
быць можа чалавек?
Толькі ўспомніш гэта ўсё —
і паліць,
цісьне сэрца нешта,
не сагнаць.
І блакітным ладанам у далеч
найшчырэйшая плыве туга...
Ды няхай
сівы палын на межах
сяньня звоніць па табе,
мой край,
зноў чаромхавым пахучым сьнегам
кон цябе асыпле,
пачакай!
зноўку ўспыхнуць напярэймы ветрам,
над палеткамі тваімі песьні жней,
і далёка,
за сівыя нетры,
ты свой смутак церпкі пражанеш!

Бэрлін, студзень 1945

## НОЧ

Трасецца сьвет ад гуду танкаў,
бадзяжыць сьмерць,
зьбірае плён.
А ноч —
ноч месяца баханкай

спакойна ломіцца зь зямлёй.
Як Вечны Жыд,
яна ці тое
ў сваёй вандроўцы па шляхох
ужо тут бачыла...
Пустою
гульнёй і боль ёй
і спалох.
Міне вайна...
Чырвонай парай
з палёў баёвых кроў сплыве...
Зноў вёсны мёдных зёл напараць,
сінь разьліюць...
ды чалавек —
ці зрадзіць ён
баёвым ранкам,
крыжом, крыві, атруце сьлёз?
Што, ноч?
ды месяца баханкай
ноч моўчкі ломіцца зь зямлёй...

Амбэрг, сакавік 1945

## БУДУ СЯНЬНЯ

Сыпле раніца ў вакяніцы
раззалочаны сонца жвір.
Выйду ў сіню вятрамі ўмыцца,
косы росамі перавіць.
Накіпаюць вясной далечы,
дым зялёны паўзе з лагчын...
Дзе-ж устоіць тут смутак нечы,
дзе-ж увесну яго зьберагчы?
Не патраплю я й так у распачы
праклінаць і людзей і жыцьцё.
Ўсёй бяды,
як ні плач — не аплачаш,
хай нат веры сьлязам дасьцё.
Вось і буду — вясьне уторыць,
ізь вятрамі ў платох сьпяваць,
аж расою сівой, вячорнай
наліецца ў лагох трава,
ажно белыя плечы йгрушаў
туманамі накрые ноч,
ажно вочы мне зацярушаць
іскры —
месяца серабро!

Амбэрг, 1945

## ЛЯВОНІХА

Іржавым пяром на балонах лісьцін
кладзе лістапад свой раськідзісты рошчырк...
Праймаюць і смутак і золь да касьці,
няма ім упынку ні раньнем ні змрокам.
Гэй, вятры, вятружыны —
завірухі,
засыпайце лужыны
белым пухам,
пад глухія тэрцыны
цёмных хвояў,
леце, леце ў сэрцы нам
белы солад.
Паслухалі ветры... Лявоніху йдуць
па шэрым памосьце іржышчаў ды лянішч,
распырскваюць зь песьняй балота, ваду,
як быццам пад'елі дзе ў смак дурнап'яну:
"Ой, Лявон Лявоніху
маладую,
сваю ўцеху — сонейка
не шкадуе,
як прыцісьне пруткую,
пойдзе ў скокі,
вірам хата круціцца
сінявокай"!
Імклівей, імклівей, шпарчэй і шпарчэй,
рагочачы, скача над гурбамі вецер.
Гадзіна, другая — і скрозь разатчэ
ён срэбрам ды беляй і нівы і вецьце.
А тады усьцешыцца:
"й я ня зломак",
усьміхнецца месяцу
залатому,
усьміхнецца хвойнікам
і дубровам,
як Лявон Лявонісе
чарнабровай.

Рэгенсбург, лістапад 1945

## ПЕРШЫ СЬНЕГ

Упілілася ў сэрца радасьць,
а спытаўся-б хай хто, чаго?
Мо таму, што над беляй лядаў
белы, сьнежны імкне вагонь?
Мо таму, што марозны вецер
пыл сузорны у твар мяце,
што ўшываецца ліпаў вецьце

срэбнай шчэцяй усё гусьцей?
Сьнежань, сьнежань,
чаго ашукваць
нас тут сьвежасьцяй, чысьцінёй,
непарушную бель рассукваць
на пачуцьцях,
                    на сьвежых пнёх
пасьцінаных блізу да кораня
існаваньняў людзкіх?
                                Душа
й так у кажнага перагорана,
пераранена... Ціха, ша...
Упілілася ў сэрца радасьць,
хоць і знаю — усё мана.
Мкне завея над беляй лядаў
у няўхопнае... Ня суняць...
Задзірасты, марозны вецер
пыл сузорны ў твар мяце,
і ўшываецца ліпаў вецьце
срэбнай шчэцяй усё гусьцей.

Рэгенсбург, сьнежань 1945

## Я — ПІШУ

Моўчкі адыходзіць небам дзень,
вядучы на паваду рудое сонца.
Плямы сьценяў сініх дзе-ня-дзе
залілі ўжо залаты сасоньнік.
А ён спаць ня хоча. Сонцу ўсьлед
пахне цёплаю мядоваю смалою
і ўсё шэпча, мо начы й няўтон,
аб уцехах сонечных, маўляў малое.
Спаць ня хочацца і мне. Вазьму пяро,
расьцьвіце мо на паперы колькі зорак,
як вышэй, дзе звонкі срэбны рой
ужо выляцеў страчаць вячорны морак.
Так... ідзе паволі небам ноч,
вядучы на паваду бялявы месяц.
У сутоньні сонным сьпіць даўно
сьцішаны сасоньнік... Голаў зьвесіў.
Я-ж пішу...
                    Навошта я пішу,
для каго? Па шчырасьцi — ня знаю.
Бо-ж ня вершы ў сьвеце узьнімаюць шум,
і ня рыфмы шум той сунімаюць.

## ДОЖДЖ

Срэбрам тоўчаным асыпаў дождж
шыбы задымелага бараку.
З гэткай шчыраю, пякучаю жадой
ён даўно, даўно ужо ня плакаў.
Плач удосыць...
Я — я не з такіх,
і з табой напэўна не заплачу.
Я ня плачу, я твару, калі
мяне жаль агортвае гарачы.
І тады
мой кожны крок — сьляза,
кажны ўчынак — кропля залатога ляку,
вось як тыя, што дні два нізаць
ня сьціхае дождж на шыбінах бараку.

## КАЛЮМБ

Знаёмы краявід: барак, падгнілы плот,
дзьве-тры бязьлістыя, маркотныя таполі,
калода зь кіненай пры ёй старой пілой,
кашуля ў латах на шнурку... Што-ж болей?

Ах, лужына яшчэ, ледзь-ледзь не акіян,
мутная, рыжая, бяз канца і бяз краю,
ды вечар сіні, зыркі... Колькі я
такіх чужых — праводжу й сустракаю!

Ля лужыны — дзятвы! у хустках, каптанох,
із лапкамі сьсінелымі й насамі.
Сьмяюцца, плёхаюцца, б'юцца, хоць даўно
час у цяплейшы кут — да печкі і да мамы.

Шторaз цямней... Чырвонае крыло
заходу сасьлізнулася з баракаў.
Павеяла важкой, вільготнай мглой... Праз плот
пайшлі малыя... Ціха, як пасеяў макам.

Ды хто-ж гэта сапе над лужынай? Адзін,
маленькі карапуз стаўляе цэглы рубам
і скача праз ваду, далей, далей. Глядзі,
ці-ж ён ня чуецца цяпер Калюмбам?

Чароўны сьвет нязнаных далячынь!
Прадонныя, усьпененыя тоні!
Што-ж там? У далечы-ж! Пачын
яшчэ ня ўсё: канцы — ўсяму карона!

І б'ецца сэрца дробнае тугой
па чымсь ня знойдзеным яшчэ, хоць прадчуваным.
Далей! Хай хлюпае у боціках. Яго
ня спыніш. Ён — здабыўца сяньня!

Ды пахіснулася зьнянацку цагліна
і боўць! — у лужыну здабыўца нецярплівы.
Прарэзьлівы дзіцячы плач узьняў
з таполяў стаю галіцаў крыклівых.

Нярадасны канец імкненьняў, мрой... але...
ці-ж не праняў-бы й нас ён холадам і сумам?
І ціха й я іду да хаты ўсьлед
за ім, нядойшлым, сплаканым Калюмбам!

1946

## СЛАВА

Добра жыць на зялёнай зямлі
з сэрцам простым, малым, чалавечым.
Расьцьвісьці, і зярнят насьпяліць,
і у вечнасьць
сплысьці, як лісьцё.
Ня ўзірацца ў блакітны туман
недасяжных, далёкіх сузор'яў,
і уцехі і крыўды прыймаць
із пакорай,
як гнецца трысьцё.
Але гора таму, у каго
не на меру прыкроена сэрца,
ў кім адвечны шугае агонь,
хто й памерці
ня ўмее і жыць,
хто ня стоміцца загрудзі браць
наймацнейшых,
каб лёс наш палынны
ўрэшце вывесьці — хіба-ж пара! —
на гасьцінцы
з вузенькіх сьцяжын.
Гора тым, хто сьніць сінь, далячынь
непазнаных усьпененых мораў,
хто імкнецца зь зямлі уцячы
у міжзор'і,
хай трапіць на дно.
Сто раз гора таму, хто сваіх
любіць больш, чымся собскае цела.
Каго пенным віном не ўпаіць
на вясельлях чужых
шаптуном.
Адно дзіўна, а славяць здаўна
не пакорных, што гнуцца да стомы,
не таго, хто насьпеліць зярнят
і лісьцём душу сьcraftкіне сваю.
Казак, песьняў аб гэткіх няма.
Ні цымбалы аб іх не зазвоняць,

ні дзяўчаты, зару пераймаць
ідучы на загон,
не сьпяюць.
Не, плятуць у нас славу чамусь
тым якраз, каму мрояцца ўзвышшы,
хто ня грэзьне ў жыцьцёвую муць,
дзід ня крышыць
за скарбы зямлі.
Пяюць песьні у нас аб сьвятых
змагарох, палыменных, шалёных
пераможцах, паэтах — аб іх,
аб натхнёных,
мы славу сплялі...
Хай жывецца-ж на жытнай зямлі
добра з сэрцам малым, чалавечым,
хай, хто ўмее зярняты сьпяліць,
і у вечнасьць
сплывае лісьцём.
Мы глядзелі
і будзем глядзець
у туманы няўхопных сузор'яў,
і ня будзем з пакорай цярпець
зло й дакоры,
гнучыся трысьцём.

## У ЛІПЕНІ

Залатыя жыта
і сьпякотнае сонца,
пахі мёдныя мяты, чабору і ліп!
Дзень ліпнёвы, здаецца, навет душы залоціць,
непакоі, клапоты — й тыя дзесь адплылі.
Неахвота ні думаць, ні рабіць...
Звоняць пчолы
у званы залатыя над маёй галавой.
Каб у гэткім вось сонцы,
гэтак звонка, вясёла
й нам судзіў лёс зьбіраць залатое жніво.
Ды ня знаем мы радасьці працы —
няўмела,
із-пад кія гаруем... Бо і праўда-ж,
прасьцей
да узьмежку прыпаўшы распаленым целам,
у ліпнёвай сьпякоце, як жыты, залацець!

Міхэльсдорф, 1947

## СКРОЗЬ ЗОЛАТА

Скрозь золата... У небе, на зямлі.
Мільлёны лужынак зіяюць, як чырвонцы,
аж і ў ваччу чырвона, аж баліць
глядзець на сьвет, на залатое сонца.

Усімі вокнамі угледзеўся барак,
наш апрыкрэлы "дом", у залатую далеч.
Мо і яго, як нас, пякуча так,
туга па вырaі, па крылах паліць?

Ах, каб пачуць, пачуць іх важкасьць за плячмі,
ўзмахнуць і ўзьняцца ў залатую вышу,
далей ад лягеру, баракаў, зьвяг,
дзе мы
сябе на дробныя драбочкі крышым.

Ня людзі-ж, чуем, мы,
а друз і парахно,
хай гэтак хочацца зноў чуцца чалавекам!
Скрозь золата...
Ды не, мы галавы ня ўгнём,
у сонца радасна ўзьнімаюцца павекі!

Міхэльсдорф, 1947

## БЕЛАРУСІ

Есьць людзі, што ў Цябе і вераць і ня вераць,
якім Ты "сіняю вачэй яшчэ не расьцьвіла".
Іх лёс няласкавы, іх шлях імглісты й шэры.
Ці нам каменьне ў сэрцы іх шпурляць?

Ды ёсьць і іншыя, якіх Ты вылюляла
найшчыршай песьняй матчынай, якіх
карміла лустай жытняю бязмала
да ўчора,
і што сяньня кажуць:
"Кінь!

Якія мы тваe,
а Ты якая наша?
Цябе няма, Цябе хтось выдумаў на сьмех!"
І вышчараюцца й клянуць Цябе,
а часам
клыччом за горла...
Зрадзе-ж не сацьмець!

Даруй ім, Краю наш, калі патрапіш,
хай нат прабачаньня для іх няма.
Няхай наш боль, усё змаганьне наша
для іх — пад ногі кінены лахман.

Дзень прыйдзе —
Ты сама іх, Маці, пакараеш,
прапаліш роспачай і целы й сэрц кару.
Для нас,
выгнаных сяньня з Краю —
была Ты,
ёсьць
і будзеш,
Беларусь!

Міхэльсдорф, 1947-48

## МАЦІ

Маці!
За кужэльную нітку даўжэйшы твой смутак па нас,
за кужэльную шэрую нітку з твайго калаўроту.
Хай вішнёвай паводкаю плешча у вокны вясна —
да Цябе яна прыйдзе адно разам з нашым зваротам.
Маці!
І мы прагнем, як сьветлага Прыйсьця, тых дзён
калі радасьцяй зыркай ізноў загараць Твае вочы.
І хоць нашыя сэрцы ўкавала на камень жыцьцё,
вызнаём:
да Цябе мы, як дзецьмі калісь,
прытуліцца так горача хочам!

## ВОСЕНСКАЕ

Як тварыць? З чаго, калі часы такія —
ўсё вакол адно імкнецца спаць.
Сінім шклом шкліць раніцы глухія
тут і там бярэцца лістапад.
Зь цел аголеных зрываюць у прысадах
ліст апошні жоўты тапалі.
І маркота восенская скрадам,
нейк няўзнак, імкненьні папяліць.
Не нальлеш з пустога, а у кожным
сэрцы і ў далечах пусьціня.
Ізь кійком і торбай падарожнай
не паймкнеш гасьцінцам пераняць
долю, песьні...
Ў вырай з жураўліма
адляцела ўсё, ці мо палегла спаць.
Шкліць шляхі ламлівым, сінім шклівам
тут і там канчае лістапад.

Міхэльсдорф, 1946

## ЁН ДАЙШОЎ

Горкі хлеб чужацкі,
                                        хай і белы,
хай аж просіцца — пад'есьці ўсмак.
Лепшы там,
                        у хаце — заімшэлы,
з асьцюкамі войстрымі, праснак.
Зашчымела сэрца у хлапчыны,
штораз горай... Не перадыхнуць,
аж і ён із выраем гусіным
у вясновых сінях патануў...
Доўга йшоў вандроўнік,
                                        ці каротка, —
хто сачыў?
                        Зьвінелі журавы,
зелянелі ў затанях чароты,
лапухом успыхвалі равы.
Дні рабіліся цяплейшыя, аж вішні
срэбнай пенай пырснулі на сьвет.
На балі вясновым, пышным, лішні
ён ішоў па росах, па жарсьцьве.
Ногі ранамі крывавымі зайрдзелі,
вецер стрэчны вочы прыгасіў.
Аж аднэю ночай,
                                белай, белай,
ён дайшоў...
                        Шчасьлівы, хоць бязь сіл.
Мёдам капалі густым, салодкім ліпы,
пыл мяккі пад ногі слаўся, піў сьляды,
хтосьці росамі у вочы госьцю сыпаў,
абтрасаючы вішнёвыя сады.
Стая... дзьве... І ў засені парканаў
хата вырасьце пад шапкаю страхі.
Каб хутчэй адно дабегчы... глянуць...
Грудзі сьціснула...
                                ў ваччу кругі... кругі...
Вось нарэшце й вербы... Ніткі срэбра
мігацяць між імі... Сьвіслач...
                                                        Што?
Чорны комін... Чорнай хаты рэбры...
Пажарышча
                        ўжо
                                парос
                                        асот.

На бакі рассунуў хмары ветах:
хто там лёг, ды крыжам, у вуглёх?
Ну, і трэба-ж было бегчы столькі сьвету,
каб сатлелы абыймаць парог?
І чаго шукае ён, чужынец,

там, дзе поўзае вужом у друзах жудзь?
Можа ў мораку яму шыпшынай
кроплі згуслае крыві цьвітуць?
Мо у чорных сьценах папялішчаў,
каля коміну, што ўсіх пөратрываў,
ён знайшоў усё-ж сваіх,
каханых,
блізкіх,

і прыпаў ім ногі цалаваць?

Пасма белае дзень выткаў на усходзе,
ніткі пацерак рассыпаў млечны шлях,
да вады прыйльгнула шчыльна ймгла на бродзе, —
сына
раз яшчэ
праводзіла зямля.

Ён ішоў, нікому непатрэбны,
із тугой, якой ужо нічым ня змыць.
А ўздагон яму глядзелі вербы
нявідучымі, старэчымі вачмі.

Рэгенсбург, травень 1946

## І СЬНІЦЦА МНЕ

Люблю я лятуцець,
калі рука чыясьці
стаўляе прасьніцы з кудзеляю сівой
і пачынае ніткі дажджавыя прасьці
над галавой.

Няма канца дажджу, ні гуду верацёнаў.
Віецца зь песьняй ніць на шпулю, на душу,
і сьніцца мне, што звоніць наш сасоньнік
у сэрцы і ўвушшу...

Што ў засенях сасон сузорыць сон лільлёвы,
жывіцай плачуць з радасьці камлі,
і новых песьняў строй у гольлі вецер ловіць,
страсаючы з крыльля
зялёны пыл далін.

Кахалі й вы, як я
старыя нашы пушчы,
віхрамі ўсьпенены, шумлівы акіян.
Ці горкі сум па іх
тут вашых душ ня сушыць?

Баліць мая...

Блакітная, далёкая Радзіма,
калісь — штадзённы хлеб,

а сяньня — толькі сон,
мы вернемся, чакай,
хай хворымі, старымі,
а вернемся!
Так дай нам Кон!

Рэгенсбург, сакавік 1945

## СЬНЕЖАНЬ

Сьвежым сьнегам асыпаў сьнежань
вайстраверхія дахі вежаў,
каменіцы, каменьне брукаў,
бровы жвавых наўзьдзіў людзей.
Пад асьнежаны сэрца стукат
выплятаю я сетку сьцежак
на бязьмежным прасьцягу сьнежным,
дзе ружовы разьліўся дзень.

Места сьпіць... Ды ужо званьніцы
клічуць пышных і клічуць ніцых
выйсьці, вочы узьняўшы ў вышу,
хай сабе не маліцца — спачыць.
Белы вецер нясе, калыша
гэты кліч... І далечам сьніцца:
нехта белы, найбельшы кліча
іх, блакітных, ад злога ўцячы.

А куды уцячы нам, нясытым
ні усьмешак, ні сьлёз,
не блакітным,
не асьнежаным белым сьнежнем —
толькі шэрым і думкай і ўсім.
Хай заходзіцца з плачу ў вежах
звон па звоне,
ніхто-ж карытаў,
поўных клунь, у зямное ўшыты,
не пакіне, дарма прасіць!

Сьвежым сьнегам асыпаў сьнежань
вайстраверхія дахі вежаў,
каменіцы, каменьне брукаў,
бровы жвавых наўзьдзіў людзей.
Пад асьнежаны сэрца стукат
дапляла я мярэжу сьцежак
на бязьмежным прасьцягу сьнежным,
дзе ружовы разьліўся дзень.

Рэгенсбург, сьнежань 1945 г.

## У ГАСПОДЗЕ ПАДУАНСКАЙ

Гудзе гаспода. Ў Падуі старой
такі ўжо звычай: жыць, пакуль жывецца
і цешыцца...
Ды тут – ледзь чутны песьняў строй.
Гуляе па стале, заставе рэзвы рой
праменьняў...
У вакно чырвоны б'ецца вечар.
Кранецца чары ён -
і з чары залатой
італьскае віно пагарай праліецца.
Адно не да віна Франьцішку Скарыне.
Упіўся сяньня ён, ды ня віном, а славай!
Ён – доктар лекарскіх навук! Гадней
за іншых мо аб роднай старане
засьветчыў, аб сабе.
Ён – "Падую уславіў",
сказаў Мусаты.
Бач, із торбай на гарбе
ненадарма гады гібеў на чужыне,
пяскі чужых дарог таптаў
і... трызны правіў.
Але чамусьці ў сэрцы бы асьцюк
сядзіць аўсяны, колкі...
Не – і ўколе...
Засланы бела стол нагадвае Куцьцю
у Полацку, у хаце,
Палату
імклівую, а за мурамі поле,
дзе гэтаю парой сьнягамі ўжо цьвітуць
так бела
межы й дзічак гольле!
Хацелася-б ісьці, ляцець, імкнуць туды,
Бадзёра друкаваць сьляды на чыстых, на харошых
балонках першае парошы,
піць густы
марозны вецер, срэбныя лядды,
бары мінаючы у шпаркіх палукошах,
і так сьпяваць, каб віўся сьнежны дым
над пожнямі
ды плыў зь сівых далечаў пошчак!
Што-ж, чараў тут няма:
і зьвер у гушчары
свой логаў знае,
птах – гняздо у гаі мае,
у рэках рыбы чуюць родныя віры,
руплівая пчала, што ў грэчках ад зары
гудзе, вульля свайго бароніць із адчаем.
Таксама й чалавек: малеча ці стары –
да роднага кутка дзіўною ласкай тае.

І ласкі гэтай смыль
патрапяць прысушыць
адно, хіба, вятры зялёнага Надзьвіньня...
Пара туды, пара!
Хай золата кашы
братом і ня прыдбаў ён тутка, на чужыне —
ад цела недужаў і недужаў душы
ён лек дзіўны знайшоў,
што гора й боль суніме.
Маўчыць гаспода ў Падуі старой,
і толькі ў Скарыны мігціць агенчык ніцы.
Там, разгарнуўшы кніжыцу ў рудой
цісьнёнай скуры,
зноў лацінскіх словаў рой
ён сочыць пільна.
А праз вакяніцы
ў камору ноч глядзіць,
і ў чары залатой
італьскае віно сузор'ямі іскрыцца.

Рэгенсбург, 1946

## МОЛАДЗІ

*Прысьвячаецца 2-му выпуску матурыстых*
*Беларускае Гімназіі імя Я. Купалы*

Усе мы знаем: лёс наш нясумольны,
ўрэшце кажнага затруць гады.
Як малыя йгрушкі-дзічкі ў полі,
быць ня можна вечна маладым.

На палёх памерлага "калісьці"
ня ўзрунее спорная трава.
Раз апаўшы лістам залацістым,
хоць вясна — ізноў не красаваць!

Моладзь,
любая, пакрыўджаная моладзь!
Хай і так — ня здраджвай маладосьць.
Пі удосыць год юнацкіх церпкі солад,
паланей, пакуль сама ня скажаш "досьць"!
Паланей за нас, за Край, за сьвет далёкі,
за усё, што варта хаданьня ў жыцьці.
І ня мер, ня ліч ні сіл, ні міль, ні крокаў,
ня сумуй, што давядзецца й адцьвісьці.

Адцьвітаць ня страшна...
Страшна вёсны
затаптаць у гразь, братоў, сваіх
між сабой сварыць... З уцехай злоснай
верадзіць іх раны, не гаіць.

Бо няма на сьвеце злыдні больш нягоднай,
чыну, вартага й праклёну і суда,
чымся Юдам стацца для свайго народу,
чым братоў ці зрадзіць, ці прадаць.

Плямы гэткай нат гады ня змыюць
ані з душ сацьмелых, ані з рук...
Помні, моладзь:
хто зьгінаць прывыкне шыю —
ўжо вачэй ня ўзьніме у гару.

А там — сонца...
Дык імкні-ж!
Хай сьвежасьць
і тваю затруць калісь гады, —
захацеўшы, зь дзічкамі на межах
можна быць
і вечна
маладым!

## ЗЬНЯВАЖАНЫМ СЬЦЯГОМ

Калі у туманы нязьведаных прастораў
Магутная Армада слала караблі, —
раськінуўшы крыльлё над імі і над морам,
па славу й родныя сьцягі плылі.

І кажны карабель нёс горда і пышліва
свой сьцяг на машце найвышэйшай празь вятры.
Радзімай быў ён ім, у сінім морскім шкліве
загубленым здабыўцам,
юнгам ці старым.

І нас няветлы лёс ад Бацькаўшчыны мілай
разьмёў па сьвеце сяньня, як лісьцё.
Тут, на чужацкіх кручах і пахілах,
нам бел-чырвона-белы сьцяг —
усё.

Хай не на гордай машце ён, і не ў блакіце,
і не па славу тут із намі — ён
для ўсіх нас — Бацькаўшчына,
Нёман, апавіты
пясьлівай песьняю... аб родных сёлах сон...

Усё, што ў нас было, што ёсьць, усё, што будзе
у бел-чырвона-белае ўваткана палатно.
І вось яно стаптанае у пыле й брудзе,
з узвышшаў ворагам нізрынена на дно...

Ды ці патрапіць хто арлом падрэзаць крылы,
прымусіць поўзаць тых, што створаны лунаць?
Шугайце-ж гэн, у сінь, сьцягі Радзімы мілай,
дарма, што топчуць вас, на славу
вам
і нам!

Міхэльсдорф, травень 1948

## ВЕР!

*(3-му выпуску нашых матурыстых)*

Дзень па дні адцьвітае дажджом,
ветраў песьнямі, сонцам асеньнім,
працай, снамі... (іх гэтулькі ўжо
мы насьнілі, як зор у начы),
а із намі — ізноўку пачын,
туманы, мігатлівыя сьцені,
і няма ні пагнацца за чым,
ні куды запраўды уцячы.

Ў нашых жутлых, зьлінaлых часох
ты адна, моладзь, чыстае зерне.
Для цябе для аднэй варта мо
падстаўляць пад удары плячо.
Хай з вас гэты ці гэны зьнічом
і ня ўспыхне, угнецца, заверне, —
шмат хто здолее ўсё-ж расьсініць
васількамі прасьцяг каласін.

І таму, хоць і хочацца нам
кінуць, рынуць парою ў прадоньне
дні, парослыя ў крыўды, у зман
у каменьне, што вечна ля ног —
мы трываем і нат на парог
ня пушчаем тугі, бо Пагоняй,
вер нам, моладзь, імкне наўздагон
наш праменны, наш сонечны Кон!
Вер у гэта! Як мы, выглядай
срэбнай збруі ў сатлелых далечах.
Вер, благое сплыве, як вада,
нат ня згледзіш, куды і калі.
Вер, і выкінь усё, што баліць,
увесь сум на расьсінены вецер.
Вер — хай будзе, што будзе — а вер,
што Край Родны
ізноў аджыве!

Міхэльсдорф, 1948

## НА ПАРОЗЕ НОВАГА ГОДУ

Мінае год стары...
Падходзіць моўчкі Новы.
Ці спадзявацца нам чагосьці ад яго?
Ня кажны-ж у сіло ці спор ці долю зловіць,
хоць скочыў-бы па іх, здаецца, у вагонь.
Мінае год стары...
Прыгрэтыя чужынай,

ды мерзнучы усё-ж, мы зь ім зьлісталі дні.
І шмат каму ён з рук апошні козыр выняў,
і шмат,
ой, шмат каго —
і зьвёў і спадманіў.
Нам страшна запраўды ізноў у нешта верыць,
ізноў аб нечым сьніць,
ізноў з тугі гібець.
О, Бацькаўшчына, любая бязь меры,
ці злучыць Новы год выгнаных —
і Цябе?
Мінае год стары...
Надходзіць Новы, лепшы.
Зьняверaныя, ўсё-ж мы верым прагна ўсьцяж.
Хай гэты Новы год хоць трохі нас пацешыць —
багаслаўлёны й ён
і вечны чар жыцьця.

## ЗЬНІЧЫ (Фрагмэнты)

*Уступ*

Памутнела й жыцьцё і навокальле,
мала цешыць, ды мала й баліць.
Як калісьці, дзяцьмі сінявокімі
ня імкнём мы у сонца, ў палі,
ня трывожым сон соснаў лопатам
жвавых, босых, дзіцячых ног,
ня губляем сьлядоў бясклопатна
на гарачым пяску дарог.
Сядзеш, возьмеш пяро —
зь нейкім скрыгатам,
церазь сілу йрве аркуш яно.
Дзіва — горкія сяньня мы сіраты,
з хаты вырванае зьвяно.
Ня суцешыць нас звонкай лірыкай:
з найзванчэйшай — жыцьця-ж ня зьвіць.
Дні ідуць, а мы зь лёсам ня зьмірымся,
штаначы сьнім далёкіх, сваіх...
Дзе яны?
Навет сьлед іх з папелішчаў
пасьціралі, зьмялі ўжо вятры,
і зноў зьнічам пурпурным,
велічным,
незагаслым
душа гарыць.
Ня суцішыш яе, не адчэпішся
ад таго, што ўстае праз туман.
А ці лірыка гэта, ці эпіка —
я ня ведаю і сама.

I

Зазлавала вясна,
была золкая, позная.
Не хацелі красы апранаць,
— бо й каму на уцеху — палі.
Пасьля Юр'я адно
жоўты пыл захістаўся над лозамі
і спакойнаю, сіняй вадой
паплавы за сялом заплылі.
Тры дні цёплы туман
як кудзеляю нівы укручаваў.
Тры дні ў мгле пераймаў
з залатымі ключамі ключар.
І калі ўрэшце сонца ўзыйшло
над зямлёю зялёнай, пахучаю —
трапіў сьвет да вясны у сіло:
выйшлі ўсе чараўніцу страчаць.
Ня стрывала, панесла надзей
плойму й Зоська ў палі перад вечарам,
ды ля весьніцаў стала...
Ну й дзень!
Хоць каго-б, раззалочаны, зьвёў!
(Хутарок Дзянісоў у кустох,
можа стая ад вёскі, над рэчкаю.
Калі ў золаце й лозы і лог,
колькі пчолаў там і салаўёў!
Вось і сяньня — пяюць!
Ня суняць!)
А няхай іх, з палотнамі.
Пазьбірае... Вясна!
Раз-жа ў год так буяе зямля!
Хай з дакорам, авечкамі котнымі
пад рукою і мэкаюць весьніцы,
а часінку ў лазе, у валешніках
так і паліць туга пастаяць.
— Зоська! — Божухна, Ясь!
Напалохаў!
Ды што ты?
Зьнямовіўся?
— Уцякайце... ідуць!
— Хто?
— Хутчэй, уцякай... ды... старых...
Бачыш? Сьценкай... Зігцяць...
Тыя-ж, з трупімі пруцца галовамі...
й салаўёў і усплескі зары
жах іржавым лязом пераняў...

Зазванілі вёдры на трывогу ў сенцах,
зарыпелі дзьверы восецяў сьляпых.
Гул пайшоў па вёсцы:

ад гасьцінца, сьценкай
ружавеў празрысты, залацісты пыл...
Ружавеў, аж мглою зацярушыў вочы
і паклаўся важкім волавам ля ног,
як зайгралі марша радасна, ахвоча
кулі па застрэшшах, па старых платох...
Енкі,
плач,
звон шыбаў,
брэх сабак,
праклёны,
трэск варот, нагамі выбітых з шульлі —
колькі-ж гэткіх дзікіх, жудасных сымфоній
чужынцом на нашай створана зямлі!
Каб зыбраць усе іх, каб узяць і грымнуць
бурай пяруновых дысанансаў —
сьвет
задрыжэў-бы, ўспыхнуў... і з чырвоным дымам
гвалт, і зло, і крыўда адплылі-б навек!
— Гэй,
— пайшлі па йстопках,
па сьвірнох —
дзе сала?
І ў худыя плечы ўгрызаўся штых.
— Што? Няма? Паглядзім!
Партызаны смаляць
парсюкоў вясковых штаначы, а ты...
— Усіх старых — у цэркву.
Ды і баб з малымі!
Маладых...
— Гэй, матка, дзе твой партызан?
— Я адна, паночку, я...
— Ну, досыць сьлініць,
ведзьму, разам з тымі —
раўс, і пад паркан!
Пацяглі салому на царкоўны ганак...
Зноўку дождж сталёвы ў пыл завулку лёг...
Ноч зыйшла нарэшце...
ймглой змачыла раны,
напаіла вусны, спырскала пясок...
А калі, прыкладам штурхаючы ў сьпіну,
павялі ў няволю моладзь паўз палі —
вёску, нібы сьвечку, прад абліччам сіняй,
ледзь расьцьвілай ночы злыдзень падпаліў.
І да золку, цемру ірвучы на пасмы
(заляканы ветах у пагары зьнік),
паланеў у неба шырака, нязгасна,
велічны,
крывавы,

зыркі,
зыркі,
зьніч.
А над ім ірдзеўся золатам найшчыршым,
рукі разгарнуўшы, распрастаўшы — крыж.
І сьцішаў звуглелых Хтось Найвышні
з вышы:
— Хай зытлелі целы,
дух ваш — не згарыць.

Дзянісы не згарэлі... Сьцярог
Бог сялібу над рэчкаю шпаркаю.
Але Зоська і Гэлька ў кустох
не пасочаць ужо салаўёў.
Навет клунка узяць не далі.
Маці сьледам і бегла і плакала,
ды ці можна такіх умаліць?
Па крыжох перацялі — і ўсё...
Ноч ня спалі... У лазе
калаціліся, пацеры шэпчачы.
А у вочы узапар глядзеў
праз лазоўе зьдзічэлы вагонь.
Жаль аж дух пераймаў...
Раз, яшчэ неяк зь вечара,
Ясь прыходзіў... Пабачыў — няма
і зноў скочыў у ночную тонь.
Ночы!
Ночы мінулай вайны!
Колькі вас пурпуровай пагараю,
плачам, сагамі гвалту й маны
так пад стрэхамі хат адцьвіло!
Прыйдзе час...
Вас у песьні ўплятуць.
І атрутай,
і помстай,
і караю
вы ўзрунееце й нейдзе,
і тут.
І ня будзе больш так, як было!

II

Лета выдарылася сухое, навальнічнае.
Часта хмарылася, білі пяруны.
Пашчапалі дуб стары
над ніцаю каплічкаю.
Але што яны у дні вайны?
Трэйці дзень ужо й пылеў і гуў разгублена
старавечны, у сівых бярозах шлях.
Гуў і ўночы ён, аж наквець жоўтых лубінаў
нейкі жах ці жаль няўхопны ахапляў.
Ледзьве раньне — ў небе мак таўклі сталёвыя

камары, зьвінелі над сялом,
іківалі мужыкі галовамі,
і шчырэй хрысьцілі грудзі за сталом...
Дзянісы ня слухалі за працаю
як гулі у звон глухі палі.
Мо таму, што радасьцяй гарачаю
і тугою напаіў іх — ліст.
Першы ліст!
(Шкада і Зоські, ведама,
але Гэля — горкае-ж дзіця.
Ці даўно зьбірала казкі дзедавы?)
Ясь дарогаю яго, ня вытрываў, расьцяў.
— Мамачка, ня плачце...
Нам із Гэляю
добра й працаваць, ня цяжка тут ані.
Толькі дзіўна ўсё... А гэтаю нядзеляю
ліст дазволілі вам выслаць...
Хіба сьніць
мы маглі аб гэткай радасьці?
Каханыя,
страх падумаць, як вы жывяцё.
Патрывайце... Ведайце, із вамі мы
думкай скрозь. Мо сходаем жыцьцё.
Ня сумуйце-ж,
мы тут — не галодныя.
Як дзядуля, тата? Ў хаце Ясь?
Здароў?
Ну, бывайце...
А унізе: родныя,
прышляцё мо нам хоць трошкі сухароў?
Плакалі старыя... перачытвалі
кажны сказ па дзесяць раз...
Сяло-ж,
як мурашнік пад вырваным бурай выкратнем,
і жыло з глухой трывогі... й ня жыло.
Аж аднойчы,
ледзьве серп замурзаны
маладзік у Нёман акунуў, —
запалала чырвана і спуджана
неба летняя, начная муць.
Закурэлі хвойнікі, што пасмамі
далягляд імкнулі аплясьці.
І усім да болю стала яснае:
сенаваньню сёлета — канцы.
Мала хто спаў гэтай парнай ночаю.
(Утрымаюць, не? Каб іх пярун!)
І з надзеяй, ледзьве, праўда, сточанай,
спаглядалі вочы у гару.
А назаўтрае віталі раніцу
галасы нядоеных кароў:

ўсімі сьцяжкамі і межамі, у паніцы
"фронт" імкнуў шумліва паўз двароў.
Гуд машын,
                    ірзаньне,
                                        крыкі, тупаньне
сотняў ног, падкутых зелязьзём,
пыл і дым,
                    вазы з жывымі й трупамі –
ўсё зьмяшалася у пекла ля паўдзён.
Адыход сачыла вёска із пярэклецяў,
з-за парканаў безьлічай вачэй.
"Жучкі" вылі, пеўні кукарэкалі,
дзеці браліся усхліпаваць, пішчэць.
Хто зь сякерай тупаў,
                                        хто падмазваў,
сам ня знаючы навошта, перадок.
А гарматы аж каналі спазмамі,
і шчымелі сэрцы... Незнарок...
Бо яшчэ ня села сонца-на куросадні
сонца жутлае, чырвонае –
                                                загад
выгнаў вёску на гасьцінцы босыя,
і парыпалі вазы – пад далягляд.
Не хацеў Дзяніс сваю аселіцу
у бядзе кідаць, і то каму?
Ды прыйшлі...
                              Спрачацца-ж ці асьмелішся?
А і дзеці ў сьвеце. Каламуць,
глум такі пайшлі цяпер,
                                        што й не пабачыцца!
Маці-ж плача вось па іх ці мала дзён...
Дык сабралі воз,
                              і, вёскі не загачыўшы,
пацягнулі сонцу наўздагон.
– Ну, бывай, хай спалены, разбураны,
родны кут! Надоўга, назаўжды?
Што чакае там, дзе змрокі бурыя,
дзе густы, пякучы, чорны дым?
Жвір сухі і колы й ногі мералі,
сэрцы-ж упіраліся – ня йсьці.
Нахінаючыся, грудкі глею шэрага
бабы ўкручвалі ў ражкі хусьцін.
Аж іrваліся яны, каптан расхрыстаўшы,
у разору рынуць і загаласіць:
"– Ой, жытцо маё сівое, каласістае,
для каго сьпяліш ты каласы?
Хто цябе із песьняю журліваю
будзе шчыраю рукою зажынаць?"
Але вось і ўзгорак...
                                        Сьцяўшы ськівіцы,
раз апошні глянулі назад.

А ўнізе —
ўнізе між канапляньнікаў,
чыста выбраных навалаю ганьні —
паланеў ужо, паўнеба ахапляючы,
вялічэзны,
пурпуровы
зьніч.
— Хто там стаў? Далей!
Глядзець — няма калі.

Із чырвонай цемры выплыў цёмны сьцень.
Крык... усхліп глухі... і зноў заплакалі
колы,
колы,
колы
ў тумане.
Доўга дні, мо й тыдні, як шырокая
Крывічанская зямля, —
уцекачы
палівалі, мерачы далечы крокамі,
крывяной сьлязой крывавыя зьнічы.
А яны...
Яны шугалі у бязьмежнае,
быццам з жыл сыноў Тваіх, мой Край,
жывая кроў,

пакідаючы і сэрцамі і межамі
нязмывальнае нікім,
нічым
таўро.

III

Плылі, плылі дымы над сьцерплай
Беларусяй.

Зьмяталі сьлед па тых, што мусілі пайсьці.
З пабітых шыб, з пустых саней
глядзела вусьціш.

А ліпень, хоць-бы што, іх сонцам залаціў.
Пад хатай Дзянісоў —
як мур, быльлё буяла,
ды ластаўкі крыльлём чыркалі цішыню.
І веяла з пустых кутоў старой навалай
і новаю,
якой — і ім не абмінуць.
Але...
Адны пайшлі, а тых — яшчэ чакалі.
Ніхто, ніхто ня спаў у хаце... Палатно,
кажух, што лепшы — ўсё ў жытох лягло
высталых,
якіх ня кратаў серп, хоць вырасьлі сьцяной.
З аселіц, позна ў ноч, прыгнуўшыся, старыя
чырвонымі вачмі сачылі далячынь.

А той, хто не хацеў ізноў гнуць долу шыю,
зыйшоў на дно лясных урочышч і лагчын.
Пайшоў і Ясь...
Лясы!
Чароўнае багацьце
радзімае зямлі! Ці раз вы ўжо, ці два
былі асочаным, выгнаньнікам і хатай
і сховам, што яшчэ нікога ня удаў?
Штагод, ледзь сакавік на рэках скрышыць
крыгі,
чужыя вас чужым шлюць і сьвяціць і грэць,
ды вы — ўсё жывяцё...
І ўсё такі-ж застыглы
ваш супакой, ваш гарт,
і мхоў сівая шрэнь.

Сачылі далячынь старыя й дасачылі...
Кружылі пчол раі над жоўтай пенай ліп,
асыпаныя залацістым пылам,
ледзь калыхаліся жытнёвыя палі.
У сонцы, лена мух зганяючы, драмалі
пад ганкам Лыскі...
Зманны супакой!
А перад вечарам ужо вялізны Сталін
ківаў над гмінай вусамі й рукой.
— Хадзяін дома? — Не?
— Няма... забралі Немцы.
— Забралі? — І нагой, што моцы, у вушак.
— Ну, выхадзі!
Давай, давай у сенцы,
няма тут месца для фашыстаўскіх сабак!
У сенцах — крык... і стрэл...
Зноў — стрэл... і крык...
Нічога,
мо іншым чым старых і бабаў частаваць?
Ужо й не разабраць, пагараю вячорнай
ці цёплаю крывёй чырвоніцца трава?
Пад могілкамі — суд.
Крыжы магілаў ніцых
глядзяць, як дзяк худы павіснуў на суку.
І надарма заход зігціць і залаціцца:
нікога
ні з жуды, ні з жалю не раскуць.
А па судзе, ўначы, залапаталі крыльлем
чырвоным пеўні, і...
над бязьмежжам ніў,
над грабянямі стрэх,
над пенай ліп расьцьвілых
шугнуў жывой крывёй
вялізны,
зыркі зьніч.

Аж на лясное дно ляглі пагары пасмы.
Лес сотняю вачэй угледзеўся ўгару.
А ён гарэў, гарэў,
магутны,
незагаслы,
Правечны зьніч —
мая Радзіма — Беларусь!

Беларусь, Беларусь зялёная,
палыменны, балючы сон.
Із табою гарым сягоньня мы
і ня згасьнем, так дай нам Кон.
З намі Ты, хоць драты калюччыя
аплялі нашу ростань,
Ты
ў нас жывеш і шумлівымі пушчамі
і бязьмежжам жытоў залатых.
Ты...
далёка, але і блізка, тут.
Дзе ў нас Ты, а дзе мы — не пазнаць.
Не згадаць,
ці ў нас — вёсны Твае цьвітуць,
ці мы, Край наш —
Твая вясна.

Хай мутнее й жыцьцё і навакольле,
лёс ня праўдзіць, а толькі маніць,
хай тугой сяньня доля галёкае —
за Цябе мы
нязгаслы
зьніч!



Натальля Арсеньнева з моладзьдзю ў Таронта
ў Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка 1971 году.

## НА МОРЫ

Вакол зяленіцца вада,
бягуць зялёныя узгоркі.
Здаецца,
толькі зажадаць, —
і чабары запахнуць горка,
рамонкаў бель замігаціць
на грабянёх, прыбраных пенай,
і ўрэшце, раз яшчэ ў жыцьці,
нам стане мора па калена!
Усё сон... Салоны подых твар
ня песьціць, толькі шчыпле,
нетра
гудзе пагрозьліва, і вар
зялёны ходаецца зь ветрам.
Вада вакол... вада... нідзе
нічога больш між намі й сьветам.
І хутка йшчэ і гэты дзень
патоне ў мора няпрыкметна.

## РАЗЬВІТАНЬНЕ

Шмат нам цьвіло,
шмат нам сьвяціла
ужо ў жыцьці трымцівых зор,
ды ўсё сыпкім,
нясталым пылам
разьмёў на ростанях віхор.
Ен долю ўсьпеніў,
пакамечыў,
нас, як лісьцё, сарваў з гальля,
пагнаў па пушчах,
па пустэчах,
дзе не аруць і не сьпяляць.
Мы дапаляліся
і гасьлі,
мы зноў шугалі угару,
зьмянялі выганы і яські
ў вадным імкненьні: "Беларусь!"
З аднэю думкай:
"зноў пабачыць",
зь ліпнёвай радасьцяй
гарачай
прыйльгнуць да роднае мяжы.
І вось сягоньня
чабарэ
нам не яна, а далячынь
салоных мораў,

плачуць рэі,
віхор у ветразях гучыць.
І ўсё далей
сплывае ў шэрасьць,
у змрок той Край, дзе люба ўсё.
О, Беларусь, хай так
мы зь верай
Цябе і ў далеч панясём!

## А БЕРАГ ДАЛЁКА

Зноў вецер і хвалі,
зноў мора і мора...
Зноў кагарак плоймы крыламі гудуць,
зноў сыплюцца, сеюцца белыя пёры
і сонца
ў сівую, густую ваду.
Каторы ўжо дзень?
Ці мо час тут зьнядужаў,
ці часу, як кажуць, няма наагул?
Паўзе дзесь за намі усьпеным вужам
усё-ткі наш сьлед, і далечы бягуць.
Бягуць запаволі...
Баюся, каб песьням
між небам і морам навек не застыць.
У сініх прасторах ім сумна, ім цесна,
ня цешыць ні вецер,
ні дзень залаты.
Раіцца у хвалях адвечная вусьціш,
няма ў іх уцехі,
яна – на зямлі.
Зямля мае думкі і песьні,
дык мусіць
ім бераг зялёны вазьмуся суліць.
Далёка наш бераг, далёка...
Між намі
над хвалямі кагаркі ўсьпенілі сінь.
Ці хтосьці там сяньня, Купальскімі днямі,
уцеху сьпяліць у густым каласьсі?
А мы,
ці дзе згледзім уцеху,
ці межы
бадзяньню дзе знойдзем?
Каму-ж адгадаць...
Навокал ні межаў, ні сьледу, ні сьцежак,
сінеюць адно далягляд і вада.

## ЗОРЫ

Мне спаць ня хочацца...
Даўно ўжо згасіла
зьмярканьне на вадзе пагары зыркай плямы,
і зоры расьцьвітаюць сінім пылам
адны ўгары, другія — пад нагамі.
Пакорнае лягло у прадоньне мора,
у цемры дыхаюць ледзь чутна хвалі.
Вятры іх песьнямі паілі ўдзень, дык морыць
іх важкі сон цяпер,
і ня цікавіць делеч...
Я-ж,
я-ж усьцяж гляджу на цяг бязьмежжаў цьмяных,
стараюся пазнаць, што пахавана ў цішы...
Дарма... скрозь цемра й змрок,
хай угары над намі
блакітны Млечны шлях у зоры неба вышыў.

## ТУТ ГЭТАГА НЯМА

Кахаем мы жыцьцё застала
і зашмат,
хоць і жывём мо крышачку замала.
Па годзе год каханьне гэта паліць
нас...
аж прапаліць на няма.
Жывём так на зямлі і мы ўсе, і вясна.
Залоцімся, цьвіцём, расьцём — адным працягам.
Аж захлынаюцца палі ад прагі
хутчэй і зарунець і каласы узьняць.
Тут — гэтага няма.
Тут — вечнае адно.
І ўвесну і зімой плывуць кудысьці хвалі.
Ў барозны іх ці кон, ці вечнасьць паарaлі,
прадоннае лягло пад імі дно.
Усьцяж яны пяюць адзіны, дзіўны гімн,
ды ведаю адно, —
жыцьця у ім ня славяць.
А я люблю жыцьцё,
ягоны смак гаркавы
ніколі йшчэ ня здаўся мне благім.
Плыві-ж,
плыві,
плыві, адвечны акіян,
у вечнасьць...
Для жывых яна — пустое слова.
Твой супакой мяне ў сіло ня зловіць:
з калосьсем залацець хачу ў палёх і я!

## КАБ СЭРЦЫ ВІКІНГАЎ МЫ МЕЛІ

Сягоньня мора колеру, якога
бывае лёд зялёны недзе ля Грамніц.
Урэзаўся ў яго, шукаючы дарогі,
наш параплаў,
а ён —
зьвініць, зьвініць, зьвініць...
Аб чым?
Што весьціць нам ягоны звон зялёны?
Чаго мы слухаем яго, куды плывем?
Што загубілі мы й чаго шукаем сёньня,
за сонцам імкнучы?
Нязнаны, новы сьвет?
Калісь, напяўшы цягліцы і кужаль
галодных ветразяў,
імкнулі, як і мы,
у далеч Вікінгі...
А зь імі ймкнулі мужнасьць,
і прага тайніцаў, і зьменнай славы дым.
Каб сэрцы Вікінгаў і ў нас званамі білі,
мы-б завярнулі ветразі тут, зараз,
на усход.
Туды, дзе у крыві, у роспачы зацьвілай
і сьлёзы і душу ўжо выплакаў народ.
Ды мы ня Вікінгі....
О, Новы Край,
як гулі
спыніўшы, хваля нас да порту прыжане,
будзь нам прытулкам цёплым і утульным,
але ня Бацькаўшчынай,
не!

## ЗНАЮ

Шэры дым — дробны дождж — над вадою курыць.
Кроплі сыплюцца густа на рукі, на твар.
Як іх прагна пілі-б і лісты, і трава!
Ды навокал адно,
і ўнізе, і ўгары,
хваляў шэрых дрыгва,
хваль сівых гушчары,
і на сэрцы дрыгва...
Як параіць сабе,
каб яшчэ раз паверыць чужыне... і жыць?
Парваліся із роднай зямлёю гужы,
ды сумую па ёй я ня менш, не слабей,
хоць бяжыць безь сьцяжын
да другой карабель.

Дробны дождж над вадой тчэ сівыя радкі,
кроплі таюць на вейках салонай расой,
але знаю ўжо я,
што смалою сасон,
захачу — і запахне мне вецер марскі,
што мы скрозь панясём
сон аб родным краі!

## ПЕРШАЯ ВОСЕНЬ

Асеньні дзень паўзь места йдзе.
Хай дзе-ня-дзе рудзее медзь
лісьця,
ўжо ясна, што па ўсім.
Дзень знае: зьзяе далячынь,
але вясны не надтачыць,
дык змоўк і сьціх.
Прыціхла й я, руды лісток,
што ймкне,
куды — ці знае хто,
адно далей, далей, далей
над пасмай ходзішчаў,
дзе скрозь
як і у нас, лісьцё бяроз
і сьціплых ліп лягло... сатлець.
Так проста... Ці у нас, ці тут,
лісты рудзеюць і лятуць
па месьце ў восенскі прасьцяг.
Адно ці й тут бярэ ў палон
вясна муры й сівы бэтон —
ня знаю я.
Такой бяды! Яшчэ трымціць
часамі й сонца у лісьці,
і мне ня ў думцы засынаць,
дык будзем жыць, як набяжыць,
аж зноў зазвоняць капяжы:
— Вясна, вясна, вясна!

## ТУТ ГЭТКАЕ ЗАВУЦЬ ЗІМА

Тут гэткае завуць — зіма!
У нас такой зіме й назову ня прыдумаць.
Да сьнегу непадобную, густую каламазь
дзяўчаты басаножкамі распырскаваюць сумна,
скуголяць тармазы задыханых машын,
нязграбна сьлізгаючыся на павароце...
Кляне ўсё места слоць удосыць, ад душы,
а сьнег ідзе, канаючы у лёце.

Ды ў парку, дзе цяпер няма чаго шукаць,
ні ценю, ані модаў на уборы
ён мокрага гальля чапляецца, штукар,
малюючы яго у дзіўныя вузоры.
І на часіну сад, пакуль не абтрасе
з галінаў лётны пыл,
здаецца белай казкай,
такою чыстаю, дзявочай у красе,
што ажно хочацца ў захопленьні запляскаць!
Ніхто ня пляскае,
бо й хто тут мае час
зірнуць на Божы сьвет адкрытымі вачыма?
Імкне натоўп,
і енчаць і вішчаць
машыны ў гоне,
міма,
міма,
міма...

## У МУРОХ

Зяленіцца гальлё...
Мне лёгка, хай ад працы
шчымяць і ныюць пальцы...
Доля ўжо такая.
Ды радасьці маёй няма дзе разгуляцца,
муры, муры, муры зусюль яе сьціскаюць.
Няма як прывітаць вясну,
душу наросьцеж
ёй адчыніць, напіцца сонца, сіні.
Яна тут, як і мы, вандроўніца і госьця,
ўцякае, ледзь лістом акрыюцца галіны.
Мо хочацца і ёй пагаспадарску, жменяй
ячмень буйны зь сяўні расьсеяць па бэтоне,
мяккую глебу збаразьніць,
ды й сьценю
зямлі няма нідзе,
адно каменьне звоніць.
Няхай сабе,
яна, вясна, у сэрцы, ў песьнях,
вясна ўва мне, яе ніхто ў мяне ня возьме.
І ці зьбярэцца плён.
ці сон удасца зьдзейсьніць —
зяленіцца гальлё,
і вецер твар барозьніць!

## ВЯСНА

Я думала;
                    якая тут вясна
у шэрай пушчы неабсяжных вежаў,
дзе за каменьнямі сьцюдзёнымі ня знаць
нат пядзі тэй зямлі, што ў нас нарогі рэжуць?

Ажно і тут яна ускрэсла і цьвіце
і ў сіні зыркай над ярамі вуліц,
і ў плямах сонечных на цёмнай цэгле сьцен,
і ў красках, што да губ дзяўчаты туляць.

Усюды, дзе ні глянь,
                                        адно людзям няўцям,
яна зялёная свае сукае ніці,
мільёнам парасткаў імкнецца да жыцьця
із кажнай шчэрбіны у вулічным граніце.

Сьмяецца ў галасох гарэзьнікаў малых,
хвалюецца ў гудкох прарэзьлівых машынаў...
І зноў бярэшся радасна сьпяліць
сны, што сплылі былі із выраем птушыным.

Хто ведае,
                    мо ўлевай веснавой
напоеныя, ўзыйдуць, зарунеюць,
пад ногі лягуць залатым жнівом
і ціха зашасьцяць: "Вяжэце, жнеі!"

Я думала:
                    якая тут вясна?
Ня вылузацца ёй з каменнага палону.
Ажно гляджу... і з кажнага гранітнага зьвяна
сьмяецца ў твар яна вяснова і зялёна!

## МЭЛЁДЫЯ

Нат места ноч прыцішыла...
                                                  Так гулка
мой крок зьвініць у ночнай цішыні.
Набраклі песьнямі за дзень пляцы й завулкі,
ці мо душа мая?
                                    Лільлёвы змрок зьвініць.
Адно я не злаўлю мэлёдык мяккую,
што апляла мяне, і пахне, як трава,
і сьвечкі каштаноў, і сіні бэз...
                                                      Такую
вясновую у месьце не сарваць,
ня стрэсьці з галіны мястовых пылных клёнаў,
з каменных ходзішчаў пад імі не падняць.
Мо з паплавоў сюды прыйшла яна зялёных,
адтуль, адкуль і я, і гэтая вясна?

Зьвініць мэлёдыя...
Калышуць цішу тоны,
пяе ўсё аб вясьне лільлёвы змрок.
І гукі места ў ёй, неператожнай, тонуць.
Чуваць адно яе,
і мой упарты крок.

## ІЗНОЎ ВОСЕНЬ

Так, пэўна-ж, праміне
усё:
нябёсаў сінь,
і вецер, любы мне, й кругі на воднай роўні,
і колас поўны,
і сьцябло гірсы,
патрэбнае, ці не,
усё міне ўсяроўна...
Як выйдзеш дзе далей,
за места —
зігацяць
яшчэ ў траве асот і чыстацелу зоркі,
ды кінулі пылець уцехаю жыцьця
і сэрцы
й шэрых вуліц столкі.
Зноў восень... Зноў гарыць
над кудрай каміноў
увечары агонь пагары крывяністай,
і людзі і муры
ў сьцень туляцца ізноў,
і жутлыя, і сонныя ўсе чыста.
Я ім не памагу
ні сонца распаліць,
ні стрэсьці зь вейкаў сон.
Іду я раньнем цьмяным
разблытваць той ланцуг,
што выкаваў калісь
нам на пакуту Кон,
дасяньня непазнаны.

## СЬПЯКОТА

Сягоньня, быццам збан,
выпальваецца ў печы
наш горад... Сьпеката — аж бела у ваччу.
Маўляў кісель, трымціць паветра, брукі, плечы
замлелых камяніц...
а я так піць хачу.
Ня варта, запраўды:
ледзь, ледзь пасьпееш выпіць,

а смага зноў шчыпае і пячэ.
Чуваць вакол адно —
ўсе сварацца на ліпень,
у сонца ані хто ня ўськідвае вачэй.
А ў нас цяпер жыта хінуць калосьсе,
дзічкі
на ўзьмежках церпкі плод залоцяць,
у быльлі
палуднічкі гудуць,
а вецер твар казыча,
і сонца п'юць усе, і людзі і палі.
Спрабую-ж піць яго і тут,
гарачым сокам
нальлюся ўся,
каб цешыцца і зь ліп,
і з крыку кагарак над сіняю затокай,
скуль адплываюць у далечы караблі.

## КАБ МОЙ ГНЕЎ

Зьліў крывёю злавесны асеньні заход
вочы ўрослых карэньмі у зрок небасягаў.
Гнеўны вецер
гарой гоніць хмары на сход,
долам — горне лісьцё у рудыя засягі.

Каб мой гнеў быў як гэты віхор, што гудзе
ў гарфах гнуткіх антэнаў, зрываючы струны,
прыкрай золяй асеньні апырсквае дзень,
у разьятраных хвалях рагоча пярунна,
каб мой гнеў быў агнішчам, што паліць на пыл
і крамнёвыя скалы
й сумленьні злачынцаў,
што маланкай запальвае вочы сьляпых,
што палае бяз часу, канца і пачыну,
каб мой гнеў не баяўся руін, ні крыві
абяртаючы сёлы у попел і жужаль,
я-б зрабіла канцы ізь бядою,
завіць
не ўдалося-б ёй новы, засморганы вузел.
І сутоньнем і ўдзень пад вакном у мяне
мо ўжо з тыдзень трапеча лісток на галіне...

Раззлуюся, спрабую, мо гнеў ператне
век ягоны бязмэтны, зрудзелы,
і зьгіне,
мо пакорліва ляжа ў сьцюдзёную гразь,
можа...
Чую, як кроў мне захліствае вочы,
як агнём наліваюцца жылы, гарадь
і аблічча і думкі,

як сэрца грукоча.

Але ціха калышацца жоўты лісток
на гальлі, зьзелянелым ад песьні асеньняй.
Ужо ў восенскай цемры густой і ліпкой
ён здаецца ня рэчай, ня явай,
а сьценем.

І мне робіцца сорам і горка стаяць
пад вакном, твар у твар із сутоньнем
і клёнам,

бо я так-бы хацела, каб роспач мая
пакарала таго,
хто Радзіму палоніць!

## ВУСЬЦІШ

Сівым сутункам ішла я... жыць.
Лісты шасьцелі,
я йшла ўсьцяж.
Ад іх жаўцелі гужы сьцяжын,
ад іх ратунку ўжо нямаш.

Здаецца, жоўцяй наліўся дзень,
рудая вусьціш паўзе зусюль,
у кажным кусьце...
Душу нідзе
ад сьмерці жоўтай я ня ўтулю.

Ды, зьмяўшы шорах,
віхор узьняў
дождж жоўтых зораў з маіх сьцяжын.
Сатлелі дзесьці яны да дня,
я-ж, я паўз места паймкнула... жыць.

## АСЕНЬНІЯ ЛІСТЫ

Як плойма вераб'ёў,
што шуганула ў сінь
ды хмараю рудой ізноў зямлю ускрыла —
яны ўзьнімаюцца у свой асеньні вырай,
каб ссыпацца й сканаць на леташнім лісьці.

Але пакуль яны імкнулі ў вышу,
ў сьвет
як палыменных слоў разгойданая нізка,
пазбыўшыся зямное цягі й ціску,
яны жылі, як з нас ніводзін ня жыве.

Бо мы глядзем адно пад ногі,
як брыдзем
размытаю дажджом жыцьцёвак дарогай.

Ня сьніцца нам зыйсьці зь яе на ногаць,
хай знаем —
завядзе у продань, ці нідзе.
Мінае дзень па дні...
Штагод — цяжэй ісьці,
ужо не паляцём, каб навет мелі крылы...
І вось, маўляў лісьцё, што зноў зямлю ускрыла,
сканаем недзе й мы,
ня шугануўшы ў сінь!

## КУДЫ ТУГУ МЫ ДЗЕНЕМ?

Бязь веры, бязь імкненьняў сэрца — пусьціня,
адцьвілая, зрудзелая, сухая,
дзе уздыхае
адно бясплодны сухавей,
дзе цішыня
і то, здаецца, не такая.
Нічым ты гэтай пусьціні не наліеш,
ні радасьцяй пустою, ні уцехай,
ня ўсьпеніш рэха
па імклівых песьнях,
што былі калісь мае,
а сяньня — непатрэбны, сьцерты вехаць.
Мне сумна, што ізноў на сьвеце лістапад,
што лічаць ліпы зноў свае чырвонцы,
што сонца
так мала,
што хаценьняў —
не дапяць,
што давядзецца ўсё калісьці скончыць.
Не,
буду зноў пяяць, і верыць, як даўней,
і спадзявацца Сьвята Ўваскрасеньня,
інакш, дзе сьцені
асеньнія й чужога места сьнедзь,
і ўсю тугу мы дзенем ?

## ХОЦЬ МЫ ЛІСТЫ

Хоць мы лісты, што восенскі віхор,
разгойдаўшы, мяце па далячынях сініх, —
карэньне нашыя ўліліся у падзол
радзімай глебы, і таму —
ня гінем.
Ня выкарчаваць нас сякерай ці агнём,
сталёвай сеткаю ўкавалі мы суглінак.
Калі вярнуць — вярнеце нас зь зямлёй,

із спадчынай дзядоў,
інакш яе ня кінем.

Адно, ці стане ёй, Радзіме, на гады
жывой вады й пажывы для зглалелых?
І ў восенскім лісьці хтось, вецер мо, шасьціць:
Трывайце...
З вамі я...
Адзіны лёс мы дзелім.

## 25 САКАВІК

Ён прыйдзе, гэты дзень!
Ён ня прыйсьці ня можа!
Ён прыйдзе –
й загудзе вясновы буралом,
пакрышыць, разьмяце,
раськідае, зьністожыць
усё, што нам шляхі да хаты замяло!
Ці чуеце?
Аб ім
шасьціць быльнёг аселіц,
пяюць вятры ў лазе,
і звоніць крыгаў лёд.
Ахвяраю крыві,
а Слова стане Целам,
і ўжо ніколі больш ня ўстане Чорны Год.
Няхай бярэмя він
прыгнула нас, і крылы
апалі,
й хлеб чужы нясмачны і важкі,
няхай нас апавіў
тугой агорклы вырай, –
трывайма!
Ён ідзе –
Вялікі Сакавік!
Ідзе...
й пад ногі рунь
яму кладзецца, таюць
сьнягі, на паплавох зяленіцца трава...
Радзіма!
Беларусь!
Каханая, сьвятая!
Багаславі нас жыць
і веру захаваць!

1950

## *Я Й ЖЫЦЬЦЁ*

### Я ЧАЛАВЕК

Я чалавек... Усё людзкое,
благое, добрае —
ўва мне.
І боль людзкі мне сэрца кроіць,
а радасьць — кроў жвавей жане.

Як хвоі ў засенях сасонных
зялёнай жменяю бяруць
і слоць і сонца й вецер з гоняў —
і я усё, усё бяру.

Шматкі мэлёдый, крыўды, соладзь
сустрэчаў лётных, зімаў золь,
і боль, і шум палёў, і голад,
і гнеў, вайстрэйшы за лязо.

Усё адзін акорд пявучы
хай — а зрадзіла...
Песьні ■
пляла і стоячы над кручай,
і там, на цёмным дне жыцьця.

І я ня каюся, што йдучы
мяжой жыцьцёвай нацянькі,
ірвала ў ячмянёх калючых
сабе на ўцеху васількі.

Хай іх няма, пялёсткаў сіня
даўно зьлінала, і ў пяскох
шляхоў забытых сяньня стыне —
яны былі мае, і ўсё!

### ГАРЫ, ЗАХОД!

Няма нічога, што цьвіло й жыло-б аднойчы.
Няма такога, што гарэла-б толькі тут.
Каханьне, ці вясна, зь якімі сяньня скончым —
ізноў, калі ня ў нас —
у іншых зацьвітуць.
Усё, што мелі мы,
пасьпеюць зноў загудзіць
нашчадкі, дні жыцьця жнучы заместа нас.
Нічога новага няма і ўжо-ж ня будзе,
хай сьвет перашукаць ад берагу да дна.
Але ці-ж варта ў сьцень затым сыйсьці з дарогі,
што столькі ўжо дзядоў таптала цёплы пыл?

Было ўсё так, ці не — ня ведаю нічога,
чужою праўдай мне вачэй не засьляпіць.
Гары-ж, гары заход,
як мо гарэў спрадвеку.

Я хараство твяё вітаю ўпяршыню,
і ў чорны змрок раней ня узьніму павекаў,
пакуль сама ўсе сны, ўвесь чар не перасьню!

## МОЙ СКАРБ

Мне лёс даў можа болей, як каму.
Жыцьцё мне дорыць сны блізу на кажным кроку.
Што для адных
нуда і каламуць —
мяне пранізвае балюча і глыбока.
Ды я, маўляў скупы,
над скрыняй ня дрыжу
і золата сваё пад ключам ня трымаю.
Мой скарб і ў шуме веснавым дажджу,
і ў голасе гальля, умаенага маем,
і ў колерах, якімі дагарае дзень,
і ў сініх сьценях на зімовых сьцежках...
У дробных радасьцях,
будзённасьці,
бядзе —
угледжу я усюды нешта.
Вось і сягоньня... Слоць...
нанізваюць вянкі
бліскучых пацерак драты паміж слупамі,
рукамі мокрымі у шыбы б'юць сукі
сацьмелых ліп,
і цешыцца — ня ў памяць.
А я стаю ужо гадзіну ля вакна,
заклясьці ў словы ймкнуся
і мігценьне
празрыстых кропляў, і мутны туман,
і ссутунелыя на бруку сьцені.
Мне хочацца навечна, назаўжды
няўхопны чар слаты расплесьці з тайніц сяньня.
Як той Тамаш Няверны,
зьверадзіць
сусьвету незагоеныя раны.

## НЯМА КАЛІ

Сьнег стаяў кагадзе,
ды ўсьцяж блішчаць галіны
адщеньнем жутлага, старога серабра.
Ўсе ходзішчы ў вадзе,
і гэтак сіня, сіня,
ўгары, дзе растае клубок ваўняны хмар.

Такую чысьціню
і глыбіню нябёсаў
ці можа высьпяваць найлепшы навет верш?
Я так люблю зямлю,
яе вясну і восень,
што ува мне яна й бяз слоў жыве.

Ня ўцісьнеш у радкі
нязграбных літар песьні,
лістом ненапісаным хай ляжыць.
Нябёсам сінь пакінь,
а песьням — нівы песьціць,
сам — праз жыцьцё шукай сьцяжын.

Ня бойся, ня мінеш:
шырокія, вузкія,
парэзалі яны на крыж, на сто прасьцяг.
Калісь — раней, пазьней,
як торбы з плечаў ськінем,
мо запляцём у верш красу жыцьця.

А сяньня нашы дні
ў сіло злавіла праца.
Гадзіны ймкнуць, імкнуць,
за імі ймкне рука...
І сіні, чысьціні
у грукаце й гарачцы
шчарнелай хвабрыкі няма калі шукаць.

## ЗАЛАТОЕ

Шалее вецер...
плешчуць у далоні
і скачуць крыжачка й лявоніху лісты.
Рудыя... Залатыя... у палоне
асеньніх песьняў,
пэўна-ж, залатых.
І нешта і мяне ўзьнімае закруціцца,
заплёўшы рукі — гнуткае гальлё —
мяцеліцай асеньняю над ніцай
імглою залатой пустых, рудых палёў.

Але зашмат, відаць,
я збаразьніла сьцежак
жыцьцёвых, ня рудых, і ўжо-ж, не залатых,
а шэрых ад штадзённасьці і... рэшты.
Мне ў залатую высь ня ўзьняцца, як лісты.

## НАД МОРАМ

Ня ўсё-ж адно рабіць...
Хай пальцы адпачынуць,
а вочы ўзьнімуцца вышэй хісткіх антэн
у чырвань, золата і сіню, сіню
ці неба, ці вады, дзе сьцені ўсё гусьцей.
Шалёны акіян,
пан тайніцаў прадонных,
з глыбінямі — магіламі культур
памерлых, аб якіх ня баяць баек,
сёньня
загаслы і дзіўны лёг супачыць пад мур
нябёсаў, дзе гараць ужо
і гаснуць зоры —
камусьці кіненая жменя медзякоў.
Суладна і ў мяне на сэрцы... морак
вячорны і яго працяў наскрозь.
Я слухаю ізноў із прагай... цішу,
як сьпеў сырэн лавіў калісьці Адысэй.
І кажны іншы тон чужы мне сяньня, лішні,
хіба... каб перапёлкі голас па расе...
Каб косаў звон, хіба,
калі размахам цесна,
а целу радасна крывёю паланець...
Ці жніўная туга, заклятая у песьнях,
і жадная вада ў гладышыку на дне.
Дарма... Пяе прастор аб нудных далягьлядах,
аб тых, чыю яны загойдвалі тугу,
аб лябірынтах скал, Кальхідах, лядах
абтокаў казачных,
аб харасьцьве лагун.
Нат ночы не згасіць аркестры стройнай мора.
Прыслухайся —
гудзе смыком віялянчэль,
а йскрыпак галасы зьвіняць высока, ўзгорна,
як над чыёй труной, аж у ваччу пячэ.
Што-ж, хай сабе плыве сымфонія ў сутоньне.
На сяньня і жыцьцю і музыцы — бывай.
А ўраньні кажны гук патоне ў жудкім гоне
трансмісіяў і кол...
Пайду я — працаваць.

## МЕСТАВЫ ВЕЧАР

Саромячыся, нейк няздатна
шугнула сонца за муры.
Яшчэ адна малая,залатая латка —
і цемрай места закурыць.
І пабягуць шнуры меставых дрэваў
хавацца ад агнёў рэклямаў, фар,
ад пахаў з брамаў, ад гугнавых сьпеваў,
ад сьмеху ў брук урослых пар.
А мне захочацца такое цішы,
якое тут няма,
                    а толькі ў нас.
У зоры вышытых узвышшаў
і сноў бязь вёслаў і стырна.

## ГАДЗІНЬНІК

Гадзіньнік тахкае....
                    Мо сэрца нашай хаты
заклятае у ім?
                    І хаты, і маё?
Няёмка дыхаць зь ім ня ў тахт,
                    ніякавата
суцішыцца, маўчаць,
                    калі нясьцішны ён.
Ды мне ня хочацца сьпяшацца жыць сягоньня.
Да шыбаў туліць твар згалелы лістапад,
і тчэцца верш, такі-ж, як сьцені чорных клёнаў
на запацелым шкле...
                    Што поўнач — неўздагад.
Гадзіньнік тахкае...
                    Мо хто душу сусьвету
ўсяго закляў у ім?
                    Няхай, мая — жыве.
Пакуль павесіць ноч на чорным небе ветах,
я кужалем сівым няўзнак датку мой верш.

## ПРАЎДА

Што, каб душу адчыніць
шчыра, да рэшты, наросьцеж,
                    хай словы спалошчуць
зь яе намулелыя дні,
ночаў сатлелыя зьвеньне,
                    сьцені
сноў, што ні збыць іх, ні сьніць.
Хай-бы імкнула яна,
праўда, па вогкіх завулках,

па ходзішчах мулкіх,
дзе ходзіць, зблукаўшы, вясна,
кратала стрэчныя сэрцы,
што верыць
мо і умелі-б, калі-б не мана.
Толькі людзкая сям'я
зыйдзе з дарогі ёй... Неяк
навет ня ўзьнімуцца вейкі
з праўдаю погляды сьцяць.
Ці не таму мо паэты
сьвету
праўды ня кажуць, як я?

## ДЗІЎЛЮСЯ Я САМА

Праробленае ўсё...
Я маю крыху часу.
Хоць гэта й дзіўна — часу для сябе.
Пакуль сутоньне сіню дню пагасіць,
суцішуся й сягну ў душу як найглыбей.
А мо пайсьці глядзець, як сонца сеці топіць
над шэрым плёсам хмар,
плысьці зь людзьмі ў туман?
Навошта?
Гоман, рух і вуліцы й натоўпы —
усё ўва мне. Іх жаль ці радасьць — я сама.
Я ведаю усё, што не заўсёды й сьніцца,
што ўсьцяж жане людзей аднекуль ці кудысь.
Дзіўлюся я сама,
ці ёсьць яшчэ крыніца,
зь якое-б я ня чэрпала вады?
І часам, як цяпер, кажу я проста:
досыць,
што можа мне жыцьцё пад ногі йшчэ паслаць?
Ды дзень міне, і зноў імкну я ў золь і восень
шукаць крыніц, зь якіх вады я ня піла.

## МАЙМУ ЖЫЦЬЦЮ

Жыцьцё,
цябе я пакахала
яшчэ тады, калі ня ўмела
цябе назваць, а дзіўным палам
тваім сагрэць малое цела.
Хадой хісткою із жадою
я ў сьвет імкнула па дазнаньні,
хоць "жыжа" плачам і бядою
мяне вітала,
як і сяньня...

Хоць сінякі мне давялося
зьбіраць блізу на кажным кроку —
маўляў зялёнае калосьсе,
няўзнак я налілася сокам.
І зацьвіла так, як умела,
як ты надумала із мною.
Мая нядойшлая дасьпеласьць
была мне тайніцай упойнай.
Міналі дні...
Гады у вырай
зьляталі клінам жураўліным.
На твой загад глыбока, шчыра
ўрасла я ў бацькаўскі суглінак.
Ен падарыў мяне пахучай
жытнёвай лустаю і песьняў
мяне навучыў,
якіх ня вучыць
ніхто, нідзе у местах цесных.
І так я стала... чалавекам.
Благім і добрым,
так, як трэба,
каб із пакораю павекі
ўзьнімаць у сонечнае неба.
Заўмела плакаць і сьмяяцца
і над сабою
і над сьветам,
пазнала й пот сьпякотны працы
і ўсе захопленьні паэты.
Магла, калі хачу, астынуць,
ці разгарэцца зырка, ўзьлётна,
вылузваць веліч з лушпавіньня,
а з чынаў велічных — балота.
І дні лістала (што таіцца),
сьпіны ня хілячы прад конам,
піла із кажнае крыніцы
удосыць чыстай і прадоннай,
бывала ўцехай і... журбою,
і нічыёй была, і нечай, —
заўсёды, ўсюды, ўсьцяж табою
зачараваная навечна.
Жыцьцё,
ня шмат ужо дарогі,
штораз пусьцей, цямней наўкола.
Дык дай мне роднага парогу
даткнуць,
пакуль замкнецца кола!

## *ЯНЫ УСЬЦЯЖ ЗЫ МНОЙ*

### ПРАДМОВА ДА НЕНАПІСАНАЕ ПАЭМЫ

Злавеснай хмарай апавіў
кон няўнікнёны землі й моры.
Ён весьціць новую вайну,
хай сьвет і зморааны і хворы.

А я ўсё мрою даўніной,
брысьці із часам не зьбяруся,
вачыма бачу дні, даўно
сатлелыя над Беларусяй.

Мяне прасьледуюць гады,
гады вагню, ахвяр і сьмерці,
ў душу уеліся, як дым,
ніяк іх з памяці ня сьцерці.

Дарма чакаю я часін,
прасяклых радасьцяй прачулай.
Ня можна ў будучыню йсьці,
не разьвітаўшыся зь мінулым.

Яно-ж усьцяж са мной...
ня йдзе
спачыць з палеглымі пад крыжам.
Дык мо йшчэ раз успомніць зьдзек
тых чорных дзён, каб з думак выжыць

чад пажары́шчаў, смак крыві,
і кажны скон, і сполах кажны?
Прадзіўны сплёт найзьлейшых він
і ўзьлётаў духу недасяжных!

Імкні-ж ачысьціць шлях, пяро,
для новых він і ўзьлётаў новых,
сарві іржавую аброць
зь мінулых чынаў, думак, словаў.

Відаць, іх, жорсткіх, шмат яшчэ
нам давядзецца вобзем кінуць,
аж маладое руні шчэць
загоны родныя расьсініць,

аж змые доля з нашых губ
апошні сьлед крывавай пены,
аж збудзем мы сваю тугу,
або на сьмех яе разьменім.

Чаго-ж стаіш?
Імкні, пяро,
і ня спыняйся над крыжамі.

Хто іх ня меў,
хто сэрца ў кроў
не разьбіваў —
ня ўскрэсьне з намі!

## АЛЯРМ

Зноў загулі сырэны ўголас
прарэзьлівай жудой.
Каб ськінуць з плеч і каркаў сполах,
імкне натоўп перад сабой.

Адно жаданьне гоніць статак
мужчын, дзяцей, жанок —
зарыцца, як краты, у сьцяты
марозам ранічным пясок.

А ён прыняў-бы ўсіх ахвоча,
нат і навек накрыў,
калі-б на сплаканыя вочы
сьмерць рынула згары.

## ДВАЦЦАЦЬ

Тут рынула сьцяна...
Брук змочаны сьлязьмі
пакрышаных даўно,
ці толькі сяньня шыбаў.
Яшчэ пажарышчы курэюць, не прагнаць
клубка пякучага у горле, і ня змыць
набраклых ран ізь сьцен сялібаў.

Яшчэ ўсё сьпіць, калі
хто мае дзе спачыць.
Адно і тут і там
сьпяшаюцца лапаты
груды пабітай цэглы распыліць:
казалі, сяньня уначы
засыпаныя дваццаць з гэтай хаты.

## ПЛАЧ

Дзень згас... і чорная паводка
па шыю места заліла.
Плыве віць нанач гнёзды горад
пад бункеры, на змрочны пляц.
Ніхто ня дбае, што над тынам
муроў ня ўспыхнуў маладзік.
Ад дзён, калі глядзелі ў сіню —

мінула вечнасьць,
не гады.

I толькі сполахі вагнішчаў,
што ноч распальваць пачала,
патрапяць раззваніць у цішы
чыйсь нечакана шчыры плач.

## НА ЭЛЕГІЙНЫ ЛАД

Вартуюць зрэбны змрок
шчарнелыя руіны —
мінулых, жорсткіх дзён
нязжатае дабро,
хай нічыя рука
ня ймкне разблытваць сіню,
у попеле шукаць
прысыпаных імён.
Няма-ж каму гады
губляць на папялішчах:
бурлее, круціць вір
жыцьця, ўсьцяж мала́ды,
нясыты навіны,
што успаміны нішчыць
што песьнямі зьвініць
над сеткай палявін.
Вартуюць цішыню
гурты руінаў чорных,
стаяць, маўляў крыжы
над сотнямі магіл.
Ды жаль на карані
завяў...
і пройдуць спорна
гады ці шмат сьцяжын —
усё прысыпле пыл.

## МЕСЯЦ

Разьліў крыху сівога срэбра
на дахі й брукі маладзік,
хай сяньня рэчай непатрэбнай
і зраднай цемру верадзіць.

Валей сядзець у цёмным склепе,
у сьцені сьценямі блукаць.
Мо праплыве — і не зачэпіць —
гарой сьмяротная рака?

Мо не спатрэбіцца сьлязамі
гасіць разьятраны вагонь,

мо йшчэ і заўтра дзень над намі
струной нацягнецца тугой?

Ды месяц сьмерці не баіцца
і ня цураецца вагня.
Закуты ў срэбра зброі рыцар —
вартуе места й нас да дня.

## МАЛАЧАЙ

У вокнах шыб няма.
Даўно няма і даху.
Асколкамі пакрышаны фасад.
Абапал, хай і май,
а дыхаецца пахам
гарэліны,
            няўцям, што дзесь — краса,
што дзесь цяпер цьвіце
лілёвы бэз пад хатай,
і чыста вымыты буйной жарствой парог...
Парог?
        Няма...
гусьцей затое латы,
ды чырваней гарыць сьцяны разьбіты рог...

А на рагу — гульня:
зьбіраючы аськепкі
пакрышанага шкла, каменчыкі, вуглі,
малыя, што па нас
жыцьцё мо лепей зьлепяць —
дзятва будуе дом, які не спапяліць.
Спрачаюцца... крычаць
і плешчуць у далоні,
і сьмехам саграюць астыглыя муры —
зялёны малачай,
што, выраслы ў сутоньні,
калісь вяснова ў сонцы загарыць!

## ІМКНІ, ЦЯГНІК

Ізноў паймкнуў цягнік...
У новыя руіны,
што могілкамі мо ня так даўно...
Няма што ў далані
заціснуць на ўспаміны,
няма чаго, як скарб, схаваць на дно.
Гарыць, як корч, прасьцяг...
Агонь і кроў на ўзвышшах,
з агню у полымя ўцякаюць цягнікі.

Зялезнай жменяй нас
таксама можа скрышыць
назаўтра сьмерць.
Ну, што-ж...
Імкні, цягнік, імкні!

## ЛІСТ

Ён ёй прыслаў учора ліст:
– Капае ўсьцяж...
журба старая.
Адно, што жоўтыя лісты
зьвіняць і кружацца над гаем...
А так... усё, як і было...
Папухлі рукі, есьці мала,
ды фронт бліжэй.
І сьмех і злосьць –
відаць, ізноў масты папаляць!
Але ня час адно чакаць,
ці хутка сьмерць пяском прыгорне.
Імкне паводкаю рака
падзеяў, дзён...
Зноў будзе зорна.
А як яна? –
Нуда, нуда...
Лепш дачытае ліст у раньні.
Гады пасьпелі загайдаць
нат сэрца... што было – ня ўстане.
А што галодны... І яна-ж...
штадня нішчымныя лупіны.
(Нат і аб іх часамі сьняць
пазначаныя 'Остам' сінім)...
Гудуць... Ізноў гудуць гудкі,
і тупат ног аж б'ець у сьцены.
Хутчэй
дабегчы-б да сьлізкіх
і чорных нор, сагнуць калені
і пахіліцца, і маўчаць,
аж не праймчыцца навальніца.
Як ён пісаў?
– ня час, ня час,
адно сьхіляцца і маліцца. –
А гул ужо над галавой,
ён у вушшу, у сьцерплым целе...
Гудуць чмялі,.. пяе жніво
над серпам маці,
жмені сьцеле...
Там... на акопах... золь... слата...
Што?!
ўсё дрыжыць, нат зоры,
зоры...

І ўжо ня ўдасца дачытаць
недачытанае учора.

## НА СЬЦЕЖЦЫ

Вакол усё зялёнае.
Ня дзіва — чырвень.
Усё бурлее жыць,
цьвісьці, буяць.
Важкая ад начы бяссоннае,
сьпяшаючыся,
пырнік,
густую лебяду і... жах мінаю я.
Усё шалее — жыць.
Зялёным сьмехам
ляшчэўнікі заходзяцца, аж весела мінаць.
А ён... а ён ляжыць
на сьцежцы шэрым вехцем.
Яшчэ адзін, каму вясна
не дацьвіла.
Глядзіць у сонца твар...
Чарнее кроў над вухам...
І вочы ўжо ня лашчаць неба, ні ляшчын.
На вуснах — мухі...
І даць веры цяжка,
што ўчора ліст чытаў ад маці
сын.

## ТАК ПРОСТА

Дымяць руіны,
дым грызе
павекі, й самі плачуць вочы.
Адно уцехай, балазе,
што дзень устаў па гэткай ночы.
Заліў хтось ходзішчы вадой,
скрозь шкла насыпана, як лёду.
І ўсьцяж стаіць натоўп —
кудой,
чаго ісьці — не палагодзіць.
І ціха ўсё...
адно зьвініць
над папялішчам плач дзіцячы.
Відаць, кавалкам цагліны
дзіця дзе раніла, няйначай.
Іду... рассоўваю натоўп.
На грудзе цэглы чорнай — трое,
і штось, а можа навет хто,
пад шэрай коўдраю старою.

Курэюць выкратні лам'я,
сьлязьмі людзкія вочы студзяць.
Трыё зыходзіцца...
шумяць,
як вераб'і на стрэшцы, людзі.
А рэч — за ўсё ў жыцьці прасьцей,
няма, папраўдзе чым праймацца:
ратуючы з агню дзяцей,
на сьмерць згарэла маці.

## "АКЦЫЯ"

Гарэлі ў тыя дні ня толькі што кляны —
сквярлося на вагні усё, на што ёсьць слова.
І ранаў з гэных дзён нялюдзкіх і дзіўных
ніякаю замовай не замовіш...

Ськівалі ў сутаргах з намоклага гальля
апошнія лісты прысады ў золь і мокрадзь...
Як прыгаршчы лісьця, іх кінулі на пляц,
і латы жоўтыя пайшлі лістамі ў скокі...
Выў вецер...
Але й ім казалі засьпяваць,
і за часіну ўсе і пляскалі й сьпявалі:
прысеўшы на бруку, брахаў у самы твар
ім кулямёт загады сталяй.
Каб дагадзіць яму —
чырвоным языком
пачаў лізаць агонь бажніцу...
аж у неба
шугнулі з дымам Торы, талесы ускок, рыўком,
маўляў скакаць пайшлі у тахт із рэбэ.
А рэбэ, што-ж, сьпяваў...
рыпелі, як жарства
пад пятамі скакух, і ўсё...
і толькі Есель,
хоць маці тузала яго: "Сьпявай", —
біў пустку пясткамі, заходзіўся і тросься.
Біў пясткамі й тады, калі апёк агнём
бізун дзіцячы твар,
калі асела маці
на брук снапом аўсяным,
калі ён
папоўз, маўляў шчанё, ў прыпол яе схавацца,
калі пайшлі зьдзіраць зь дзявочых шый і рук
каралі гордыя і ўпартыя пярсьцёнкі,
калі, як з крапяжа, паплыў з крывёй на брук
чыйсь енк прарэзьлівы і тонкі,
калі усьцешны шум зьмяшаўся у вушшу
зь пякучай роспачай,
апаў на сэрцы жудзяй...

Ён плакаў...
а вакол, здавалася, душу
ў вапошняй песьні высьпяваюць людзі...
Так прычакалі змрок...
Папоўз асеньні дзень
за восеці...
Тады — усім далі лапаты,
і зашуршэў, заплёхаў па вадзе
пясок важкі і макраваты.
Пасьлей — казалі збыць людзям апошні стыд,
і пачалі усьлед расьці стагі апраткі,
аж пырснула сьвятло на целаў сплёт густы,
а кулі пляскаць узяліся ў ладкі.

Гадзіны дзьве брахаў у золкасьць кулямёт,
ды заліла й яму ноч ляпу чорным лякам.
Спыніла лёт лісьцё, сплыло на целаў сплёт,
і навет Ёсель сьціх, ужо ня плакаў.
І спад павек яго, хоць ён ня знаў Хрыста,
глядзеў Хрыстос з тугой нянаскаю, дзівоснай
на тых, каму зь пяску крывавага ня ўстаць,
на катаў у крыві...
слату...
і восень...

## *ПРЫЙДЗЕ ЧАС І НА ПЕСЬНЮ*

*Сябром — Паэтам*

### ІМКНІ, ПАЭТ!

Яшчэ ня знойдзены жывымі
натхнёнай песьні ідэял.
Імкні-ж, паэт,
разьліся ў гімнах!
Дзіўны, сьвяты ці чуеш пал?
Няхай у тахт тваіх сугуччаў
і не трапляе сяньня сьвет,
імкні!
Ці-ж раз,
адзін,
над кручай
тварыў ты ўжо свой запавет?
Ці-ж раз у белай поўні росквіт
ты верш, па слове слова, куў,
ці раз агонь распальваў боскі
у целе з гліны і пяску?
Імкні!
Ці-ж сум агністым джгалам
цябе ня джгае да крыві?
Ці мо яшчэ табе замала
у нашай мове слоў жывых?

Іх шмат, як зор, як зерняў жвіру
на срэбных плёсах нашых рэк.
Вучы-ж прысталых дыхаць шырай,
шугаць, за Родны Край гарэць!
Імкні!
Лаві ў крылатым лёце
чар слоў, што ймглою растае...
Хай знае сьвет:
з усіх сьмяротных
іх дакрануў адно паэт!

## КАБ ПАЭТЫ МАГЛІ

Срэбным каўшом цішыню
п'е за аселіцай месяц.
Плача ў тумане канюх...
Вершы ты йрваць можа выйшаў?
Любы паэт!
Не растуць
вершы яшчэ па канавах,
на прытаптаным пяску
тропаў вузкіх і каравых.
Недзе ў глухім гушчары
папарацць казачным птахам
крыльлем лапоча ў старых
елках...
Туды лепей плакаць
рыфмамі сяньня ідзі.
Гэнам твой плач зразумеюць
совы ці дзед-вадзянік,
дзівы ці гадзіны-зьмеі.
Іх, як калісьці Арфэй,
ты й зачароўваў песьняй.
Сьвету ня ты ў галаве,
іншыя песьні ён весьціць...
Вось, каб паэты маглі
дзіды ці полымя коўтаць,
конскія жарты смаліць
перад карчомным натоўпам,
сажай упэцкаўшы твар
з собскай душы скамарошыць —
мелі-б удосыць пітва,
ежы,
і славы,
і грошай...
Блазнаў вясёлых зямля
мае ў пашане і сяньня.
А... каму ў сьвеце баляць
крыўды чужыя і раны?

## ХОЦЬ ВЯСНА

Паддалася,
не бяз бою,
сьцюжа зьбегла за мяжу.
Ужо зарой, ля вадапою
за вясною коні йржуць.
Тыдзень, два –
й на крыльлі сьмелым
яе ластаўкі прыймчаць.
Белай цьвіляй замяцеліць,
загарыцца малачай,
задыміцца жоўтым пылам
лог,
дзе пёраў залатых
нагубляе сонца, крылы
абтрасаючы з вады,
паплывуць чаўны хмурынаў
на нябёсных паплавох...
(Мо растае крыгай сіняй
сум, што ў сэрцы дзесь залёг?)
Юр'я весела на выган
пугай статак пажане,
запяюць узноўку шчыглы
– не паэты –
аб вясьне.
Запяюць,
аж гулам сьпеўным
наліецца ўся зямля.
Й толькі нашы песьні, пэўна-ж,
тут лазой не запыляць.
Ім ня стане
йрдзяных раньняў
над растаньнямі сьцяжын,
ціхіх плёсаў серабраных,
белых дзічак на мяжы...
Прагна сочачы вачыма
першы, шпаркі ключ гусей,
хоць вясна –
тугой нішчымнай
захлынёмся мы усе.
Ды няхай...
За год, за дваццаць,
але будуць у вагні,
ў пазалоце нараджацца
і канаць –
і нашы дні!

## ЗАРАНА

Дадзела мне у бубны і літаўры
нямоўчна біць,
сябе ды іншых суцяшаць.
Чакае й на мяне калісьці, недзе, старасьць,
хоць я й паэт, і я – звычайная душа.
I мне жадаецца уцехі і спагады,
I я-б хацела выплакацца ўсмак
па тым, што некалі я называла "радасьць",
а заўтра "смуткам" назаву, ці як...
Даволі!
Іншы хто трапеча хай на ветры!
Хоць кроў, як вар бурліць, –
нам сьвету не сагрэць.

Грабар із воўчымі вачыма мэтрам
яго ўжо вымераў, мармычачы
"памрэ".

I сіл у нас няма прагнаць за рэкі
яго і тую, што сьлядом за ім брыдзе.
Ну што-ж,
пара і нам, відаць, самкнуць павекі
і лагаўя шукаць, як кажны зьвер.

Навіснуць нізка шэрыя галіны
ялін над намі...
шыльнік, як дажджом,
прысыпле цела,
безьліч ночаў сініх
у зоры разатчэ наш новы дом.
I ціха будзе ў нас і супакойна,
хай лютуюць вакол пажары і вайна.
Хай ці адна яшчэ зямлю угноіць
крывавая
ці восень,
ці вясна...

Ды не!
Не!
Не!
Зарана зашывацца
у логава на сон,
кідаць у горы сьвет.
Багаславёныя змаганьне, боль і праца!
Празь іх, хоць плачам мы, ірвёмся –
ды жывём!

Нявесела,
а будзем у літаўры,
у бубны біць,
сябе ды іншых суцяшаць,
дарма, што нас усіх захліставае варам
туга,
што і у нас – звычайная душа.

## НЯ ТАК ЛЁГКА

*Прысьвячаю пакліканым*
*і непакліканым крытыкам*

Ня так лёгка гаркою, агорклай агудай
змусіць нашыя вершы
навечна заплесьнець.
Яшчэ доўга блукаць
па гасьцінцах мы будзем,
раздаваць пакрысе
свае сэрцы у песьнях.
Ці адна яшчэ ў сьвеце вясна
у далоні
нам ружовых вішнёвых
пялёсткаў насыпле.
Ці ў вадзін яшчэ верасень
залатаклённы
мы душою
і сэрцам трывожным уліпнем?
Ці ня ўдосыць наплачамся мы па краіне,
аж уздымем у песьнях яе
на узвышшы, ці няраз непаэты
апырскваць сьлінай
будуць нас, або й славай ахутваць пышнай?
Ды хай вусны праклёнамі ў раны калечаць,
ці хвалой захлынаюцца крытыкі сьвету —
што нам
іхнае ройна-шумлівае веча?
Не забраць ім ні неба,
ні сонца ў паэтаў.
Ані неба, ні сонца,
ні сьлёз, ні усьмешак,
ні ўсяго, што нам кажа
успыхваць і гаснуць.
Тут, у сьвеце злачынным,
у сьвеце бязгрэшным
не яны —
мы аднойдзем няўлоўнае шчасьце!

1944

## ЛЕПШ ПІЦЬ ДА ДНА

Лісьцё — віхор іржавых зор —
над шахаўніцай вуліц кружыць...
Каб як лучыць у іхны хор
і нашым душам недалужным!
Каб навучыцца пазіраць
на ўсё, што робіцца —
з узвышша.

з усьмешкай боль пякучы браць,
сьпяваць,
хоць крыўда сэрца крышыць.
Мінаць калекаў і сьляпых,
як навакольле — зь лёгкім сэрцам,
і ня кідацца ніцма ў пыл
ні прад жыцьцём,
ні перад сьмерцяй!

Ці-ж гэтак цяжка ізь лісьцём
пусьціць на вецер і пачуцьці?
пачуцца тут адно гасьцём
нічым ня зьвязаным,
ня скутым?

Тады —
жылі-б мы, балазе,
і парасталі ў поўсьць і сала,
і сьпін ня гнулі-б у тузе
ні прад Хрыстом,
ні прад Баалам.

Адно —
ці-б гэта нам дало
дасюль нязнойдзенае шчасьце,
ці з сэрцаў ськінула-б далоў
усё, што ўсьцяж яго нам засьціць?
І ці тады,
йдучы паўз нас,
паэтаў, сьвет-бы ўсьлед ня кінуў:
"Чым гэтак жыць,
лепш піць да дна
бяду і зьдзек,
або і зьгінуць!"

1944

## ПАЭТАМ

Ня крыўдуйце, што вашыя словы
йдуць так часта каменьнем на дно.
Яшчэ ў нерат напяты іх зловяць
рыбары,
пачакайце адно...
Сьвет бязьвінны, што ў чадным хаосе
братабойнай, упойнай вайны
ён забыўся аб ветрах, аб росах,
аб зялёных агнішчах зарніц...
Сьвет бязьвінны, што вочы людзкое
чарады
не красу далячынь
сяньня сочаць,
а лекі на раны,
кут, куды-б ад пакут уцячы.

Боль, які песьняроў разьядае,
ня турбуе нікога...
Баліць
сэрца ў кажнага...
Цяжка-ж, каб зграяй
бед асочаны, ў песьню уліп,
захлынаўся паэмай ці одай,
упіваўся йшчэ й вашай тугой.
Ня крыўдуйце-ж,
хай людзтва пяройдзе
празь дзікі, ненажырны агонь,
хай ачысьціцца з гною і бруду,
ўзьніме ськівы цяжкія павек,
зноў адчуе
як водырыць лубін,
як раса зігаціць на траве...
А тады —
прыйдзе час і на слова,
што жыць будзе ў вагні і ў вадзе.
І, сьхіліўшы з пакораю голаў,
сьвет прад песьняю ніцма падзе!

1944

## *НЯ ЗРАДЗІМ*

### ХОЦЬ ДАВОДЗІЦЦА СЯНЬНЯ ПЛАКАЦЬ...

Пазалочанай дзідай захад
скруткі хмараў наскрозь працяў...
Хоць даводзіцца сяньня плакаць,
як, аднак,
ня любіць жыцьця!
Як із прагай ня браць іскрынак
шчасьця, ня пераймаць тугі,
хоць і тое і гэта зьгіне
заўтра, як на вадзе кругі...

Залатым, нябачаным птахам
маладзік над зямлёй усплыў...
Так, хоць хочацца сяньня плакаць,
мы расьсейваем сум, як дым.
Ня ўдасца, праўда, забыцца
нам тут нашых сівых бяроз,
васільковых узьмежкаў, ніцай
хаты, дзе ад дзіцяці рос.
Але жаль па іх нас ня скосіць
і ня выкруціць сілы з рук.
Хоць навокал і золь і восень —
верым мы у сваю Беларусь.

Маці любая, пэўна сяньня
уздыхаеш па нас і Ты.
Ня тужы,
ў мітусьні выгнаньня
не дадзём мы душы астыць.
З гэраічнай ня выйдзем ролі,
у балота ня сьхілім сьцяг,
і ня зрадзім нідзе й ніколі
ні сябе,
ні Цябе,
ні жыцьця!

1944

## О, ШЫПШЫНА МАЯ, БЕЛАРУСЬ!

*— О, Беларусь, мая шыпшына...*
У. Дубоўка.

Грае люты на струнах завей
далікатнае, смутнае "scherzo".
Пачакаю, аж зноў весялей
будзе трохі на сэрцы.
Аж затліцца ізноў у крыві
хваляваньняў блакітны вагенчык,
аж і сьцюжа, і дні без навін
шэры час свой ад'енчаць.
Аж ізноў баразной пабрыдуць
дні вясны у вадзе па калені,
аж мы скарбы пачуцьцяў і дум
зноў на словы разьменім...
Цёплых слоў гэтых трэба усім
нашым часам суровым і збройным.
Што-ж ты сьвету сягоньня дасі,
як ня песьню, ня мрою?
Як прымусіш паверыць сваіх,
што яшчэ расьцьвіце наша доля,
што ніць шчасьця йшчэ будзем мы віць
пад крывіцкаю роднай столяй?

Грае люты на струнах суччa
далікатнае, смутнае "scherzo"...
Не, ня буду чакаць, аж маўчаць
маё знудзіцца сэрца.
А удару па цяглiцах струн
із тугою, ізь сілай нячутай:
"О, шыпшына мая, Беларусь,
маё шчасьце й пакута!"

1945

## ЖЫЛІ МЫ Й БУДЗЕМ ЖЫЦЬ

Калісь, бывала, ўпотайкі
асеньні сухавей
жывою пазалотаю
крапіў з крапіла сьвет.
Засьвеціць сонца — капае
яна, як мёд густы,
зь лясоў у жоўтых лапінах,
з лагчынаў залатых.
А выйдзеш за аселіцу —
пад ногі ўсё гусьцей
чырвоная мяцеліца
чырвоны сьнег мяце!
Цяпер —
стаптаны правілы:
слатою восень дзьме.
Вятры чужын расплавілі
нат восенскую медзь,
ашчэрылі дні чорнымі
зубамі пажарышч,
жыцьцё з дарогі торнае
зьвялі у гушчары.
Ці-ж дзіў, што шэрай сьнедзяю
паростае нат верш,
і што і сам ня ведаеш,
жывеш, ці ня жывеш?
Але дарма,
йшчэ полымя
ня згасла у крыві,
яшчэ рукамі голымі
мы шчасьце ймкнём лавіць.
Хоць сяньня зь ім, няласкавым,
і йдзём мы на нажы,
хоць восень нас аплаквае —
жылі мы
й будзем жыць!

1944

## КАЛІ...

Калі на клёнах залаталістых
дрыжаць апошнія лісты
і сівер сіліцца расхрыстаць
сівую восенскую стынь,
калі вінам старым крынічаць
каўшы мядзяныя лагчын
і кветкай дзіўнай, экзатычнай
канае сонца на суччы,

калі сівее з жалю й далеч
і межаў жоўтая трава —
тады,
тады так смутак паліць,
што ўжо, здаецца, ня стрываць!
І смажыць смага вусны, сэрца,
як дзень асеньні,
скончыць шлях...

Адно,
ці нас утуліш сьмерцяй?
Ну, добра, сьмерць,
а што пасьля?
Хто-ж, хай над ім гадоў завея
курган навее, ўзьніме мур, —
засьне з нас гэтак, што заўмее
Цябе забыцца, Беларусь?
Хто шчыра так памрэ, што згасіць
нязгаслы, палыменны зьніч,
які калісь, а ўпаліць шчасьцем
і наш прасьцяг,
і нашы дні!

1946

## ЗАМАЛА

Вітала колькі год я восені у месьце:
асфальт і цэгла,
мітусь, грукатня...
Аж давялося мне цяпер адну вітаць
на ўзьлесьсі,
дзе яна прыйшла сініць і плесьці
вузоры зь верасоў,
імглы,
лістоў апалых...
Як гэткіх дзён зыркіх мне ўсьцяж, усьцяж замала!

Бо ўсё-ж вакол зігціць,
гарыць і паланее,
ні росам ані ймгле шуганьня ня суняць.
Няхай спамінам,
сном спрыяе цішыня, —
жывуць мае і тут, у лісьцяных завеях,
здаецца, дні кружыць я-б зь імі ня прыстала!
Як гэткіх дзён зыркіх
мне ўсьцяж, усьцяж замала!

## ТАКІ НАШ КОН

Сьвет на ахвярніку усьцяж ахвяры паліць.
Паўзе пурпурны дым паўзь месты, паўз шляхі...
Не насумуешся па тых, каго ня стала,
ня стане дзён аплакаць сяньня ўсіх.
Чырвонымі сьлязьмі скрывавілі рабіны
дарогі ў далячынь...
                    Каб нагарнуць, набраць
аж прыгаршчы тых сьлёз пякучых і палынных,
асыпаць імі наш народ,
                    наш горкі край!
Лынуць крывёй яны, лынуць смалой гарачай
на душы, спапяляць сасмаглую кару,
што атуляе іх...
                    Але — найгоршым плачам
ня купіцца усё-ж зварот у Беларусь...
Таму —
          няхай ідуць дажджы крывавых ягад.
Не апалошчам мы ні рук у іх, ні душ...
Змагацца за свой край, за супакой, за радасьць
наш кон...
          Відаць, так нам судзіў ён на раду.

1945

## УСКРЭСЬНІ!

Ён уваскрос,
                    Ён — дзесь між намі,
Ён там, дзе ў срэбным пыле лоз,
у сіняй смузе над палямі
вісіць вясна...
                    Ён уваскрос.
Ускрос,
          і зноў па Беларусі
перад сабой ідзе Хрыстос...
Здымае з душ настылых вусьціш,
багаслаўляе соладзь кроз,
сяліб раськіданых прысады,
муры нязьлічаных вязьніц
і тых,
          што пагублялі радасьць
па кроплі кропля й дзень па дні...
Ідзе Хрыстос... Над Ім дугою
ўстае густы блакіт нябёс,
а ногі ў ранах незагойных
кладуць сьляды на шэрань рос...
Дык прыпадзем
                    і вусны спалім

на тых сьлядох, што Бог-Хрыстос
губляе, моўчкі йдучы ў далеч,
бо Ён ускрос,
Ён уваскрос!
Няхай над родным папялішчам
усьцяж галосіць нема лёс,
няхай крываваяць нас і нішчаць —
ускрэсьне Край,
бо й Ён ускрос!
Мацней за сьмерць,
за ўсё,
каханьне
зямлі, дзе ад дзіцяці ўзрос...
Устань-жа, ўстань,
ускрэсьні сяньня
мой Край, як уваскрос Хрыстос!

1953

## ДАЙ, ДОБРЫ КОН.

*У сакавіковыя ўгодкі*

Я ведаю найлепш, як на выгнаньні косіць
туга наш гарт,
але-ж туга — адно зьвяно.
Па восені страсаць лісты ня прыйдзе восень,
ня ляжа па начы ў лагчыны ноч ізноў.
На шчасьце, ўсё ў жыцьці мінае:
тлеюць эры,
йржавеюць смага й боль,
дапальваецца зло,
каб у сухім лісьці, у папялішчах шэрых
нанова году год заломліваў залом.
Нас доўга лёс касіў...
Мы хадаліся з доляй,
стаўлялі ўздоўж усіх дарог зямлі крыжы,
кахалі Родны Край, хто колькі й як адолеў,
жылі, каб паміраць,
ішлі на сьмерць, каб жыць.
І чара нашых дзён, я думаю, наліта
гаркім вінам бяды блізу па берагі.
Пара, Правечны Кон, пакрыць каменнай плітай
крывавыя гады,
сказаць няпраўдзе: "Зьгінь!"
Ня пойдзем, а паймкнём Пагоняю нястрымнай
з Табой мы ўсе ў прасьцяг засекі раськідаць.
Ці мала выкрасяць падковы іскраў, гімнаў,
а сэрцы радасьці?
Пашлі нам толькі, дай
мячы і вочы ўзьняць,

раськінуць прагна крылы,
пачуць у жылах вар гарачае крыві!
Дай веру у Цябе, ў сябе, у нашы сілы,
дарма, што скрозь дрыгва,
вярні нам Сакавік!
Ня выпусьцяць Яго,
ня згубяць больш далоні,
каб вочы плакалі з тугой, балюча:
"дзе-ж?"
Дай, Добры Кон, ізноў вясьне,
вясьне зялёнай
абвесьціць сяньня нам: "Ускрэсла і жыве!"

## ВЕРЦЕ!

Вам горка, што няма таго,
чаго мы столькі год чакаем,
што сьцежка нашая вузкая
усьцяж ня выб'ецца з лагоў?
Што заплылі вадой разоры
парослых лебядою ніў,
што Бог судзіў нам несьці сны
аб родным краі аж за моры?
Дарма!
ці-ж не сьпяваюць скрозь
узімку золкія завеі?
Ці ў душы вусьціш нам ня сее
асеньні дзень, цяжкі ад сьлёз?
Ды надыходзіць расьсініць
далечы год у год прадвесьне,
зноў малачай гарыць ля весьніц,
залоцяцца й рунеюць дні...
І ніваў сонечны прасьцяг,
і пушчы, сінія ад сьценяў,
сьвяткуюць Сьвята Ўваскрасеньня.
Такі спрадвек закон жыцьця...
Чакайце-ж,
верце,
прыйдзе Ён,
Вялікі Дзень і ў нашу хату.
Пашле і нам нарэшце сьвята
дзіўны, нязнаны Божы Кон!

## СЫНЫ Й МАЦІ

*У Слуцкія ўгодкі нашым блудным*
*сыном прысьвячаецца.*

Як загусткі крыві, пурпурныя лісткі
губляе лістапад – кульгавы старац зь кіем...
І зноўку устаюць у думках Случчакі,
гэрої,
гэткія, як мы тут,
не такія...
Мы – Бацькаўшчыну любім шчыра ўсе.
Так прысягае з нас, прынамся, кажны сяньня.
Хто сьніць яе –
сівым аўсяньнем у расе,
хто –
крыжам з галіны над наспаю пяшчанай...
Хто зноў –
крыніцаю у зрубе, што аброс
па бровы мохам цёмным,
хто – рачулкай,
дзе мые й мые косы вербалоз,
хто –
міртай на вакне ў вузенечкім завулку...
А хто –
ужо й ня сьніць...
Што-ж купіш тут за сны,
хай найбалей сабе у сьвеце залатыя?
Шукаюць сыці, сыці,
блудныя сыны,
айчыны пястуны, дуронікі,
і тыя...
Напяўшы цягліцы, адны і ночы й дні
палююць лусты тлустае нясьцішна,
зноў іншыя
пад ногі камяні
кідаюць – незнарок маўляў –
сябром калішнім...
Што ім Твае ніўя,
рамонкі на мяжы,
сасоньнікі,
зязюль куваньне на сьвітаньні,
што, Маці, ім Твае ці раны, ці крыжы,
калі ўсьцяж прагаю працятыя іх сяньні?
Усе
ад усяго, што ім ня тхне грашмі,
зь нясмакам шчырым лена вернуць пысы,
й Ты, Маці Беларусь,
і Твой упойны міт –
для іх адно сівы,
даўно астыглы прысак.
Ты-ж...
Ты-ж усё стаіш...

выцягваеш далонь
і просіш...
белая сама з пакуты, стыду...
Ці многа зь іх Табе хай марны грош дало?
Ня стой-жа, не прасі!
Вазьмі мяча ці дзіду
ды бі іх, Маці, бі і дзідай і мячом
у сэрцаў шэрае, амшэлае каменьне,
бі,
аж павісьне рук зламанае суччо
і зросяцца крывёй замлелыя калені,
аж сьхіліцца сьцяблом падцятым на плячук
мяккая шыя,
крык заціснуўшы удушны,
аж скруціць сьцяглы боль агідны,
а ўваччу
шасьцівым пабаччом заварушыцца вусьціш!
Была галоднай Ты...
Ці даў хто напару
Табе кусок? Ці стан
Твой ахінуў рызманьнем?
О, Маці,
Маці,
Маці Беларусь!
Дык бі іх,
бі за ўсё,
за ўчора і за сяньня!
Затое, што сваіх,
маўляў ваўкі руёй,
за горла ўзяўшы, йрвуць,
нязгодныя, а згодна,
за зраду бі, і зман, і ёлкі супакой,
няхай за ўсіх крывёй
Ты ўся плывеш заўсёдна!
Ды...
высьлізнуўся меч зь нядужае рукі...
Закрыўшы вочы зрэбнай палатнінай,
– каторая ужо праз доўгія вякі –
сумуе Маці
й гэтая
па блудным сыне...
А над сьлязьмі яе
пурпурныя лісткі
зрывае лістапад – крывавы старац зь кіем –
і ўпарта устаюць у думках Случчакі,
гэроі,
гэткія, як мы тут,
не такія.

Нью Ёрк, лістапад 1957 г.

## *НА СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ*

### ЛІСТАПАД

Дагараюць, таюць сьвечкі ліпаў... Восень.
Кроплі воску — лісьце — ўслалі мох.
Хоць тугі у госьці мы ня просім,
тут яна...
і тужыцца само.
Зараз зноў рудое зрэб'е змроку
лістапад пачне вакол сьпяліць,
зноў успомнім мы (ня зьняць урокаў)
змагароў, што зьлеглі у зямлі.
І ці раз павесмам зьвіснуць рукі,
і на вейках сьлёзы зацьвітуць.
Ды ня сьціхне сэрца мерны стукат,
ды змаганьне з доляю — і тут.
Наліюцца наквецяй вясновай
і яны калісьці, родныя палі.
Ласкавейшае для нас кон знойдзе слова,
хай затое, што ў распачы
па сынох, па згубленых братох,
мы жыцьця ня выплакалі ў плачы
ня зыйшлі з гасьцінцаў у бытьнёг.
Дагараюць, таюць сьвечкі ліпаў... Восень.
Кроплі воску капаюць на ймхі...
Перад намі — ходаньне ізь лёсам,
новы боль,
і новыя шляхі.

1947

### МЫ ЙШЛІ...

Гула штосьць глуха ноч,
сьляпая, чорная.
Чарнейшыя — ці ёсьць у лістападзе?
Да гэткай цемры золкай ня прыгорнешся.
Гарнуўся ўсё-ж і той і гэты —
што-ж парадзіш?

Каторую пару брылі мы нясупыннаю
нярадаснай хадой ад кусту да куста.
І найжвавейшыя жадалі ўжо хваінамі
нязрушнымі навечна тут прыстаць.

Мы йшлі, ня зьдзеіўшы таго,
што ў зыркім полымі
гарачае крыві зрадзілася, цьвіло.
Затое ў клёнах, восеняй аголеных,
за намі паланела роднае сяло.
Мы йшлі, а нашы слуцкія сасоньнікі

туліла нас бязрадна ў туманы.
Мы йшлі...
Ды не на Ўсход,
у вязь старое хронікі
уплесьці новы чын...
Ішлі на Захад мы...
Ці помніў хто, што нашп
нядаўна сэрцы біліся,
што нашы правадыр,
ня боль глухі нас вёў?
Крывавілі шляхі апошнімі рабінамі
і першаю юнацкаю крывёй?

Гула штось глуха ноч,
сьляпая, чорная.
Чарнейшыя ці ёсьць у лістападзе?
На душаў дно,
на восенскія ворывы
асеньні, золкі сум залою падаў.
А мы —
ішлі, ішлі, ішлі, хаваючы,
ратуючы гадоў апошніх жменю.
Ішлі на Захад мы... Няхай...
А дачакаемся:
завернем на Усход
і мы і наша зьмена.

1947

## УСІХ ПАМЯТАЕМ МЫ

Як адыходзіць хто ад нас — із сумнай
пакорай мы яго вядзём у нябыцьцё.
Ці ён адзін адведаў крыўд і глуму,
быў на зямлі чужынцам і гасьцём?
Усё-ж мінае·
срэбныя туманы
і жоўты жаль асеньніх вечароў,
надзеі маладыя нашых раньняў,
і год даўгіх раз — гора, раз — дабро...
Адлі у шэрыя сутоньні лістападу
тугою трапяткой мы ўсё-ж усе гарым
і трызны залатыя ў сэрцы ладзім
тым, каго ў песьнях клічуць "змагары"
У сініх сасьніках айчыны несьмяротнай
за шчасьце ейнае яны тады ляглі.
Кладуцца і цяпер, крадком, у вадзіноце
і дзе канцы —
ці скажа хто й калі?
Ўсіх памятаем мы...
Нас паляць успаміны

і прыйдзе дзень —
мы ўспыхнем, як зьнічы.
За змагароў, за лёс таптанае радзімы
не паміраць,
мы жыць паймкнём у далячынь!

1943

## НАД ПАЎСТАНСКАЙ МАГІЛАЮ

Кастрою срэбнаю прысыпаны кусты.
Кранешся —
і кураць густым і белым дымам...
Тут пахаваны, кажуць, нехта з тых,
што аддалі жыцьцё,
каб жыць магла Радзіма.

Зацерлі золь, слата
няўзнак
імёны, год.
Із наспай роўнае ўзьнялося пустазельле.
Ды запыні, спытай абы каго:
"Жывыя, — скажа ён, — хай целы і сатлелі"!
Крыжы стаяць, няхай — пакленчылі яны.
Ці-ж лёгка несьці год важкіх і чорных ношу?
Ня ў памяць пэўна й ім, каго тут кон спыніў,
ні колькі іх зьлягло,
вясёлых і харошых...
Ці йшлі яны ў бой ізь песьняй маладой,
ці доўга несьлі боль, аж палі гэтта ніцма,
ці на Дзяды мядзяныя, увосені,
зь бядой
прыходзіць хто па іх паплакаць,
памаліцца?
Ці горка ім было, як зьнічкі, дагараць,
ледзь да прысягі Бацькаўшчыне ўзьняўшы
рукі,
ці ведаюць яны,
што за народ, за край
крывавяць скрозь яшчэ браты, сыны ды
ўнукі?
Ці звоняць з году ў год ім звонкія лісты
і "памяць вечную", і "са сьвятымі"?
Ці знаюць —
не памрэ ніхто й ніколі з тых,
што аддалі жыцьцё,
каб жыць магла Радзіма?

Ідучы за Яе у нямінучы бой,
як сьцяг, ахрышчаны крывёю, кожын
змагар іх памяць панясе з сабой...
І — пераможам!

1952 г.

## ВЫ ПАЙШЛІ ПАМІРАЦЬ

”Мы пайшлі паміраць, каб жыла
Беларусь”.
Гэтак звалася драма, якую прад сьветам
вы зайгралі тады (ападаў напару
лістапад і на вецьце, на рунь, і ў разоры).
Вы зайгралі ”на біс” бяз суфлёраў, бяз рад,
бяз куліс, бязь кінкетаў
– дзіўныя акторы.
Рэквізыт ваш быў просты:
рызман палявін
паабапал, пры ўзьлесьсі – гасьцінец
сацьмелы,
шчытна ўбіты ў шчыт ельніку месяца
клін,
золь на вейках, сівы, важкі подал шынэлі,
жменя куль, трохлінейкі рамень праз руку
і бандаж у крыві –
бел-чырвоны і белы.
Трыццаць ночаў і дзён вы гулялі... Адны...
І ніхто, аніхто вам ня біў у далоні,
хоць гучней раз у сто,
як званоў перазвон,
сэрцы нечыя білі вам там, панад лоняй
недатканых красён, перасталай дзяжой,
колкай голкай, што ў шво за сьлязіма
ня лучыць.
над калыскай
ставочнай паўночай ужо,
неспакойна вам білі, балюча...
Але ўпойны, салодкі быў смак перамог,
сьпеў крыві,
маладая узьлётная радасьць!
Дык і гралі вы зь верай, што ўрадзім,
што Бог...
ды крыжы, што гужамі над пражай дарог
прарасьлі,
што каханьне...
Гралі вы, ажно роем дапалі мяжы,
ўжо ня воі тады,
а трагічныя здані,
аж хапілі сьсінелыя вусны вады
з набрынялай шчарнелае
Лані...
Тут –
далі вам заслону, і вы перайшлі
Рубікон свой няслаўны, а гэткі славуты,
каб, як здаўна, зноў кону пытацца: ”калі”?
неабутыя,
шчасьце тачаць для абутых,
верадзіць вашай верай людзкія вульлі,

ў рукі хухаць, у пясьці... й маўчаць,
хоць баліць,

у замкнёныя стукацца дзьверы.
Мітусь год; стырты спраў
прытрусілі крыжы,
што над пражай дарог, папрысушвалі
раны...

Але чын "тых, што йшлі паміраць"
будзе жыць

аж ня кінуць хінуць між збажын,
на сьвітаньні

пакаленьні
калені ў крыві, у гразі,
прад табою, сьвятою, Айчына,
аж ты, Маці, гаркіх не сцалуеш сьлязін
зь вейкаў,
вуснаў
ды ранаў
змагальніка — сына.

1956

## ТЫ НЕ АДНА

Ты не адна,
о, Случчына,
ні першай
ты ня была у нас, ні на табе — канцы.
Нядолю й славу нашую ня прыцярушыць
стынь.

Ублытаны яны нат у чужыя вершы —
Монтэ Касына
і Катынь...

І, неаплаканых сьлязою жоўтай воску,
іх — слуцкіх ці наваградзкіх — ляжыць
ці мала ўжо ўздоўж бязьмежнае мяжы
зямлі, у нетры тайгавай, на ўскраі родных
вёскаў...

Крыжы бо ўсюдых
і крыжы...

Было ўсяго у нас: паходаў трубы, горны
баёў, распаленых дачырвана, мячы,
нязможныя пад Воршай, і мячы
Грунвальду... шлях да мораў торны...
І Каліноўскага
пачын...
Быў Сакавік...
Але...
і вал шчарнелых целаў
у палынох сівых над Ворсклай...

Амсьціслаў...
Вядроша... Быў вякі чужым папас,
паплаў...
І быў — ды й ёсьць — Усход, крывавы
і дадзелы,
што лёс на каркі
нам усклаў.
Хто нас не прадаваў, ня браўся йрваць
з карэньнем,
хто парасткаў зялёных не таптаў?
Ці ўвосень не па іх галосе Палата,
ўздыхае прадзед-Нёман, і старэнна
складае сказ народ...
Хай так...

Ды мы — жывыя ўсьцяж, нат тыя, што
памершы,
і заўтра ўжо мо зноў лынуць у бой байцы
жаўнерскай песьні губячы гасьцінцам
шумяльцы,
бо — не адна ты, Случчына, у нас.
Ні першай
ты ня была,
ні на табе й канцы.

1960

*ЛЕДЗЬ КРАСАВІК*

## ВЯСНА НА БРУКУ

Яе прынёс сюды нараніцы стары
ў калекім кошыку з далёкіх нейкіх ніваў,
паставіў пры муры, адкрыў... і закурыў
вясною шэры брук,
такой праўдзівай!

Па хвалі хваля біў людзкі прыплыў у мур,
яна-ж цьвіла сабе і жаўцінёй і беляй.
І навет гэткія, што на душы — сем скур,
зіркалі на яе саромліва й нясьмела.

А над мурамі ймкнуў гусіным клінам дзень,
пух белых балачын над вежамі разьвешваў...
Ўвіхаўся над вясной стары, як авадзень,
зы звонам кідаючы ў рук барозны рэшту.

І стаяла вясна у закутку сьцяны —
разьнёс яе натоўп драбкамі сонца й неба.
І пад нагамі шпаркімі ужо не камяні,
а угіналася, як хлеб мяккая, глеба.

## НА ПАЖАРЫШЧЫ

Хтось жыў тут учора ў чаканьні
няўцямнага заўтра,
а сяньня —
руіны на друз паклякалі,
павекаў ня ўзьнімуць у раньне.
Яно-ж усплыло ў пазалоце,
залоціць і места і далеч.
Карціць усьміхнуцца няцноце —
вясна-ж,
а тут смуткаў цімала?
У ранах апечаных плечы
шчарнелыя сьценаў...
ад болю
засмаглыя вусны калечыць
худая пад мурам таполя:
убіўся вагонь у галіны,
лісьцё маладое паскручваў...
Дымяць яшчэ попелы сіня
празь ямы вакон нявідучых.
А побач —
заходзіцца ў карчме
дурной, нецьвярозаю полькай
чыйсь голас
і з гойкам імчацца
паўз ходзішча хлопцы, укολькі.
Іх радасьць і гон нясутрымны,
імкнуць яны ўзапар у заўтра

Руіны-ж назаўтрае рынуць,
каб месца жывому апратаць.

## ВЯЗЬНІЦА

Над учадзелымі вуліцамі гоніць
вечар хмары йрванаю істужкай.
За вакном, дзе клён засьмяг палонны,
зноўку ўзяўся золкі вецер вецьцем гушкаць.
Зноў рыпяць калыскавай пачопкай
пастарэлыя ў маленсьцьве йшчэ галіны.
Ну й вясна!
Ня мёдам места кропіць,
а сьцюдзёнай восенскаю стыняй.
Стыгнуць рукі,..
стыгнуць і хаценьні...
Не адхукаць іх — замерзлых птушанятаў...
Узыходзяць на прыступкі ганкаў сьцені,
ў сені ўціснуцца на ночны сон маняцца.
Ды бароняць ім прытулку дзьверы, брамы,
супачыць ня хочуць радасьці ні гора —

права іншае кіруе імі й намі
у вастрозе, што завуць чамусьці — горад,
у вязьніцы, дзе кляны —
й яны ў палоне,
дзе ў натоўпе адзінотней, як у пушчы,
дзе і ўвесну — людзкіх сьлёз салоных,
ані веацья
ветру не загушкаць.

## РАДАСЬЦЬ

Разгалініўся дзень балачынамі,
у душы-ж —
як вішнёвы сад.
Вось, здаецца, за рогам адчыніцца
мне і тут веснавы далягляд,
мітусь белую ўзьніме над ходзішчам,
як на ўзьлесьсі чарэмхаў сьцяг,
з гудам звонкім пачнём валаводзіцца
зь імі —
пчолы
і сонца
і я.
І хоць воўчай тугой завыўнаю
галасіць ня сьціхаюць дні —
залатымі вясьнянымі ліўнямі
ў сэрцы радасьць зьвініць, зьвініць...
Лёгка, соладка дыхаць вогкаю
цяплінёю красавіка,
мескім пылам, шпаковым цоканьнем,
запыняцца,
глядзець,
чакаць
нейкіх словаў, якіх ня вымавіў
шчэ ніколі, ніхто, нідзе,
хоць шукаюць паэты стымулаў
да паэм
у вагні й вадзе!

## ЛІПКІ

На пляцы, на дне каменнай клеткі
пра вясну спрабуюць сьветчыць ліпкі.
Ды няўдольныя, зялёныя зь іх сьветкі:
сьвет сьмяецца,
а яны патрапяць толькі хліпаць.
Непатрэбныя нам іхныя баляды
аб вясьняных травах, красаваньні
раньніх яблын,
аб мяккой, спагаднай,

цёплай глебе...
руннях...
кукаваньні...
Тут-жа — змрок красуе аж да раньня
мітусьнёй зыркіх людзкіх рэклямаў.
А кукуюць бястурботна, згодна гэтта
ўсе —
гудкі,
натоўп густы,
мы самі.
Цямяць хутка гэту праўду й ліпкі:
ціхнуць, ціснуцца ў муры, дзе сьцені згусьлі...
Не жахаюцца й калі зьнячэўку, хрыпла
крык кацячы ўзрэжа ночы вусьціш...
Сьпяць...
а гэн —
шукаюць зоры броду,
у прадоньні тонуць, не знайшоўшы.
І зігціць, наўзьверх усплыўшы, зводны
месяц —
белы берасьцяны коўшык.

## ЛОЗЫ

Набрынялі мястовыя лозы,
заўтра возьмуцца зелянець,
над каменнымі плітамі крозіць
аб далечах, дзе вецер сіней,
дзе так соладка выпрастаць скруты
гнуткіх целаў і кос тугіх,
стрэсьці дні, што ў дымох атрутных
у бэтонныя б'юць берагі,
ўзяць і вызваліць зь іх праклёну
сьвет,
завесьці на сіні плёс,
стацца з намі аднэй зялёнай
сябрыною вясновых лоз,
загубіць нямінучасьць растаньняў,
збыцца вусьцішы сьветлай сустрэч,
упаліцца уцехай вясьнянай,
із гарэзьлівым ветрам дурэць...
А тады —
даць ахвярнае цела
на нясьцерпную сьмерць, пад нажы,
каб у ладанах Вербнай Нядзелі
серабранай вярбою аджыць.

## МАГНОЛІЯ

Цьвіце магнолія...
                              мільлёны матылёў,
бялейшыя за сьнег, трапечуць на галінах.
Замерла ў пешчах белых крыл гальлё,
салодкай млоснасьці на брук ня ськіне.
Ён чорны і брыдкі, як побач, зрэшты, ўсё,
ды б'юць, бы ў бубна дно, ў яго людзкія ногі
па годзе год...
                        Аплёў, аблытаў, як драсён,
той гуд ня толькі брук,
                                    але й хаценьні, змогу.
А ўсёткі, за сьнягі бялейшая, усьцяж,
ледзь красавік,
                        цьвіце магнолія пад мурам.
Зялезнай лёгікі адвечнага жыцьця
нішто, відаць, што людзкае — ня збурыць.
Ну, а па мне — усё, як ёсьць, і мае быць.
Маленства... вёсны... восені... магільнік...
Сяўба бяз жніваў... Жнівы без сяўбы...
Узвышшы ўсьцешныя... Туга, якой ня выліць —
Я дзякую табе за ўсіх,
                                    за ўсё, мой кон,
хоць мо й нязвыклы ты ціхой людзкой падзякі.
Пайду... ды ведай —
                              рэшту сініх дзён
маіх дап'ю я ўсё-ж із смакам!

## ЦЬВІЦІ, ВЯСНА

Заблытала вясна
у засеках антэн
крыльля пругкую снасьць —
ня вырвецца з палону.
І вось —
            ужо цьвіце
скрозь, жоўта, клёнаў сьцень
і першыя пралескі у далонях...

Люблю я сьвет красы,
але ня сьвет людзей,
дзе ў сусьцігі касіць
удачу ймкнуць пасполу
ўсе злыдні сьвету, дзе
і я — ўжо так ідзе —
палюю, хай няўдала, долю.
Адное зь імі й я,
і на карку маім
павісла няўпрыцям
людзкое прагі змора,

і мне ня збыць тугі,
у сінія лагі
ўгары
ня ўзьняць вачэй...
бо сорам.

Ды не глядзі, цьвіці
на ўсіх рагох, вясна,
у накведі, ў лісьці
ўрачыста і стасьвечна.
Дай чар людзкога дня
нам высмактаць да дна.
Мы зьнічкі жутлыя — і ўсё.
Ты-ж —
Вечнасьць.

## ВЕРА

Калі месяц вясьняны зазвоніць
серабраным сярпом аб загон
мескіх дахаў,
калі у далоні
сакавік ёмка возьме яго
і пачне жаць зімовыя схоны,
жалі ў бабкі густыя стаўляць —
зноўку верыць захочацца кону,
хоць нам зводу ў яго ня купляць.

Будзе гэтая вера, як іскра,
што пад прыскам, пад шызым, жыве,
што Далёкую робіць нам блізкай,
што надзеі ўзьнімае наўзьвей,
наўзьвей-вецер гарэзны, імклівы,
вецер, сьцерці-б ім сьцерплыя дні,
разгайдаць няўзрунелыя нівы,
бубны выбітых шыб разбубніць.
І ўскрасіць,
хоць у крозах,
акрайчык
на застольлі у родным куце,
дзе збылі-б мы, у пыл паклякаўшы,
ўрэшце боль свой нясьцерпны —
хацець!

Сакавік — Красавік 1954

*АДЖЫТАЕ*

*Марыльчын год*

## ВЯСНА

*— Ой, вясна красна,*
*што ты нам прынясла...*

Беларуская народная песьня

Ячменным асьцюком у вочы коле дзень.
(Ці-ж дзіва?
Ад Пакроў — няспорны морак хаты).
Дзень гэткі залаты і ў сонцы, і ў вадзе,
і ў радасьці, сьцярожаю прыцятай:
здаецца, за парог —
і апячэ вагнём
карэлы, шэры сьвет, прытрэсены саломай.
Ды — вецер веснавы качаецца кульнём
па вулцы, й нечы сьмех сам сыплецца ў далоні.

Часіна — й навакол вясёлы, босы гурт...
Мчаць трэскі-чаўнакі ізь пенай ручаінай
туды, дзе вербы берагам кудысь бягуць
із крыгамі ў нячэсаных чупрынах...

І гэткай зырчынёй расьцьвечаны й яны,
і стрэхі й вераб'і й дзятвы крыклівай зграя,
што, ня стрываўшы шчаснасьці вясны,
да хаты, плачучы, ідзе малая...

## ЛЕТА

*— Ой, жала-ж я да вечара,*
*Баліць мая сярэдзінка...*

Беларуская жніўная песьня

Маўляў той жытні сноп, уціснула сьпякота
пярэвяслам тугім расьцяглы далягляд...
Кусае лыткі тонкія асот ласкотны:
і ў жменьку дробную уторкнуў серп Ільля.

Няспорна праца йдзе... Ірдзяняцца крывяна
малыя пальцы, твар, сярэдзіна смыліць,
і уваччу плывуць, куляючыся п'яна
у плаўкой гарачыні, пяшчаныя палі.

Да полудня — гады, а пахне луста хлеба
і квас у гладышы салодка ўжо цяпер.
І мроіцца лука — рака ў зялёным зрэб'і
карузлых вербалоз і водарны аер...

Гарыць агнём лязо сярпа ў радкой саломе.
Кладуцца за плячмі снапы... снапы... снапы...
Пярэвяслам тугім уціснуўшы, палоніць
сьпякота далягляд замлелы і сьляпы...

## ВОСЕНЬ

*– Туман, туман па даліне...*

Беларуская народная песьня

Плыве пластамі дым... То ўпіліцца галін
падголеных асін у чорнай грудзе гнёздаў,
сініць аўсяньня клін, дзе лежацца ляны,
аблытвае сьцяблы... То поўзае ў баразнах...

Пад кудрай на ральлі зыркі трашчыць агонь.
Ды рады ці-ж дасі падпаскам-падшывальцам?
Наклалі бульбы й ім, малым – "куды, чаго?"
Самы-ж – дык горнуць, дзьмухаючы ў пальцы.

Гарчыць, як чэмер, дым... Ня згледзець за сьлязьмі,
што ў попеле суцьмы руды асіньнік тоне,
што й сонца прысак згас...
Зьнянацку: "На, вазьмі!"
І бульбіна – вялізная – ў далоні.

І ўзноўку ўцеха... сьмех... А рэха ўсё нясе
усьлед у туманы, ў сацьмелыя далечы,
скуль руняю, ступою, па расе
нячутна крочыць верасьнёвы вечар.

## ЗІМА

*– Вароты скрыпяць,*
*марозы чуваць...*

Беларуская народная песьня

Расплецены снапы...
Праз шчыліны ў шчыце
крамнёваю стралой у ток цаляе сонца.
Мяцеліцай над ім мякінны пыл мяце,
із цоканьнем цапы салому тнуць і комчаць...

Так хочацца туды! Хусьціньне цішыні
вісіць над галавой дзяцінай нізка, нізка.
Адно ўвесь дзень: вакно, скуль тне паціху стынь
і згорклая, гаворкая калыска.

Прахухала было, узьлезшы на услон,
у папарці зыркой прамерзлых шыб палонку.
Зайгралі сонца, сьнег, застыглы ў срэбры клён...
Ды ўсьлед занёс мароз усё лістоўем звонкім...

Ніжэй, ніжэй, ніжэй хінецца на брыжы
рукаўцаў твар...
І ўжо – яна ня тут, а дзесьці...
Зноў звончаць ручаі... Аджытае-ж ляжыць
пярэвяслам расплеценым ля весьніц.

## *БРАМЫ*

*Апоўначы манах пастукаў тройчы*
*у браму ціхую й съвятую...*

М. Сяднёў

### НЯЁМКА МНЕ

Я –
брамаў ня люблю,
ціхіх, ні гаманкіх,
хіба якая зь іх –
наросьцеж,
проста ў сонца.
Знайшла я ключ у ўсьпень,
прасьцяг, надкі такі.
Ня дам, аж будзе дзён
ліпець адно на донцы.

У брамах – стынь, сутонь.
Пад брамамі – калек
рызьзё, нудзьга ды ныдзь.
За брамамі – спачынак.
Мне-ж,
каб ня згас агонь,
і собіла-ж на лек
нягойны і дзіўны:
лічыць далеч бачыны.

І вось, лічу...
Вятры, ўсе сінія вятры
расою уваччу
зы мной зігцяць увесны.
А ў лістапад –
зірнуць, як я ды сьвет гарым,
асіньнікі брыдуць,
дзе ад красы аж цесна.
Зрынаюць дні кунег,
дні працы
у ваду.
Ужо ня ўзьняць,
адно
душу кругамі плямяць.
Няёмка толькі мне,
што не дайду
я ўсё ніяк да ціхай брамы.

## НАРАДЗІНЫ ПАЭТЫ

За поўнач. У брамах-пячорах
змор чорныя рукі прасьцяг.
Расьцягвае белы сьцяг
напорна
над брукамі месяц.
Кацячы пяе трубадур.
Ды сэрца майго ня прыгорне,
адно-ж у мяне...
Іду
і вершы чытаю старожым,
пахмурым муром,
бо й каму?
Жывыя п'юць сноў каламуць,
няпратаны комчачы ложак.
Ізноўку ў руках медзякі,
на вуснах — няшчырыя божбы...
Мне й вершам —
іх смак загаркі.
Ня любяць і нас. Нат прыязьні
баёмся мы горш, як агня.
І добра...
Ня трэба мяняць
душу на каменьне, ні гразнуць
па вушы ў нясьцішнай чмуце...
Іду...
а над горадам-вязьнем
ноч цёмныя сьцені мяце.
Ўраз
белых пялёсткаў палова
зьнячэўку упесьціла твар:
гарыць сямірукі ліхтар
каштану над брамай,
скуль словы
і сьвётлы
кладуцца наўскос.
Сьмяюся...
Паэта новы
вось-вось тут на сьвет прарос.

## АЛЬФА Й АМЭГА

Дзьве прыступкі...
Брамы чорнай шулы...
На прыступцы —
пупышка цьвіце ружовая —
дзіця.

Жменькай згортае з парогу
бруд, касулі...

Ды благія нешта зь мескай брамай гулі,
часіна —
і сьлёзаў шчырых ня прыцяць:
белы пальчык, парастачак чулы,
ушчаміла, злая, няўпрыцям.

А ля брамы, ўмурзанай, як дзёгаць,
бома* сьцень кудлаты на сьцяне
абкідае сонца неахайным сьцегам.
Пляшка...
Твар — скурат...
У зморшчынах — кунега...
Весьні цьвет у сьнёным гэтта сьне...

Зьзянь і сьцень.
Там — альфа,
тут — амэга,
Няўцямнага пачатак
і канец.

## САМОТНЫЯ

Галіны, у цьвеце галіны,
запесьцяць вас весьнія ветры,
ўсё люляюць,
туляць да брам...
Ваш дотык пачуўшы,
ізь нетры,
з брам стыні
выходзяць сьцені.
Надзея на тварах сьцертых.
— У імя Айца і Сына,
мо хтосьці прыпомніў? —
каленам
і сэрцам аж млосна...
— Хто там?
Скрозь моўкнасьць.
Нікога.
Дый дзе-б там?
Нізкія парогі, каб госьці...
А ключ —
непатрэбны —
ў руках...
А ногі марудзяць чагосьці...
А вушы ўшываюцца ў цішу...
Ня кратайце-ж брамаў,

---

** "Бом" — постаць зь ньюёркаўскага дна. Нявылечны бадзяга-алькаголік.*

ня ўзносьце
далоняў, галіны у срэбры:
за брамамі крыўды калышуць
самотныя,
з вамі ня ў тахт.

## ЦІХАЯ, СЬВЯТАЯ...

Ёсьць тут адна такая — мосяж,
шчарнелы дуб
і словаў вязь.
У лоз узьвівы заплялося:
"Твары, будуй,
ня дай душы завяць".

За брамай — сьпяць у пераплётах
вякі зьбіраныя — сягай! —
усе нізрыненьні,
узьлёты,
гарчынь,
сумота —
людзкая ўся туга.

І перад ёю із пакорай
стаіш... нішто,
адна з пылін...
Сплываюць з сэрца нагаворы,
злых плётаў шопт,
няпамяць,
што баліць...

Выходзіш крозны, сьветлы — ў места.
Задуха, крык
і гул густы...
Ідзеш і доўга ў думках песьціш:
"Будуй, твары,
ня дай душы астыць".

## ПРОШЧА

Выходжу й гукаю,
гляджу, выглядаю — нямашка...
У ходзішча шчырбах каштанавы тае сьнег.
Праз дошкі кастрывыя
крыва ўсьміхаюцца крамы.
(На яве ўсё гэта? У сьне?)
Чыйсь крок невясёлы і важкі.
— Дзе Войстрая Брама?
— Нямашка.

Імкну, як няўверны Тамаш,
свае пальцы пакласьці у раны.
Паўз мулкасьць завулкаў,
праз строму... Прачуўся? Зманіў?
Вось.
Вочы ня хочуць — "няма!"
Забралі, раструшчылі Прошчу.
Зьнік коньнік на сьміглым кані.
Тулюся да плітаў стаптаных.
Малюся у мітусь, у пошчак
за дні на выгнаньні...
За Прошчу...
За раны...

За заўтра ня сьмею,
ня ўмею так прагна, так пільна.
Зярнём урастаю ў каменьне —
каменьне гудзе.
Дзесь
звончаць мячы, капытамі комчаць хвойнікі коні,
йдзе сонца мячом насустрэчу... і дзень.
На веча!
Стаконна,
стамечна,
стамільна
йрве
зь ветрам
Пагоня
у
Вільню.

Травень — чырвень, 1955

## *ПРЫВІДЫ*

*Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет,*
*Ад родных ніў я адвярнуўся...*
*Адно... ня збыў яшчэ ўсіх бед:*
*Мне сьняцца сны аб Беларусі!*

Я. Купала

### ЗАМІЖ ПРАДМОВЫ

Зьляцелі ў вырай мы, у новую айчыну
(мне-ж "бацькаўшчынай цэлы сьвет!").
Хто й гнёзд ужо навіў, а ўсё — ня збыць пачыну:
сусьвет прынад для нас усьцяж — мяжа ў траве
й паснулая над ёй бабулька-йгрушка,
якой маленства наша давялося гушкаць.

І запраўды: імкнём, маўляў, кудысьці,
маем
зялёным, сёмушным нат рэдчас маім дні,
а гэта-ж Бацькаўшчыну мы адно шукаем
у зьмерклай далечы, ў расьцьвілай блізіні...
І ловім водар ніў у цьвілі мескай нетры,
шум баравых сасон у кажным цёплым ветры...

Дзівосы сьвету мы адно да іх умільна
раўнуем, сочачы із прагай цьмень:
— Зусім, як і у нас!
Вось так было і ў Вільні!
Вось гэткі-ж клён калісь і ў Менску мне шумеў,
ледзь, ледзь драўляныя вакеньніцы-павекі
расплюшчаць вокны ў сьвет,
дзе — межы і засекі...

## ВЕЖА

Бярозай белай вежа
над крыжам рвецца ўгору,
ў прастор, дзе сінь — насьцежай.
Ня ўвеціць — адарвецца
увомірг ад каменных
муроў, хай толькі вецер...
І хіляцца калены...
Не перад ёй, ня гэтай —
прад гэткаю-ж, за сьветам
падзетай... недзе ўчора...

## ЗАВУЛАК

Сьцень — ад сьценаў да сьценаў...
Скуль тут гэткі завулак?
Крок б'е ў бубен, а рэха ня ўпросіць.
Боль пакорпаў цагляны
мур, у шчырбах ён, ранах...
І — ужо успамінаў ня зьдзену:
рэха, гэткае-ж рэха старэчае чула
я, малая, із коскай
радзенькаю,
мулкай,
прабягаючы вулкаю
Росай.

## ДАМОК

Дамок дзераўляны... Пад гонтай...
А побач, як бор, небасягі
каменнымі пнуцца камлямі.
Устала-б зь зямлі Пакагонта –
ізноў-бы сканала ад смагі
па тым, што і сны ўжо ня пляміць...
Дамкі... Небасягі – адно ёй,
зязюлі зь зялёных гушчараў...
А мне –
зноў няма мне спакою:
я знала калісь на Панарах
дамок гэткі,
з гэткай страхою...

## САД

Бяжыць, як жэўжык, сьцежка
ў кунежную зялёнасьць,
хай недзе побач места
й расьце, як цеста ў дзежцы...
На клёне,
на агрэстах –
стазвонны рой пчаліны...
Сады гадоў дзіцячых,
навечна, без аддачы,
чаму ваш чар загінуў?

## УВЕСНУ

Расьцягнула сонца кужаль залацісты
паміж струнамі антэнаў пруткіх.
Быццам кросны ў хаце ў Чэцьвер Чысты,
зігацяць яны і ўтокам і асновай,
то зьвіняць цымбаламі, то дудкай,
маё сэрца, як чаўнок вясёлы, ловяць...
І так хочацца йшчэ раз, хоць раз, іскрысты
сіні лён сукаць
і славіць сьпеўным словам
пах зямлі, бярозавага лісту,
зыркасьць радасьці няўгойнае,
вясновай!

## ГОТЫК

Готык непераможаны!
Готык імклівы, вечны!
Келіх лялеі божае!
Наквець грамнічнай сьвечкі!
Выраслы з твані шэрае
грэшных Садомы й Гаморы
веры прамень над няверао,
гвалтам,
пагардай,
пакорай!
Стрэла цябе я, аздобнае
дзіва — й адкрылася рана:
сёстры вы,
сёстры вы родныя
з краскай
зыркой —
Сьвятой
Ганнай!

## УЗЬБЯРЭЖЖА

Срэбным пылам стыгне узьбярэжжа
пад нагамі мора сіняга, ціхога...
сяньня — сьцяла яго цяжкая зьнямога,
заўтра — сьkіне стому,
разьюрыцца,
ніцы
пас пяскоў затчэ мярэжай
белай пены,
будзе плакаць, кідацца, сварыцца,
зломы
скалаў біць — перш гнеўна, потым — лена,
ажно, зможаным асілкам-воем,
ніцма рынецца й замрэ, як няжывое...
...........................................
Сінь рахманая... Зялёнае бязьмежжа...
Срэбны пыл пяскоў...
Мо гэта чары?
Дзесь шасьціць чарот, мой слых кунежыць...
Мне здаецца... гэта-ж Нарач,
Нарач!

## А МНЕ СЬНІЦЦА

Шчоглы гонныя звоняць рыпліва на ветры,
б'юць сьцягоў палатніны паветра.
Нат каменьне — і тое, здаецца, трапеча.
навальніцаю колераў, бураю зьзяньняў —

выйшла пышна на веча
шэра-бурая нетра –
места
сяньня.
Рвуць мядзяныя трубы гудам сэрцы і вушы,
ловяць пошчак, падкідваюць, глушаць...
Слуцкім пасам бяжыць, зігаціцца дарога,
боты б'юць па ёй дактылі, б'юць анапэсты,
крэсяць рыфмы да змогі...
А мне сьніцца...
"Мы выйдзем" – граюць трубы, дзьмуць рогі...
Сакавік...
Менск...
Высокае Места...

Студзень 1956

## *УЗНОЎ*

*...Зварачаецца вецер на кругі свае ...*

## ЖАЎЦЕЕ ЛІСТ

З гарачынёю, нічым нязьменнаю,
бачу ўзноўку –
жаўцее ліст,
і з падковы нябёснай
жменяю,
зораў сыплюцца гуфналі.
Я спрабую рукой разжаленай
запыніць яе, восень:
"не"!
Ды жаўцей адно пеніць вяршаліны
ветру восенскага кіпень.
У вузлы павязаўшы цяглiцы,
з пальцаў рук настаўляю тын –
ды й праз шчыліны ніткай цягнецца
павучынаю
сум густы.
Б'ю у жоўтыя грудзі пясьцяю,
аж дзіўлюся сабе сама –
ды адно серабрана засьціцца
сьвет –
асеньні ўстае туман.
І рука
лістам жоўтым
падае...
Кіслай рошчынай пахне трава...
Восень, тайка мая непарадная,
што-ж
давайма узноў сябраваць!

## ВОСЕНІ

Даруй, што цябе ня бачу,
калі у вясьне па грудзі,
лугамі брыду наўдачу:
узноў ты маёю будзеш.
На жарты-ж і сіня сяньня,
і ветраў зялёных зграя.
Міне ўсё — й далоняй шклянай
на шыбах ты ўзноў заграеш.

* *
*

Хто-ж мне, як ня ты, разгарнула
зрудзелы папірус узьлесьсяў,
дзе густа, як нітка на шпулю,
лягла лісту жоўтага песьня?
Табою я толькі па сьвеце
сваю абнашу, залатую,
хай стрэчны настырлівы вецер
злым жартам зы мною жартуе.

* *
*

Есьць дзіваў так шмат на сьвеце,
дзіўнейшых за ўсе дзівосы...
Мне-ж
дзівам найбольшым —
вецьце,
якое залоціць восень,
далоні чырвоных клёнаў
жывыя, людзкія быццам,
асеньніх асін калёны,
якім я магла-б маліцца.

* *
*

Дык як тут ня жыць мне табою,
ледзь верасень
жоўтай журбою
на мескія ссыплецца брукі?
Я-ж толькі лісток прыжаўцелы,
табе
бяз крыві і бязь цела,
вятрамі укінены ў рукі.

## ГЭТАК БУДЗЕШ ТЫ МНОЙ

Парасьлі, быццам хутрам рудым, узьбярэжжы:
хмызьнякі ды лазоўе,
і ўсё залатое...
Восень, восень, калі-ж
напалам перарэжам

мы з табой і ўцеху, і смутак упойны?
Гэтак будзеш ты мной,
з маёй смагай і жалем,
я-ж табою,
зыркою і перапялёстай.
Будуць людзі гукаць цябе проста
"Наталяй",
а мяне клікаць "Восеняй",
гэтак-жа проста.
Ты пачуеш, як моцна цьвікі убіваюць
варагі і свае мне у цёплае цела,
я-ж пазнаю,
як душыць імжака сівая
ліст па лісьце на клёнах,
як ніцма іх сьцеле.
І пачну я
табой
паміраць на галінах
звонка, шчыра, і жоўта, і зырка-чырвона,
а ты —
мной угарышся у вершах і чынах,
я — рудым пусталістам,
а ты — пустазвонам.
А мо, сэрцам зьмяняўшыся,
буду я: "восень,
што за ўсе залацей",
ты-ж — найбольшым паэтам.
Пахінуся табе недажатым калосьсем,
ты — заплачаш мне песьняй,
пачатай ня гэтта...

## ІЛЬВЫ

Дзень,
залаты, як мёд пчаліны.
Яму-б —
васковая вуза
палёў асеньніх, дзераза
дарог і вогнішчы асінаў,
а ня муры,
граніт сівы,
што сочаць ночна і надзенна
два львы на цокалях каменных,
ізь німбам грыў ля галавы.
Ім прыкра... горка... Лапай шэрай
сьляпыя вочы не накрыць,
ня рынуць глыбаю згары
на мора каркаў,
каб стамерна
сплаціць бяздумнай грамадзе,
што пнецца,

топчацца па пятах
— вось-вось сьляпыя кацяняты —
за ўсё —
за гон, за гуд, за дзень...
Мінаюць вёсны... Сушыць сьпека
бэтонны горад, ажно дно
відаць... Ураз кульгае зноў
аднекуль восень злым калекам...
Ледзь сьвет канчае асянець —
зіма,
і ў камяныя шыі
вянкі ўгрызаюцца важкія,
як зь церняў, ведамы, вянец...
Ільвы-ж —
на варце: мур за імі —
вулей, дзе людзкіх думак мёд
зьбірае сьвет па годзе год,
аж сам ізь імі не загіне.
Няхай! Каменьню — што па ім?
Парой,
як рупны бацька сына,
злупцуе дождж рудыя сьпіны,
пакінуць галубы ўспамін,
парой
нялетняя дурніца
падыйдзе, з кніжкай пад руку,
і ў пысу пусьціць дыму скрут
цару зьвяроў... І трэ карыцца...
Парой...
Ды ўсё-ж,бывае й ноч.
Не, не такая, як на сьвеце,
зь мігценьнем зор, ізь цёмным вецьцем,
ізь цішай...
але ўсё-ткі ноч.
Ільвы адны... Сьцяж камяніцаў,
як рэбры скал... Зубоў ашчыр
шырэй... дзічэй... У цемры — жыр,
мчыць лёгкі статак навальніцай!
І прорвы ляпаў ловяць дых
зямлі сухое і гарачай,
сьціскае цяглівы удача,
яны ня ў месьце —
ля вады!
Адлі сьцюдзёны камень грываў
у пальцах ветру не шасьціць,
ня пахне тропамі ў трысьці,
трапёткай, цёплаю спажывай.
Няма
ні лётных антылёп,
ні скал, апырсканых крывёю.
Над мескай пожняю сівою
цягае восень сонца сноп...

## НЯ ПЕРШЫЯ

Зноў восень...
Свая ўжо...
Зноў журам загуслым
сівее вада, абляпіўшы прычалы...
Узноў, як ні трэш, праступаюць на хустцы
ўспамінаў
часіны, зь якіх пачыналі.
Ня першых
сюды нас кон зь ветрам прыгушкаў,
выгнаньнікаў з торбаю, сэрцам і кіем,
з прыдушанай мовай,
адзінай, што душы
адныя адным адчыняе.
Такія,
ня першыя,
мы запынілі пагоню
натоўпу чужога за ўдачай і хлебам,
у ходзішча ўросшы,
з душой пад адхонам,
зьляканай усьмешкай...
Ня першыя, дзе там!
Паўвеку таму, над густою вадою,
стаялі, як мы тут,
дзядзькі спад Налібак,
дзяўчаты знад Шчары грамадкай рудою
й дзівіліся шчыра нязнаным сялібам.
Расьлі аж у неба камлі небасягаў,
на пядзю ніжэйшых, мо праўда, як сяньня,
ды ўсё-ж недасяжных вачом і развагам
іх, гэткіх звычайных, жытнёвых, аўсяных,
што ўчора
нагбом, набрынялаю жменяй,
асот і куколь з каласамі зразалі,
рыпліваю сошкай гарнулі каменьне
і роднаю песьняй разгойдвалі далеч.
Трымцелі калені ад тыдняў пакуты
на хвалях,
няхоцькі сьлязіліся вочы.
Стаялі й сачылі,
як кагаркі скрутам
кідаюцца ў морак,
крыльлё у ім мочаць.
Шарэлі карэлыя, ўбогія клункі
пад першым сутоньнем у новай айчыне,
і горкаю кагаркай плакалі думкі
па згубленай,
гэнай,
што з сэрцаў ня ськінеш...
А сяньня зноў — мы...

А назаўтрае — мерка
яшчэ... і яшчэ (хто-ж бадзягаў запыніць?)...
Аж хтосьці, калісьці,
апошні ўжо,
зьмеркам
прыйльгне да сьляпога,
апошняга тыну.

## АДВІТАНЬНЕ

Вось і яшчэ адну восень
я адвітала, у цішы,
сэрцам і целам з каменьня.
Тутка па ёй не галосіць
ані прадоньне, ні ўзвышшы,
ані судзьдзя наш найвышшы —
наша дзіўное сумленьне.
Тут
залатую хаваюць
моўчкі, ледзь першы жаўтавы
ліст залунае над мурам,
зычаць нябожчыцы раю,
хрыплагалосна гугнавяць,
сьвечкі таненькіч ставяць,
місы з сытою ды журам...
Плач, ці ня плач —
не паможаш,
клёнаў назад не адзенеш,
дзён залатых ня ссукаеш,
сіверу не адварожыш,
сэрцаў людзкіх не адменіш,
як ні выцягваеш жмені —
праўда ўжо скрозь такая.
Зраніш адно, навярэдзіш
пальцы, і пясьці, і рукі
у неразумным змаганьні.
Вось я
шнур пацерак зь медзі
з карку й зьняла бяз прынукі:
хай нас асеньняй дакукай
не харашаць
і ня раняць.

## АХВЯРЫ

Канала
пад нудным сьнегам
ліхтарні намоклай, млоснай,
яна, залатая кунега
йшчэ ўчора,

канала восень,
цягнула бязьлістыя рукі
у сьцень, размываны імглою,
шукала лістоў, адхукаць
каб матчынаю тугою.
Але адляцелі дзеці,
ляглі, дзе засьпела доля:
на ходзішчы,
ў шэрай шчэці
ламанага ветрам гольля,
пайрваныя на рызманьне,
расьпятыя на каменьні,
а ўсё — для пустога зману,
асеньняга зьзяньня жмені.
Мы гэтак іх судзім, людзі,
лісты-ж... нат пад нашым ботам
мо радасьць нялюдзкую студзяць
адзінага ў неба ўзьлёту.

## МНЕ РУПІЦЬ

Я выходжу нараньні на места
з ношкай, сіняй такой, за плячыма
(гэта сны,недасьнёныя сяньня).
Напярэймы бягуць мне завулкі,
сьпехам гасячы ночныя сьвётлы,
і ўстае над засьмечаным брукам
зігатлівая, тут навет, восень.
Мне чутно, як пад таннай апраткай
сэрца стукае,
бачу, як рукі —
вёслы горнуць сівое паветра,
чую крокі важкія, хай сьледу
на вільготным пяску не дагледжу.
Што-ж,
няхай прамінае бясьсьледна
йшчэ адна,
зноўку жоўтая, восень.
Я-ж іду ля тых самых будынін,
я-ж тапчу тыя самыя пліты
камянёў,цаглінны ды асфальту,
што й заўжды —
і ў дажын, і увесну...
А што клён залатых завушнічак
начапляў,
ды што звоняць а звоняць —
дык натое-ж і восень... Мне рупіць
ці яшчэ адна, гэткая, будзе
для мяне,
для жывое —
жывая.

## ГЭТА-Ж ВОСЕНЬ

Восень
адыходзіць з нашых вуліц
просім
пакідае нашы справы
сьціхлі
недажоўклых ліпаў гульні
іхных рук-галінаў шум рудавы
дзіўна
а чаму ўсё залатое
ліўні
зор уночы парк разьдзеты
неба
перад вечарам і тое...
трэба
гэта-ж восень
восень гэта

## ЗОРКА

Сутань
хустку ўськінула на места.
Хустка вогкая,
намоклае й каменьне:
ўдзень паплаквалі, пацягваючы, хмары,
да муроў прыпаўшы цяжкімі грудзіма.
На зьмярканьні
сьціхлі ўсё-ж, пусьцілі
пакрысе іх восенскія жалі.
На бруку распластаваюць рукі,
учарнелыя ад старасьці ды стыні.
Вочы лужынаў
заплюшчаны нашчыльна,
адчыніць —
адчыняць хіба сонцу.
Ды ўзьняла адна ўгару
зьнянацку вейкі,
у прадонь зірнула...
і ўляцела
ёй у вока срэбная пылінка,
сіні
зоркі нейкае
аськепак.
Гэткі сіні,
гэткі найсінейшы,
ажно брук навокал — стаўся небам,
і ўзяліся дугі чыркаць ногі,
каб не растаптаць драбочак сіні,
хай драбніцаю для іх
стаптаць, скамечыць
і канаць пакінуць
цела брата.

## ГОСЬЦЯ

Зноў восень, зноўку ты з намі
ўсюды —
ў садох... на сумленьні...
ходзіш прыціхлымі днямі,
ў жоўтым лісьці па калені,
сочыш,
ці гнёзды пустыя
ў дрэвах разьдзетых, ці вырай
кліністы
восенскай стыняй
крылаў ня зраніў прысталых,
яблык шукаеш у гольлі,
важыш у жмені гарэхі,
прымаразь срэбную поліш
золкам на сьцежках,
на стрэхах,
лёд першы ў прыгаршчах крышыш,
гэткі званкі а ламлівы,
грэеш далоні ў вагнішчах
незагасільных галінаў...
Зорацца з жалем старыя
ў зьзянь залатых узьлесьсяў:
восень ім,
час, што ў вырай,
іх лебядзіная песьня.
Сэрца ня мае да госьці
й моладзь — зялёныя сосны —
што каму рупіць восень,
скрозь, калі ў сэрцах вёсны?
Мала баліць пазалота
дзён верасьнёвых
і рэшце:
сьвету-ж
абы ўмалотна,
тлуста, бяздумна і ўсьцешна.
Дык ня чутно мо й паэту,
як б'е ў званы пад шнуроўкай
восені сэрца
ў тахт сьвету
й нашым
узноў а узноўку?

1962-1963

## ЧАС – НЯ ЧАС

Сіня. Сонца. Падсохлыя брукі.
Бяспрычынныя стрэчных усьмешкі.
Радасьць
рупіць раськінуць рукі,
дзесь за сьветы падацца пешкі.
Цешаць
першыя пырскі зыркія
весьніх крокусаў, пупышкі веццятя,
галубоў шчыры юр,
і такія
думкі
хоць іх
рассып ты па сьвеце!
Дзе ні глянеш –
вясна,
ды якая!
Ня сусупіш –
папхне, перакіне!
Марны сквэрык – раськінуўся гаем,
неба латка – бязьмежжам сінім!
Песьцяць сэрца й худыя вазоны
й брукі ў белі паперкавай лускі,
і ўсё чыста –
бо вецер з Гудзону
сяньня нейкі зусім беларускі!
Больш ня хочацца быць
пэсымістым,
што ўсю людзкую зьведаў аблуду...
Асыпацца асеньнім лістам
час – ня час,
а яшчэ-ж
ня буду!

## *ТЭМА ВЯСНА*

*Вясна, вясна жаданая*
Я. Колас

## ВЫРАІ

А вясны –
ўсё няма і няма.
Увушшу звоняць белыя пчолы,
быццам
ім
сакавік пераймаць,
а ня лозам
у мокрых пастолах:

У мурох, праўда, дзе і жаўцець
гэткім,
зьлітым вясновым гудам?
Мне тут
неба шматок найчасьцей
на ўсе жалі бывае астудай.
Ды мінуў сакавік безь яго,
адкаціўся яечкам чырвоным
дзень вялікі...
Хвальшывіць фагот
ветру
зноўку на прываконьні.
Стогне сівер,
не-не, а пагляд
скасавурыць усё-ткі ў далечы...
Ці ня вырай мінуў далягляд
мчыць,
узьняўшы вясну на плечы?
Мкні-ж суладна,
уськіды крыл
ашчаджай,
першы госьць пярэсты:
ў сэрцы ўбіўся,
як боль,
сьнежны пыл,
не разьбі-ж нам
вясну
над местам!

## ГМАХ ІМПЭРЫІ

Жмені поўныя наквеці у каштанаў,
яе поўна ўваччу людзей.
І ўсе
гэтак вясёла бягуць,
ня прыстануць,
ці шчасьлівы тут хто, ці не.
Ён стаіць...
Срэбны. Велічны. І дзівосны.
Найдзіўнейшы мо ў сьвеце узьлёт.
Дзесьці доле гудуць,
як у непагадзь сосны,
плошчы,
брукі,
натоўп.
Мкне нястрымна натоўп,
хай заплюшчацца вежы,
хай аглухнуць на золку пляцы.
Ён стаіць, склаўшы крылы,
і дзесь на ўзьбярэжжы
сочыць першы прамень залаты...

Упіліся ў далеч, ледзь бачную,
вочы:
месты й месты... сівы акіян...
Што яму
да натоўпаў,
да ўсьмешак дзявочых?
Далячынь
ці-ж на іх памяняць?
Хай калечаць гарбы ношкай
важкай мурашкі,
хай аблытваюць, вобмацкам, сьвет,
хай рыпяць грудзі места
хрыпліва і цяжка —
болем іх
не яму-ж утравець!
Найбуйнейшыя сьлёзы людзкія
ня варты
найдрабнейшых у продані зор!
Із зямлёй
ён
наважыў пайрваць не на жарты,
ён у сіню ўзьляцець
даў зарок!
Ды закутае ў сталь і у камень
карэньне
моцнай воляй натоўпу ўнізе.
І гарыць дзіда срэбная гневам,
і пеніць
хмараў весьніх нястрэсены сьнег.

## НА ЎЗЬМЕЖКУ

Дзень сяньня ўскок мінае дзень:
набок! З дарогі!
— Тыдні ймчацца...
Зноў клён рукой крануў мяне
ў зялёнай, веснавой пальчатцы.
І я пабачыла —
вясна
не ў спадзяваньні ўжо,
ня дзесьці,
а веснавую цягне снасьць
асфальтам мескім, як узьлесьсем!
Што-ж,
навіны у ёй нямаш,
як і заўсёды: сонца, краскі...
Мой ці малы вясновы стаж
ня кажа мне у ладкі пляскаць.
Калісь —
я-ж пляскала, ды як!
Зь вясною блытаючы шчасьце.

Цяпер — між ёй і мной стаяць
завалы спраў,
што радасьць засьцяць...
Мяне цягнула да людзей,
маўляў на мёд,
ад год дзіцячых,
хай рэдка хто
за сэрца сэрцам мне адплачваў.
Што шчырасьць можа й на зямлі
рунець,
ніхто бадай ня верыў.
Ды я спазнала ўжо:
баліць
нявера,
як нязгойны верад.
Быў дзідай гойстрай мне
і звод:
ці хто прынаду клаў у пасткі,
ці гарадзіў з прынад гарод,
бы ўсьлед
пайрваць спадзеў на часткі.
Калі выцягваў хто далонь
па хлеба скрыль,
згасіўшы вочы,
і даставаў камень —
гняло
мяне і ўдзень ім, і уночы.
Бо найбалючай працінаў
мне цела боль ня свой,
а нечы:
сваё —
сьцярплю,
цаной — цана,
а той,
чужы — зьгінаў мне плечы.
Пякла, як прысак, доля тых,
што ўжо зыйшлі з дарогі дзецям,
чый лёс адно —
уцеха злых,
спагаднасьць лепшых,
безнадзейнасьць...
І вось
ля іх ужо і я,
ды падаўнейшаму —
дурніца.
Наверадзіла, як жняя,
і стан, і рукі,
але сьніцца
яшчэ мне ўсьцяж,
што можа сьвет
і гэткі, як сьпяваюць жнеі,
што мо адно прыўзьняць павек

крыльлё,
як трэба,
я ня ўмею.
А навучуся, а ўзьніму,
расплюшчу вочы —
і ўзгарыцца
ён так,
што крыўдаў чорны скрут,
нат роспач —
парай стаюць ніцай!
Галоўку скрывіць верабей,
і — "цьвірк", і — сьхік,
аж хто ня спудзіць
І зноў пачну, маўляў сябе,
любіць людзей,
таму што людзі,
таму, што ў сьвеце чалавек,
адзін з усёй зямной малечы,
ў багі
узьняць патрапіць зьдзек,
і зьдзек
навечнае зьнявечыць!

## СОН

Папырскаў крышку дождж,
ляны, вясновы, цёплы,
яшчэ й цяпер
гальлё
ягоны чуе смак.
Вісела доўга
на аднэй з галінаў
сонца,
ды перадумала
й зырвалася у ноч.
Бяруцца слацца моўчкі нанач
клёны,
ня надта ўжо шумлівыя і ўдзень:
тут — не яны шумяць
лісьцём, птушыным звонам, —
ні шчыгел, ні жаўна
сюды не заляціць.
Шуміць, гудзе, грыміць
вялізны молах —
горад,
нат найдзічэйшы джаз
такі ня выб'е рытм.
І спаць,
прадаўшы ўжо
ня толькі што
пшаніцу,

але й душу, —
ня кожны тут дапне.
Сон тут —
маўляў той джаз:
пайрваны
і пачварны,
ціхім "андантэ" вейкі не спаўе.
Прахопішся —
крычаць каты на панадворху,
імчаць пажарнікі, грукочуць цягнікі...
А так хацелася-б прысьніць:
між яблык сьпелых
вісіць бляшаны ветаху ражок,
сінеюць азярцы туману на атаве,
сьцюдзёна плюхаецца срэбра
у вядры...
А каміны
ужо сьцяжкі ўзьнімаюць дыму,
што пахне бульбаю й бяростай,
плывучы
насустрач цішыні перадусходняй...
Мамэнт —
і горлейкі ўзьвіюцца паласкаць
расой салодкаю і звонкаю
жаўронкі!

Не цалавала рук
нікому я ў жыцьці.
Табе-ж,
мая зямля,
я цалавала-б ногі
за цішу, за туман, за жаўрукоў, -
за ўсё,
чаму я ўжо, відаць,
ня выйду
напярэймы.

## ІНШЫЯ ТРЫ

У месьце скупа на вясьняны чар:
сонца
ды цьвірк вераб'іны...
Ня вырай —
гімны вясьне гручаць
крокі,
маторы,
турбіны.
І першая пупышка,
ці лісток,
сьціснуць патрапяць горла...
Сягоньня-ж вецер
зьмёў яшчэ шмагок

неба —
аблокі заворваць.
Дык мы,
уськінуўшы вочы ўгару,
разору кажную сочым,
ажно спахопімся,
што ўпару
дзень
не стачаем
з ночай,
і,
крок падбіўшы пад агульны рытм,
подбегам гонім
да працы.
Працуем. Пнёмся,
а за справы
тры,
іншыя,
рупіць нас брацца:
зялёнай ніткай шыць сукенкі дрэў
дзесь за гарожамі паркаў,
побач зь вясной
весялець,
дабрэць,
і ў бубны сэрцаў
біць шпарка!

## ПЕРШЫЯ КРАСКІ

Іх —
пазьбірала я ўсе —
зернятка па зярнятку.
Але куды-ж панясеш
скарб гэты —
весьнюю згадку?
Згаснуць у змрочных мурох
вочы іх сіняй дзіцячай,
нат не пасьпее пяро
слоў на паперы зьвначыць.
Хай
п'юць у смак сяньня зьзянь —
дзіва ў рашчэліне мескай.
Наквець растрэсьці
і зьвяць —
наканавана й пралескам...

## ДАБРАНАЧ!

Часіна́ —
            і у сутоньні дагарыць
сонца брыг,
пад ветразьмі, ў разгоне.
Ужо лічаць вочы —
раз —
дык зоры угары,
а раз —
зоры йшчэ зырчэйшыя,
ў Гудзоне...
Студзіць твар,
руды з гарачыні,
хвалі шэрае крылом
у доках
            травень...
Упілілі пільна карані
караблі
            ў ваду,
бы ў глебу травы...
Адбіваецца
каменчыкам аб тын
іхных трумаў
плёхат
            хваль прыплыву...
Адчыніўшы шырака раты,
узьбярэжжы дыхаюць хрыпліва.
Мітусяцца зыркія агні
сьветлячкоў —
мо фараў, мо рэклямаў...
Ня сумуе
аніхто
            па дні,
што тугой
цімала сэрц папляміў.
Мо журбу зь іх
змые ўрэшце ноч?
Што-ж, дабранач!
Набрынялі вейкі...
Вартых сьненьня сноў
                                    ня сьнілі мы даўно —
можа сёньня ўсё-ж
прысьніцца
            нейкі?

## РАДАСЬЦЬ

Як прагна смокчуць сонца
берагі,
дзе ў пене гінуць весьнія
прыплывы,

Вітаюць радасна бурлівы іх загін
сівыя кагаркі,
ды траваў грывы.

Казыча пяты босыя пясок.
Ён белы, быццам сьнег
і гэтаксама йскрыцца,
у хвалях
зрэбнае палошчачы крысо
ўзьбярэжжаў:
раз – сумысьля,
раз – няўпрыцям.

Ці ўцеху
і сваю
на вецер мне аддаць?
Гурт ветразяў
імкне
кудысь за далягляды...

Вясна,
вятры,
і я,
й зялёная вада –
ўсё сёньня ў слове акрылым
"радасьць"!

## ГАЛІНА

Увіхаецца вецер растрэсьці
і красу
й весьніх думак жмут...
Хай жывеш
у вялізным месьце –
запыняюцца
вёсны й туг.
Трэба толькі расплюшчыць вочы
так,
што й сонца нап'ецца зь іх –
і на ўсе галасы
заплюскоча
ўсё,
што надзіць гэтта ў маі.
Перакінецца праз агарожу
недзе
яблыны белай гучок,
загарыцца –

і чару ня зможа
ні шчарнелых муроў ламаччо,
ані брамаў шчарбатых ляпы,
дзе ад раньня да раньня
зьмерк,
ані аўтаў
разьдзьмутыя храпы,
што усюдную чуюць
сьмерць.
Аж запынішся перад гэткім
дзівам весьнім,
ружовым сном,
рукі выцягнеш,
але ў сетку
пальцаў
водар сплыве адно.
Закалышыцца,
кіне цьвету
ў вочы прыгаршчы
галіна —
і да сутані ходзіш
сьветам,
быццам ты — гэта й ёсьць
вясна.

## БАЛЁН

Вясновы вецер
знойдзе дарогу ўсюды,
праб'ецца й праз хмарадзёры,
дзяўчат спаднічкі тузае,
трэпле косы
і пахне роснай травою.
На скрыжаваньні
вуліцаў жвавых нейкіх
стаіць із вазочкам
маці,
а у вазочку — хлопчык маленькі,
а можа
дачушка, хто-ж знае:
штонікі
носяць сяньня ўсе чыста дзеці,
каптурыкі-ж —
выйшлі з моды...
А ў ручцы дробнай
сіні балён на нітцы
калышацца,
вочы зводзіць.
Сьмяюцца зубкі белыя
сонцу й балёну
налітаму сокам сінім,

уцехай зьзяюць, пэўна,
за ўсе балёны
сінейшыя ў сьвеце вочкі.
Аж тут...
ці вецер
рынуў рыўком зза рогу,
ці пальчык парэзала нітка —
толькі-ж падскочыў сіні балён
і як ветразь
паплыў у весьняе неба.
Узьняў маленькі
сіні ад ніткі пальчык,
закінуў галоўку ўгору,
пабачыў кроплю
блакітную дзесь пад хмарай,
і ўголас, наўзрыг,
заплакаў...
Заплакаў. Моцна.
Дробязь, а голас гучны,
аж натаўп
пусьціў карэньне,
хай і аглухлі вушы
даўно нябогам
ад крыкаў
гудкоў,
сырэнаў.
І так-жа горка,
што гэты і той нязручна
сьхінуў галаву над вазочкам,
няхай і ведаў:
час сяньня — гэта грошы,
распусьціш —
ужо ня вернеш.
Балёну-ж собсьнік
плакаў няўсьцешна й плакаў,
баронячы матчыным словам,
пяшчотным пальцам
роспачы сьвежай крануцца,
абцерці хусьцінкай сьлёзы...
Ці-ж дзіва? Сіні
сон адляцеў і кінуў
на пальчыку белым болю,
яшчэ й другую —
ці раз, а ўколе
сінім яна
ўспамінам —
маленькі пальчык, мокрыя
вачаняты,
і сэрца,
на боль замалое...

Вясновы вецер
у цясьнінах мескіх,
твае гэта жарты,
любы!

## ЧАЛАВЕК ЧАЛАВЕКУ БРАТ

*Homo homini lupus est*

Чалавек чалавеку – воўк.
Першы ў гэтую праўду хрэст
маіх дзён
разьвіваў сувой.
А пасьлей –
хто хацеў, хрысьціў
ці вадою, ці безь яе,
й крыўд набрала я до ў трысьці –
у жыцьці,
аж яшчэ стае.
Глуха шасталі дні – сьцяблы:
па зіме –
зноў сяўба... жніво...
Ня збываўся тых слоў палын:
"чалавек чалавеку – воўк".
Ня гублялі іх чары рук,
сэрца
ў кратах крывых рабрын...
На сваім я гарбе ўгару
узьняла іх,
праўдзівых,
тры.
Ды, ўсе ў белі,
ішлі вітаць
і лагчыны й сады
мой сум.
Сіняй руняй плылі жыта,
асыпалі мне ўсьлед расу.
Ападаў
на мае сьляды,
па расе,
дрэў барвовы ліст,
спавіваў,
як брылі гады
ў чар нязвыклы маё
"калісь".
Прытулю
да вачэй далонь –
... і ўжо межаў відаць слупы.
Дзіў,
што іншы ўсё,
што было,

цярушыць мне на вейкі
пыл...
І,
паціснуўшы пальцы вясьне,
хай на ростань зь ёй
не пара,
я шпурляю ў ігрушаў сьнег:
"чалавек чалавеку — брат!"

Нью Ёрк. Вясна 1964

## ЁН ГРАЦЬ НЯ СЬЦІХНЕ

Зноў Дваццаць Пяты Сакавік,
Дзень Беларускі,
наш,
усіхны.
Зайграў Ён павадкай крыві
калісьці ў нас,
і граць ня сьціхне!
Хай Ён усьцяж яшчэ ня наш,
І Беларусь хай
пад адхонам —
інакшага
у нас нямаш,
каб за Яго маліцца Кону,
каб за Яго
ўзьнімаць з тугой
вянкі далоняў,
вейкі,
сэрцы,
каб так, як мы тут
на Яго
чакаць, наўсуперак няверцам.
Ці-ж дзіва,
што ня ў лістапад
Айчына ўскрэсла,
а увесну,
калі вятры імкнуць наўзгад,
а ў кратах рэбраў шчасьцю цесна,
калі зялёны, цёплы сок
спружыніць парасткі й галіны,
а першы вырай у крысо
нябёс урэзваецца клінам,
калі такая ўсюды сінь,
аж вочы ў зьзяньне ўзьняць няможна,
о, Беларусь,
— чаго маніць —
Ты з намі,
ўсьцяж,
у думцы кожнай,
бо зноў на сьвеце сакавік,

зноў Сакавік
у снох усіхных.
Нязрыннай павадкай крыві
Ён грае ў нас
і граць ня сьціхне!

## РАДАСЬЦЬ

Адтрымцела – у гневе – зямля...
Сплыў натоўп, правіць сьвята, у сховы...
Змрок прыпоўз на Крыжовы Шлях,
твар паклаў на сьлядох Хрыстовых...
Чорны ветразь накрыў магіл
скальных шчырбы, муры, гасьцінец...
Нат Гальгота –
вось-вось вуглі
познай весьняй пагары ськіве.
Тлее жухла йшчэ толькі крыж,
той, зь якога із плачам
Сына
цела Маці зьняла... Гарыць
ён, як боль Ейны,
ці астыне...
І здаецца крыжу – не, крыжом
(два ўсьцяж злыдняў трымаюць поруч) –
ня стрываць
ані ім ужо,
ні шырокаму сьвету – гора...
Ён сканаў –
дык скапала ўсё.
І дармо той сявец ці араты
ніву кратаў, дармо ля красён
гнулі пругкія плечы дзяўчаты,
ткала парасткі весьняя ноч,
слалі кагаркі гнёзды на скалах,
адплывала на ловы чаўно, –
ўсё дармо,
бо-ж Яго ня стала!
Ды ці-ж знаюць,
хай ноч, хай сявец,
што ад Госпада
накана́вана?
Басанож, па сьцюдзёнай траве
міраносіцы беглі
саван
зьняць з прабітага Цела, зрасіць
і сьлязьмі, і пахошчамі раны –
а Сын Божы –
ці-ж веры дасі! –
уваскрос!
Уваскрос! Гасанна!

Крылы вецер раськінуў, узьняў
над крыжамі й паплыў
даляглядам
весьціць радасьць Вялікага Дня,
Уваскрошаньня сьветлую радасьць.
Радасьць скрозь,
бо-ж на сьвеце вясна,
сонца, наквець, вясновыя лі́ўні...
Расшуміцца й Табе яна,
край мой родны
і незабыўны!

## КАЛАСЫ

Прапяяў пявун раз, і яшчэ раз...
Трэйчы...
Ўхутаў попел вуглі, зрасянела трава,
узялося на сьвет, –
а Хрыстовыя плечы
бізуну не дадзела крывавіць ды йрваць...
Так устаў новы дзень, захлынаўся:
"Вараву"!
Прыглядаўся, як пільна мые рукі Пілат,
і лічыў – і зьбіваўся – град кропляў крывавы:
на Сьвяцейшым Чале,
і адводзіў пагляд...
Крыж. Нясьцерпны цяжар. Сьпёка даўкая. Воч
Матчыны... Пот. Веранічын ручнік...
Аж нарэшце –
Гальгота
й боль, што вырвацца хоча
дзіка, крыкам з грудзей,
ды на іх
камяні.
У каменьні сівым
супачыла слабое,
бяз крывінкі, слухмянае Цела,
камень
да яго прыгарнула вялізарны
боязь,
сьвет прыгас, прыцямнеў...
Ды ці сходаеш дзень?
Ён устаў,
ён расьцьвіў
весьні, водырны, чысты,
серабрыстай лялеяй у пырсках расы.
Дзень ускрос,
як Хрыстос,
што Рукою Прачыстай
ідучы, бласлаўляў
у палёх каласы...

Узьняліся за ноч яны порстка над руняй
і сьпявалі,
аж песьняй брыняла зямля.
Усьміхаўся ім ветла ускрэслы Равуні,
пахіляўся
і сьвет веснавы благаслаўляў.
Бласлаўляў,
каб далі хлеб галодным, ня камень,
каласы,
каб сінелі ў жытох васількі,
каб у кажнай дарозе
Бог крочыў із намі,
а мы
зь верай нязьвернаю крочылі
зь Ім!

## І БЫЛА ТАМ ВЯСНА...

*але вочы іх былі стрыманы,*
*дык не пазналі Яго.*

*Паводля Лукі сьв. Евангельле*

І была там вясна,
як наша,
хай ня лозы цьвілі, а міндаль:
распалялі зялёныя пашы
весьніх красак пурпурны вугаль,
па далінах бляялі ягняты,
маткам тулячыся да ног,
і буйных белых зор зярняты
рассыпалі лялеі ў лагох...
Срэбна-шэра
курэў гарэшнік,
шнур алівак і вінных лоз...
А вясьне напярэймы, сьцежкай,
ціха йшоў
Уваскрослы Хрыстос.
Сам —
нясьцерпнае зьзяньне —
у зьзяньні,
сьмерцяй сьмерць растаптаўшы ушчэнт,
Ён ішоў, і нязгойныя раны
на чале ірдзянелі яшчэ...
У дзіўным, у сьвятым захапленьні
Богу-Сыну малілася ўсё —
агарож прыдарожных каменьні,
маладых ячмянёў каласьсё,
цёплы вецер, што згортваў з дарогі
вір пялёсткаў... і сонечны пыл...
і трава, што прабітыя ногі
цалавала, сьхіліўшы сьцяблы...

А пасьлей —
пацягнуўся шляхамі,
ў скрыпе рогату, крыкаў, калёс
і народ...
Толькі хто зь іх, няўцямных,
знаў, што побач —
Ўскрослы Хрыстос?

Праплывалі,
сьляпыя,
міма
Боскіх цёплых, пясьцівых рук
юнакі з залатымі вачыма,
сьцені старцаў, сагнутых укрук,
ды ніхто ня сьхінуў каленаў,
да далоняў сьвятых ня прынік,
хай прад сьцерплай ад сьлёз Магдаленай
на імгненьне і ўзьнік Садаўнік.
І ніхто не азваўся:
"Равуні",
сам ня верачы ў шчасьці вачам,
змарагдовых пальмовых галінаў
наламаўшы,
ня выбег страчаць...
Падцікаўся нячутна вечар,
сіні змрок...
І ня бачыў ніхто
зь недарэчных сыноў чалавечых,
як мінаў іх,
раз сто,
Хрыстос,
як ішоў Ён, сьхіліўшы на грудзі,
сьветлы твар Свой,
паўзь весьняй хвалы...

Гора,
гора,
о гора Вам, людзі,
бо і сяньня
сьляпыя вы!

## ТВАЁ ІМЯ

*Маці родная, маці краіна,*
*Ня усьцішыцца гэтакі боль.*

*М.Багдановіч*

О,Беларусь,
о,Беларусь мая!
Імя Тваё — такі пякучы сымбаль болю!
Ды шчыра ўсьцяж яго
багаслаўляю я:
ізь ім я —

чалавек,
у долю і ў нядолю.
Пранізанае ім, маё жыцьцё брыдзе,
маўляў мяжой ціхой,
ярамі вуліц змрочных,
і не баліць мне, што вітае дзень
мяне чужою мовай,
а чужымі снамі — ночы...
Дзіўны ён, гэты боль,
і дзіўна лёгка зь ім:
прысыпаўшы пяском друз прагі і завісьці,
ён
раньнямі мяне ды меккай мітусьні
няспынную кіпень
мяккой лагодай хрысьціць.
Ён зьмеркамі зь мяне пясьціва ўмее зьняць
важкую стому, кроў
зайскрыць узноў да працы,
зьняверу, там, на дне,
даўкія крыўды дня
пайрваць,
каб ім і мне як разам ня зыйграцца.
І сны —
мне явай скрозь,
а сяньня явы — сон,
ссыпаецца з душы лушпіньне людзкай зьвягі...
Імкліваю Вяльлёй пяе сівы Гудзон,
Мурамі Вільні таюць небасягі...
І ўскласьці я хачу на струны,
як Баян,
шнур пальцаў — лебядзёў,
і граць,
і граць з жадою,
О, Беларусь,
о, Беларусь мая,
паўз боль пякучы граць
Табе,
Табою!

## У ГУШЧАРАХ

У гушчарах, затканых імглою,
шэрым змрокам, на золку, ў зару
ахвяруем Табе мы сабою
кожны дзень, кожны час, Беларусь.

І няма ў сэрцах жаху ні жалю,
мы адвагай змагарнай гарым:
ня чужыя жануць нас у далеч,
але Ты нас вядзеш да зары.

І мы верым, яна разгарыцца,
ўстане зноў над краінаю дзень,
бо ня стане змагар, не скарыцца
прад нягодай ніколі, нідзе.

Хмараў дым над галовамі тае,
вецер дыхае мятай, быльлём.
Беларусь, Беларусь залатая,
За Цябе, за Цябе мы ідзём!

## КАБ НЯ МАЦІ...

Шмат на сьцежках людзкіх мітусьні,
шмат няпраўды гаркое і болю.
Ад маленства ўжо — сэрцы ў вагні,
ад маленства ўжо — крыўды нас колюць.

Ледзьве выцягнеш рукі ў жыцьцё —
ўсё ня хлебам, каменьмі нам плаціць.
Не дало-б яму рады дзіцё,
каб ня неба, ня сонца,
ня маці.

Маці... Мама... як сьціпла гучыць
гэта цёплае, цёплае слова,
ды ўсе жалі, ўсе жахі начы
перад ім пахіляюць галовы.

Маці! Колькі-ж ты раз да зары
над схварэлымі намі сядзэла,
сьцень палёгкі сачыла у твары,
грэла вуснамі сьцерплае цела...

Колькі скрозь пагубляла ты сьлёз,
гэткіх чыстых, гарачых і шчырых,
калі гналі нас прага і лёс
ад цябе, зь ветрам сінім у вырай!

Мама! Любая! Ты ня крыўдуй
на нас, птушак няспынных, крылатых:
із ТВАІМ я імём іду
ў сьвет, СВАЕ гадаваць птушаняты!

## КОСЫ

*Слуцкая аповесьць.*

*Беларускай маці.*

У калысцы Паўловай усё пачалося:
два гады яна хатай хлапцу была.
За калыскай,
за хатай
сьпявалі восі,
жаўрукі і дзяўчаты...
На ўскраі сяла,
ледзь пастукае вецер у шыбы пальцам,
балбатаў і рукой сонцу трос вятрак,
ды гулялі ў вайну із галёканьнем мальцы,
да жыцьця накладаючыся няўзнак...
За калыскай,
за хатай
былі дарогі,
ногі босыя й срэбны, як росы, пыл,
і далёкіх бароў бураватыя рогі,
і на пожнях нябёс — балачын снапы...
Ды ўсё гэта — пасьлей...
Ссаў малы сысолку
і лавіў пясткай сонца плыўкі агонь,
аж аднойчы,
як маці зьмяняла полку,
кос паводка лынула малому ў твар.
А была яна гэткая залатая,
столькі чыстага зьзяньня у ёй было,
што здалося хлапцу, быццам тае, тае
ён,
ад пятаў маленькіх па ўпарты лоб.
І, ня ўмеючы шчасьцю знайсьці адтулін,
учапіўшыся пальцамі ў шоўк сыпкі,
ён заплакаў так дзіка, што шызыя гулі
узьняліся стралой з падваконьня ў блакіт.
Гэтак
сталіся матчыны косы цацкай
улюбёнай, найлепшай у Паўлюка.
Навучыўся ён хустку ськідаць зьнянацку,
навучыўся зіхлівыя пасмы сукаць.
А калі шанцавала, што й сонца у косы
заплялося
— нячасты у хаце госьць —
ну й даваў ён і косам і сонцу чосу!
Песьціў, торгаў, іrваў — і сьмяяўся чагось.
Як тады спрытна йскрыліся шэрыя вочы,
расплывалася ямінка на барадзе!
Гэткай шчырай уцехі,
як моцна ні хочаш,

із сабою у сталасьць не прывядзеш.

Ужо лётаў Паўлюк із аладкай пшоннай
у руцэ,
частаваў ёю куры, ката,
прабаваў на калматым Мурзу конна
гарцаваць,
лапатаць навет штосьці стаў —
як прыйшлі бацьку браць у салдаты.
Горка
маці плакала й плакаў Паўлюк за ёй,
за плячо, хтось вусаты, ўсё бацьку торкаў,
каб хутчэй,
а ён — хустку вязаў... зь зямлёй...
Паляцелі тады із далеч нязнаных
галубамі лісты,
аж іх кон і змог:
у густы гаалян, за фанзой глінянай,
як казалі,
бацька навечна зьлёг...
Ноч кароткай была ўжо, відаць, а можа
і здалося чамусьці тады хлапцу,
бо сьпявала да золку так неяк прыгожа
яму маці,
што рады ня даў заснуць:
"Люлі, люлі, мой сынок,
люлі, люлі, галубок,
ходзіць ночка па двары,
лічыць зоры у гары,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а, а-а, люлі.
Сьпі, сіротка, заўтра зноў
зловім сонцава чаўно,
паплывём зь ім на загон,
дзе ўзрунеў зялёны лён,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а, а-а, люлі.
Будзе там палоць лянок
з мамкай бедны мой сынок,
люлі-ж, люлі, любы, спаць,
а я буду падпяваць,
а-а, а-а, люлі,
а-а, а-а, люлі."
А тады,
маці ськінула хустку,
і сьцені
над Паўлом заліла зьзянь нялюдзкая кос.
Найзырчэйшае пасма злавіў ён у жменю
і у сны, сьмяючыся,
з сабою панёс.

Як упрэжаныя ў малатарню коні,
ўсьцяж у кола йшлі,
ў кола,
у кола гады...
Шчырбы й раны зямлі,
памяць зьдзекаў і сконаў
не пасьпеў шчэ аплесьці зялёны дым
дзеразы ды чабору...
Гасьцінцамі дзесьці
ўсё цягаўся ў зброі, бяз зброі, народ.
Не, ня ласваў няўсьцішнага сьвету, ня песьціў
дзевяцьсот і дваццаты, зацяты, год.
Дні міналі ступою, пад гуд малатарняў,
стукат пранікаў, хрумст капусьцяных лістоў...
Выбраў з маткай Паўлюк бабім летам прыпарным
бульбу, ніву засеяў...
На рэбрах платоў
пайшлі польку-трасуху выскокваць сарокі,
часта-густа ськідаючы збан ці стаўбун,
і, ззалеўшы сядзець над вадой, незнарокам
сям-там восеці люлькі пабралі ў губу...
А у Слуцку на рынку — насыпала шчодра,
ўдосыць восень багацьця —
любуйся, купляй!
Хай шэсьць год дратаваная ботамі гордаў,
шчэ радзіла, сваім на спажыву, зямля.
Пад мурком
ластаўчычай нямоўчнаю стайкай
маладзіцы паселі вянком на зямлі.
Бела ў золаце сечкі паблысквалі яйкі,
ў сінім кужлі сыры спачывалі, цьвілі
зырка макам чырвоным і вусны й пацёркі
журавін ды брусьніцаў у лубках,
грыбоў
белагрудых вянкі тхнулі соладка й горка
мохам, шыльнікам...
Шчырых дзіцячых зубоў
не маглі прычакацца гарэхі...
А побач,
за шнурком маладзіц, быццам сена стагі
на балоце зрудзелым, паселі, спад лобу
пазіраючы, знахаркі-бабы. Багі
хай іх знаюць, калі столькі зёл ды карэньня
насушылі яны:
мак, палын, дзівасіл,
бэз, крушына — ўсё бранае пільна, старэнна
у сівым гушчары, ў залатым каласьсі.
За бабулямі —
ў тон з чыстым, звонкім таварам,
языкамі званілі ўзапар ганчары.
Іх паслухаць,

дык гэткіх макотраў, паджарых
гладышоў, гэткіх місаў — ня мелі й цары!
Йшчэ далей — бандары, груды ночваў ды дзежак,
лес густы аглабель, грываў конскіх, калёс,
а нарэшце —
званіц шылаватыя вежы
і нябёс засянелых расьсінены плёс...
Прыпазьніліся маці з Паўлом. Давялося
абы дзе ўціснуць кошык брусьніцаў.
Глядзець
Павал рынку пайшоў.
Як жнівамі калосься,
назьбіралася ў Слуцку на рынку людзей!
Абмінаючы кошыкі, місы, кадушкі,
праціскацца ўзяў Паўла туды, пад муры,
дзе над натаўпам сьвітак і намітак
гушкаў
вецер сьпеў,
як сам лернік ізь лерай, стары:
"А ў нядзельку раненька,
ўзыйшло со-о-нца хмарненька,
ўзыйшло сонейка над борам,
панад Селецкім таборам.
А ў таборы трубы граюць,
на нараду заклікаюць.
Сталі рады адбываці,
адкуль Воршы здабываці..."
Ды ці леры, ці песьні сьцягацца із гулам
маладых галасоў слуцкіх местаў і сёл?
Завярнуў да вазоў маладзён, прачула
пах вітаючы яблык, саломы і кол...
Аж, ужо ля паўдзён,
як — Паўло й не заўвеціў,
шчыра зь дзядзькам таргуючы ў Жыда брусок,
белым птахам
аднекуль з асеньняга веццця
сплыў на мур белакрылы адозвы лісток.
— "Дзеці Случчыны!"
— гэтак наверсе стаяла,
а нарэшце —
"Усе — родны край бараніць!"
І увомірг лынула людзкая навала
расплятаць чорных літараў дробную віць.
Хай птушына адна на муры бялела —
паляцела, як белых гусей ключы,
паўз вазы, паўз галовы й муры, паўз аселіц
цішыню,
буднай мітусяй трасучы.
Маладосьцяй усё налілося... Коні
стоцьма вушы наставілі, леры басы
загулі ізь нячутаю моцаю, з гоняў

рэзвы вецер прыбег, пазырчэлі лясы...
А тады –
              ўсхваляваўся ўвесь рынак морам.
Як той прысак спад попелу, ўспыхнулі ўраз
сто гамонак-агнішчаў, здалося –
                                          гавора
дробна, тонка, нат звонкіх збаноў гара!
Стаў Паўлюк, быццам з сэрца выймаючы штосьці...
А тады,
         над брусьніцамі, "мама, – сказаў, –
я пайду... запішуся... Ня будуць госьці
няскліканыя зноў, як гарох, нас лузаць!"
Не пярэчыла маці Паўлу нічога,
не заплакала,
                  як па бацьку, калісь.
Зьвечарэла адно ўсё ўваччу ёй, дык логам,
не прадаўшы брусьніцаў, дамоў пайшлі...
Аглядаліся пільна:
                        паілі карову,
разьбіваючы тонкі ў карыце лядок,
сечку рэзалі, цэбрам насілі палову –
няўпрыцям –
                 і прыпоўз скульсь вужакаю змрок.
Хоцькі, не – давялося хавацца у хату...
Ціха ў хаце,
                сасновай труне,
                                   было.
Моўчкі тупала маці у сенцах, латаў
моўчкі нейкі хамут ля вакна Паўло.
Спаць паклаліся рана,
                          ды доўга чамусьці
Бай у ботах чырвоных іх вокны мінаў...
Зноў агонь запалілі, сьцюдзёную вусьціш
па кутох разганяючы, й так, да відна
блізу, шыбы лізалі –
                          знадворку вечар,
а ад хаты – газьніца, суседзям наўзэдзіў.
Аж,
    да печы прыціснуўшы сьцерплыя плечы,
маці ціха прамовіла ў цемру:
                                 "Ідзі"...

Зь вёскі йшло іх шасьцёх,
                              бо і вёска – адно
хат з паўкопак ды шэры вятрак на узгорку.
Кінуў байкі вятром балбатаць ён даўно,
і даўно ўжо гарэзнай рукою ня торкаў
сонцу ў вочы...
                     Ня мальцы-ж – гуляла вайна
у вайну ўжо каторую восень на посных
жоўтых пожнях...
                     Шасьцёх. Кажны – дзёрзкі юнак,

навет шосты, Самусь, дзядзька Паўлаў і хросны.
Колькі дзён, колькі ночаў чакалі:
загад

меўся вояў, як пастыраў трубы той статак,
пазьбіраць і у поле павесьці...
ўсулад

із дрыготкімі гэтымі днямі, па хатах
маткі, жонкі ды сёстры ня зналі, дзе рук
ім прыкласьці,
ня сьмелі даткнуцца тыкеля,

а й на госьцікаў глянуць,
каб сьлёзаў з раку
зь няслухмяных вачэй ня сыпнула капеляй...
Аж
прыбрыў і загад, уначы касьцяком
пасінелай рукі дробна ў шыбы пастукаў...
(Кляў, яго нясучы паўз калюгі,
цішком

валасны рассыльны, інвалід сухарукі).
Выйшла хлопцаў правесьці ўся вёска...
Сілком

хтось дзень восенскі нібы ўціскаў у сялібы...
Гольлем — з крыкам кружылі вароны... Як ком
шкумацьця плыў над шызымі рэбрамі ськібаў
у палёх, і над вёскай — сутунак густы...
Выйшлі — аж за аселіцу... Сьлёзаў ды ўсхліпаў
не таілі ўжо бабы... Крывіла раты
нат малечы бяздумнае стайка пад ліпай...
Ня было разьвітаньню канцоў.
Хай сваіх

бараніць выпраўляліся хлопцы сяганьня,
а ня бацьку-цара,
не замовіць штыхі,

каб ня джгалі,
ня змусіць і кулі — ня раніць...
Выняў дзядзька Самусь рыўком люльку з губы,
ўзьняў пад пашкі, падкінуў
малую Крыстыну,

цмокнуў цётку й пайшоў да вазоў,
а тады

адарваўся і Павал ад маці... За сынам
іранулася, горкая, ўсьлед: над ўсё
ёй здалося найвышшым — яшчэ раз прыпасьці
да рабое бравэркі, абвіць, бы драсён,
цела хлопца рукамі... Йшчэ момант адкрасьці...
Вецер косы расплёў, чуў Паўлюк, ля яго
апавіў... У іх сетцы і скроні, і шыя...
І зьнянацку ўпякло юнака, як агонь:
косы срэбныя,
не залатыя:
"Люлі, люлі, мой сынок,
люлі, люлі, галубок,

ходзіць ночка на двары,
лічыць зоры у гары,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі..."

А насустрач, наўзьверх –
"Ці ня дудка мая, –
весялуха мая, ды ух! я!
весяліла мяне, –
на чужой старане, –
весяліла мяне, ды ух! я!

Што-ж...
жаўнерская песьня за косы дужэй:
паплыла, павяла, адарвала...
Часіна –
сьціх нат пошчак далечай дрыжэць,
расьцяганы варонім кагалам...

Ён стаяў перад імі, высокі, худы,
у даўгім шынялі,
вочы ў вочы з хлапцамі
Першай Слуцкай Брыгады...
Як выцьвілы дым
пажарышчаў,
над Грозавам слаўся слаямі
рэдкі раньні туман (спрабавала у ім
наманы пуціну знайсьці торную сонца)...
І казаў камандзер:
"Перад вамі баі,
можа раны, мо й сьмерць".. (Шчупаком у палонцы
раптам бліснула сонца, зайграла ў штыхох)...
"А за што, хто спытае? Дык вось...
Там, у хаце,
блізу кажны пакінуў з вас маці. Дай Бог
ёй уцеху... Вялікае шчасьце – мець маці.
Бо няма, хлопцы, ў сьвеце ахвяры такой,
на якую ня рынецца маці – за сына.
Так і сын... Добры сын за яе супакой
навет сэрца, здаецца-б, трапёткае выняў!
А ёсьць Маці, усіхная Маці
у нас –
Ёсьць Айчына...
Дзіўны край, бунтарны й рахманы,
край – жывы і ў крыві і ў вагні,
край – папас для чужых
край – нязгойная рана...
Вы прыйшлі сюды сяньня Яе бараніць,
вашу Маці, Айчыну (Заторгаў сьцягамі
дзесь на ўзьлесьсях народжаны вецер)...
Сыны!
Хай-жа будзе жаўнерскае шчасьце із вамі!"

Ноч засьпела ў сяле...

Кінуў дзядзька Самусь
на кулі на тарпе свой шынэль даўгаполы,
доўга, вобмацкам слаўся... ўмасьціўся —
і шусь!

у шасьцівае логава з Паўлам паспалу.
Пахла пылам, мышамі...
Па гоньце страхі
ночны вецер качаўся цяжкою кацёлкай...
Сморгаў грудзі чыесь кашаль нудны, сухі...
Выплыў Паўла з прадоньня
аж недзе ўжо золкам.

Сьніў ён сон...
Ды ці сьніў?
Яшчэ ўсьцяж на губах
чуў ён солань крыві, боль выкручваў плечы,
гналі кажнаю жылкаю радасьць і страх...
Вешчы, дзядзька-б сказаў...
Выпаўз Паўла па нечых

целах зь цемры і выйшаў у іскрысты сьвет.
Ноч ужо дацьвітала... Апырскала жораў
срэбрам прымаразь, срэбрам лягла па траве,
быццам ськінуў зь нябёс хтосьці долу ўсе зоры...
Зь дзервянога вядзерца пры студні глядзеў
ветах,
голкамі йльдзянымі колючы ў вусны.
Аж усьцешыўся Паўла сьцюдзёнай вадзе,
нахінуўся і ў пысу прост месяца плюснуў.
Сон...
Вілася кудысьці дарога... Вышэй
і вышэй і вышэй без канца і бяз краю...
Пяўся ёю, далёк, цяжка месячы глей,
дзядзька хросны... маленькі... вось-вось — і растае...
"Дзядзька!" — крыкнуў Паўлюк, але вусны чамусь
зацяліся, і кліч ня даў рады праліцца...
Ірвануўся юнак: "Годзе, дзядзька Самусь,
пачакай!"
Ды ўжо зьгінуў той зьнічкаю ніцай...
Выбег Паўла на шлях, здаганяць,
але тут

апляла яго маці зьнячэўку рукамі,
трохлінейку з пляча, з рамяня каліту
цягне з плачам, а вецер прадзе і сукае
пражу срэбную косаў ля Паўлавых ног,
што ўжо й кроку па шпулі гасьцінцу ня ступіць...
Плача маці,
і просіцца Павал дарог
недаткнёных даткнуць... А зь імшарышчаў, з купін
хтось выходзіць на шлях,
хтось — такі залаты,
ажно сьлёзы ў хлапца накіпаюць на вейках.
Маці... зноўку яна?

Не. У косах густых
ані сівае ніткі, і моцаю нейкай
яна срэбныя, тыя,
зьмятае на бок,
як вятры дым блакітны з бульбянішч асеньніх...
І выпроствае плечы балючыя, крок
пажаўнерску раўнуе ўжо Паўла, і сьценем
усплывае у думцы ймя тэй, залатой
памагальніцы
аж над каханьне узьняцца:
хто-ж, калі не яна, іх вядзе за сабой,
што, — казаў каманьдзер, —
а сьвяцей і за маці?
Так, у сьне, й ён пайшоў — не ў гару — ў далячынь.
І ня зь дзядзькам — адзін...
Ня у восень — у травень...
Бо ішла зь ім Яна, йшла удзень і ўначы,
залатая Яна —
ў паняверцы, ці славе!

Дзядзька сну ня ўзьлюбіў, а чаму — не сказаў.
"Ат, мара", — збыў, тытун уціскаючы ў люльцы.
Дык патроху ўвіла яго дзей дзераза,
быццам новая пража старую на шпульцы.
Першы хрост быў аднэй зь іх...
Сьпявалі, нагой
адбіваючы тахты па бубнах дарогаў.
Золкі вецер нёс нізка над бурай смугой
пералескаў ірваныя хмары,
аж логам
нехта стрэліў... Раз... болей...
і скрозь узялі
бзыкаць кулі гундосымі, злымі чмялямі.
Вомірг —
шлях, як зьмяло, а на мокрай ральлі
пачала разьлівацца ўшыр цёмная пляма...
Лёг Паўло у раўку, доўга, доўга цаляў,
аж і стрэліў, стуліўшы чамусьці павекі.
Цела церпла й кудысь адплывала, маўляў
апаілі яго чараўнічыя лекі.
Але ўспомніўшы ў жаху — за што, за Каго,
Паўла сьціснуў замок...
Як сталёвыя, рукі
ўраз зайгралі, і ў тон, як вучылі...
Мо год,
можа й два, як у сьне, ён так стукаў-бы й стукаў,
ды аднекуль даткнулі аглухлых вушэй
словы свойскай каманды, зьнімаючы ўрокі.
Глянуў Паўла:
ўздымалася рыжая шчэць
быльнягу перад ім на якія два крокі...
Побач — нехта зіркаў на яго... На твары

пахудалым блукала і гасла усьмешка...
Не пазнаў у ім дзядзькі Паўлюк да пары,
аж ня выняў Самусь люлькі
й сіняю сьцежкай
не паплыў у нямую чамусь цішыню
едкі дым тытуну...
А тады — із разораў
чорных хмараў зьдзьмуў вецер дзікую ганьчю
ашалелых, асьлеплых, усьпененых зораў.
Ўвачавідкі —
у бель апрануліся лог,
быльнягі, глей размоклы і шэрыя сьпіны
шынялёў...
Прытуліўся, грудзіма прылёг
Павал зь ленаю стомай да белае стыні...
Ды сьнег стаяў адразу... Ральлі грабяні
зачарнеліся зноў найчарнейшаю чэрняй.
А усьлед —
буйна ўзноўку, з пляча, ня спыніць,
сеяць вецер пачаў жмені белага зерня...
І калі ўрэшце выйшлі жаўнеры на шлях —
ён ляжаў перад імі натхнёны і чысты,
і шасьцелі над хлопцамі сеці гальля
белым, белым і кволым,
як казачным лістам.

Пацягнуліся дні перамогаў, і змог,
сконаў тут, між сваіх,
і тых, горшых, бязь сьветак...
Каб хацеў апісаць іх паэт,
ён-бы мог
сваю Слуцкую Песьню пачаць хай і гэтак:
..."На Міколу быў фэст у сяле.
Пераймаць
звон званоў не пайшла — бо Міколы-ж няма —
Васілёвая Настка. (У бурай траве
мо, прыціхлы, ляжыць ён і ўжо ня жыве?)
Усю ноч над сацьмелаю пасмай лясоў
узгаралася й гасла нябёсаў крысо,
і дрыжэлі у сполаху шыбкі вакна,
і ўсю ноч іх спалох разважала яна.
Грэх штосьсьвятам рабіць,
ды як збыцца наўды?
Можа выцягнуць, бегчы, із студні вады?
Зазваніла на ганку вядро аб вядро,
бо пабачыла Настка пад прызбаю кроў.
А тады —
шэры сьцень праслы плоту абняў, —
і... ня стала для Насткі зімовага дня...
Ледзь зьвінелі, пад вецер, званы у царкве...
Твар бяз кроплі крыві,
кроў на йлбе, галаве...

"Дай напіцца — і ўсё... Пастаю — і пайду,
каб яшчэ й на цябе не наклікаць бяду"...
Абхапіла дзяўчына яго, павяла
ад сьцяны да сьцяны, ад шула да шула,
падала смаглым вуснам напіцца вады...
А мяцеліца, белы ўзьмятаючы дым,
белай ніткай усьлед зашывала сьляды...
Ў варыўні ў Васілёў быў пад насьцілам склеп.
Дзе тут лепшага схову шукаць у сяле?
За кадушкай з качаньнем паслала пасьцель,
спавіла галаву ў палатняную бель,
а тады —
"не збаюся ні куль, ні агню,
а нікога, нікога ня пушчу ў варыўню,
ня пушчу,
хай пасьлей накладу галавой,
бо ты-ж любы, ты любы, ты любы мой!"
А ён...
Так вось, ці накш, чым далей — імклівей:
ці-ж пазнаць, што паэта спляце ў галаве?
Або можна і так:
"Ад сутоньня да ранкаў
ад паўдзённай гудзьбы да паўночнай глухмені,
ізь бярозмі на ўзьлесьсях гулялі ў хаванкі
сьцені ў доўгіх шынэлях, зь вінтоўкай у жмені.
Раз-па-разе грымела пагрозьліва, зьдзекла
над стаптанаю руняй,
і сьценям пад ногі
выбухала чырвонае й чорнае пекла,
разрываючы целы і пасмы дарогі...
Доўга чадныя хмары тады калыхалі
раны ўзьнятых суглінкаў і стогнаў захлісты,
і сукруху асталых
— аж вецер у ґалі
ўжо зімовых нябёс — узьмятаў усё чыста.
Так бывала ня раз, і ня два...
Закарэлі,
загніліся у ботах жаўнерскіх анучы,
але сэрцы цьвілі
й доўга, доўга — ня прэляй,
а юнацтвам, а верай
тхнулі песьняй над Случай..."

Ды прыцішыў, парваў іх
ля Цімкавіч бой.
Што ён будзе — ўсе зналі... Паволі, ступой,
надыходзіў ён — пэўны, важкі, неадхільны.
Помніў Паўла:
ішлі а ішлі адвідна.
Ноч накрыла ля вёскі...
Кранаючы дна,
засынаючы, ён, спад павекаў няшчыльных

бачыў дробную зорку яшчэ паміж хмар,
што глядзела яму проста ў вочы...
Ўзапар
колькі раз раптам вухнула нешта на шосе,
і у ноч нехта ўбіў, быццам, вогненны клін:
загарэліся зырка гумнішчы, палі,
нат прадоньне ўгары — як смаляк занялося.
Падхапіліся хлопцы... Паветра гуло...
Недзе зь цемрадзі, сьлізкай, як чорнае шкло,
білі мерна і ўпарта па гумнах гарматы.
Над галовамі, ў пырсках суквецьцяў дзіўных
расьцьвіталі ракеты...
І Маці
й сыны
выйшлі ў бой, як на доўга чаканае сьвята.
Полк у пекла адразу нырнуў з галавой.
Роў і скрыгат, і рогат, і лязг, як крывой
абчырцілі жаўнерскую гушчу зьнянацку.
Вомірг лучыў і Паўла ў шалёны рапсод:
нібы ў сьне, кляў кагосьці ў няпамяці рот,
нібы ў сьне, цела ймкнула кідкамі, абмацкам,
па грудох, па кусьці,
бо ўсёй праўды ў жыцьці —
не аддаць, ня пусьціць,
біцца, біцца і біць
кіпцюрамі, зубамі, як куляў ня стане!
А тады—
ўсё зьлілося ці ў цемрадзь, ці ў зьзянь.
Ня было, нат, здаецца, й скрылька зялязьзя
на ўсім сьвеце,
які-б ці ня пёк, ці ня раніў!
Шмат пазьней дзесь —
гарматны разрыў і чарга
з кулямётаў прыгнулі ўсіх нізка... Загад
быў іх кінуў якраз у атаку... Віднела...
Глянуў Паўла — усе. Хросны войкнуў знарок,
а тады засьмяяўся: "Жывыя, сынок",
ды ўжо ўзяўся паўзьці,
калі пругкае цела
раптам дзіўна зьмякчэла, лягло на руку,
быццам сноп абабіты, пусты на таку,
і чырвоная пена
шкумятамі буйнымі, як з пыскаў каня
наравістага, лынула...
Моўчкі прыўзьняў
штось чужое,
ня дзядзьку ўжо, з груды пляменьнік...
Бой ня згас і у сонцы. Ў барвовай смузе,
пабывала таксама ў штыхох балазе,
яно ўстала, ды зараз — і сплюшчыла вочы...
Аж... нястала нікому ні куляў, ні сіл...
Няжывых падабралі аж толькі уночы.

Ня было у сяле ні царквы, ні папа,
дык палеглых у Семяжаве хавалі.
На сялянскіх вазох, за ступою ступа,
ў шлях апошні пайшлі яны...
Рэзвыя хвалі
ветру ў дні тым плылі а плылі спад паўдня
на бязьлістыя ліпы, ў прасьветы званіцы,
і таму мо — званы ня было як суняць,
скрозь званілі, званілі, званілі й спыніцца
не маглі, пакуль ветру вышою і сьлёз на зямлі...
А іх — стала над брацкай магілай...
Адпявалі — пад небам.
У цэркву-б ня ўнёс
і часьціны тых, што бяз крыві і бязь сілаў
у настылы пясок палягалі на сон...
Вокам ськінь —
хвалявалася людзкае мора.
Сваякі ці чужыя — свае ўсе спакон
веку.
Паўла зь сябрамі, ізь сьцягам, дазорам
стыг наперадзе.
Вецер ірваў, церабіў
паніхіды ўрачыстыя й простыя словы:
"са сьвятымі... ўпакой... Тваіх... душы... рабы...
іжа... несьць... ні балесьць... ні пячаль"...
і галовы,
як налітае жыта, хінуліся ўніз.
І ўзноў сьніў Паўла
ўсьмешку, узрывы, сьвітаньне,
і як выпала люлька, ў крыві, з далані...
А сьвятар, хор — рыдалі апошнім рыданьнем...
Раптам
сплыў сьцяг ізь ветрам і... "Хросны Самусь!"
ледзь ня рынуўся ў яму Паўлюк, толькі-ж словы:
"Тым, што йдуць паміраць, каб жыла Беларусь"—
замялі ўзноўку сьвет яму й тых, што ў палове
залатога пяску паляглі за Яе.
Не, такім ён ня бачыў шчэ дзядзьку ніколі...
Што-ж,
"жыцейскае мора" ужо-ж не пяе
яму песьняў жыцьця, дык — спачыў у патолі.
Вецер рос і дужэў...
Гасьлі сьвечкі ў руках,
каб разьліцца ўзноў жоўтай, трапёткаю плямай...
Аж і лынуў плач вусьцішны вёскай на шлях:
засьпявалі апошнюю "вечную памяць".
Ой, і быў гэта плач!
Хто адплакаў яго
ля вясковай царкоўкі над брацкай магілай
у той памятны дзень —
дай-жа гэткаму Бог
сьлязіны ўжо ніколі ніводнай ня выліць!

А назаўтрае
рушылі ў новы паход.
Невясёлы ён быў, як сутунак старэчы.
І калюгі і сэрцы надобра сьцяў лёд:
білі кулі па хлопцах ня ў грудзі ўжо —
ў плечы...

І вось — бліснула жутла між лозамі Лань.
Паўла ведаў: бяда,
ды ня важыўся верыць,
што канцы, што ня ў золак шлях іхны, а ў тхлань,
адпаўзаюць... асочаным, раненым зьверам...
Цераз Лань бег бярвеньнем насланы масток.
Густа біў па ім вораг зь цяжкіх кулямётаў,
але трэ было йсьці,
і пайшлі, мерны крок
не зьмяняючы, строем, за ротаю рота.
Паўла чуў, што аж выскачыць, хіба, з грудзей
яго сэрца й дзівіўся:
няўжо ён баіцца?
Кулі-ж білі па іх, па мастку, па вадзе,
рассыпаючы пырскі,
маўляў касавіцай
спад касы стракатлівы дождж конікаў мкнуў.
І пабачыў Паўлюк паўз лазовыя сеці,
што вада пачала чырванець...
Вось загнуў
першы вораг, па той бок, за засені вецьця.
Парадзелы, зьнік сьледам за першым — другі...
Але тут —
сталі йрвацца над Ланяй шрапнэлі,
і жаўнеры ляглі.
Аж, пусьціўшы кругі
па вадзе, нехта кінуўся ў хвалі, і целы
зачарнеліся скрозь па рацэ.
Да вады
поўз ужо і Паўлюк,
аж хтось моцна, з разгону
— чуў яшчэ ён — ударыў яго, і гады
ён кудысьці ляцеў,
аж спачыў пад адхонам
у рудым лазьняку...
Хто-ж там зноўку пяе?

Гэта-ж маці... Вось... ськінула хустку, і сьцені
над Паўлом заліло зьзяньне — косы яе...
залатыя ... ў малой... залатыя... у жмені...

"Люлі, люлі, мой сынок,
люлі, люлі, галубок,
ходзіць ночка па двары,
лічыць зоры угары,
люлі, люлі, заўтра зноў
зловім сонцава чаўно,

паплывём зь ім на загон,
дзе ляжыць пасланы лён,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі.
Укарэў, шчарнеў лянок,
як жаўнерык, мой сынок,
люлі-ж, любы, люлі, спаць,
а я буду падпяваць,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі".

Ой, як мулка...
Каб легчы зручней, каб нажом
хтось ня поркаў з уцехаю злоснай у плечы –
спаў Паўлюк-бы даўно сном нязбудным ужо
зьлёг-бы, з пасмай у жмені, малеча, навечна.
"Мама... дзе ты?"
Ды сьціхла, чамусь не вядзе
калыханкі, тугія ня цягне пачопкі...
Ня плывуць зь ім у сон,
як трысьцё па вадзе,
пасмы косаў...
Дрыгвою дрыготкаю, топкай
ціша ў вушы паўзе... рэжуць рукі нажы...
Не нажы... Пасмы, косы... пякуць у далоні,
быццам прыгаршчы прыску набраў...
"Не кажы
ім так тузаць, шастаць па калючым аржоньні,
гнаць на вусьціш, на боль...
До! Іду ўжо, іду!"
І, адкінуўшы ранец, падранай шчакою
жвір барозьнячы жорсткі,
пад мост, пад ваду
цяжка Паўла папоўз,
хай вужакай зыркою
поўз за ім сьлед крывавы на бэлькі, на наст...
Ці мо проста у чорную пастку над Ланяй
Ну й няхай...
Паплыве, як чаўно, бяз стырна,
перайманы працяглымі крыкамі каняў...
Але косы... ці-ж знойдзеш ізь імі спакой?
Цягнуць, срэбныя, цягнуць,
ня выблытаць пальцы
з пасмы, гэткай няўступнай, а гэткай мяккой....
Яшчэ крышку... йшчэ пядзя... й лёг Паўла над вальцам
бэлькі...
зь дзёгцю ўнізе упіліўся, глядзеў
проста ў твар яму нехта знаёмы сурова:
вусны сьцятыя... ямінка на барадзе...
шчокаў чорных правал... кроў на скронях, на бровах...
Ну, і вочы...
І ўбачыў зьнячэўку Паўлюк

у вачох гэтых столькі нялюдзкай пакуты,
што папоўз ён узноўку, у пясьці рук
заганяючы стрэмкі,
і боль зь імі люты...
Мост ня меў ні канцоў, ні пачатку, відаць...
Ды праскочыў Паўло яго-б хлопчыкам босым...
Сяньня-ж, пядзя па пядзі, ён поўз, як вада
побач, блізка...
Ня поўз-бы даўно, каб ня косы...
Пад тым берагам — праслы гарэлі... Сьцяў рот
Паўлу шчыльна пал шумны, задушлівы, дымны,
і ня чуў ён ужо,
як на струшчаны лёд
каляінаў,
апырсканы іскрамі, грымнуў...
Дзесь, пасьлей —
былі нечыя рукі, і смоль
чорнай ночы, і гуд-грукат крокаў па грудах,
і няўмольны кляцьбой ні малітваю боль,
і прадоньне, і дно...
і нарэшце — прабуда.

А над Ланяю
зьмерклі палі пакрысе...
Супачылі гасьцінцы ад рыпу калёсаў,
гуду, груку.
Сплывацца, гусьцець
сталі праслаў гарбы над суцішаным плёсам,
што йшчэ мостам былі дзе-ні-дзе...
Спад маста
выйшла ноч... Разгарнула лазоўе над целаў
шкуматамі... сьхінула ў спагадзе пастаць,
дакранула прымкнёных павек, паглядзела
на скрасаных жаўнерскіх абліччаў крамні,
на прымерзлую кроў пад брызэнтамі ранцаў,
уздыхнула...
й мільлёны, мільлёны грамніц
затрымцелі над шляхам
апошнім
паўстанцаў.

Нью Ёрк, 1959 — 1960



Натальля Арсеньнева ў 1973 годзе

## ЗЬ ГЕТЭ

### МОРСКАЯ ЦІША

Залягла над морам ціша,
Нярухома гладзь мігціць.
І марак з тугою ў вышу,
Ў няжывую даль глядзіць.

Ані подыху з прастораў,
Цішай сьмерці бездань тхне.
Ў неабсяжных далях мора
Навет хваля ня ўздыхне.

1943

### ЛЯСУН

Хто скача ўначы праз пасмы ймглы?
Імчыцца бацька, зь ім сын малы.
Малога моцна стары дзяржыць,
Дзіця палае, дзіця дрыжыць.

— "Сынок, чаго-ж ты галоўку сьхіліў?"
— "Глянь, тата, вунь — лясун у гальлі
Ў вянку зь ігліцаў і з барадой"...
— "То ймгла бруіцца над вадой".

— "Хадзі, дзіця, ідзі за мной,
Так слаўна ў лесе гуляць вясной.
Ірдзяцца краскі жывыя агнём,
Жар ягад сьпелых мігціць між пнёў"...

— "Ой, тата, тата, ці чуў, што ён
Цяпер шапоча мне з-за сасон?"
— "Ну ціхі, ціха, сынок, — шасьціць
павевам ветру ў сухім трысьці"...

— "Ці хочаш, любы, быць у мяне?
Мае дочкі чакаюць цябе ў лагчыне,
Мае дочкі там ночны вядуць карагод,
Яны закалышуць малога майго"...

— "Ой, татачка, тата, ці бачыш і ты
Дачок лясуновых у сьцені густым?"

— ”Ня бойся, сынок мэй, кажу табе я —
То-ж шэрыя вербы над плёсам стаяць”.

— ”Люблю я цябе, да спадобы ты мне,
І будзеш маім ты, ці хочаш, ці не!”

— ”Ой, тата, ён хоча здагнаць нас, злавіць,
Ён сьціснуў за шыю! Ой, тата, баліць!”

Ўстрывожаны бацька імчыць, як віхор,
Калышыцца, стогне ўзварушаны бор...
Вось хата... Ўжо блізка... Ужо даскакаў...
Хлапец у вабоймах ягоных сканаў...

## НОЧНАЯ ПЕСЬНЯ ВАНДРОЎНІКА

Вышой, у далінах,
Спакой,
У густых галінах
Нат шорах той
Заціх, застыг...
Суцішыўся птушак гоман.
Чакай, за момант
Спачнеш і ты.

# З АДАМА МІЦКЕВІЧА

## ЛІТВА, АЙЧЫНА

*Уступ да ”Пана Тадэвуша”*

Маці, Айчына — Літва! Ты — як здароўе ў целе:
Як цябе трэба цаніць, той толькі знае, хто дзеле
Накан выгнаньня. З далеч сьню я твой чар несьмяротны,
Сьню, бо па ім, па табе дзіўна мне сяньня маркотна.

Дзева Прачыстая! Зьзянь з прошчаў сьвятых Частаховы
Й Войстрае Брамы! Тваёй гэта ахавай замковы
Мур Наваградзкі стаіць, вера ня згасла ў народзе!
Як у маленсьцьве мяне Ты ўратавала ў прыгодзе —
Цудам вярнула жыцьцё ўзятаму ў сплаканай маці
Дзеля ахвяры Табе ледзьве жывому дзіцяці,
Гэтак, што ўстаў я й пайшоў сам, пехатой, ля парогу
Яснай сьвятыні Твае шчыра падзякаваць Богу, —
Вернеш так некалі й нас ласкай Сваёй Ты ў Айчыну!
А гэтым часам нясі сэрца ссумнелае сына
Ў цішу зялёных лугоў, суцень узгоркаў лясістых,
Што аплялі удаўжкі Нёман і сіні і чысты,
Ў далеч палёў, дзе вузор разнакалёрны ушыты
Нівы пшаніц залатых, срэбра пасьпелага жыта,

Белае грэчкі сьнягі, моры сьвірэпак бурштынных,
Зыркі, як вусны дзяўчат, рожавы клін канюшыны...
Усё-ж — апавіта мяжой — пасмай зялёнай істужкі,
А на мяжы, чарадой, дрэмлюць ціхія грушкі.

## АКЕРМАНСКІЯ СТЭПЫ

Я выплыў на прастор сухога акіяну:
Нурцуе чоўнам воз, зялёнай лоняй бродзе;
У шуме лугавін, у краскавым разводзьдзі
Мінаю астравы — каралішчы бур'яну.

Сутоньне ўжо, нідзе ні сьцежкі, ні кургану;
Шукаю зорны шлях, што ў моры чоўны водзе:
Здалёк імгла блішчыць, заранка узыходзе...
То Днестар, то ўзыйшла там лямпа Акерману!

Шчакайма!... Ціха як!... Лёт жураvoў у вышы
Чуваць, хоць і сакол іх вокам не азыча;
Чуваць, дзе матыля лісток травы калыша,

Дзе скрут сьлізкі вужа сьцяблё былін казыча...
Я чуў-бы, пільна так услуханы у цішу,
Нат голас-кліч зь Літвы... Далей, ніхто ня кліча!

## ДЗЯДЫ

Урывак з часткі 2-ой

Гусьляр. Стары-пачынальнік у хоры. Хор сялянак і сялянаў. Капліца. Вечар.

> *There are more things in Heaven and Earth*
> *than are dreamt of in your philosophy.*
>
> W. Shakespeare

ХОР

Ціша ночы, цемра ночы
Штось прарочыць, штось прарочыць.

ГУСЬЛЯР

Зачыняйце ўсьлед капліцу,
круг рабеце над труною.
Ані сьвечак, ні газьніцаў.
Вокны ўскрыйце тканінаю:
Хай праз шчыліны ня сьцеле
Тутка месяц косаў бельле.
Толькі-ж борзда, бы на крыльлі.

СТАРЫ

Як сказаў, так мы й зрабілі.

ХОР

Ціша ночы, цемра ночы
Штось прарочыць, штось прарочыць.

ГУСЬЛЯР

Чысцовыя душы!
Хто ў якой цярпіць старонцы,
Ці хто мерзьне у палонцы,
Ці ў смале кіпіць па вушы,
Ці ў калоду, ля пакуты
Шчыльна ўшчымлены сырую,
На вагні скваярэцца лютым
І галосіць, так гаруе, —
Ўсе, з усіх кутоў, растаньняў
Грамадой сьпяшайце жвавай!
Мы Дзяды спраўляем сяньня!
У сьвятым зацішку гэтым
Ёсьць і пацеры і страва
Й грош ахвярны для галетных.

ХОР

Ціша ночы, цемра ночы
Штось прарочыць, штось прарочыць.

ГУСЬЛЯР

Дайце мне кудзелі жменю.
Запалю яе. Ад долу,
Ледзь вагонь шугне ў скляпеньне,
Дружна дзьмухайце пасполу.
Моцна, гэтак, гэтак ласьне!
Хай спапеліцца і згасьне!

ХОР

Ціша ночы, цемра ночы
Штось прарочыць, штось прарочыць.

ГУСЬЛЯР

Вы найперш, зь няважкім духам,
Госьці лётныя ў закуцьці
Стыні, цемры, завірухі,
Плачу, злыбядаў, пакуты
Яснай зьнічкаю згарэлі
Быццам прыгаршчы кудзелі.
Хто гартае зь ветрам ростань,
Не ўзьляціць, адлі, ў нябёсы, —
Гэткіх знакам лёгкім, простым
Заклінаем, надзім, просім.

ХОР

Нестае каму чагосьці,
Мо хто сьмягне, прагне штосьці?

ГУСЬЛЯР

Гляньце, людцы, гляньце, што там
Угары пад столяй сьвецiць?
Чыстай пёрак пазалотай
Зiгацiць, няйначай, дзецi!
Як лiсты на ветры шпаркiм,
Вунь, трапечуць пад званьнiцай —
Галубкоў гульлiвых парка,
Цi анёлкаў двое быццам.

ГУСЬЛЯР I СТАРЫ

Як лiсткi на ветры шпаркiм,
Кружаць лёгка пад званьнiцай
Галубкоў гульлiвых парка
Цi анёлкаў двое, быццам.

АНЁЛАК (да аднае зь сялянак)

Мы ляцём да мацi, мамы,
Не пазнала, мамка, Юзя?
Я-ж твой Юзiк, гэты самы,
А яна — сястрычка, Рузя.
У раi ў нас цацкi, гулi,
Нам там лепш, як у матулi.
Вунь, галоўкi нашы ў зьзяньнi,
З косаў сонечных сарочкi,
А на плечках, глянь-жа, сяньня
Крылцы ў нас, бы ў матылёчкаў.
Ё ў раi, што й ня прысьнiцца,
Дзень па днi забавы, казкi.
Ступiм дзе — расьце травiца,
Што кранём — красуюць краскi.
Ўсяго чыста там удосыць,
А нам сумна, цяжка нешта.
Тваiм дзеткам, мамка, штосьцi
Зачынiла ў неба сьцежку.

ХОР

Ўсяго чыста там удосыць,
А iм сумна, цяжка нешта.
Тваiм дзеткам, мацi, штосьцi
Зачынiла ў неба сьцежку.

ГУСЬЛЯР

Што вам, душачкi, што трэба,
Каб барджджэй дастацца ў неба?
Памалiцца, ўславiць Бога?
Саладзенькiх даць прысмачкаў?
Ёсьць тут хлебчык i да хлеба,
Малачко, сухаркi з мачкам.
Што-ж вам, душачкi, што трэба,
Каб баржджэй дастацца ў неба?

АНЁЛАК

Нічагуткі нам ня трэба.
Столькі соладзі мы мелі
На зямлі, што тут змарнелі.
Колькі жыў, яшчэ ніколі
Гарчыні ня ўзнаў, ні болю.
Пешчы, сьмех, ласункі, воля...
Што ні зробіш — добра, цаца.
Гойсаць, зь песьняй мкнуць у поле,
Краскі йрваць там для Разалькі —
Вось і ўся была мне праца,
Ну, а ёй — гуляць у лялькі.
На Дзяды мы прыляцелі
Не каб ласваліся, елі,
Не — каб з вамі тут маліцца.
Не мядку, аладак клустых —
Дайце зерні два гарчыцы.
Нам паслугай гэтай ніцай
Больш дасьцё, як сто адпустаў.
Бо ўважайце:
з волі Бога
Праўда сьвеціць скрозь дзіўная:
Хто ў жыцьці ня знаў гаркога,
Ў небе соладзь не пазнае.

ХОР

Уважайма:
з волі Бога
Праўда сьвеціць скрозь дзіўная:
Хто ў жыцьці ня знаў гаркога,
Ў небе соладзь не пазнае.

ГУСЬЛЯР

Душачка, дзіцятка!
Што хацеў, вазьмі, нябога.
Вось зярнятка й вось зярнятка,
А цяпер — ляцеце з Богам.
Хто-ж ня дасьць на просьбу вуха,
Ймём Айца і Сына й Духа,
Ці бачыце Божы крыж?
Ня хочаце есьці, і годзе,
Пакіньце тады нас у згодзе.
А кыш! А кыш!

ХОР

Хто-ж ня дасьць на просьбу вуха,
Ймём Айца і Сына й Духа,
Ці бачыце Божы крыж?
Ня хочаце есьці, і годзе,
Пакіньце тады нас у згодзе.
А кыш! А кыш!

(Праява зьнікае)

ГУСЬЛЯР

Поўнач сунецца паволі,
Час страхоцьцяў... Дзьверы спраўдзіць!
Пук узяць лучыны смольнай!
Даць у круг гарэлку ў кадзі!
Як дам знак здалёку бэркай —
Падпаляйце ўсьлед гарэлку.
Толькі ўміг, на крыльлі мэрам.

СТАРЫ

Я гатовы.

ГУСЬЛЯР

(дае знак)
Сьмела, зь верай.

СТАРЫ

Шугнула, мільгнула
Й згарэла.

ХОР

Ціша ночы, цемра ночы
Штось прарочыць, штось прарочыць.

ГУСЬЛЯР

Ваш чарод цяперка, духі,
Што за кроў, за гвалт нячуты
Для пакуты, для сукрухі
Да зямлі навек прыкуты.
Хай скон целы вашы струшчыў,
Хай вас кліча анел сьмерці,
А зямных пакут пякушчых
Не пазбыцца вам, ня ўмерці.
Калі хто зь людцоў мо лекі
Мае тут на мукі ў пекле,
Ці на кару ды прадоньне,
Што вось-вось ушчэнт вас зьнішчыць —
Надзім, клічам вас сягоньня
Цераз накан ваш — агнішча.

ХОР

Не стае каму чагосьці,
Мо хто сьмягне, прагне штосьці?

ГОЛАС (за вакном)

Гэй, груган, сава, начніцы,
Ненажыраў род праклятых!
Падпусьцеце да капліцы,
Не таўчэцеся па пятах!

ГУСЬЛЯР

Божа мілы! Ну й страхоцьце!
Вунь, за шыбай, у цямноце.

Як касьцяк у полі, белы,
Гляньце, гляньце, твар, як з лубу,
Дым, маланкі йрвуцца з губы,
Вочы, аж на лоб дзесь цэляць,
Сьвецяць, як вугальле ў печы,
Валасьсё лягло на плечы,
І, як сноп сухога церня,
Іскры, палячыся, верне, —
Гэтак ад кучмы пачвары
Сыпле дождж крывавы жару.

ЗДАНЬ (за вакном)

Ці мяне пазналі, дзеці?
Паўзірайцеся у мару,
Паўдумляйцеся часіну, —
Я-ж нябожчык пан ваш, дзеці!
Не мае былі вы можа?
Не мяне вы, йдзе год трэйці,
Як паклалі ў дамавіну?
Ой, цяжкі-ж той допуст Божы!
Я ў няволі духу злога,
Я пакутую жахліва:
Ледзьве ноч накрые нівы,
Йду, шукаю схову, зьлёгу,
Абы дальш ад сонца й сіні.
Гэтак во й жыву бадзякам
І канца ня бачу він ам.
Век галодны, век сьцяганы,
А хто дасьць хоць зерне маку?
Груганьнё мяне крывяніць,
А ці хто мяне бароніць?
Не, нямаш бядзе адхону!

ХОР

Груганьнё яго крывяніць,
А ці хто яго бароніць?
Ой, нямаш бядзе адхону!

ГУСЬЛЯР

Што-ж душу тваю спатоліць,
Што-ж суцішыць ярасьць болю?
Можа ўславіць хочаш Бога,
Мо вячэры пасьвячонай?
Ёсьць удосыць ягад, хлеба,
Малака, мядоў сычоных.
Што-ж, кажы, твой боль спатоліць,
Што душы паможа ў неба?

ЗДАНЬ

Аж у неба? Трызьніш, дзеду!
Не, ня пнуся я у неба.
Я хачу, барждж эй каб зь цела

Дух як вытрасьці, памерці.
Хай мяне цягаюць чэрці,
Ўсё сьцярплю. Валей хоць сёньня
У пякельным выць сутоньні,
Як з ганьнёй духоў нячыстых
Век вось тут блукаць расхрыстам,
Бачыць сьлед старых уцехаў,
Чуць брыдкіх сваволяў рэха,
Ўдзень, уночы, ўсюды, сьцягам
Дохнуць з голаду ды смагі
І карміць груганьне, дзеткі.
Ды дарма; прысуд мне гэткі:
Грэшны дух я мушу ў целе
Валачыць, аж не надзеліць
Мяне чым, ня змые раны
Нехта з вас, маіх падданых.
Ой, як смага мяне паліць!
Каб хоць крышачку вадзіцы!
Ой, каб вы мне дзе прыдбалі
Колькі зернятак пшаніцы!

ХОР

Ой, як смага яго паліць,
Каб хоць крышачку вадзіцы!
Ой, каб мы яму прыдбалі
Колькі зернятак пшаніцы!

ХОР НОЧНЫХ ПТУШАК

Надарма і енкі й словы!
Мы тут чорным карагодам,
Груганы, начніцы, совы,
Слугі, пан, твае калісьці,
Што ты голадам уходаў,
Праглынём, зьямо ўсё чыста.
Гэй, груган, сава, начніцы!
Войстрай дзюбай, кіпцюрамі
Йрвеце ежу на драбніцы!
Хай трымае хлеб у вуснах —
Мы і з вуснаў вырвем лусту,
І з нутра дастаць параім.
Знаў калі ты літасьць, пане?
Гэй, груган, сава, начніцы!
Дык ня зьлітуюцца й дзеці,
Хлеб пайрвема на драбніцы.
А як хлеба нам ня стане,
Пайрвём цела на драбніцы
Голай косьцяй хай засьвеціць!

ГРУГАН

Што, галодны скон ня надзіць?
А ці помніш, як калісьці
Я ў тваім знайшоўся садзе?

Йрдзяцца йгрушкі ў жоўтым лісьці...
Быў ня еўшы дні са трое,
Во й абтрос ігрушак колькі.
Як на грэх, пабачыў тое
Садаўнік, прыбег, загойкаў,
Нацкаваў сабак... Я толькі
Да варот дабег, зьнячэўку
І злавілі мяне, гады.
Ў двор вядуць, на суд, на зраду.
І за што? За йгрушку з дрэўка,
Што ўсім Бог даў на патолю,
Як агонь, ваду, ці долю.
Пан, адлі, як крыкне: "Кару
Дам – усё дрыжэць аж будзе!"
Прыляцелі зь вёскі людзі,
Да сахі мяне ўвязалі
Й пачалі дубцамі пярыць.
Косьці, як із снопу жыта
Ці гарох з струковін зьвялых,
Мне ад скуры ўсё адбіта.
Знаў калі ты літасьць, пане?

## ХОР НОЧНЫХ ПТУШАК

Гэй, груган, сава, начніцы,
Дык ня зьлітуюцца й дзеці!
Йрвем-жа ежу на драбніцы!
А як ежы нам нястане,
Йрвема цела на драбніцы,
Голай косьцяй хай засьвеціць!

## САВА

Што, няўнадны скон галодны?
А ці помніш, як пад сьвята,
Пад Куцьцю, ў мароз, шчэ додня
Я у двор прыйшла зь дзіцяткам?
"Мой паночку, – я прасіла, –
Пашкадуй мае сіроты!
Ў двор дачку ты ўзяў. Зьнясілеў
І памёр мужык. З турботаў
Маці зьлегла, як на тое
Пры грудзёх крычыць малое.
Памажы, мая ты краска,
Падары, панок, што ласка!"
    Ды ці ё ў вас, пане, душы?
    Ты, п'ючы ў п'яной ахвоце,
    Сам у срэбры, ў пазалоце,
    Гайдуку наказ даў сьціха:
    "Хто бубніць гасьцём у вушы?
    Прагані яе да ліха."
    Ўзяў мяне гайдук няцнота
    Й выцяг зь дзіцем за вароты,

Проста ў сьнег, бы кучу латаў!
З болю, страху, у зьнямозе,
Не дайшла ніяк да хаты.
Так і зьмерзла на дарозе...
Знаў калі ты літасьць, пане?

ХОР НОЧНЫХ ПТУШАК

Гэй, груган, крумкач, начніцы,
Дык ня зьлітуюцца й дзеці!
Йрвема ежу на драбніцы!
Калі-ж ежы нам ня стане, —
Йрвема цела на драбніцы,
Пакуль косьці не засьвецяць!

ЗДАНЬ

Ой, нямаш, нямаш мне рады!
Надарма падносіш місы:
Ўсё пайрвуць, як заракліся.
Ой, ня мне Дзядоў абрады!
Буду гінуць так век па веку:
Справядлівы Твой провід, Божа!
Хто ніколі ня быў чалавекам,
Чалавек таму не паможа.

ХОР

Будзеш гінуць так век па веку:
Справядлівы той Провід Божы!
Хто ніколі ня быў чалавекам,
Чалавек таму не паможа.

ГУСЬЛЯР

Як ніхто ўжо не паможа,
Дык ідзі сабе, нябожа!
Хто-ж ня дасьць на просьбы вуха, —
Ймём Айца і Сына й Духа!
Ці бачыш Божы крыж?
Ня кратаеш стравы, й годзе,
Пакінь нас тады ў згодзе,
А кыш, а кыш!

ХОР

Як ніхто ўжо не паможа,
Дык ідзі сабе, нябожа!
Хто-ж ня дасьць на просьбы вуха,
Ймём Айца і Сына й Духа!
Ці бачыш ты Божы крыж?
Ня кратаеш стравы й годзе,
Пакінь нас тады у згодзе,
А кыш, а кыш!

(здань гіне)

## ЗЬ Ю. ЛАБАДОЎСКАГА

### ЭРОТЫК

Дзіка ў сьцены йлбом шалёным вецер б'е,
Сьвётлы вокнаў горне ў змрок прадоньня.
Як самым, зусім адным сягоньня,
з рыз жыцьця цьвілых нам выблытаць сябе?

Як угрэць магільную нудзьгу
сіл гнілых, крыві, што нат ня йрдзіцца
і напіцца ў гэту ноч агню з крыніцы
срэбных бёдраў і вільготных губ?

Не спрабуй разьдзьмуць пажар, што ледзьве тліць,
не сачы ўваччу маім дарэмна шчасьця.
Я – пусты, і толькі вецер насьціць
мне душу пыламі папялішч..

Я магу цябе адно згарнуць,
зьнесьці ў сьцень, дзе ліха, ноч і страхі.
Як ублытаны ў гаркія чары знахар,
навучыць піць зёл таёмных труць.

А насякнеш чадзяй чорных дзей
аж па сэрца, што кахала сэрца трупа, –
знад парогу жменяй шчодрай, рупнай,
кінуць попел твой вятром наўзьвей.

1964

## З М. ДРАЙ-ХМАРЫ

### ШЭХЭРАЗАДА

Я п'ю спакой астыглы саду,
Як сьцішыць сутань шум гальля
І слухаю Шэхэразаду,
Што знае тысячу баляд.

Яна выцягвае далоні:
– "Цябе прыждалася – прыдзі!"
А зьнекуль, зь сіняга прадоньня
Ўсплывае срэбны маладзік.

За садам сенажаць і поле,
Шляхамі ўзьнятая ральля...
Не пераслухаць мне ніколі
Шэхэразадзіных баляд!

## ЛЕБЯДЗІ

На сонным возеры, дзе крозяць вербалозы
Здаўна згарбелыя, ў дні восені й вясны
То трапяталіся, то плавалі яны
І шыі гнуткія хілілі ўніз, як лозы.
Калі-ж пад звон шкляны зыходзілі марозы,
І плёсы зьмеркнулі, ўрасталі ў бель, у сны —
Згарталі ўраз плыўцы йльдзяныя крышаны,
І не лякалі іх зімы глухой пагрозы.

О, зьвяз няздужаны пяцёрых песьняроў!
Грыміць твой сьпеў праўзь сьнег, праўз бур магутных роў,
І разьбівае лёд адчайнасьці й зьняверы.
Шугайце-ж, лебядзі! Зь няволі, зь нябыцьця
Вядзе на ўзвышшы вас сузор'е яснай Леры,
Дзе пеніць акіян нязгаснага жыцьця!

# БІБЛІЯГРАФІЯ
# ТВОРАЎ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ
# І ЛІТАРАТУРЫ ПРА ЯЕ ДЫ ЕЙНУЮ ТВОРЧАСЬЦЬ

*Апрацавала Зора Кіпель*

## ТВОРЫ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

### ПАЭЗІЯ

1. *Восень.* Першы друкаваны верш паэткі. ("Наша думка", Вільня, 8.IX. 1921 г. У кнізе "Між берагамі", Нью Ёрк – Таронта, 1979, гэты верш перадрукаваны на б. 14).
2. Шэсьць вершаў: *Пралескі, Недаверчыва ноч падыходзіць, Мінулі дзянёчкі, Увечары, Насьледаваньне* ды пераклад Н. Арсеньневае вершу З.Н. Кібальчыч *З турэмных матываў.* ("Наш шлях", Вільня, № 2-3, год 1, 1922).
3. *Тры браты.* Народнае апавяданьне. *Шчасьце.* Верш. ("Студэнская думка", Вільня, № 1, Год 11, 1925, б. 25-26).
4. *Пад сінім небам.* Вільня, Віленскае выдавецтва Б. Клецкіна, 1927, 144 б. Першы зборнік вершаў паэткі.
5. *Жоўтая восень.* Вершы для зборніка, пісаныя ў гадох 1928-1935. (Выдрукаваныя разам толькі ў кнізе "Між берагамі", 1979, б. 49-78).
6. *Вядзьмак.* Баляда. ("Шлях моладзі", Вільня, № 5 (104), Май 1937, б. 8-10).
7. *Князёўна.* Паэма. ("Калосьсе", Вільня, кн. 2(11), 1937, б. 70-80).
8. *Сягоньня.* Вершы, 1941-1943. Менск, Выдавецтва падручнікаў і літаратуры для моладзі, 1944. 128 б.
9. *Выбраныя вершы.* Ватэнштэт, 1947, 32 б.
10. *Зьнічы.* Фрагмэнты. З часоў апошняе вайны на Беларусі. ("Сакавік", Остэргофэн, № 1 (2), 1948, б. 1-3).
11. *Вазьму пяро.* Вершы. ("Сакавік", Остэргофэн, № 2(3), 1948, б. 16-17).
12. *Між берагамі.* Цыкль, 7 вершаў. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 91-92 і 94-95, 1952).

13. Цыкль *"Амэрыканскіх вершаў"* ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 94-95, 1952).

14. *Я і жыцьцё.* Цыкль, 11 вершаў. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 100 і 104-105, 1952).

15. *Яно ўсьцяж са мной.* Вязанка, 11 вершаў. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 110, 1952).

16. *Прыйдзе час і на песьню.* Нізка вершаў, прысьвечаная сябром паэтам, ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 186-187, 1954).

17. *Ня здрадзім.* Цыкль вершаў, прысьвечаны Бацькаўшчыне. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 190-191, 1954).

18. *Ледзь красавік.* Нізка вершаў. ("Конадні", Нью Ёрк, кн. 1, 1954, б. 1-3).

19. *Адбітае.* Абразкі. Нізка вершаў. ("Конадні", Нью Ёрк, кн. 2, 1954, б. 24-26).

20. *Брамы.* Нізка вершаў. ("Конадні", Нью Ёрк, кн. 3, 1955, б. 39-43).

21. *Прывіды.* Нізка вершаў. ("Конадні", Нью Ёрк, кн. 4, 1955, б. 17 - 20).

22. *Між берагамі.* Выбраныя вершы. ("Ля чужых берагоў". Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн, Выд. "Бацькаўшчына", 1955, б. 13-47).

23. *Косы.* Слуцкая паэма, прысьвечаная Беларускай Маці. (1-я частка: "Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 431-432, 1958; у № 451-452, 1959 паэма была выдрукаваная поўнасьцяй, бо ў часе працы над далейшымі часткамі аўтарка зьмяніла й дапоўніла першую частку).

24. *Сама аб сабе.* Вязанка вершаў. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 500, 1960).

25. *У Слуцкую гадавіну.* Вязанка вершаў, прысьвечаная Слуцкаму збройнаму чыну з 1944-1960 гг. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 530-531, 1960).

26. *Узноў.* Нізка вершаў. ("Конадні", Нью Ёрк, кн. 7, 1963, б. 30-41).

27. *Тэма – Вясна.* Вязанка вершаў. ("Беларус", Нью Ёрк, № 84 і 90, 1964).

28. *Між берагамі.* Выбар паэзіі 1920-1970 гадоў. Нью Ёрк - Таронта, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1979, XL, 352 б. У кнізе біяграфічная даведка пра паэтку ў ангельскай мове, уводны біяграфічна-крытычны артыкул Ант. Адамовіча, партрэты Натальлі Арсеньневай з розных гадоў жыцьця, бібліяграфія твораў паэткі й літаратуры пра яе.

ДРАМАТЫЧНЫЯ ТВОРЫ

29. Пралёг да драмы Міровіча *"Кастусь Каліноўскі"*. Пралёг канчаецца *"Песьняй Каліноўцаў"* – музыка Шчаглова (Куліковіча). Менск, 1943. Рукапіс.

30. *Кастусь Каліноўскі*. Мантаж у 3-х абразох. Міхэльсдорф, 1947, Рукапіс.

31. *У гасьцёх у Каляды*. Калядная п'еска ў аднэй дзеі. Віндышбэргердорф, 17. XII. 1947. Рукапіс.

32. *Сіротка Ганулька*. Сцэнічны абразок у аднэй дзеі. Віндышбэргердорф, 1948. Рукапіс.

33. *Сваты*. Камэдыя ў 1-эй дзеі. Кліўленд, ЗША, 1955. 10 б.

34. *Нязвычайная дзяўчына*. Скеч са студэнцкага жыцьця. (Зборнік п'есаў і песень. Кліўленд, ЗБМА, 1955, б. 11 - 15).

35. *Пралёг у будучыню*. Абразок у 1-эй дзеі. (Зборнік п'есаў і песень. Кліўленд, ЗБМА, 1955, б. 16 - 18).

36. *Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына*. Сцэнічны абразок з часоў Слуцкага Паўстаньня. (Зборнік п'есаў і песень, Кліўленд, ЗБМА, 1955, б. 1 - 5).

АРТЫКУЛЫ

37. *Натальля Арсеньнева пра сябе*. ("Беларуская газэта", Менск, № 80 (100), 28. X. 1942). Аўтабіяграфічная даведка.

38. *У казахстанскай ссылцы*. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 94-95, і 96, 1952). Успаміны паэткі з жыцьця ў савецкай ссылцы ў 1940 - 1941 гадох.

39. *Як я сталася паэтам*. Жменька ўспамінаў да 40-гадовага юбілею. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 500, 1960).

40. *Кузьня духа*. Крыху ўспамінаў пра беларускую гімназію ў Вільні. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 500, 1960).

41. *"Важная фіга" Ядвігіна Ш. у нашыя часы ў Амэрыцы*. Замест фэльетону. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 500, 1960).

42. *Майму жыцьцю*. Даклад на літаратурным вечары ў Тароньце. Натальля Арсеньнева аб сабе й сваім жыцьці. ("Беларус", Нью Ёрк, № 143, 1969).

ТВОРЫ, ПЕРАКЛАДЗЕНЫЯ НАТАЛЬЛЯЙ АРСЕНЬНЕВАЙ.

43. *Гэргард Гаўптман*. Затонуты звон. Нямецкая казачная драма. Прэм'ера ў Менску, 16 студзеня 1943 г. Тэкст друкаваны:
Першы акт ("Сакавік", Остэргофэн, № 1(2), 1948, б. 26 - 34).
Другі акт. ("Конадні", Нью Ёрк, кн. 1, 1954, б. 52 - 68).
Трэйці акт. ("Конадні", Нью Ёрк, кн. 2, 1954, б. 51 - 67).

44. *Эвангельскі хрысьціянскі сьпеўнік.* Пераклады песьняў Н. Арсеньневай. Прадмова А. Кецько. Менск, 1943. 176 б.

45. *Гайнрых фон Кляйст.* Разьбіты кубак. Камэдыя. Перакладзеная ў 1943 годзе ў Менску.

46. *Вільям Шэкспір.* Рамэо і Джульета. Пралёг. Сцэна ля балькону. Пераклад Натальлі Арсеньневай. ("Наперад", Лювэн, № 25, 1953, б. 51 - 55).

47. *Юзэф Лабадоўскі.* Эротык. ("Конадні", Нью Ёрк, кн. 2, 1954, Перадрук у "Між берагамі", 1979, б. 318).

48. *Адам Міцкевіч.* Дзяды. Частка другая, урыўкі. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 277-278, 1955; 'Nowy Świat', New York, Feb. 11, 1956. Перадрук у кнізе "Між берагамі", 1979, б. 309 - 317).

49. *Адам Міцкевіч.* Літва. Айчына. (Уступ да "Пана Тадэуша"). Акерманскія стэпы. Санэт. ("Конадні", Нью Ёрк, кн. 4, 1955, б. 51-52. Перадрук: "Між берагамі", Нью Ёрк – Таронта, 1979, б. 308-309).

50. *Ёган Вольфганг Гётэ.* Морская ціша. Лясун. Ночная песьня вандроўніка. ("Сягоньня", Менск, 1944, б. 40-42; "Між берагамі", Нью Ёрк – Таронта, 1979, б. 307-308).

51. *М. Драй-Хмара.* Шэхэрэзада. Лебядзі. ("Між берагамі", Нью Ёрк, 1979, б. 318-319).

52. *Пераклады песьняў для баптыстых.* 119 песьняў. Рачэстар, 1970-я гады.

## ТВОРЫ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ, ПЕРАКЛАДЗЕНЫЯ Ў ІНШЫЯ МОВЫ.

У флямандзкую мову.

53. *O, God almachtig* ("Магутны Божа" – пераклаў а. Робэрт ван Кавэлерт. Witrussisch Ensemble. Programma, Mechelen, 1952). У праграме канцэрту Лювэнскага Студэнцкага Ансамблю 29 - 30 лістапада 1952 г.)

У нямецкую мову.

54. *Weissrussischer Kirchenchoral.* ("Магутны Божа"). Тэкст выдрукаваны на канвэрце кружэлкі хору Донскіх Казакоў Сяргея Жарава. Printed in Germany by Gebrüder Janecke, Hannover.

У польскую мову.

55. *Śpiewak* (Пясьняр). Przełożył Józef Łobodowski ('Kultura', Paryż, nr 45 - 46, 1951, s. 81 - 82).

56. *Żyj!* (Жыві!) Przełożył Józef Łobodowski, ('Kultura', Paryż, nr 45-46, 1951, s. 82).

У ўкраінскую мову.

57. *Сивою вербою* (Сівой вярбой). Пераклаў Яр Славутыч, 1951.

58. *Хоч ми – листки* (Хоць мы лісты). Пераклаў Леанід Палтава. ("Українське Народне Слово", Пітсбург, № 23, 1978).

59. *Тиша* (Вусьціш). Пераклаў Леанід Палтава ("Наш світ", Ню Иорк, № 6, 1978).

60. *Воскресни!* (Уваскрэсьні!) Пераклаў Леанід Палтава. ("Вісник", Ню Иорк, № 4, 1979).

61. Леанідам Палтавам перакладзеныя таксама вершы Н. Арсеньневай *Пралескі* (Проліски) ды *Ізноў восень*. Пераклад апошняга вершу яшчэ ня быў друкаваны.

У расейскую мову

61а. *Меж берегами, Осень, Лунной ночью, Весна, Павшим, Окрестил меня некто* (Між берагамі, Восень, Месячнай ночай, Вясна. Палеглым, Ахрысьціў мяне нехта) Пераклаў А. Гідоні, Современник, Торонто, № 41 , 1979.

## ТВОРЫ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ ПАКЛАДЗЕНЫЯ НА МУЗЫКУ.

62. Лібрэта да опэры Міколы Шчаглова (Куліковіча) *"Лясное возера"*. Першы акт дэманстраваўся 27 чырвеня 1942 году. Уся опэра ставілася Менскім Гарадзкім Тэатрам у 1943 г.

63. Лібрэта да опэры Міколы Шчаглова *"Усяслаў Чарадзей"*. Опэра выконвалася ў студыі менскага радыя ў 1944 годзе.

64. Лібрэта да апэрэты Міколы Шчаглова *"З выраю"*, напісанае ў Менску ў 1944 г.

65. *"Купальле"*. Этнаграфічная апэрэтка. У новай лібрэтнай рэдакцыі паэткі й музычнай М. Куліковіча. Ставілася ў Рэгенсбургу, Нямеччына, у 1946 г.

66. *Пяць песьняў для моладзі*. (Сьпеўнік. Міхэльсдорф, Згуртаваньне Беларускіх Скаўтаў, 1948. *Беларусь, наша Маці-краіна*, б. 8-10; *У гушчарах*, б. 10-11; *Пойдзем, пойдзем*, б. 13, – музыка Міколы Шчаглова. *Заўсёды*, б. 71-72; *Сям'ёй вясёлаю*, б. 72-73, – музыка Міколы Равенскага.

67. *Кантата "Сакавік"*, на словы Н. Арсеньневай. Музыка М. Куліковіча. Напісаная на сьвяткаваньне 36 гадавіны 25 Сакавіка, Нью Ёрк, 1954 г.

68. *Пяць патрыятычных песьняў* на словы Н. Арсеньневай. (М. Куліковіч. Беларускі песенны зборнік. Выпуск 5-ы. Кліўленд, ЗБМА, 1955. *Песьня Каліноўцаў*, б. 23-25; *Беларусь, наша Маці-краіна*, б. 26-27; *У гушчарах*, б. 32-33; *На выгнаньні*, б. 42-44; *Сакавік*. б. 58-61.

69. *Дзесяць песьняў гістарычна-патрыятычных і лірычных* на словы Н. Арсеньневай (М. Кулікoвіч. Беларускі песенны зборнік, Кліўленд, ЗБМА, 1955. *Песьня аб долі* (з опэры "Лясное возера"), б. 5-11; *Песьня дружыны Ўсяслава* (з опэры "Ўсяслаў Чарадзей") б. 14-16; *Песьня Каліноўцаў, б. 23-25; Сакавік, б.* 29-34; *У бой за Случчыну,* б. 35-37; *Дзяўчаты-дзяўчыначкі* (з опэры "Лясное возера"), б. 53-55; *Туга,* б. 137-140; *Усё як трэба* (з апэрэты "У вырай"), б. 163-165; *Я ў бацькі яшчэ была* (з апэрэты "У вырай"), б. 166-167; *Камічны дуэт* (з апэрэты "У вырай"), б. 171-173.

70. *Шэсьць песьняў* кампазыцыі Эльзы Зубковіч для сярэдняга голасу з фартэпіянам, на словы Натальлі Арсеньневай (Э. Зубковіч. Край мой васільковы, Нью Ёрк, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1972. *Калыханка,* б. 21; *Мроя,* б. 21-22; *Вясновы вечар, б.* 21-25; *Знае сэрца,* б. 26-28; *Асеньняя песьня,* б. 28-29; *Родны край, б.* 28-31).

71. *Магутны Божа.* Словы Натальлі Арсеньневай, музыка Міколы Равенскага. Парыж, Беларуская Рэлігійная Місія, 1947, 4 б.

## ПЕРАКЛАДЗЕНЫЯ Н. АРСЕНЬНЕВАЙ ОПЭРНЫЯ ЛІБРЭТЫ

72. *Вясельле Фігаро.* В. А. Моцарт. Перакладзенае ў Менску, 1942

73. *Чарадзейная жалейка.* В. А. Моцарт. Перакладзенае ў Менску, 1942-43 г.

74. *Вольны стралец,* К. М. фон Вэбэр. Перакладзенае ў Менску, 1942-43г.

75. *Кармэн,* Ж. Бізэ. Перакладзенае ў Менску, 1941.

76. *Аўген Анегін,* П. І. Чайкоўскі. Перакладзенае часткава, тэксты арыяў, Менск, 1942-43 г.

77. *Цыганскі барон,* Ё. Штраўс. Перакладзенае ў Менску, 1942 г.

## ЗАПІСЫ НА КРУЖЭЛКІ
## ПЕСЬНЯЎ НА ТЭКСТЫ Н. АРСЕНЬНЕВАЙ

78. *Malitva. O God Almighty* (Byelorussian Hymn). (Магутны Божа) M. Ravienski – N. Arsieńnieva. Ensemble of the Byelorussian Students of the University of Louvain. Omega, 1954.

79. *Mahutny Boža* Weissrussischer Kirchenchoral. Komposer M. Ravensky. Arrangement vom Serge Jaroff. Soloist Piotra Koniuch (basso) and Don Kossaken Chor Serge Jaroff. Deutsche Gramophon Gesellschaft, Hamburg, Stereo No. 136555

80. *Falling Maple Leaves* (Сыплюцца з клёнаў лісты) Byelorussian Women's Choir 'Kalina' under the direction of composer Xavery Borisovets. Lyrics by N. Arsieńnieva. South River, N.J. Byelorus. American Relief Committee.

81. *Cornflowers* (Васількі). Byelorussian Women's Choir 'Kalina'. Lyrics by N. Arsieńnieva. South River, N. J.

82. *Sumna*. Tango. Lyrics by Natalla Arsieńnieva. Vocalist Nadina Grade, soprano. Composer and accompanist Nikolaj Kulikowicz. Kałaski, Chicago.

83. Каля 40 песьняў і арыяў у беларускім перакладзе Н. Арсеньневай запісаныя на істужку ў выкананьні баса Пётры Конюха: *Два грэнадзёры* Р. Шумана, *У дванаццаць гадзін* М. Глінкі, *Песьня харунжага* С. Манюшкі, *Салавей* П. Чайкоўскага, *Апошні рэйс* Э. Альнэса, *Прывід* Ф. Шубэрта, *Элегія* Дж. Маснэ, *Прарок* Н. Рымскага-Корсакава, *Арыя Руслана* М. Глінкі, *Арыя Канчака* А. Барадзіна ды іншыя.

## АРТЫКУЛЫ, РЭЦЭНЬЗІІ, НАРЫСЫ ПРА Н. АРСЕНЬНЕВУ Й ЕЙНУЮ ТВОРЧАСЬЦЬ.

84. *М. Чэмер (Уладзімер Самойла).* Верная дачка Сонца і Шчырай Зямелькі! ("Родныя гоні", Вільня, № 5, 1927, б. 35-39; № 6, б. 15-27). Рэцэньзія на зборнік вершаў паэткі "Пад сінім небам", 1927

85. *М. Байкоў.* Творчасьць Натальлі Арсеньневай. ("Полымя", Менск, № 8, 1927, б. 186-194).

86. *Антон Навіна* (А. Луцкевіч). "Пад сінім небам". Характарыстыка творчасьці Натальлі Арсеньневай (У зборніку: Антон Навіна. Адбітае жыцьцё. Вільня, Беларускае Выдавецкае Таварыства, 1929, б. 108 - 114).

87. *К. Бруевіч* На паэтычнай вышыні – аб творчасьці Натальлі Арсеньневай. ("Калосьсе", Вільня, кн. 1(10), 1937, б. 31 -37).

88. *Д. Забранскі.* Натальля Арсеньнева (Спроба літаратурнае "пяцімінуткі") ("Беларуская газэта", Менск, № 80 (100), 28.X. 1942).

89. *К. Каліновец.* Усё-ж – да узвышшаў! ("Беларуская газэта", Менск, № 68(186), 8.IX. 1943). Агляд паэтычнае дзейнасьці Натальлі Арсеньневае.

90. *Г. Альгердзіч.* Беларускага слова жніво. ("Раніца", Бэрлін, № 30-31, 1944). Рэцэньзія на зборнік "Сягоньня".

91. *Сучасныя беларускія паэты. Натальля Арсеньнева.* "Беларускі работнік", Бэрлін, № 34, 1944). Біяграфічна-літаратурны нарыс.

92. *М. Дальны.* На новай хвалі. Рэцэньзія на зборнік "Сягоньня". "Новыя дарогі", Беласток, 28 траўня, 1944).

93. *М. Лагода.* "Сягоньня", Рэцэньзія на зборнік. ("Пагоня", Баранавічы, № 43, 31 траўня 1944).

94. *А. Палявы.* Сардэчны накіп. Рэцэньзія на зборнік "Сягоньня". ("Газэта Случчыны", Слуцак, 4 чэрвеня, 1944).

95. *С. З.* Нашы песьняры. Натальля Арсеньнева й Масей Сяднёў. ("Шляхам жыцьця", Ватэнштэт, № 8, 1946; перадрукаваная ў "Шыпшына", № 3, Рэгенсбург, 1946, б. 40 - 42).

96. *N.* Natalla Arsieńnieva. Da 25-ch uhodkaŭ tvorčaje pracy. ("Крывіцкі Сьветач", Мюнхэн, год 2, № 9-10, 1946, б. 5-7).

97. *Сымон Брага.* Ад сіняга неба да шэрай зямлі. Трыццацілетні творчы шлях Натальлі Арсеньневай. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 90 - 91 і 93, 1952).

98. *Мікола Куліковіч.* Паэзія душы й розуму. ("Бацькаўшчына", Мюнхэн, № 90 - 91, 1952). Кампазытар разглядае дзьве галіны творчасьці паэткі — песьні й опэрныя лібрэты.

99. *На службе красы й Бацькаўшчыны.* На 30-ыя ўгодкі творчасьці паэткі. З партрэтам. ("Беларус, Нью Ёрк, № 1(7), 1952).

100. *(А. Ružancovas).* Arsenjeva Natalija... (Lietuvių enciklopedija, t. 1, Boston, Mass., 1953, p. 295).

101. *М. Гайніч.* 40 год на літаратурнай постані. Угодкі творчасьці Натальлі Арсеньневай. З партрэтам. ("Беларус", Нью Ёрк, № 72, 1961).

102. *The Bard of Freedom and Beauty.* Натальлі Арсеньневай на 40-ыя ўгодкі пісьменьніцтва. ("Беларуская моладзь", Нью Ёрк, № 12, 1961, б. 12).

103. *Р. Ж-Г.* Натальля Арсеньнева ў Канадзе. ("Беларус", Нью Ёрк № 134, 1969).

104. *Андрэй Ськіва.* Натальля Арсеньнева. На 50-ыя ўгодкі паэтычнае творчасьці. ("Беларус", Нью Ёрк, № 175, 1971).

105. *(Вітаўт Тумаш).* Залатыя ўгодкі Натальлі Арсеньневай. З партрэтам паэткі мастака Пётры Мірановіча. ("Беларус", Нью Ёрк, № 176, 1971).

106. *Р. Максімовіч.* Дні беларусаведных студыяў у Атаве. Вечар Натальлі Арсеньневай. ("Беларус", № 221, Нью Ёрк, 1975).

107. *В. Кіпель.* Дні беларускіх студыяў у Атаве. Аўтарскі вечар Натальлі Арсеньневай. ("Запісы", Нью Ёрк, кн. 13, 1975, б. 149 - 150).

108. *NATALLA ARSIEŃNIEVA.* Біяграфічная даведка ў ангельскай мове. ("Між берагамі", выбар паэзіі Н. Арсеньневай, Нью Ёрк-Таронта, 1979, IX — X).

109. *Ант. Адамовіч.* Натальля Арсеньнева "Між берагамі". Біяграфічна-крытычны нарыс (У кнізе "Між берагамі", Нью Ёрк — Таронта, 1979, б. XI — XXIX).

## АЛЬФАБЭТНЫ ПАКАЗЬНІК

## ЗЬМЕСТ



### МІЖ БЕРАГАМІ



### ПАД СІНІМ НЕБАМ
### 1920 – 1927

## ЗАЧАРАВАНЫ КУТ



## ЖОЎТАЯ ВОСЕНЬ
### 1927 – 1937

## СЯГОНЬНЯ
### 1941 – 1943

## НЕ АСТЫЦЬ НАМ
## 1944 – 1949

## НА РОСТАНЯХ



## Я Й ЖЫЦЬЦЁ

ЯНЫ УСЬЦЯЖ ЗЫ МНОЙ



ПРЫЙДЗЕ ЧАС І НА ПЕСЬНЮ



НЯ ЗРАДЗІМ



НА СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

ТЭМА ВЯСНА



## ЗЬ ПЕРАКЛАДАЎ

ЗЬ ЁГАНА ВОЛЬФГАНГА ГЁТЭ



З АДАМА МІЦКЕВІЧА



ЗЬ ЮЗЭФА ЛАБАДОЎСКАГА



З М. ДРАЙ-ХМАРЫ

БІБЛІЯГРАФІЯ